


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

2 (1048)

СТУДЗЕНЬ

**Выдаецца са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

# *ЗМЕСТ*



**Мікола МЯТЛІЦКІ**

# ЗОРАЎ ПАЛАТНО ЖЫВОЕ

* * *

Як на крызе па моры — на Зямлі па Сусвеце плывём,
Ды падчас, не падняўшы галовы, пад небам жывём.
І капошымся ў справах аседлых, бы ў глебе краты.
І не бачым прастуджаных зорак скупой зіхаты.
І не верым, грунт наш — Сусвету малюткі шматок.
Дні сплываюць…
Стагоддзі…
І ўсё новы віток
Вакол Сонца за год з намі робіць старая Зямля.
Няўжо згаснем на ёй так прыкута і мы спакваля?

* * *

Я прывітаў вясну ў лясным надрэччы,
Яшчэ зусім азяблая, яна
Паведала пры першай жа сустрэчы
Вільготна чутым подыхам: вясна!

А потым уабралася у сілу —
Шапоткаю лістотай і травой,

---

*__Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч__ нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002—2014 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013).*

Разнасцежанай вышай небасхілу,
Зарой пунцова-яснай, агнявой,

І дзьмухаўцоў жаўцянымі вачамі,
Беларужовай квеценню садоў,
Размахам крыл бусліных над палямі
І трэлямі натхнёных салаўёў,

Вясёлкай, што стынь хмар аперазала,
І плёскатам рачнога ручая,
І гучнаспевам птушак — мне сказала
Ўсёй сутнасцю жывою: гэта — я!

Акінуўшы вачыма далягляды,
Усцешыўся красой яе спаўна.
І па-зямному быў шчаслівa рады,
Што й гэтая яшчэ — мая вясна!

Што сэрцам чую вокліч стагалосы,
Хоць так зазыўна трубяць жураўлі.
Што нашы з ёй жыццёва зліты лёсы
Прысутнасцю часовай на зямлі.

* * *

Халодныя ночы, гарачыя дні,
Ніякага ладу ў нябеснай канторы.
Днём шчодрае сонца пячэ з вышыні,
А ноччу міргаюць празяблыя зоры.

І хоць бы якая крапліна дажджу,
Пажухла трава, сшэрхла лісце бярозы.
Ад чэрвеньскай золкае рані дрыжу,
Нат як не дрыжаў і зімой у марозы.

Што стала са светам? — адказу няма.
Даўно ўжо планету зыбуча хістае.
У тропіках снегам цярусіць зіма,
А з Арктыкі лёд ручаямі ўцякае.

Няўжо надарвалася сэрца Зямлі
І збілася з рытму, заходзіцца ў спудзе?
А можа, яму стаць такім памаглі
Глумотай сваёй мы, нікчэмныя людзі?

* * *

Прыкмеціў лабасты валун на імшарыне,
Ён безліч вякоў праляжаў на зямлі.
І думкі мяне ў даўніну павялі,

У тыя грымотныя дні санцажарыя,
Дзе талыя воды абшарам цяклі.

З дна Балтыкі дальняй ільдамі прыкочаны
Асколак Валдая — халодны валун,
Над ім насмяяўся ўзлаваны Пярун,
І лёд раставаў, ручаямі падточаны,
І грала прырода ў дзве тысячы струн.

І вось — уссядаю на троне у Вечнасці,
Няма старажытней — ці знойдзеш другі?
Паганскія ўсталі навокал багі,
І час перад імі ў сваёй хуткацечнасці
Не гэтакі ўжо і зацяжна-даўгі.

Валун, ён дасягне пары той нязнанае,
Калі пераменіцца ўсё навакол.
Адно ацалее пад ім траўны дол,
Ды памяць успыхне, як кветка курганная,
Усцешліва смокчучы шэры падзол.

* * *

Зноў купальская ноч
запаліла агні над ракой.
Я згадаў,
што калісь
нашы продкі
Часінай такой
Уступаліся, голыя,
ноччу ў цёмнае рэчкі ваду
І рукамі, дзябёлыя,
там лавілі дзяўчат, маладух.
І да самага ранняя
ў прыбярэжнай гушчэчы травы
Іх таміла каханне,
і было не падняць галавы.
Песня чулася дзесьці.
І дзявочы задзірысты ўскрык.
Нараджаліся дзеці
у наступны ужо сакавік.
А забыты жаданы
цалаваўся назаўтра з другой.
Падрасталі Багданы,
на мужчын пазіралі з тугой.
Хто іх бацька, не зналі —
і ў матуль не пыталі сыны.
А пасля на Купалле
у раку уступалі й яны.

Іх гарачае цела
    дакраналася палкіх грудзей.
Шмат гадоў праляцела,
    адшугала багата падзей.
Зноў сягоння Купалле
    уступіла на бераг ракі.
Зноў кастры хлопцы паляць
    і пускаюць дзяўчаты вянкі.
Зноўку папараць-кветку
    іх нашчадкаў шукаюць сыны,
Ды пра юр вольны гэткі
    чуюць казку сівой даўніны.

## ПРЫЗБА

Апошняя, адзіная ў сяле —
Адарчына прыземістая прызба.
Мінула колькі год ужо, але
Яна і сёння, быццам часу прызма,

Праз шкло якой мінулае відно —
Нясцёртае, трывучае, жывое:
Андаракоў згрубелае сукно,
І столкі — палатняныя сувоі,

І ручнікоў натканых белата,
Сурвэтак і настольнікаў карункі.
І стуль, дзе мкне гамонкі хрыпата,
Адарчын голас далятае стрункі:

— А от наткала! Дужасці стае.
Зірніце, дзеўкі, на маё багацце!
І прызбы мала. У гады мае
Шчэ, склаўшы рукі, не сядзіцца ў хаце.

Бярыце, даспадобы што каму.
На памяць дзецям аддасце калі-та.
Натку яшчэ за сцюжную зіму,
Калі не возьме на клады Мікіта.

— Ты што, Адарка, і свайго стае, —
Ёй гаварылі ўсцешныя кабеты,
І пальцамі — усе да аднае —
Абмацвалі скарб самачынны гэты.

І вохкалі здзіўлёна: — Вот узор!
А тут, глядзіце, дзівата якая!
Гляджу на прызбу. Бы чародка зор
З нябёс высокіх на зямлю злятае.

Даўно магільны погарб на кладах —
Згарнула рукі ўвішныя Адарка.
А прызба там, у страчаных гадах,
Скарб прада мною развінула ярка.

І часу плынь няспынліва цячэ,
Усходзіць ранкам сонца агнявое.
Гляджу на прызбу. І сягоння тчэ
Адарка з зораў палатно жывое.

Не прытаміцца ткаллі нікалі,
Не скласці рук ссамочаных без працы.
І тыя дні, што ў вечнасць уцяклі,
Яе узорам зырка разгарацца.

## ХЛЕБ І ПЕСНЯ

***З народнага***

Нeяк ранкам на прадвесні
Па дарозе палявой
Ішлі разам Хлеб і Песня,
Гаварылі між сабой.

Хлеб і кажа: — Як пачую,
Што цябе пяе жняя,
Траціць час свой у пустую,
Дык злуюся ж вельмі я.

Тут з-за лесу прэцца хмара,
Хутка дождж густы пальe,
А яна — аб долі марыць,
Лена жне, а ўсё пяе.

І тады падыме вочы,
Страпянецца ўсім нутром,
Як паблізу загрукоча
Басавіта-спудна гром.

І снапы ужо хапае,
Ставіць бабкі неўпапад,
З нівы шпарка уцякае,
Бы сячэ па лытках град.

А дажджу таго — са жменю,
Ёй вярнуцца б — жаць пара,
А яна — і дзе сумленне? —
З песняй крочыць да двара.

Каласы мае тугія
Зерне роняць на зямлю.

Ох, павер мне, спевы тыя
З даўніх пор я не люблю.

Адказала Песня Хлебу,
За жывое ўзяў яе:
— Гэтак гневацца ці трэба?
Ну, падумаеш — пяе.

Я — душа яе жывая
І сардэчнае цяпло.
Без мяне б і ураджаю
Ў полі гэтым не было.

Каб душа не заспявала
Чалавечая здаўна,
Ў полі б жыта не ўставала,
Не чарнела баразна.

Я была заўжды падмогай
У нялёгкай працы той.
Ліў ён, сейбіт, поту многа
На зямлі не раз пустой.

Чуў галас дзяцей у хаце,
Сам пра голад забываў.
Ты яго, мой любы браце,
Не заўсёды шанаваў.

На стале з'яўляўся рэдка,
Быццам пан, заўжды сіпеў.
Гаспадар — таму я сведка —
Мала еў, а песні пеў.

Ён нячаста быў шчаслівым,
Бо гібела ўся сям'я.
Ад таго мо жаласлівай,
Песняй долі, стала я.

Тою раніцаю весняй,
Дзе спявалі жаўрукі,
Абняліся Хлеб і Песня,
І па сёння — дружбакі.

## ПАМЯЦІ ЯНКІ СІПАКОВА

Іван Данілавіч, сцюжнай зімою,
Дзе веі галосяць на скрушны свой лад,
Вам выпала
Са смерцю самою

Падацца на веча
Славянскіх балад.

Туды, на палі дзей векапомных,
Куды ў стагоддзях не раз ішла,
Дачасна яна хадой нястомнай
Услед за сабою і Вас павяла.

«Паглянь, — сказала, — тут колькі легла
Вояў славянскіх народаў зямлі.
Агнём іх паліла, мячом іх секла,
Каб у нябыт назаўжды сышлі.

Ты ж акрапіў іх вадой жывою,
Непаслухмянец сякі-такі,
Даў ім адзінае — слова-зброю,
І абяссмерціў іх на вякі.

Як мне цяпер іх караць нанова?
Як асмяроціць мне іх цяпер?
Зноў падступлюся — страляе слова,
Нават да смерці ў іх недавер.

Кожны мне косці патрушчыць рады,
З рук маіх вырваць прагне касу».

Перачытаў вашы балады,
І агарнулася сэрца ў сум.

Іван Данілавіч, смерці не верце,
Голас ілжывы яе, не жывы.
Вы і сягоння ў вашым бяссмерці —
Вечнай паэзіі вартавы.

* * *

Як на планеце вырас Чалавек!
Калісь не бачыў дальш сваёй пячоры.
Асвоіў блізляжачыя прасторы,
А потым — сцежку ў лес глухі прасек.
І не адзін яшчэ мінуўся век,
Як, на рухавасць і прыдумку скоры,
Пачаў цягаць ляшчоў з тутэйшых рэк.
А сёння ўжо — трымае ў пальцах зоры.

Як на планеце ўздужаў Чалавек!



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# Я НІКОЛІ НЕ СТАНУ ЛЁТЧЫКАМ

*Апавяданне*

Магдалена яшчэ раз азірнулася на двух дзетак, якія захоплена ўзіраліся ў сіняе-сіняе савецкае неба на плакаце з надпісам «І мы будзем лётчыкамі!»

Чаго менавіта гэты плакацік быў прышпілены трыма іржавымі канцылярскімі кнопкамі да дзверцы канцылярскай шафы ў кабінеце начальніка аддзела НКУС, было не зусім зразумела. Магчыма, гаспадар кабінета натхняўся паміж допытамі ворагаў народа, гледзячы на пухленькія замілаваныя твары плакатных дзетак: ёсць дзеля чаго змагацца, надрывацца бруднай, цяжкой, няўдзячнай працай! Магчыма, ён любіў авіяцыю і сам калісьці марыў лётаць.

Магдалена адвяла позірк ад аптымістычна яркага плаката і перарывіста ўздыхнула: няўжо дзеткі, што сочаць за аэрапланамі, стануць шчаслівейшымі, калі знікне, напрыклад, выпускнік Менскай мастацкай вучэльні Нарушэвіч Вадзім Пятровіч, які проста не вельмі ўдала намаляваў канаючага ў ванне героя камуны Марата?

Ну так, у самім сюжэце ёсць намёк на забойства Кірава, ёсць і прыкметы буржуазнага фармалізму. Дзе тут ванна, дзе паедзенае вошамі цела гераічнага таварыша Марата, дзе падступная манархістка Шарлота Кардэ са сваім атрут-

---

*__Рублеўская Людміла Іванаўна__ нарадзілася 5 ліпеня 1965 г. у Мінску. Скончыла аддзяленне архітэктуры Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума (1984). Працавала ў канструктарскім бюро на ВА «Гарызонт». Вучылася на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута ў Маскве (1986—1987), затым перавялася на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ, які скончыла ў 1994 годзе. Працавала загадчыкам аддзела крытыкі ў часопісе «Першацвет», загадчыкам аддзела мовы ў газеце «Наша слова». З 1996 года — у аддзеле крытыкі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 2002 — рэдактар аддзела літаратуры. З 2003 года працуе літаратурным аглядальнікам газеты «СБ-Беларусь сегодня».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Крокі па старых лесвіцах» (1990), «Замак месячнага сяйва» (1992), «Рыцарскія хронікі» (2001), «Шыпшына для Пані» (2007), «Вяртанне Інфанты» (2015), кніг прозы «Сэрца мармуровага анёла» (2001), «Старасвецкія міфы горада Б» (2002), «Пярсцёнак апошняга імператара» (2002), «Ночы на Плябанскіх Млынах» (2007), раманаў «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» (2007), «Сутарэнні Ромула» (2010), «Дагератып» (2014), цыкла раманаў «Авантуры Пранціша Вырвіча» (2012—2015), кніг казак для дзяцей «Прыгоды мышкі Пік-Пік» (2000), «Карона на дне віра» (2008), драматычных паэм «Пасля Цэзара», «Апошняя з Алелькавічаў» і інш. Аўтар зборнікаў эсэ па гісторыі Беларусі і беларускай літаратуры. Творы перакладаліся на дзясяткі моў свету, выходзілі асобныя кнігі ў Польшчы і Украіне.*

ным кінжальчыкам — разбяры яшчэ, як ніты распушчанага рознакаляровага швэдара.

Але мастак заўсёды з'яўляецца асобай падазронай, плыткай і здрадлівай. Як паверхня дрыгвы. Мала што замаскаваўся пад урадлівую зялёную палянку... А нутро гнілое, бяздоннае!

Магдалена яшчэ раз уздыхнула і прыкусіла пазногаць. Маці калісьці мазала ёй кончыкі пальцаў гарчыцай: каб дачка пазбавілася нявартай прыстойнай дзяўчынкі звычкі абгрызаць пазногці.

Але мама далёка. А таварыш маёр Пятро Свідрыгайлаў зараз вернецца. І сказаць яму «не, я перадумала» — адмовіцца ад самой сябе, ад таго, што лічыш сваім каханнем.

Дзеля Вялікага Кахання варта ж аддаваць жыццё? Тым болей, калі гаворка — не пра жыццё, а пра...

Магдалена не з павятовых паненак старасвецкай эпохі — яна нават фоткі з зацягнутымі ў карсеты постацямі пансіянерак-гімназістак зацята павырывала з матчынага альбома і пакідала ў печку. Не хоча гэткіх продкаў! Лепей, як у бацькавым альбоме — крамяныя жанкі ў паркалёвых сукенках, з насцярожанымі шырокімі сялянскімі тварамі...

Але ж і ў іх, зняволеных працаўніц, былі свае забабоны! І яшчэ якія. Не захавала цнатлівасць да вяселля, не афарбавала прасціну ў першую шлюбную ноч у сакральную барву — уздзенуць хамут на бацькоў ды будуць вадзіць па вёсцы, ганьбячы, што дачку не дапільнавалі. А што ўжо з самой вінаватай зробяць...

Дзікунства! Магдалена вывучала фізіялогію і ведае, чым адрозніваюцца мужчыны ад жанчын. І што жаночая цнатлівасць — інструмент рэлігійнага дурману. Маленькая анатамічная падрабязнасць, якую цемрашалы ўзвялі ў ранг святыні. Яшчэ адзін ланцуг для жанчыны! Магдалена чытала раман расейскага пісьменніка Ганчарова «Адхон». Гераіня аддалася каханаму мужчыне, адважнаму рэвалюцыянеру Марку, а пасля спалохалася, падпала пад уплыў кансерватыўнага асяродку і — сушыце скошаную траву. Яна, Верачка, упадлая, загінулая, сапсаваная, як прадзіраўленае вядро. Усе плачуць, жыўцом хаваюць...

Вось глупства! Гэта ж не радзіму прадаць.

А фізіялагічны кантакт з прадстаўніком савецкіх органаў — што ў гэтым прыніжальнага? Усё роўна што медагляд разам з урокам фізкультуры.

Галоўнае — што? Галоўнае — не дапускаць і адцення думкі, што ў гэтым штосьці няправільнае, заганнае, прыніжальнае, злачыннае.

Таму што тады гэта і зробіцца прыніжэннем і злачынствам.

І зноў захочацца шукаць праўды, пісаць скаргі, уяўляць — вось, варта нажаліцца наркаму Берману, і той жахнецца — як маглі арыштаваць таленавітага камсамольца Нарушэвіча, як мог следчы Свідрыгайлаў прапаноўваць непрыстойнае камсамолцы Магдзе Парахневіч, якая праходзіла сведкай па справе? І выправіць усё таварыш Берман...

Ніхто нічога не выправіць. Спатрэбілася ўсяго два тыдні на агонію наіўнасці.

Урэшце, усе гэтыя магнаткі і шляхцянкі не пярэчылі ж, калі іх перад вяселлем правяралі на цнатлівасць, альбо пасля прылюдна яе пазбаўлялі. Пра гэта ў педтэхнікуме распавядалі на ўроку гісторыі, як прыклад распусты эксплуататарскіх класаў — калі віленскі ваявода Мікалай Радзівіл сватаўся да дачкі менскага ваяводы Крыштафа Завішы Барбары, змусіў яшчэ да вяселля, пасля заручын, даць яму «зведаць прыемную пасцель» з нявестай, да таго ж у прысутнасці шматлікіх сведкаў, бацькоў-Завішаў, суседзяў, прыслугі...

Вось дзе ганьба!

А Вадзім будзе вольны. Маленькае непаразуменне выправіцца, і мастак Нарушэвіч працягне ствараць свае дзіўныя палотны... Не робячы, вядома, такіх жудасных памылак, як на карціне з Маратам, цалкам адмовіўшыся ад буржуазнага фармалізму. Магчыма, пачне маляваць вось такія прыгожыя плакацікі з савецкімі дзеткамі і аэрапланамі.

Магдалена ганарыста ўскідвае галаву і спрабуе страсянуць каротка стрыжанымі русявымі валасамі. Як рэвалюцыянерка на барыкадзе французскіх камунараў.

Атрымліваецца, напэўна, не надта велічна. Няма ў яе больш русявай касы, якая так падабалася Вадзіму. Абрэзала — пасля першага ж візіту сюды і звароту «барышня». Хацелася выглядаць больш сурова, па-пралетарску. І менш прывабна.

Адзін з белых гольфаў здрадліва споўз да шчыкалаці, зморшчыўся бездапаможна... І, вядома, якраз у той момант, як Магдалена нагнулася, каб яго падцягнуць, і расчыніліся дзверы кабінета.

Цікава, або таварыш Свідрыгайлаў валодае карысным для разведчыкаў уменнем хадзіць бязгучна, альбо гэта яна, Магдалена, так разнервавалася, што не пачула крокаў у гулкім калідоры Канторы.

Гэты будынак у горадзе называлі амаль багавейліва — Кантора. З вялікай літары.

А таварыш Свідрыгайлаў зусім не брыдкі. Лысаваты, нізкаваты, слінявыя адтапыраныя вусны... Затое... Затое ён узначальвае аддзел НКУС. І менавіта ад яго залежыць лёс маладога пшанічначубага мастака Вадзіма.

Што кепскага ў тым маёры Свідрыгайлаве? Магдалена чакала — раз выклікалі на допыт, будуць, як з ворагам, яна ж сяброўка злачынцы, а следчы ні разу голас не падвысіў. Калі адмовілася пацверджваць віну Вадзіма — прапанаваў дапамогу, спачуваў, даў самой вырашыць — падумай, дзяўчынка, ці варта трымацца такога ідэйна няўстойлівага юнака?

У таварыша маёра таксама ёсць маці, магчыма, і жонка...

Здаецца, заручальны пярсцёнак паблісквае на караткапалай руцэ з чорнымі валаскамі? Значыць, жонка ёсць... І дзеці, магчыма...

Два аэрапланы на плакаце заклалі чарговы круты віраж на фоне бязвоблачнага савецкага неба.

Магдалене дужа захацелася апынуцца ў кабіне аднаго з гэтых крылатых апаратаў. Высока над зямлёй. У абдоймах ветру і з п'янкой адарванасцю ад усяго.

Але давялося ўстаць з цвёрдага (толькі ўстаўшы, разумееш, да чаго цвёрдага) зэдліка і, намагаючыся трымацца годна, адказваць, гледзячы ў нібыта бясколерныя вочы маёра дзяржбяспекі Свідрыгайлава «Так, я падумала, я згодная».

Калі б Вадзім быў не такі сарамлівы і далікатны... Магчыма, у іх з Магдай зайшло б далей, чым тры пацалункі, і цяпер яна пачувалася б лягчэй.

Магдалена памятала кожны з гэтых пацалункаў.

Першы, з прысмакам веснавога ветру — на ганку бібліятэкі імя Пушкіна, пасля сустрэчы з Якубам Коласам. Усе разышліся, а яны, нядаўнія слухачы, што выпадкова апынуліся на суседніх крэслах, яшчэ амаль незнаёмыя, усё спрачаліся, ці праўда герой трылогіі «На ростанях» Лабановіч — рэакцыйны персанаж, мяккацелы інтэлігент, як даказвалі народныя крытыкі на сустрэчы, і дзядзька Колас памыліўся, паддаўся буржуазнаму нацыяналізму.

Вадзім народным крытыкам не верыў. Як і будучай настаўніцы Магдалене. І заторкнуў ёй рот пацалункам. Кароткім, як стрэл, і гэткім жа аглушаль-

ным. І сам, адкаснуўшыся, застыў, спалоханы сваёй смеласцю. А Магдалена яму — па шчацэ... З усяго размаху... Як у раманах.

Другі пацалунак быў са смакам вішні.

Яны елі вішні ў майстэрні, дзе выпускнікі мастацкай вучэльні шчыравалі, хто з якой дозай ляноты, над дыпломнымі працамі.

З палотнаў паглядалі калгасніцы з рукамі і нагамі, падобнымі да тэлеграфных слупоў, чырвонаармейцы з квадратнымі сківіцамі і вачыма, што гарэлі, быццам агні ў паравозных топках. Уладзімір Ільіч Ленін — на трыбуне, на браневіку, у атачэнні кучаравых дзетак, барадатых салдат, згаладалых сялян... Толькі Правадыра ніхто не намаляваў — не заслужылі недавучаныя студэнты вучэльні права маляваць Правадыра. Так у гэтым годзе вырашыла кіраўніцтва. Мабыць, пасля мінулагодніх мітрэнгаў, калі аднаго дыпломніка давялося тэрмінова адлічваць — за скажэнне светлага вобліку.

Дзе той недавучаны дыпломнік дзеўся — нават пытацца баяліся.

А Вадзім маляваў касіянераў Кастуся Каліноўскага. Змучаных, галодных людзей, якія грэюцца ля вогнішча сярод зімовага лесу, не выпускаючы з рук перарobленую з косаў зброю... Магдалене, якая пазіравала для адной з фігур — маладой сялянкі-інсургенткі, узброенай сякерай, ужо тады трэба было насцярожыцца. Пра асобу Каліноўскага хадзілі спрэчкі — ці не пераважваў у ягонай асобе рэакцыйны нацыяналізм? Дый Нарушэвіч, не, каб маляваў, як усе — проста і зразумела. Фарбы пераліваліся, што вада на паверхні віру, шэрыя постаці на карціне нагадвалі не людзей, а засыпаныя снегам ядлоўцавыя кусты, і несла ад іх тугою, а не сталёвай моцай рэвалюцыі. І ў кіслым вішнёвым соку, які сцякаў па вуснах Вадзіма і ягонай мадэлі, застываў на пальцах, было больш рэвалюцыйнай фарбы, чым у гэтай карціне.

Але Магдалена закахалася.

Нічога сабе — апраўданне?

Але іншага не было.

Проста ўся яшчэ па-юначы хударлявая, нязграбная постаць Вадзіма, доўгія пальцы з кранальна выпіраючымі костачкамі, светлы пушок на верхняй губе, з кропкамі вішнёвага соку, бурштывавыя рысачкі, якія можна заўважыць у блакітных вачах — любая падрабязнасць выклікала жаль і замілаванне, і хацелася адначасова абараніць, прытуліць — і быць завяяванай, абароненай...

Таму і здарыўся трэці пацалунак — з прысмакам дыму.

Дыму ад бульбоўніка, які палілі на гародах Грушаўкі, менскага прадмесця, у якім жыў Вадзім. Там, ля ягонай хаты, крывабокай, як пабітая жабрачка, яны і пацалаваліся апошні раз. Назаўтра Нарушэвіча арыштавалі.

Так што таварыш Свідрыгайлаў, каржакаваты, з адвіслымі вуснамі і лысінай, якая амаль непрыстойна паблісквала ў атачэнні чорных валасоў, мусіў стацца першым мужчынам студэнткі педвучэльні Магдалены Парахневіч.

Затое яна не першая і не апошняя, хто атрымаў такую прапанову. Трохі жаночай увагі — узамен за волю дарагога чалавека. Да здзіўлення — і нават жаху Магдалены, яе маці, былая гімназістачка, такая ўся строгая-прыстойная ў сваіх вечных белых каўнерыках, адразу адрывіста параіла: «Згаджайся. І не толькі дзеля мастака твайго клятага. Бо калі арыштуюць цябе — пытацца не стануць. Не толькі пад аднаго начальніка ляжаш».

Гэта было сказана з такой горыччу, з выпакутаваным горам, што Магдалене давялося доўга адганяць здрадлівыя думкі, ці не зведала маці штосьці падобнае... Ці такім добраахвотным быў яе шлюб з бацькам, малапісьменным чырвонаармейцам з сялянскай беднаты, які загінуў дзесяць год таму дзесьці ў прадразвёрстцы, ад кулі кулака?

Магдалена заўсёды лічыла, што гэта для маці гонар — народжаная ў шляхецкай сям'і, гэта значыць, у эксплуататараў, стала сяброўкай жыцця рэвалюцыйнага байца, рэабілітавалася.

Магдаленін татка, рудаваты мажны мацак з рэдкімі пярэднімі зубамі часта жартам паўтараў, як адну гадзюку буржуйскую выратаваў, за жонку ўзяў, у канцылярыю прыстроіў. Расказваў смешныя байкі, як вучыў няўдаліцу прасаваць-гатаваць.

Гэта гаварылася весела, тата пасля абавязкова прыабдымаў маці, уладна туліў да сябе, гучна цалаваў у бледную шчаку, у тонкую шыю, гулліва шчыкаў...

Цікава, а ці цалавала яго калі сама жонка?

Магдалена не магла ўспомніць.

Што ж, бывае страшней...

Але калі яна ўбачыла кушэтку...

Звычайную кушэтку ў куце кабінета, абцягнутую брунатным дэрмацінам, на якую таварыш маёр тым самым жэстам, якім у п'есе Астроўскага купец Паратаў кідаў пад ногі Ларысе Агудалавай шыкоўнае футра, кінуў патрапаную посцілку ў чырвона-зялёныя шашачкі...

Магдалену ледзь не званітавала.

Карціна ў стылі экспрэсіянізму, пра які распавядаў Вадзім. Вязаны чырвоны берэцік, белая блюзачка з камсамольскім значком, сіняя плісіраваная спаднічка, белыя гольфікі, духі «Белая чаромха», чыстае каханне ў сэрцы, — і даматканая посцілка ў чырвона-зялёныя шашачкі...

Любка з іхняга тэхнікума, пра якую гаварылі — «гуляе», хвалілася, як адзін служачы з наркамгандлю вадзіў яе ў рэстаран, дарыў манто, паіў шампанскім з ікрой, а ложак быў з прасцінамі з кітайскага шоўку, з вышытымі цмокамі!

Хутчэй за ўсё, Любка прылгала. Можа, не былі прасціны з вышытымі цмокамі, а манто — з чарнабуркі.

Але кушэтка з посцілкай...

Магдалена ўсхліпнула. І ёй падалося, што яна не так ужо моцна кахае даўгалыгага бялявага Вадзіка. А калі чужая рука лягла на яе плячо, падумалася: ды хай бы і пасядзеў той Вадзік. Многа не дадуць. Гаварылі — год пяць. Папрацуе на савецкіх будоўлях, можа, яшчэ і на карысць пойдзе...

Не, гэта немагчыма... Яна не вытрывае...

Маёр абвёў далоньмі яе цела, як быццам здымаў мерку для труны, і задаволена вымавіў нешта кшталту «Ды няўжо ж твой кавалер з табой ні разочку?»

Магдалена ясна ўсвядоміла, што ад яе жадання тут ужо нічога не залежыць.

Ёй было холадна нават тады, калі зверху навалілася цяжкое гарачае цела. Дрыжэлі вусны, рукі, калені, перахоплівала дыханне — як у палонцы... Напэўна, было б правільным, каб у гэты час у галаве гучала імя каханага, дзеля якога і... Але ў думках у такт успышкам болю круцілася пракаветнае — «Мама, мамачка...»

Здавалася, ГЭТА не скончыцца ніколі. У Магдалены нават слова не знаходзілася для таго, каб назваць, што з ёй робяць. Яна проста адчувала сябе кавалкам мяса.

Напэўна, цяпер яна зусім па-іншаму перачытала б таўшчэзны том Ганчарова, пра ашалелую ад страты цнатлівасці павятовую Верачку.

«Не хачу! Не хачу! Не хачу!»

Самае страшнае, аказваецца — адчуванне, што нічога не вернеш. Не выправіш. Што па-іншаму ў тваім жыцці ўжо не будзе. Атрымлівай свой першы раз, Магдаленка, як лёс варажыў, ну і сама згадзілася. Два аэрапланы

з перацягнутымі швамі крыламі, быццам няўклюдныя стракозы, кружлялі пад плямістай столлю кабінета начальніка аддзела НКУС, усё гучней зумкаючы. Нарэшце зумканне зрабілася невыносна гучным, і раптам настала ціша.

Магдалена ачуняла ад таго, што яе злёгку паляпвалі па шчоках. Не білі — а пяшчотна паляпвалі. Чорныя зрослыя бровы таварыша Свідрыгайлава варушыліся, як вусені — Магдалена толькі і ўперылася ў гэтыя бровы-вусені, не ў змозе ні зазірнуць у вочы свойму першаму мужчыне, ні ўслухацца ў тое, што ён гаварыў.

А ён жа і дагэтуль не маўчаў — нагаворваў штосьці ласкавае, абяцаў, супакойваў... Па-свойму ён быў да яе добры...

Галоўнае, каб зноў не дакрануўся! Таму што калі ён яшчэ раз да яе дакранецца...

Але маёр быў спрактыкаваным у псіхалогіі і на гэты момант цалкам задаволеным.

Белыя гольфікі, якія таварыш Свідрыгайлаў адмыслова не стаў з яе здымаць, выявіліся сапсаванымі. Барвовыя пісягі — як ад вішнёвага соку.

На посцілку Магдалена старалася не глядзець. Відаць, давядзецца гаспадару кабінету выкінуць... дэталь інтэр'ера. Хаця... Не дзіва, калі тая посцілка, нікчэмная сведка і пакорлівы саўдзельнік, дзясяткі разоў адмывалася пасля такіх жа здарэнняў. І добра яшчэ, калі на ёй няма крыві стваральніцы-ткалі.

Сцэна ў майстэрні з Вадзікам, карцінамі і вішнямі раптам падалася нерэальнай і зусім нязначнай.

Магдалена разумела, што калі б зараз да яе дакрануўся Вадзік, яе гэтак жа заванітавала б. Успаміны пра ягоныя кашчавыя рукі і пушок на верхняй губе больш не выклікалі ні жалю, ні замілавання.

Маці нічога не спытала. Нічога не сказала, нават калі заўважыла, як дачка, намацаўшы ў кішэні забытыя скамечаныя гольфікі з чырвонымі плямамі, адчайна шпурнула іх у печку, ляснуўшы дзверцай, нібы баялася, што выпаўзуць з агню. Жанчына моўчкі, хутка падрыхтавала гарачай вады, чыстую начную кашулю, прынесла Магдалене ў ложак цёплы кубак малака. Пацалавала ў лоб — доўга, пяшчотна, нібы ачысціла ад усяго. Доўга сядзела ў куце пакоя, моўчкі глядзела ў цемру, сціснуўшы тонкія рукі.

Магдалена не хацела ведаць, пра што маці ўспамінае.

Вадзіма не выпусцілі. Яго асудзілі на пяць гадоў папраўчай працы і адвезлі, здаецца, ва Уржум. Пра гэта Магдалене распавёў Вадзімаў сябрук, худзенькі заіклівы Толька-акварэліст, які дакорліва глядзеў на дзяўчыну, што не выявіла ніякай цікавасці да лёсу былога каханага.

Так, рэдкія лісты Вадзіка яна нават не чытала. Яны былі напісаныя не ёй, а іншай дзяўчыне, якая ніколі не ляжала на кушэтцы, абцягнутай брунатным дэрмацінам, з накінутай зверху посцілкай у чырвона-зялёныя шашачкі. І свой партрэт — блакітнавокая дзяўчыначка ў белым берэціку, з пшанічнай касой і капрызлівымі вуснамі — засунула кудысьці на гарышча. Туды, дзе ляжалі старыя кнігі, друкаваныя лацініцай, стосы перавязаных вылінялымі стужкамі лістоў, ды засунутыя ў каробку ад чаравікаў чорная канфедэратка з кукардай, на якой скакаў невядома куды срэбны вершнік, і нечы пажаўцелы вясельны вэлюм з аблезлым вяночкам.

На гарышчы пылілася шмат нікому не патрэбных рэчаў.

Усё роўна праз тры гады на месцы гэтага дома падчас першай жа бамбёжкі — самалёты кружлялі ў сінім бязвоблачным небе, як на старым плакаце — утварылася вялізная варонка, і ніхто ніколі не спрабаваў адшукаць, што засталося ад тых, хто тут для чагосьці жыў.



Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА

# ВЕРШ І СВЯТЛО

## БЕЛАЕ ПОЛЫМЯ ЛІСТА

Крочыць ноч па зялёнай планеце,
За вярстою шарэе вярста.
Толькі там, у маім кабінеце,
Мяне полымя кліча ліста.

Чысціні незямной шматгалоссе.
Так зіхцеў бы і ў Афрыцы снег.
Аб усім, што са мной адбылося,
Ліст заве расказаць. Як на грэх,

Парушаю зарокі маўчання,
І ўжо слова праз боль-запавет
Прарастае з душы апантанай,
Палыхае і просіцца ў свет.

І рука ўжо радочкі выводзіць,
Хоць маё апусцела жытло…
Ноч імгненнем кароткім сыходзіць.
Вось ён, ліст. Вось ён, верш. І святло!

---

*__Гусачэнка Тамара Іванаўна (Тамара Краснова-Гусачэнка)__ нарадзілася 1 красавіка 1948 года ў вёсцы Шчапяціна Брасаўскага раёна Бранскай вобласці. У 1974 годзе пераехала ў Віцебск. Скончыла Маскоўскі аўтатранспартны тэхнікум (1971), філалагічны факультэт Бранскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя акадэміка І. Г. Пятроўскага (1977), факультэт лагапедыі Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1986).*

*Працавала ў рэдакцыях бранскіх абласных газет «Брянский комсомолец», «Автомобилист», на Віцебскім тэлебачанні, у чыгуначным раёна горада Віцебска і дырэктарам дашкольнай установы. Цяпер — старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных кніг «На одном дыхании» (1999), «Отпусти меня, боль» (2000), «Посреди зимы» (2003), «Золотая капля» (2004), «Сложнее жизни» (2005), «Я пришла» (2006), «Осень молодая» (2007), «Спас» (2008), «Белое пламя листа» (2010), «У света нет тени» (2011), «Робинзоны из Придвинья» (2012), «Эта книга детям обо всем на свете» (2014) і інш.*

*Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Сімяона Полацкага (2005), Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Фёдара Цютчава (2009), Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2010).*

* * *

Я чытаю,
Чытаю радкі —
Згусткі-ніці
Пякучага болю…
Божа мой,
За якія грахі,
За якія заслугі-патолі
З неба вершы
Даруюцца ім:
Безграшоўным,
Няшчасным,
Сірочым,
Што сцвярджаюць:
Не слёзы, а дым
Выядае
Самотныя вочы?..

* * *

І — на волю! Ад розных раскошаў-прыўкрас
У галечу, якая гартуе штохвілі,
Нават сну пазбаўляе, у тую якраз,
Дзе свабода, дзе шчасце на доўгія мілі.

Кроў чысцюткая. Рабства ні кроплі няма,
А яшчэ толькі ўчора ад страху трымцела,
А сягоння не страшны ні дождж, ні зіма
Тут, наяве, і ў сне, за фіранкаю белай.

О, я ведаю посвіст вятроў-завірух,
А ў траве — аж да стрэх — перапёлчыны плачы.
Не забуду аблок абцяжараны рух,
Ды любіла й люблю. Ну, а як жа іначай!..

Так, на волю! Бо вольнаму — безліч дарог,
На якіх ажывуць-замігцяць спадзяванні…
Даравала я ўсім, дык ратуй мяне, Бог,
Ад няволі — за рысай пунсовага рання…

* * *

Зіма. Не кволіцца мароз,
А мы з табой лыжнёю сіняй
Туды, ў гушчар, дзе да нябёс
Узносіць вецце сіні іней.
Паветра свежае — ого!
Да лыжаў снег зусім не ліпне,
І ад пагляду — ад майго —
Ураз твая суровасць нікне.

А сонца ў небнай вышыні
Усімі фарбамі палае
І нашы высненыя дні
Сваёй пяшчотай ахінае…

І мы наяве верым снам…
Так снег спакусліва бялее…
Хоць і мароз, ды цёпла нам
На гэтай казачнай алеі.

* * *

Яшчэ вясна ў свае правы
Ўступае так нясмела,
Але з-пад кволае травы
Пралеска засінела.

Глядзіць на свет — і нікне цьма.
Трапечуцца асіны.
І даражэйшае няма
Ад гэтае хвіліны.

Дай мне руку. Вазьмі маю.
Няхай зліюцца рэкі.
Свой лёс табе я аддаю,
А твой бяру. Навекі.

## ЯШЧЭ ЗВАНОК НЕ ПРАЗВІНЕЎ

Яшчэ званок не празвінеў,
Яшчэ не скончаны урокі.
Яшчэ не раз ля стромкіх дрэў
Мае пачуеце вы крокі.

Яшчэ прайду я па траве
На золку босымі нагамі
Туды, дзе ў роснай сіняве
Лугі аж гнуцца пад стагамі.

І дзе бярозы, як салют,
Пад неба кронамі ўзляцелі,
Дзе салаўі так звонка льюць
Свае дзівослівыя трэлі.

І хай гадоў хоць сто міне,
Ды будзе ранак, дзень і вечар…
Я чую: кліча хтось мяне,
Ды адказаць на кліч той — нечым.

***Пераклад з рускай Міколы ШАБОВІЧА.***

*Да 100-годдзя беларускай міліцыі*

**Мікалай ЧАРГІНЕЦ**



# ЗА СЕКУНДУ ДА ВЫСТРАЛУ*

*Раман*

## 19

## Капітан міліцыі Буравін

У Станавое Славін і Сімоха дабраліся толькі ўвечары наступнага дня.

Спыніліся на ўзлеску недалёка ад сяла і пачалі раіцца, ці ехаць на конях адразу ў сяло ці спачатку сустрэцца з участковым упаўнаважаным і высветліць становішча.

Славін застаўся з коньмі, а Сімоха рушыў у сяло. Лейтэнант, баючыся, што яго ўбачыць выпадковы прахожы, штораз запрагаў і распрагаў коней. Гэтай работай яму прыйшлося займацца не меней як паўгадзіны, перш чым вярнуўся Сімоха. Ён прыйшоў у суправаджэнні немаладога, апранутага ў доўгае футра і салдацкую зімовую шапку мужчыны. Гэта і быў участковы ўпаўнаважаны.

Ён паціснуў азяблую руку Славіна і прадставіўся:

— Капітан міліцыі Буравін. Я ўжо вырашыў, што, калі вы не з'явіцеся да раніцы, рушу вам насустрач.

— А куды нам дзецца, Міхаіл Якаўлевіч? Дарогу ж ведаем, — усміхнуўся Сімоха.

Але Буравін крыху буркатліва адказаў:

— Куды-куды, а хто яго ведае куды! Тайга ж, а ў ёй варта толькі са шляху збіцца, а там і месяц можаш блудзіць і не дабярэшся куды трэба. Ведаю я нямала такіх выпадкаў. Бывала, і мясцовыя жыхары дахаты не вярталіся. А тут завея, бачыш, вось-вось пачнецца.

Славін здзіўлена падумаў: «На небе зоркі можна лічыць, дрэвы не зварухнуцца, а ён пра завею кажа, напэўна, хоча прыстрашыць».

Сімоха спытаў:

— Як, будзем у сяло заязджаць? Можа, ты, Міхаіл Якаўлевіч, садзіся ў сані і едзь дахаты, а мы паволі следам, каб не так заўважа было?

— Каб не так заўважна было, вы садзіцеся ў сані, а я на передок, так і заедзем да мяне. Час цяпер позні, прахожых мала. Для нас галоўнае бабцы Насці на вочы не трапіцца. Вось тая, ужо дакладна, сваім языком да раніцы па ўсім сяле разнясе, што да ўчастковага нейкія двое прыбылі.

Славін сказаў:

---

* Працяг. Пачатак у № 1 за 2017 год.

— Вам відней, таварыш капітан, паехалі!

Яны ўтрох селі ў сані. Коні, пачуўшы, што блізка жыллё, даволі жвава панеслі іх да сяла.

У доме пры святле газавай лямпы Славін змог разгледзець участковага. Сярэдняга росту, дужы, нават каржакаваты, ён выглядаў гадоў на пяцьдзясят. Буйны маршчыністы твар, цёмныя вочы, вялікі мясісты нос і ледзь выпуклы лоб. Рухі Буравіна, яго хада былі спакойныя і ўпэўненыя. Казаў ён таксама спакойна, але голасам чалавека, які прывык, што да яго меркавання заўсёды прыслухоўваюцца.

Ён пачакаў, пакуль госці знімуць паўкажушкі, і запрасіў у пакой. Пакой быў вялікі і, як здалося Славіну, вельмі ўтульны. З бакавых дзвярэй выйшла гаспадыня. Яна ветла прывіталася, і гаспадар, запрашаючы гасцей садзіцца, сказаў:

— Я пайду коней распрагу, заганю іх у хлеў. — Ён зірнуў на жонку: — А ты, Варвара Васільеўна, рыхтуй вячэру. Госці з дарогі далёкай і прагаладаліся, і прамерзлі, так што не скупіся і ў буфет свой запаветны зазірні, дзе сёе-тое саграває... 

Сімоха прапанаваў:

— Я таксама пайду дапамагу.

Але гаспадар рашуча запярэчыў:

— Не трэба. Я вазьму ў памагатыя сына. — Ён павярнуўся да дзвярэй, з якіх нядаўна выйшла гаспадыня, і гучна паклікаў: — Воўка! Накінь штонебудзь на сябе, пойдзем са мной у двор.

З пакоя выйшаў гадоў трынаццаці хлопец, прывітаўся і сказаў:

— А я так зачытаўся, што нават не пачуў, што ў нас госці. — Хлопец чамусьці ўвесь час глядзеў на Славіна. Напэўна, узрост маладога аператыўніка прыцягнуў яго ўвагу. Ён, не бянтэжачыся, падышоў і спытаў:

— А якое ў вас званне?

— Лейтэнант, — ледзь усміхнуўся Славін.

— А пісталет які?

— Табельны, — унікліва адказаў Уладзімір і прысеў на драўляную лаўку.

— Слухайце, пакажыце, а?! — папрасіў хлопец і зрабіў спробу ўсесціся побач.

Бацька пляснуў яго па патыліцы:

— А ну адстань ад чалавека, збройнік знайшоўся! Пайшлі ў двор.

Гаспадыня, зазірнуўшы ў бакавыя дзверы, паклікала малодшага сына і пятнаццацігадовую дачку.

Яны ўтрох пачалі завіхацца ля стала, а Сімоха раптам успомніў:

— Ой, я ж у сене аўтамат забыўся, пайду забяру. — І ён накіраваўся да дзвярэй, а яму насустрач з аўтаматам наперавес ішоў Воўка.

— Вось гэта зброя! Вось гэта я разумею! З такой штукай і зграя ваўкоў не страшная, ураз усіх пакладзеш.

Сімоха ўзяў з яго рук аўтамат.

— А дзе дыск?

— Так ужо і дасць бацька з дыскам, — унурыў галаву хлопец, — сам прынясе. Дзядзька, а ў вас запасныя дыскі ёсць?

Сімоха не зразумеў, куды хіліць хлопец, і прастадушна прызнаўся:

— Вядома, ёсць, і не адзін.

— Вось выдатна! Значыць, заўтра дасце пастраляць! — узрадаваўся Воўка і рукой пагладзіў прыклад аўтамата.

У першым пакоі пачуліся крокі, і праз незачыненыя дзверы Славін убачыў, што прыйшоў гаспадар. Ён трымаў кажухі і два рэчмяшкі прыезджых.

Пасля вячэры мужчыны адасобіліся ў дальнім пакоі і павялі дзелавую гаворку. Участковы ўпаўнаважаны ўводзіў Славіна і Солахава ў курс справы:

— Сяло наша не вельмі вялікае, але старадаўняе. Заснавана даўно. Роўна сто хат налічваецца. Людзі галоўным чынам добрыя, але бывае, у сям'і хто-небудзь паскандаліць ці самагонаварэннем зоймецца.

— Я бачыў на карце, што недалёка паселішча нейкае знаходзіцца, колькі да яго кіламетраў? — спытаў Славін.

— А, гэта Светлае. Да яго сем кіламетраў. Там хат сорак, не больш.

— Гэта таксама ваш участак?

— Так, гэта мая тэрыторыя.

— Раскажыце пра сям'ю Солахаў.

— Іх дом у цэнтры сяла, калі ісці ад майго, то па правым баку, з блакітнымі аканіцамі. Цяпер у ім жыве адзін стары Солах. Увесну мінулага года памерла жонка.

— Маці Рыгора-малодшага?

— Не, яго маці памерла яшчэ ў трыццаць сёмым. Біў яе да паўсмерці муж, вось яна і да пяцідзесяці не дажыла. У трыццаць восьмым ён ажаніўся на ўдаве ляснічага, якога ў тайзе мядзведзь задраў. Вось так і жылі да мінулай вясны.

— Колькі пакояў у Солаха ў хаце?

Буравін задумаўся на хвіліну, прыкідваючы размяшчэнне пакояў.

— Калі не лічыць прыхожую, дзе печ стаіць, то пяць.

— Як вы думаеце, уцекачы прыйдуць да яго?

— Упэўнены на ўсе сто. Калі ўжо Грышка абвясціўся ў гэтых месцах, значыць, напэўна, будзе шукаць сустрэчы са старым. Жыць, як мне здаецца, у яго ён не застанецца, не дурань жа, разумее, што да бацькі ў першую чаргу прыйдуць. Тым больш… — Буравін запнуўся, — разумееце, калі старога Солаха раскулачылі, то пагаворвалі, што ў яго, акрамя выяўленых двух дзясяткаў залатых манет, яшчэ не меней як сотня схавана. Але знайсці іх у яго так і не змаглі. Вось і атрымліваецца, што сын яго, напэўна, ведаючы пра гэта, разлічвае і на тое золата, бо не стагоддзе ж стары жыць будзе, а таямніцу з сабой у магілу несці таксама не захоча.

— І так, паразважаем, чаму злачынцы абавязкова прыйдуць да Солаха? — сказаў Славін, на хвіліну змоўк, затым працягваў: — Першае: іх бачылі недалёка ад сяла. Другое: Грышка без дакументаў нікуды не сунецца, значыць, ён будзе пакуль адседжвацца ў зацішным месцы і шукаць дакументы. Гэта небяспечна, злачынцы могуць пайсці на забойства, каб здабыць дакументы. Нам трэба папярэдзіць насельніцтва, і асабліва тых людзей, якія працуюць у тайзе. Трэцяе, стары, вядома, акажа поўную падтрымку свайму сынку. Ён мясцовы, добра ведае тайгу і зацішныя месцы ў ёй. З гэтага вынікае, што ён можа схаваць уцекачоў у якой-небудзь таежнай хаціне ў глыбіні тайгі і ўпотай перыядычна наведваць іх. У іх зброя, а гэта значыць, дзічыны яны сабе заўсёды здабудуць, а астатняе стары даставіць. Шкада толькі, што мы не ведаем, колькі ў іх патронаў, у арыенціроўцы пра гэта чамусьці нічога не сказана. Дарэчы, у старога стрэльба ёсць?

— Вядома, ёсць, прычым дзве ці тры. У мясцовых жыхароў у кожнага ёсць ружжо.

Сімоха, які да гэтага маўчаў, заўважыў:

— Значыць, ён ім можа і сваю стрэльбу даць.

— І гэта можа быць, — пагадзіўся Славін. — Чацвёртае — гэта золата, пра якое вы, Міхаіл Якаўлевіч, казалі. Так што, як бачым, каб застацца ў гэтых

краях у бандытаў ёсць шмат прычын, ці, скажам так, «за». Зараз давайце паглядзім, што «супраць». Першае і, мабыць, самае галоўнае — гэта тое, што Грышку мы будзем шукаць у бацькі. Што яшчэ?

Буравін дадаў:

— Другое, Грышку ў твар ведаюць многія мясцовыя жыхары, а гэта для яго небяспечна.

— Правільна. Але ўсё адно, у яго больш шанцаў быць нязлоўленым і здабыць дакументы, пакуль ён будзе хавацца ў гэтай мясцовасці. З гэтага робіцца выснова, што нам трэба прадумаць, як узяць пад назіранне дом старога Солаха.

— А я думаю, — задуменна прагаварыў капітан, — што Грышка ў дом да бацькі наўрад ці прыйдзе.

— Гэта чаму ж? — спытаў Славін.

— Хоць бы таму, што ў доме можа быць засада. Акрамя таго, у старога ён даўно не быў, таму будзе спрабаваць спачатку выведаць усё, а затым ужо ісці на кантакт з бацькам.

— Сабака ў Солаха ёсць?

— Тры здаравенныя і злыя, як пантэры. У двор не дадуць і ступіць. Гэта, дарэчы, у шкоду Грышку і яго сябруку.

— Міхаіл Якаўлевіч, як вы лічыце, як Грышка можа паспрабаваць сустрэцца з бацькам?

Буравін не спяшаўся з адказам. Ён задуменна сядзеў на табурэтцы і глядзеў у падлогу.

Славіну нават здалося, што капітан не пачуў пытання, і вырашыў паўтарыць яго, але Буравін загаварыў:

— Я думаю, што Грышка паспрабуе сустрэць ці нават зайсці да каго-небудзь са сваякоў.

— Ой, браткі, — прастадушна прызнаўся Славін, — а я і забыўся пра іх. Колькі іх у яго і дзе яны жывуць?

— Сваякоў у Солаха засталося мала, але яны ёсць. Праз два дамы ад майго жыве яго стрыечны брат Дзенкін Андрэй Аляксеевіч. Разам з ім жывуць жонка і старэйшая дачка з мужам і двума дзецьмі. Ёсць у Андрэя яшчэ двое сыноў, але яны пасля вайны — абодва былі на фронце — засталіся жыць у Новасібірску. Я думаю, што яны не будуць дапамагаць бандытам. Сам Андрэй, гэтак жа як і сыны, на фронце з першых дзён да перамогі ваяваў, тры ордэны і шмат медалёў мае. Яго брыгада ў калгасе перадавая, ён — член партыі. Я памятаю, калі старэйшы Солах з бандытамі вадзіўся, то Дзенкін дапамагаў нам. А вось крыху бліжэй да цэнтра жыве старая Любка, прозвішча яе Беркут. Яна — далёкая сваячка Солаха-старэйшага. Нам трэба памятаць, што і муж і двое сыноў яе былі актыўнымі ўдзельнікамі банды. Усе яны загінулі ў перастрэлцы, калі ліквідавалі банду. З тых часоў Беркут жыве адна, прычым не хавае сваёй нянавісці да савецкай улады. Але што возьмеш са старога чалавека? Памяркоўная, шкоды ад яе, акрамя зласлівай балбатні, няма. Людзі проста на яе ўвагі не звяртаюць. Вось да яе Грышка і можа завітаць, гэта факт! Ёсць яшчэ ў Солаха сваяк — Дрозд яго прозвішча, завуць яго Міхаіл Андрэевіч. Жыве ў Светлым з жонкай, сын дзесьці ва Украіне. Міхаіл два гады назад з месцаў пазбаўлення волі вярнуўся.

— За што быў асуджаны?

— За дэзерцірства, вызвалілі па амністыі. Да яго пакуль у мяне няма прэтэнзій, працуе ў калгасе быццам бы нядрэнна. Калі сын Солаха быў мала-

дым, то сябраваў з сынам Дразда. Карацей кажучы, мы не павінны скідваць з рахунку і гэту сям'ю.

Славін спытаў:

— Дык што ж, нам пачынаць?

Буравін усміхнуўся, але з адказам не спяшаўся.

— А што тут гадаць, — горача заявіў Сімоха. — Стары жыве адзін, перабяромся да яго ў дом і будзем чакаць…

— Не, гэта не падыходзіць, — перабіў яго Славін, — так бандытаў мы не дачакаемся. Напэўна, яны да яго без адпаведнай разведкі не сунуцца. І вось, уяві сабе, што Грышка Солах падашле гэту старую ці Дразда ў дом. Што мы зробім? Нічога. Ну, а вы што думаеце, Міхаіл Якаўлевіч?

Святло газавай лямпы, якая вісела пад столлю, асвятляла ўчастковага ўпаўнаважанага зверху, і ад гэтага яго твар здаваўся яшчэ больш маршчыністым, выглядаў ён вельмі стомленым.

— Маё меркаванне такое. Па магчымасці арганізаваць назіранне за Любкай Беркут, Мішкам Драздом і, вядома, за Солахам.

— Ну, а як гэта зрабіць? — прыгнечана спытаў Славін. — Сіл у нас не хопіць, а прасіць Алтыніна без упэўненасці, што злачынцы сапраўды з'явяцца тут, няёмка.

— Як гэта зрабіць, пытаеце? — Буравін прыжмурыў вочы. — Я ўжо вам казаў, што людзі на маім участку за рэдкім выключэннем жывуць добрыя, сумленныя. Дык чаму ж нам цурацца іх? Ёсць у мяне нямала надзейных памочнікаў, правераных на справе. Я лічу, што дзясятка паўтара можна адабраць і сустрэцца з імі. Раскажам ім, што за птушак у нашы краі занесла, і папросім дапамагчы нам. Дастаткова вам ці мне лішні раз трапіцца на вочы Солаха, Дразда ці нават Любкі, як яны пачуюць штосьці падазронае, а вось калі нашых памагатых убачаць, то нічога ў гэтым няма.

— Яны ўсе надзейныя людзі?

— За тых, каго падбяру, галавой адказваю. Вы яшчэ не забывайце, што яны добрыя паляўнічыя, трапныя стралкі. Пра гэта трэба памятаць, калі справу з узброенымі бандытамі маеш.

— Дзе мы іх збяром?

— Думаю, што лепш за ўсё ў канторы калгаса. Папрашу старшыню сельсавета, мужык ён разумны, таксама франтавік, зробіць як мага лепш.

— Дарэчы, там тэлефон ёсць? — спытаў Славін.

— А як жа! Інакш са мной Алтынін не звязаўся б.

— А калі людзей збяром?

— Заўтра. Адкладаць нельга.

Гасцінныя гаспадары размясцілі гасцей у вялікім цёплым пакоі, дзе стаялі два драўляныя ложкі.

Славін яшчэ доўга ляжаў з адкрытымі вачыма на шырокім і зручным ложку, думаючы пра будучую аперацыю, пакуль непрыкметна не заснуў. Ён ні разу ў жыцці не бачыў мора, а ў гэту ноч яно яму снілася: мора моцна штарміла. Сярод хваль у маленькай лодачцы плыў яго стрыечны брат Аляксей. Хвалі захліствалі лодку, але Аляксей чамусьці весела рагатаў. Ад гэтага рогату і прачнуўся Славін. Прыслухаўся і зразумеў, што за акном хаты не на жарт разгулялася віхура, якую яшчэ ўвечары, пры сустрэчы, прадказваў Буравін. «Дзіўна, — падумаў Уладзімір, — чаму мне прысніўся Аляксей? Як яму служыцца? Цікава, чым ён цяпер займаецца?»

З гэтымі думкамі Славін зноў заснуў. Ён не падазраваў, што за многія сотні кіламетраў, у далёкім Мінску, па вуліцах гуляе завея. Не падазраваў, што

ў гэты час яго стрыечны брат уладкоўваецца на начлег у чужой хаце, таксама не падазраваў, што таго чакаюць цяжкія дні барацьбы з небяспечнымі злачынцамі, як, зрэшты, чакаюць яны і яго самога, оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку лейтэнанта міліцыі Славіна.

## 20

## Маёр Мачалаў

Ішлі дні. Да вялікай радасці Мачалава Каруноў і яго банда новых дзеянняў не прадпрымалі. Гэта дазволіла надаць больш увагі раскрыццю іншых злачынстваў. Удалося раскрыць крадзеж з магазіна. Высветлілася, што гэта зрабілі трое ўжо немаладых мужчын, адзін з якіх раней працаваў там. Яны ж і спалілі драўляны будынак магазіна.

Пётр Пятровіч нават змог два дні таму разам з жонкай пабываць у Славіных. Як узрадавалася Анастасія Георгіеўна і Жэня, убачыўшы гасцей! Увесь вечар прайшоў ва ўспамінах. Анастасія Георгіеўна не хавала сваёй радасці, што сын — афіцэр міліцыі.

Мачалаў па просьбе Анастасіі Георгіеўны даведаўся, як адшукалі Латаніну, і пры сустрэчы сказаў, што здрадніцу апазнаў Уладзімір. Анастасія Георгіеўна заплакала. Яна была ўпэўнена, што Міхаіл Іванавіч быў схоплены па даносе Латанінай, і цешылася, што яе сын хоць у нейкай меры адпомсціў здрадніцы…

Пётр Пятровіч сядзеў у сваім кабінеце і прадумваў план сустрэчы на чыгуначным вакзале з Купрэйчыкам. Пра гэта яны дамовіліся яшчэ тады, калі Аляксей рызыкнуў паспрабаваць праз Драбуша выйсці на Карунова. Вырашыўшы, што лепш на сустрэчу ісці яму аднаму, Пётр Пятровіч паглядзеў на гадзіннік. У яго распараджэнні было яшчэ больш як дзве гадзіны. Ён дастаў з сейфа і паклаў перад сабой тоненькую папку, на якой прачытаў ненавіснае прозвішча «Юшэвіч». Учора Пётр Пятровіч атрымаў два адказы. Асаблівую цікавасць уяўляў для маёра той, у якім паведамлялася, што сям'я Юшэвічаў яшчэ ў сорак чацвёртым годзе выехала са сваёй вёскі ў невядомым кірунку. Адзін з далёкіх сваякоў паведамляў, што маці Юшэвіча ён выпадкова сустрэў напачатку сорак шостага года ў Мінску і яна яму казала, што жывуць яны ў горадзе. Мачалаў запытаў адраснае бюро, але сям'я Юшэвічаў прапісанай у горадзе не значылася. З гэтага можна было зрабіць выснову, што Юшэвічы або ніколі не пражывалі ў Мінску і маці Якава ашукала свайго сваяка, ці жывуць яны без прапіскі. Мачалаў цалкам дапускаў і першае, і другое.

Мачалаў уявіў сабе Юшэвіча. Памятаў яго ён добра, як-ніяк жылі ў адной вёсцы. Ужо тады, у мірны час, тагачаснаму ўчастковаму ўпаўнаважанаму даводзілася не раз займацца Грышкам Мірэйчыкам і яго сябруком Яшам Юшэвічам.

Ледзь чутна зазвінеў стары «рагаты» тэлефонны апарат, які захаваўся з часоў рэвалюцыі. Начальнік міліцыі падняў трубку і пачуў голас дзяжурнага:

— Таварыш маёр! Толькі што паведамілі, што на вуліцы Усходняй выяўлены труп гаспадыні.

— Хто паведаміў?

— Суседка прыбегла.

— Дзе яна?

— Тут, у мяне.

— Правядзіце жанчыну да мяне, а самі збірайце групу. Накіруйце яе да месца здарэння, я выеду адразу ж, як толькі пагавару з гэтай жанчынай.

Дзяжурны выйшаў, а Мачалаў, прыбіраючы са стала папку з матэрыяламі на Юшэвіча, раздражнёна падумаў: «Трэба ж, толькі падумаў пра тое, што Каруноў не дае пра сябе знаць, як на табе. Хаця рана рабіць вывад, а раптам тут зусім іншае».

У пакой увайшла жанчына. Відавочна, яна вельмі спяшалася і яшчэ не адсаплася. Твар яе быў потны, паліто — расшпілена. Маёр запрасіў яе сесці і адкрыў свой нататнік, у які заносіў усе звесткі пра нераскрытыя справы. Ён запісаў яе прозвішча і адрас і толькі пасля гэтага спытаў:

— Вы самі бачылі забітую?

— Так, канешне. Нашы дамы стаяць побач. Я прыйшла да Леакадзіі, гэта яе так завуць, сланечнікавага алею пазычыць, а яна, бедная, каля ложка ляжыць, уся ў крыві, вочы адкрыты, і не дыхае!

— Хто-небудзь выходзіў з яе дома?

— Не, я нікога не бачыла.

— Хто яшчэ пражывае ў яе доме?

— Адна яна жыла. Муж на фронце загінуў. Пры немцах пакутавала і існавала толькі за кошт сваіх кватарантаў. Аб смерці мужа даведалася ў канцы сарок чацвёртага.

Мачалаў зразумеў, што жанчына не паведаміць яму нічога, што прымусіць яго прымаць меры прама тут, у аддзяленні, і пачаў апранацца…

Гутарка заняла ўсяго некалькі мінут, і аператыўная група паехаць яшчэ не паспела. Жанчыну пасадзілі ў кабіну, а самі залезлі ў кузаў. Палутарка, прыбуксоўваючы коламі па снезе, кранулася з месца. Кузаў быў выпацканы машынным маслам, у ім валяліся трэскі. Усім пяцярым супрацоўнікам давялося стаяць. Трымаліся хто за кабіну, а хто за брудныя дрыготкія барты. «Вярнуся ў аддзел, — злосна падумаў маёр, — старшыну і шафёра прабяру як след. Зусім за машынай не сочаць!»

Ён адварочваў твар ад сустрэчнага ветру, але вочы хутка напаўняліся слязамі, вецер залазіў пад старэнькае восеньскае паліто, спецыяльна надзетае для сустрэчы з Купрэйчыкам. Нягледзячы на тое, што ехалі нядоўга, Мачалаў адубеў. Ён цяжка саскочыў на зямлю і першым увайшоў у брамку. Лёгкі сняжок замёў сляды, і толькі ледзь прыкметныя іх абрысы сведчылі пра тое, што па двары хтосьці прайшоў.

Мачалаў увайшоў у цёмны калідор, намацаў дзверы і адчыніў іх. Прайшоў першы пакой і адчыніў пафарбаваныя белай фарбай дзверы. У пакоі была бязладзіца. У Мачалава непрыемна засмактала пад лыжачкай. Хто-хто, а ён разумеў, што гэта характэрна для налётчыкаў, якія ў пошуках каштоўнасцей і грошай пераварочваюць у доме ўсё. Але вось на стале ўбачыў дзве пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі, на разасланай газеце валяліся рэшткі ежы. Недалёка ад стала, каля ложка, які стаяў ля далёкай сцяны, ляжала жанчына. Яна была ў камбінацыі. Коўдра спаўзла з ложка і затуляла яе ногі. Жанчына ляжала тварам угару. Вочы былі шырока раскрыты, на твары — кроў. Аднаго позірку было дастаткова, каб пераканацца: удар быў нанесены па галаве, спераду. Недалёка валяўся малаток. У пакоі было змрочна, і Мачалаў загадаў:

— Новікаў, уключы святло.

Новікаў стаяў недалёка ад дзвярэй і, не сыходзячы з месца, працягнуў руку і пстрыкнуў выключальнікам. Затым участковы інспектар прывёў панятых, і опергрупа прыступіла да агляду.

Мачалаў агледзеў газету, разасланую на стале. Гэта была «Советская

Белоруссия». Ён адразу ж звярнуў увагу, што на ёй алоўкам было напісана: «Мог. 43». Ціха сказаў следчаму, які пісаў пратакол агляду месца здарэння:

— Іваныч, не забудзься адзначыць у пратаколе запіс на газеце. — І, пачуўшы адказ следчага «ўгу», дадаў: — І вось гэтыя шлейкі не забудзь. Рэч мужчынская, а на спінцы ложка жанчыны боўтаецца.

Сапраўды, на нікеляванай спінцы ложка віселі звычайныя мужчынскія шлейкі.

Бутэлькі з-пад гарэлкі, рэшткі ежы, дзве пустыя шклянкі на стале і гэтыя шлейкі падказвалі Мачалаву, што ў дадзеным выпадку можа быць замешаны чалавек, які гасцяваў у гаспадыні.

Уважліва аглядаючы месца здарэння, маёр не забываў і пра тое, што сёння ў яго сустрэча з Купрэйчыкам. Прызначыўшы за сябе старшага і загадаўшы асцярожна спакаваць бутэлькі і шклянкі, якія стаялі на стале, Мачалаў накіраваўся да машыны. Яго праводзіў Новікаў, і Пётр Пятровіч, перш чым сесці ў кабіну, яшчэ раз нагадаў:

— Іван Іванавіч, не забудзься арганізаваць стараннае апытанне ўсіх суседзяў, можа, хто-небудзь бачыў забойцу. І яшчэ, пацікаўцеся, хто з мужчын наведваў яе.

Новікаў адказаў «ёсць!», і маёр сеў у кабіну. Заклапочана паглядзеў на гадзіннік і загадаў шафёру:

— Давай хутчэй да вакзала. — Мачалаў, вычакаўшы, пакуль машына набярэ хуткасць і шум матора стане цішэйшым, дадаў: — Заўтра нагадай мне, каб табе і старшыне, адказнаму за гаспадарку, дыхту даў добрага. Зусім за машынай не сочыце. Хоць бы шанавалі, што з усіх аддзяленняў горада толькі нам далі машыну, а вы яе дабіваеце.

Маладзенькі сяржант маўчаў. Ён спрытна кіраваў палутаркай і рабіў выгляд, што словы начальніка да яго адносін не маюць.

Гэта не спадабалася Мачалаву, і ён спытаў:

— Ты зразумеў мяне ці не?

— Вядома, зразумеў.

— А чаго тады маўчыш?

— А хто радуецца абяцанаму дыхту? Асабіста я цешуся пасля яго. — І, памаўчаўшы трохі, дадаў: — Мы ж сёння дровы ў аддзяленне вазілі.

— А іх што, маслам машынным змазвалі?

— Ды каністра дзіравая трапілася. Я яе паклаў плазам, а ў яе каля горлавіны дзірка аказалася…

— Глядзець трэба, — кінуў нязлосна Пётр Пятровіч і замоўк. Маўчаў і шафёр. Відавочна, ён быў рады, што непрыемная гутарка скончылася.

Неўзабаве наперадзе паказалася прывакзальная плошча. Мачалаў загадаў спыніцца. Ён вырашыў машыну не трымаць і сказаў:

— Вяртайся на месца здарэння і перадай Новікаву, няхай пацікавіцца, хто са сваякоў ёсць у забітай, і хай абавязкова высветліць прозвішчы кватарантаў, якія пражывалі ў яе, у тым ліку і тых, хто кватараваў падчас вайны.

Затым Пётр Пятровіч саскочыў з падножкі і пашыбаваў да вакзала. Ён некалькі разоў азірнуўся, уважліва аглядаючы пешаходаў: ці не зацікавіўся хто-небудзь ім. Не, быццам бы ўсё ішло звычайна, і Пётр Пятровіч перасек плошчу. Неўзабаве ён убачыў Купрэйчыка. Прайшоў недалёка ад яго і, пераканаўшыся, што Аляксей яго заўважыў, накіраваўся да невялікага сквера, затым перасек вуліцу і неўзабаве апынуўся каля паўразбуранага дома. Праз правал у сцяне насцярожана глядзеў на вуліцу, па якой да дома набліжаўся Купрэйчык. За капітанам ніхто не сачыў.

Аляксей, усміхаючыся, сказаў:

— Злодзей, рабаўнік, рэцыдывіст і бандыт Лёха па вашым загадзе прыбыў.

З усмешкай гледзячы на Купрэйчыка, Мачалаў адказаў:

— Як дзве кроплі вады бандыт, далібог! Лёша, можа, ты ўжо з імі на «справу» хадзіў?

— Не, пакуль толькі п'ю і планы строю.

— Бачыў Карунова?

— Кожны дзень сустракаюся. — І Аляксей падрабязна расказаў пра сваё знаёмства з Каруновым і яго сябрамі. — Ведаеш, Пётр, Каруноў сустрэў мяне насцярожана і нават цяпер, на словах паверыўшы мне, паводзіць сябе асцярожна. Але нічога, яго язык паступова развязваецца, патроху пра сваіх сяброў расказвае. Атрымліваецца, што група ў іх з пяці чалавек. Акрамя Карунова, у яе ўваходзіць мой гаспадар — Прутаў, адна жанчына па мянушцы Магіла, але яе і астатніх дваіх я яшчэ не бачыў, ведаю толькі, што адзін з іх працуе ў лазні.

— А Драбуш?

— Як ні дзіўна, Драбуш — сябар Карунова, дапамагае яму, але на «справу» з ім не ходзіць.

— А дзе сёння днём былі Каруноў і яго сябрукі?

— Гадзін у дзесяць Каруноў прыйшоў да Прутава і п'юць да гэтага часу. Дзякуй богу, што мне ўдаецца выкручвацца і не піць, а то перад табой цяпер стаяў бы стопрацэнтны алкаш Купрэйчык.

— Разумееш, Лёша, сёння днём зноў забілі жанчыну.

Мачалаў паведаміў усё, што яму было вядома пра гэты выпадак, і спытаў:

— Значыць, не яны?

Купрэйчык ціха, нібы разважаючы ўслых, прагаварыў:

— Каруноў і Прутаў адпадаюць. Але, разумееш, сёння, калі Каруноў добра выпіў, ён, як бы між іншым, сказаў, што Магіла і два карашы пайшлі на «работу». Можа, ён гэта забойства меў на ўвазе? — Купрэйчык з трывогай паглядзеў на Мачалава.

— Паспрабуй праверыць.

— Добра.

— І яшчэ, Лёша, нам удалося ўстанавіць цікавую дэталь: у пяці дамах, на гаспадароў якіх былі здзейснены напады, у розны час на кватэры жыў Каруноў.

— Вось яно што… — працяжна сказаў Купрэйчык, — значыць, праводзіў разведку. А ў жанчыны, якая забіта сёння?

— Яшчэ не высветлілі.

— Надзя не тэлефанавала?

— Як жа! Кожны дзень тэлефануе, усё пытаецца, калі мужа вярну. Выкручваюся як магу.

— Скажы, хай не хвалюецца, хутка буду дома.

— Добра, скажу. Не забудзься пра гэтую Магілу высветліць, чым чорт не жартуе.

— Не забудуся. Калі сустрэнемся?

— Калі не патэлефануеш, то ў сераду, тут, у шаснаццаць.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі і разышліся. Першым сышоў у бок вакзала Купрэйчык. Вычакаўшы трохі, Мачалаў пайшоў у бок універсітэта. Неўзабаве ён сеў у трамвай, але праз два прыпынкі выйшаў з вагона і зайшоў у будынак электрастанцыі, размешчаны каля парку імя Горкага. Пётр Пятровіч вырашыў патэлефанаваць у аддзяленне міліцыі і высветліць, як ідуць справы

па раскрыцці забойства. Яму пашанцавала, у дзяжурным пакоі, куды ён датэлефанаваўся, быў Новікаў. Ён далажыў пра вынікі агляду месца здарэння і апытання суседзяў загінулай. Маёр спытаў:

— Не высветлілі, Каруноў не пражываў у яе на кватэры?

— Суседка, якая паведаміла ў аддзяленне пра тое, што здарылася, кажа, што жылі на кватэры некалькі мужчын, але іх імёнаў і прозвішчаў яна не ведае. Вось калі б фота Карунова ёй паказаць, тады, магчыма, яна б і пазнала яго, калі ён жыў па суседстве.

— Ясна. Можа, твая праўда. Трэба паспрабаваць знайсці фотакартку яго. А цяпер ты, Ваня, схадзі на пошту і спытай, што можа азначаць надпіс на газеце, а я, мабыць, прайдуся крыху, штосьці галава баліць. Сустрэнемся ў аддзяленні гадзіны праз паўтары.

Мачалаў выйшаў на вуліцу Савецкую, перасек яе і па вузкай сцяжынцы пайшоў уздоўж ракі.

Працоўны дзень у супрацоўнікаў міліцыі быў не нармаваны, і працаваць даводзілася па дванаццаць—чатырнаццаць гадзін у суткі, а нярэдка і ночы напралёт. Мачалаў крочыў уздоўж ракі, стараўся не думаць пра працу, але гэта атрымлівалася з цяжкасцю. На плечы былога камбата, затым начальніка аддзела барацьбы з бандытызмам лёг цяжкі груз барацьбы са злачыннасцю і яшчэ дзясяткі вялікіх і малых праблем. Людзей не ставала, а тыя, што былі, жылі, дзе давядзецца: у маленькіх халупах, збудаваных сярод развалін, на кватэрах, туліліся з сем'ямі ў катухах-пакойчыках інтэрнатаў. Некаторыя спалі проста ў кабінетах аддзялення. Цяжка было і з харчаваннем у супрацоўнікаў, асабліва сямейных, тых, у каго былі маленькія дзеці. Да трывог і клопатаў сённяшняга дня дадалося пачуццё нездаволенасці тым, што ён ніяк не можа напасці на след Юшэвіча.

Мачалаў так задумаўся, што да яго свядомасці не адразу данёсся нягучны дзіцячы крык: «Дапамажыце, тану! Дапамажыце!»

Маёр рвануўся на строму, якая аддзяляла яго ад ракі. Крык даносіўся адтуль. Правальваючыся па пояс у снезе, ён узлез на невялікую строму і ахнуў. Амаль на сярэдзіне ракі ў палонцы боўтаўся хлопчык гадоў сямі. Ён спрабаваў учапіцца за лёд і ўзлезці на яго, але лёд крышыўся, хлопчык зрываўся і з галавой акунаўся ў ваду.

Мачалаў разумеў, што лёд яшчэ слабы, асабліва тут, дзе ў раку з трубы ішла цёплая вада ад прадпрыемстваў. Пётр Пятровіч азірнуўся. «Дошку б знайсці! — падумаў ён, аглядаючы засыпаную снегам мясцовасць. — Але дзе тут яе знойдзеш! Наперад, маёр!» — загадаў ён сабе і кінуўся да ракі.

— Трымайся, хлопец. Я іду да цябе на дапамогу!

Мачалаў зняў з сябе паліто, падбег да ракі, лёг на лёд і папоўз, пхаючы перад сабой паліто. Ён разумеў, што секунда прамаруджвання можа стаць для хлопчыка фатальнай. У любы момант стомленасць і холад могуць зрабіць сваю страшную справу. Каб падбадзёрыць яго, Пётр Пятровіч, працягваючы паўзці, спытаў:

— Як жа ты тут апынуўся?

— Хацеў перайсці праз раку, — ледзь раскрываючы ссінелыя вусны, адказаў хлопчык і, губляючы сілы, дадаў: — Ой, дзядзечка, міленькі, хутчэй, я зараз патану!

Мачалаў, не зважаючы, што пад ім трашчыць лёд, папоўз яшчэ хутчэй. Калі да палонкі засталося не больш за два метры, Пётр Пятровіч прасунуўся яшчэ на паўметра і моцна пхнуў ад сябе паліто.

— Хапайся за крысо!

Сам Мачалаў моцна трымаў паліто за рукаў. Хлопчык ухапіўся за адзежыну і паспрабаваў вылезці на лёд. У гэты момант Мачалаў адчуў, як прагінаецца лёд пад ім. Ён хацеў, не выпускаючы паліто, перакаціцца на іншае месца, але пачуўся трэск, і маёр апынуўся ў вадзе. Здаецца, што ўсё цела наскрозь працялі тысячы іголак. Пётр Пятровіч падумаў пра хлопчыка: «Госпадзі, як жа ён трымаецца гэтулькі ў такой вадзе?» — і бадзёра крыкнуў: — Вось бачыш, і я выкупаўся! — Маёр разумеў, што ў гэтыя хвіліны жыццё хлопчыка і яго ўласнае жыццё былі ў яго руках. А холад смяротнай хваткай сціскаў цела, намоклая вопратка цягнула на дно.

Ён упёрся грудзьмі ў беражок лёду і загадаў хлопчыку:

— Трымайся за паліто і лезь на лёд, дапамагай сабе нагамі!

Але хлопчык ледзь чутна сказаў:

— Не магу, дзядзечка, тану. — І, адпусціўшы паліто, пачаў апускацца ў ваду. Мачалаў ірвануўся да яго, паспеў схапіць яго за валасы, прыпадняць галаву над вадой.— Трымайся, сябручок, мы ці выратуемся разам, ці сыдзем разам на дно!

Ён падцягнуў да сябе хлопчыка і, падтрымліваючы яго галаву, паплыў да берага. Праз некалькі метраў яны апынуліся ля ўскрайку лёду. Ён паспрабаваў выцягнуць хлопчыка на лёд і раптам адчуў, што сілы пакідаюць яго.

«Трымайся, маёр, — са злосцю загадаў сабе Мачалаў, — на фронце выжыў і не маеш правы тут гінуць!»

З вялікім намаганнем ён усё-такі выпхнуў хлапчука на лёд:

— Паўзі, родны! Паўзі!

Хлопчык хоць і выяўляў прыкметы жыцця, але не рухаўся. Губляючы рэшткі сіл, Пётр Пятровіч усё ж ссунуў хлопчыка з месца, а сам ад штуршка з галавой акунуўся ў ваду. Мачалаў адчуваў, што яшчэ крыху і сілы яго вычарпаюцца. Ён вынырнуў і падумаў: «Няўжо смерць? Не, трэба сабраць усе сілы, трэба пхаць хлапчука наперад, інакш ён прымерзне да лёду, і канец!» Пётр Пятровіч упёрся рукамі ў хлопчыка і сутаргава запрацаваў непаслухмянымі нагамі. Адчуў, як зрушыўся з месца хлопчык, наваліўся грудзьмі на лёд. Лёд трэснуў, і Мачалаў трошкі прасунуўся наперад. Зноў пхнуў наперад хлопчыка і зноў налёг на лёд. Потым так зноў і зноў, да берага заставалася не больш за два метры, ён чарговы раз пхнуў хлопчыка, зноў акунуўся ў ваду і адразу ж адчуў пад нагамі дно. Дрэнна цямячы, ён, выбіваючыся з апошніх сіл ламаў лёд. Праз два крокі лёд ужо ўтрымліваў іх. Пётр Пятровіч папоўз да берага, падцягваючы за сабой хлопчыка. Вось ён, такі жаданы бераг! Мачалаў устаў на ногі, па калена патанаючы ў снезе. Сіл, здавалася, не было зусім, але ён нагнуўся і з велізарным напружаннем узяў хлопчыка на рукі. Зараз трэба было падняцца на строму. Пётр Пятровіч павольна рушыў угару. Глыбокі снег замінаў ісці, затое не слізгалі ногі. Вось і груд. Не пераводзячы дыхання, Мачалаў пачаў спускацца ўніз, туды, дзе віднелася сцяжынка. Пётр Пятровіч разумеў, што зроблена толькі палова справы. Цяпер яму, знясіленаму, трэба было данесці выратаванага хлопчыка да сцяжынкі, а затым па ёй дабрацца да Савецкай вуліцы, дзе былі людзі, дзе стаяў цёплы будынак электрастанцыі. І Мачалаў ішоў. У абледзянелай адзежы, аслаблымі рукамі ён прыціскаў да грудзей хлопчыка. Вочы закрывалі склееныя лёдам валасы, у свядомасці цяплілася адзіная думка: дайсці да людзей, яны выратуюць хлопчыка. Ён нават не чуў звычайнага вулічнага шуму, калі выйшаў на Савецкую. Мачалаў, нібы ў сне, не бачачы здзіўленых поглядаў прахожых, перайшоў вуліцу і ўвайшоў у будынак электрастанцыі. Да яго кінуліся людзі, і маёр, як яму здалося, гучна пракрычаў:

— Тэрмінова «хуткую»! Трэба ратаваць хлопчыка!

Але яго голасу ніхто не чуў, таму што маёр толькі слаба паварушыў вуснамі. Людзі і так усё зразумелі. Хлопчыка паклалі на пісьмовы стол і сталі здымаць з яго адзежу. Двое мужчын заняліся Мачалавым.

Неўзабаве прыехала «хуткая дапамога». Урачы завіхаліся адразу над абодвума, а затым іх, захутаных у нечыя футры і паліто, вынеслі на насілках і пагрузілі ў машыну.

«Хуткая дапамога», завываючы сірэнай, імчалася па вуліцах горада, а ў салоне, на насілках, ляжалі дарослы і дзіця. Мачалаў страціў прытомнасць і не бачыў, што хлопчык па-над футрам з галавой быў накрыты белай прасцінай. Ён быў мёртвы. Жанчына-ўрач, не хаваючы слёз, плакала, нібы яна была вінаватая ў смерці незнаёмага ёй сямігадовага хлопчыка…

## 21

## Участковы ўпаўнаважаны Буравін

Прайшоў тыдзень як Славін і Сімоха ўладкаваліся ў Станавым. Разам з мясцовымі актывістамі яны назіралі за дамамі, у якіх маглі з'явіцца небяспечныя злачынцы. Па прапанове Буравіна група паляўнічых-добраахвотнікаў прачэсвала і аглядала бліжэйшыя лясы. Вопытныя стралкі шукалі сляды ўцекачоў, але нічога выявіць пакуль не ўдалося.

У нядзелю пасля сняданка Славін размаўляў з сынам гаспадара Воўкам, які атрымаў тройку па алгебры і тлумачыў гэта «нешанцаваннем». Сімоха дапамагаў гаспадару ў двары.

Нечакана ў пакой увайшоў Буравін. Твар яго было заклапочаны.

— Здарылася што-небудзь, Міхаіл Якаўлевіч? — спытаў Славін, устаючы з лавы і падыходзячы да Буравіна.

— Такога яшчэ не было, свінню выкралі ў аднаго з жыхароў Светлага.

— Свінню, кажаце… Цікава… А раптам гэта работа Солаха і Мельнікава, жэрці ж трэба штосьці?

— Вось пра гэта я таксама падумаў. Паеду пагляджу.

— Я таксама з вамі, — заявіў Славін і рашуча пацягнуўся да свайго паўкажушка, які вісеў на вешалцы.

— Не, таварыш лейтэнант, я думаю, што гэтага рабіць не трэба. Вас людзі не ведаюць і, убачыўшы са мной, насцярожацца. Я конна хутка злятаю, а затым падумаем, што трэба рабіць.

Неяк дзіўна выглядалі адносіны, якія склаліся паміж Славіным і Буравіным. Оперупаўнаважаны быў старшым групы, але часцей за ўсё прымалася рашэнне, якое прапаноўваў участковы. Вось і цяпер, падумаўшы, Славін павесіў на кручок свой паўкажушак.

Буравін неўзабаве ўжо быў у Светлым. Пацярпелая, пажылая жанчына Анфіса, нават паплакала, убачыўшы капітана:

— Што ж гэта робіцца, Міхаіл Якаўлевіч? У нас у сяле, ужо як у Крыме, красці пачынаюць, ды яшчэ свіней! Дзе ж гэта відана?

Буравін усміхнуўся. Ён успомніў, як у саракавым годзе Анфіса як перадавая калгасніца была прэміравана бясплатнай пуцёўкай на курорт, а там на вакзале ў яе ўкралі чамадан. Анфіса нікуды не паведамляла пра гэта, а, калі пасля адпачынку вярнулася ў свой калгас, прыйшла да ўчастковага і ледзь ці не з кулакамі накінулася на яго, патрабуючы, каб ён неадкладна прыняў меры і знайшоў чамадан.

— Пакажы мне спачатку, дзе твая свіння знаходзілася.

Гаспадыня пайшла наперадзе, галосячы:

— Такая была свіння, такая была свіння… чысценькая, гладзенькая! Я ж так за ёй глядзела. — І раптам яна на паўдарозе спынілася, якраз на сярэдзіне двара, усім сваім грузным целам павярнулася да ўчастковага і рушыла на яго. — Але ты, Міхаіл Якаўлевіч, у мяне зараз не выкруцішся, як тады, у саракавым! Ты павінен знайсці маю свінню, а не знойдзеш, начальству твайму скаргу на дзесяці лістах напішу.

— Дык ты ж, Анфіса, непісьменная, як жа ты скаргу пісаць будзеш? — пажартаваў капітан і пашкадаваў. У гаспадыні тут жа высахлі слёзы, і яна пайшла ў наступленне.

— Нічога, дарагі Мішанька, я на цябе ўправу знайду, сама паеду ў раён і раскажу, як ты хлеб казённы адпрацоўваеш. І скажу я табе так: не знойдзеш свінню — сваю аддасі! І кропка на гэтым.

Гаспадыня пры гэтых словах нават прытупнула, павярнулася і пайшла да хлява. Буравін, усміхаючыся, пайшоў за ёй. У душы ён спадзяваўся яшчэ на тое, што свіння сама ўцякла, але, зірнуўшы на дзверы, зразумеў, што тут сапраўды злачынства. На дзвярах бездапаможна боўтаўся замок, выдраны разам з дужкай з дзвярной каробкі. Буравін выйшаў у двор і за вуглом, ля сцяны хлява, убачыў некалькі слядоў, занесеных завеяй. Ён паклікаў гаспадыню:

— Анфіса, гэта не твае сляды?

— Не, я туды не хадзіла. Я глядзела ў гародзе і за хлявом, але не з гэтага боку.

Буравін паспрабаваў вызначыць хоць бы прыблізна памер абутку, але зрабіць гэта было цяжка. Капітан не спяшаючыся рушыў да плота. Там яго чакала яшчэ адна непрыемная неспадзеўка. У плоце, з боку лесу, было выламана чатыры дошкі. На ніжняй жэрдцы ён выявіў жмут светлай цвёрдай поўсці.

Буравін вярнуўся да хаты. Спытаў у гаспадыні:

— Сабакі ў цябе няма?

— Не, не люблю я сабак, толькі аб'ядаюць яны, лепш ужо кабанчыка трымаць.

— Якога колеру твая свіння?

— Светлая, такая беленькая…

— Я паеду ў лесе сляды пашукаю, а заяву мы з табой крыху пазней складзём.

Ён проста па друзлым снезе, праз поле накіраваў каня да ўзлеску. Буравін ведаў, што ў лесе вецер трохі меншы, і спадзяваўся выявіць сляды выкрадальнікаў. І на ўзлеску ён знайшоў усё-такі сляды. Яны належалі траім невядомым. Сляды вялі ў глыб тайгі, і капітан, трымаючы каня за аброць, пайшоў побач. Метраў праз трыста ён убачыў прыпарушаны зверху, шчыльна ўтаптаны ля кустоў снег. Конь неспакойна фыркнуў. Буравін разгроб свежы полаг снегу і ўбачыў кроў. «Так. Значыць, тут яны і закалолі свінню». Ён яшчэ раз абышоў гэта месца і заўважыў рэшткі слядоў палазоў. Па памеры каляіны вызначыў, што гэта былі санкі. След яшчэ праглядаўся на снезе, і ўчастковы рушыў далей. Праз пяцьсот метраў ён выйшаў на лясную дарогу. Тут вецер быў мацнейшы і сляды замяло.

У трывожным роздуме вярнуўся Буравін у сяло, напісаў ад імя пацярпелай заяву і ткнуў пальцам, дзе трэба распісацца.

Увечар Буравін расказаў Славіну і Сімоху пра вынікі сваёй паездкі. Славін спытаў:

— Лічыце, што гэта іх работа?

— Так, больш няма каму такое зрабіць. Вакол у тайзе чалавека са свечкаю не знойдзеш, ну, а мясцовыя красці не будуць, за гэта я галавой ручаюся.

— Няхай сабе злодзеі Солах і Мельнікаў, то як растлумачыць, што сляды ў лесе належаць траім чалавекам. Значыць, трэцім мог быць толькі мясцовы жыхар.

— Гэта вы, Уладзімір Міхайлавіч, правільна заўважылі наконт трэцяга. Так, там быў мясцовы жыхар. Але я меў на ўвазе сумленных вяскоўцаў і ўпэўнены, што з імі быў хтосьці з тых, каго мы трымаем пад кантролем.

— Што ж атрымліваецца? — заўважыў Сімоха, — мы за імі сочым, а яны калі хочуць, тады сыходзяць…

— Не здзіўляйся, Андрэй, — перабіў яго Славін, — завейнай ноччу можна выйсці з дому непрыкметна. Нам трэба прымаць больш рашучыя меры. Уначы будзем тэлефанаваць Алтыніну…

## 22

## Маёр міліцыі Алтынін

Маёр Алтынін турбаваўся за лёс сваіх супрацоўнікаў. Яны знаходзіліся далёка ад раённага цэнтра і павінны былі разлічваць толькі на ўласныя сілы. Алтынін разумеў, што калі ён накіруе ў Станавое дадатковыя сілы, то пра гэта, напэўна, стане вядома злачынцам і яны проста сыдуць з гэтых месцаў. Знаходжанне ж бандытаў там, дзе яны цяпер былі, хоць і ўяўляла вялікую небяспеку, але нашмат аблягчала магчымасць злавіць іх…

Разважаючы над гэтым, Алтынін штохвіліны паглядаў на чорны стары тэлефон. Ён чакаў, калі яго злучаць з Кемерава. Нарэшце раздаўся рэзкі тэлефонны званок.

Маёр падняў трубку, пачуў голас начальніка ўпраўлення і стаў дакладваць:

— Здравія жадаю, таварыш палкоўнік. Я вырашыў патурбаваць вас па справе Солаха. Учора ўначы мне тэлефанаваў Славін. Хутчэй за ўсё ўцекачы там.

Алтынін расказаў і пра крадзеж свінні, і пра сляды ў лесе, якія выявіў участковы ўпаўнаважаны Буравін.

Палкоўнік моўчкі, не перабіваючы, слухаў. Алтыніну нават здалося, што сувязь перапынілася, і ён трывожна спытаў:

— Ало, вы мяне чуеце, таварыш палкоўнік?

— Так, так, я слухаю. Што ж вы прапануеце?

— Я хачу вас папрасіць узмацніць кантроль за дарогамі, якія выходзяць з раёна, і даць мне дадаткова людзей, каб блакіраваць участак тайгі, дзе павінны знаходзіцца злачынцы.

— У Станавое, лічыце, яшчэ супрацоўнікаў не трэба накіроўваць?

— Я думаю, што не трэба. Славіну і Сімоху пакуль удаецца знаходзіцца там неапазнанымі. Пра іх прысутнасць ведае толькі невялікая колькасць актывістаў, адабраных для кантролю за бацькам Солаха і яго сваякамі.

— Так і быць, мы ўзмоцнім кантроль за дарогамі і заўтра ж накіруем вам у дапамогу невялікі атрад супрацоўнікаў, якія добра арыентуюцца ў тайзе. Выкарыстоўвайце іх для пошуку логава злачынцаў. Мяне турбуе, што Славін і Сімоха адарваны ад аддзялення. Падумайце, можа, недалёка ад Станавога арганізаваць «стаянку лесарубаў». Размясціўшы там з дзясятак супрацоўнікаў, вы зможаце аператыўна ўмяшацца, калі спатрэбіцца, дый сувязь надзейную падтрымліваць са Славіным. Ну, як Славін, не рвецца ў Беларусь?

— Напэўна, рвецца, таварыш палкоўнік, але ён чалавек стрыманы. У яго ж там маці, сястра. Перажывае ён і за лёс бацькі… Хлопец яшчэ малады, а перажыў колькі! Асабіста я перавёў бы яго ў Беларусь. Сам ён прасіцца не будзе. Яму патрэбна дапамога, а дакладней, ваша дапамога, таварыш палкоўнік.

— Добра, добра, я падумаю, але пакуль хай працуе.

## 23

## Лейтэнант Новікаў

На пошце Новікаву сказалі, што надпіс на газеце «Мог. 43», напэўна, зрабіў паштальён.

Пажылы начальнік паштовага аддзялення хрыплым прастуджаным голасам казаў:

— «Мог.»— гэта скарочаная назва вуліцы, а лічба 43 пазначае нумар дома. — Начальнік пошты пацягнуўся па тоненькую папку. — Тут у мяне пералік вуліц горада. Давайце паглядзім, якія вуліцы вам могуць падысці.

Праз некалькі хвілін Новікаў зразумеў, што яму трэба ехаць на вуліцу Магілёўскую. Ён высветліў, якое паштовае аддзяленне абслугоўвае гэту вуліцу, і паехаў туды.

Паштовае аддзяленне размяшчалася ў маленькай драўляным дамку. Усярэдзіне — цесна, няўтульна і холадна. Начальніка на месцы не было. Маладзенькая дзяўчына, якая сядзела за фанернай перагародкай, сказала, што ў дом нумар сарок тры па вуліцы Магілёўскай сапраўды дастаўляецца газета «Советская Белоруссия». Падпісчыкам яе з’яўляецца Гарбылеўскі Мікалай Стэфанавіч.

— Дзе ён працуе? — спытаў оперупаўнаважаны.

Дзяўчына ўсміхнулася:

— Пошта не міліцыя і такіх звестак не ведае.

— А асабіста пра сябе якія звесткі маеце?

— А што вас цікавіць?

— Ну, напрыклад, вольныя вы сёння вечарам? — Новікаву спадабалася гэта сімпатычная дзяўчына, і калі б Мачалаў цяпер і пачуў такое пытанне, то, напэўна, не зразумеў бы свайго падначаленага. Новікаў быў халасты, і яго жаданне пазнаёміцца з дзяўчынай было натуральным.

Дзяўчына хацела штосьці адказаць, але раптам перастала ўсміхацца і зрабілася строгай і афіцыйнай. Лейтэнант азірнуўся і ўбачыў, што ў памяшканне ўвайшоў малады чалавек. Ён стаў побач з Новікавым і паглядзеў на дзяўчыну:

— Тася, ты хутка?

— Ты ж ведаеш, Вася, праз дваццаць мінут.

— Добра, я пачакаю.

У руках Вася трымаў сетку-авоську і бітон з малаком.

Новікаву ўсё стала ясна. Ён павярнуўся і выйшаў. «Чорт бы іх пабраў, гэтых прыгажунь, яшчэ малако маці на вуснах не обсохла, а яна ўжо замужам», — думаў ён, крочачы да дома нумар сарок тры. Дом быў невялікім, і ў ім, хутчэй за ўсё, пражывала не больш за адну сям’ю. Памеркаваўшы, Новікаў вырашыў не спяшацца заходзіць у гэты дом, а накіраваўся ў суседні.

Па суседстве жыла гаманкая бабулька, якая, відавочна, сумавала і была рада магчымасці пагаварыць з чалавекам. Дзякуючы ёй, Новікаў неўзабаве даведаўся, што ў суседнім доме пражывае з жонкай і двума дзецьмі начальнік аўтагаража Гарбылеўскі.

— Чалавек ён паважны, ветлівы, — характарызавала Гарбылеўскага бабулька, — пры сустрэчы заўсёды пагаворыць са мной, пра здароўе спытае. Не, што і казаць, цяпер такіх мужчын рэдка сустрэнеш.

— У камандзіроўкі ён часта ездзіць?

— Хто яго ведае. Бачу яго не кожны ж дзень, можа, і ездзіць.

— Ну, а сябруе з кім?

— Прыходзяць да іх у дом людзі, але я іх не ведаю.

— А вы самі, бабуля, часта ў іх бываеце?

— Я зусім туды не хаджу.

— Гэта чаму ж?

— А я з Любкай, яго жонкай, не ў ладах.

— А што такое?

— Ды так…

Бабулька збянтэжылася, і Новікаў зразумеў, што яна не хоча пра гэта казаць, і настойваць не стаў. Але гаспадыня пасля невялікай паўзы сказала:

— Муж яе, Мікалай Стэфанавіч, аднойчы прыйшоў раней часу дахаты, ну і заспеў яе з палюбоўнікам. Скандал у іх быў. Ён разводзіцца хацеў, але Любка перад ім проста ў двары на каленах поўзала, прабачэння прасіла, вось ён і застаўся з ёй. Я думаю, што з-за дзяцей гэта зрабіў. Сыну ўжо чатырнаццаць, а дачцэ дзесяць.

— А чаму вы з Любай не размаўляеце?

— Дык яна ж вырашыла, што гэта я яе мужа паклікала, калі да яе палюбоўнік прыйшоў.

— Ясна. — Новікаву хацелася яшчэ спытаць бабульку пра Гарбылеўскага, але ён разумеў, што гэтым можа выклікаць у яе падазрэнне, і таму ён пачаў цікавіцца іншымі суседзямі.

Пасля гэтага Новікаў накіраваўся ў дом Гарбылеўскага. Увайшоў у напаўцёмны калідор, старанна атрос ад снегу шапку і паліто, пастукаўся ў абабітыя брызентам дзверы. Адказу не пачуў і пацягнуў за ручку. Дзверы адкрыліся, і лейтэнант апынуўся ў невялікім пярэднім пакоі. З дзвярэй, якія вядуць у пакой, здзіўлена выглянула жанчына.

— Дабрыдзень! Дазвольце ўвайсці?

— Дабрыдзень, праходзьце, калі ласка.

Нягледзячы на ветлівае «калі ласка», жанчына холадна і насцярожана глядзела на незнаёмца.

— Мне патрэбен Мікалай Стэфанавіч.

— Ён на рабоце, але хутка павінен быць. Калі хочаце, пачакайце яго.

Новікаў улавіў у яе словах некаторую зацікаўленасць. Відавочна, малады ўзрост наведвальніка выклікаў цікавасць.

«Напэўна, дзівіцца, што можа звязваць мяне з яе мужам? — думаў лейтэнант, здымаючы паліто і вешаючы яго ў пярэднім пакоі на ўбіты ў сцяну цвік. — Скарыстаюся тым, што яна адна, і не буду хаваць, хто я».

Ён прайшоў у пакой і, перш чым сесці на прапанаванае крэсла, прадставіўся:

— Я — оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку, вось, паглядзіце маё пасведчанне.

Гаспадыня мімаходам зірнула на чырвоную кніжку і расхвалявалася:

— А што здарылася?

— Нічога, проста мне трэба з вашым мужам пагаварыць.

Але жанчына не супакойвалася:

— Вы праўду кажаце? Можа, з сынам што здарылася? Ён чамусьці дома не начаваў, я ўжо ўся змарнавалася, перажываю за яго.

— Не, не, мне проста трэба сёе-тое высветліць у вашага мужа. Дарэчы, ён у гэтыя дні нікуды не выязджаў?

— Выязджаў. Ён быў цэлы тыдзень у камандзіроўцы і прыехаў толькі ўчора ўвечары.

— Куды ён ездзіў?

— У Гомель. Вы мне скажыце, што здарылася?

— Я ж вам ужо сказаў: мне трэба пагаварыць з ім.

— Не, ён, напэўна, штосьці ў камандзіроўцы ўпароў.

Новікаў пацiснуў плячамі:

— Дзіўны вы чалавек. Я вам кажу адно, вы мне — другое. Мне сапраўды трэба з ім пагаварыць.

Лейтэнант ужо быў не рады, што застаўся чакаць у доме, але ў гэты момант у калідоры пачуўся тупат, і ў дзвярах з’явіўся мужчына. Выглядаў ён гадоў пад пяцьдзясят, быў высокі, хударлявы. Цёмныя вочы запытальна глядзелі на незнаёмага чалавека.

«Яшчэ, чаго добрага, вырашыць, што чарговага палюбоўніка жонкі заспеў дома», — падумаў лейтэнант і сказаў:

— Мікалай Стэфанавіч, я — з міліцыі. Можа, вам лепш не распранацца, а прайсці са мной. Нам трэба пагаварыць па адным пытанні.

Гарбылеўскі пабляднеў. Ён паспрабаваў зноў зашпіліць гузікі, але рукі не слухаліся і моцна дрыжалі.

Гэта не выслізнула з-пад увагі оперупаўнаважанага.

Заўважыла гэта і гаспадыня. Яна падышла да мужа і спытала:

— Коля, што здарылася?

— Нічога, я хутка прыйду.

— Я пайду з табой!

— Не, не трэба… Ты пабудзь дома, я хутка…

Гарбылеўскі так разгубіўся, што нават стаў заікацца. Ён павярнуўся і выйшаў. Новікаву прыйшлося паспешна апранаць шапку і паліто.

Гарбылеўскага Новікаў дагнаў ужо за брамкай. Той спытаў:

— Куды мы пойдзем?

— У міліцыю, там і пагаворым.

У душы Новікаў праклінаў сябе за тое, што не папрасіў машыну. Гэтыя хвіліны былі самымі прыдатныя для гутаркі з Гарбылеўскім. Ён разгублены, і лёгка можна распазнаць, калі ён будзе казаць праўду, а калі маніць,

«Пакуль будзем дабірацца да аддзялення, — думаў лейтэнант, — ён, напэўна, супакоіцца і падрыхтуецца да допыту».

Так яно і здарылася. Калі Новікаў увёў Гарбылеўскага ў кабінет следчага, той ужо ўзяў сябе ў рукі. Ён з найгранай самаўпэўненасцю сказаў:

— Не разумею, навошта я спатрэбіўся вам? Жыву не ў гэтым раёне, і дзеля чаго мяне цягнуць з аднаго канца горада ў другі?

Следчы Весялуха быў вопытным работнікам. Ён зразумеў стан Гарбылеўскага, спакойна адказаў:

— Не мы вінаватыя ў тым, што вы тут апынуліся.

— Ну і не я ж…

Новікаў паклаў перад следчым лісток паперы, на якім напісаў дадзеныя Гарбылеўскага, і Весялуха, зазірнуўшы ў яго, прадоўжыў:

— Менавіта вы, Мікалай Стэфанавіч, прымусілі нас гэта зрабіць, і каб не марнаваць дарма час, папрашу растлумачыць, ці ведаеце вы Леакадзію Іванаўну Бузанінаву, адміністратара гасцініцы?

Гарбылеўскі паспешна адказаў:

— Не, не ведаю і ўпершыню чую пра такую.

— Ці так? — іранічна ўсміхнуўся следчы і павярнуўся да Новікава: — Іван Іванавіч, вы не пыталі ў таварыша Гарбылеўскага, дзе ён учора знаходзіўся?

— Не, я думаў, што ў гэтым няма неабходнасці, лічачы, што ён сам усё добра памятае і раскажа.

Весялуха зноў звярнуўся да Гарбылеўскага:

— Так што не трэба спяшацца з адказам. Думайце, перш чым гаварыць, Мікалай Стэфанавіч.

Следчы дастаў чысты бланк пастановы, хутка запоўніў яго і сказаў Новікаву:

— Іван Іванавіч, я вынес пастанову пра дактыласкапіраванне таварыша Гарбылеўскага і пакуль буду дапытваць яго, вы з’ездзіце з дактакартай да экспертаў. Думаю, што нам іх заключэнне спатрэбіцца.

Хвілін праз дзесяць Новікаў, выпрасіўшы ў дзяжурнага палутарку, хвалюючыся, ехаў з дактакартай Гарбылеўскага да экспертаў. А хвалявацца было ад чаго. На ўзятых з месца здарэння бутэльках з-пад гарэлкі былі выяўлены сляды пальцаў рук. Некаторыя з іх належалі забітай, але меліся і сляды, пакінутыя рукамі іншай асобы..

Прайшла яшчэ гадзіна, і Новікаў з кабінета экспертаў патэлефанаваў дзяжурнаму аддзялення міліцыі. Яму адказаў старшына Сафонаў. Лейтэнант папрасіў:

— Слухай, Сафонаў, зрабі добрую справу. Падыдзі да Весялухі і папрасі яго да тэлефона, а сам пакуль пабудзь у яго кабінеце.

Праз некалькі хвілін у трубцы пачуўся голас следчага:

— Весялуха слухае!

— Андрэй Яўгенавіч, гэта Новікаў. Ну як Гарбылеўскі, кажа праўду?

— Не. Стаіць на тым, што не ведае яе, і ўсё тут.

— Нічога, цяпер перадумае, гэта ён пакінуў на бутэльках сляды пальцаў рук.

— Што ты кажаш! Вось выдатна! Заключэнне гатова?

— Хвілін праз пяток скончаць пісаць.

— Добра. Прывозь яго, а я цяпер пайду працягваць допыт.

Неўзабаве Новікаў быў у аддзяленні. Ён адразу ж накіраваўся ў кабінет Весялухі. Той якраз скончыў допыт.

— Прачытайце і падпішыце кожны ліст протаколу допыту.

Гарбылеўскі пачаў чытаць, а Новікаў, перавёўшы дух, зняў паліто, шапку, павесіў іх на вешалку і прысеў на крэсла, якое стаяла ўзбоч ад Весялухі, які моўчкі назіраў за аператыўнікам, даючы таму права ўзяць ініцыятыву на сябе.

Новікаў пачакаў, пакуль Гарбылеўскі дачытае пратакол, і, калі той пацягнуўся па ручку, каб распісацца, спакойна сказаў:

— Не спяшаецеся, Мікалай Стэфанавіч. Прачытайце спачатку гэта. — Лейтэнант працягнуў Гарбылеўскаму заключэнне эксперта і патлумачыў: — У кватэры Бузанінавай, знаёмства з якой вы адмаўляеце, мы выявілі на стале дзве пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі, на якіх маюцца сляды пальцаў і часткі далоняў вашых рук.

Весялуха таксама далучыўся да гутаркі:

— Да гэтага трэба дадаць, што ў той жа кватэры на стале мы знайшлі газету «Советская Белоруссия», на якой быў напісаны ваш адрас. Не сумняваюся, што пры допыце паштальён пацвердзіць, што гэтую газету ён даставіў своечасова да вас дамоў, а вось якім чынам яна патрапіла ў кватэру Бузанінавай —

тлумачыць вам. І яшчэ, на спінцы ложка Леакадзіі Іванаўны мы выявілі вось гэту штучку. — Весялуха ўстаў і, падышоўшы да сейфа, дастаў з яго шлейкі.

Новікаў ледзь прыкметна падміргнуў Весялуху.

— Андрэй Яўгенавіч, можа, пакуль вы будзеце заканчваць допыт, я з'езджу хуценька дамоў да Мікалая Стэфанавіча, прад'яўлю жонцы газету, а заадно і шлейкі, а раптам яна апазнае, каму яны належаць.

Твар Гарбылеўскага пабарвавеў, ён паклаў на стол пратакол допыту і глуха сказаў:

— Не трэба нікуды ездзіць. Я сам усё раскажу. — Ён памаўчаў, сабраўся з думкамі, а затым нечакана стукнуў кулаком па стале. — Чорт бы пабраў гэтую бабу! Звалілася мне як снег на галаву. Уліп у гісторыю, а зараз хоць вешайся!

— Навошта вешацца? — спакойна заўважыў Весялуха. — Калі чалавек трапіў у цяжкае становішча, ён павінен шукаць з яго выйсце.

— Так, гэта так. Дык вось, слухайце… Пазнаёміўся я з Леакадзіяй Іванаўнай год назад. Пасябравалі, мне нават здавалася, што я пакахаў яе. У самога з жонкай жыцця не атрымалася. Жывём пад адным дахам як чужыя, дзяцей шкада. Пачалі мы сустракацца з Леакадзіяй, я дапамог ёй уладкавацца ў гасцініцу адміністратарам. Праўда, не падабалася мне, што ўжо занадта шмат у яе сяброўак і знаёмых завялося. То нумар камусьці патрэбен, то пагаварыць у яе на кватэры трэба, а то проста ў каханне пагуляць… Не па душы мне ўсё гэта было. Спрабаваў я казаць ёй — не разумела, жартамі адказвала, смяялася. Але аднойчы, гэта было месяцы два назад, яна сама пачала турбавацца, чагосьці перажываць, утойваць ад мяне. Неяк намякнула, што яна баіцца нейкіх людзей, але, калі я пачаў высвятляць прычыну, Леакадзія нічога не сказала. І вось учора здарылася тое, чаго яна баялася. Я прыехаў з камандзіроўкі на дзень раней і вырашыў правесці яго разам з Леакадзіяй. Купіў дзве бутэлькі гарэлкі і пайшоў да яе дамоў. Леакадзія ведала, што я прыйду. У яе быў выходны дзень, яна чакала мяне. Мы выпілі… Раптам пачуўся стук ва ўваходныя дзверы. Я вызірнуў і ледзь не самлеў. На ганку стаяла жанчына, апранутая ў чорнае трусінае футра. Твару яе я не бачыў, бо жанчына стаяла да мяне бокам. Мая жонка таксама носіць чорнае футра, і я чамусьці вырашыў, што гэта яна, і, скажу вам шчыра, вельмі спалохаўся і разгубіўся. Думаю, што рабіць? Раз жонка прыйшла сюды, то, напэўна, ёй хтосьці падказаў, а гэта значыць, што яна будзе стукаць, пакуль ёй не адкрыюць. Ды і вокны можа палкай пабіць. Увогуле, схапіў я ў бярэмя свае рэчы і кажу Леакадзіі: «Я на гарышчы схаваюся, а ты ўпусці яе, скажаш, што спала, таму і не адкрывала. Мяне ты ніколі не бачыла».

Леакадзія ляжыць у пасцелі, на мяне вачамі зіркае і ніяк зразумець не можа, чаго я так перапалохаўся. Выйшаў я ў калідор, падняўся на гарышча і паціху, без шуму, лесвіцу за сабой увалок, каб жонка не ўлезла, і пачаў хутка апранацца. Чую, Леакадзія выйшла ў калідор. Я паволі праз лаз стаў назіраць. Адкрыла яна дзверы, а ў калідор уваходзіць незнаёмая жанчына. Аказалася, што я з перапуду памыліўся. Ну, што рабіць, не палезеш жа ўніз. Яна прывіталася з Леакадзіяй і пытае: «Чаго гэты ты ў камбінацыі?» А тая адказвае, што спала. Увайшлі яны ў пакой, а я сяджу на бэльцы перакрыцця. Хвілін праз пяць пачуўся нейкі шум, нават крыкі. Я вырашыў, што жанчыны пра нешта спрачаюцца. Потым стала ціха. Я сядзеў і думаў, што рабіць далей. Нарэшце, дзесьці праз паўгадзіны, сышла гэта жанчына. Я спусціўся ўніз, увайшоў у пакой і тое, што я ўбачыў, не забуду ніколі. Леакадзія ляжала мёртвая, уся ў крыві. Жах!

— Жанчыну не спрабавалі дагнаць? — спытаў Весялуха.

— Я так разгубіўся, што нават у той момант і не падумаў пра гэта.

— Напэўна, баяліся, каб на вас не падумалі?

— Калі адкрыта казаць — так. Я адразу ж сышоў, вырашыўшы зрабіць выгляд, што нічога не ведаю.

— Чаму ж вы ў міліцыю не паведамілі? — спытаў Новікаў. — Маглі ж патэлефанаваць. Нават гэтага не зрабілі.

— Спалохаўся я…

Весялуха ўзяў бланк пратаколу допыту.

— Ну што ж, працягнем запісваць вашы сведчанні.

— Я прашу прабачэння, Андрэй Яўгенавіч, — прагаварыў Новікаў, — але ў мяне яшчэ пара пытанняў.

І лейтэнант звярнуўся да Гарбылеўскага.

— Як выглядала гэта жанчына?

— Я яе дрэнна разгледзеў.

— Але ўсё-такі…

— Гадоў трыццаць пяць—сорак ёй. У чорным трусіным футры, белая, па-мойму, вязаная хустка. Вось, мабыць, і ўсё, што прыкмеціў…

— Раней вы не бачылі яе?

— Не, ніколі.

— А Бузанінава не расказвала пра сварку з якой-небудзь жанчынай?

— Не… хоць, ведаеце, месяцы два назад яна, смеючыся, намякнула, што баіцца нейкай жанчыны. А потым тут жа стала запэўніваць, што пажартавала. Яна нават імя жанчыны называла, але я не памятаю.

— А вы ўспомніце. Штосьці вас то баязлівасць даймае, то разгубленасць, а зараз ужо і памяць падводзіць. Так што пасядзіце і ўспомніце.

— Добра, я падумаю.

Новікаў ужо каторы раз глядзеў на гадзіннік. Яму трэба было ісці на сустрэчу з Купрэйчыкам. Аляксей яшчэ раніцай патэлефанаваў дзяжурнаму і папрасіў даслаць да яго каго-небудзь з аператыўных работнікаў. Лейтэнант зірнуў на Весялуху:

— Андрэй Яўгенавіч, вы працягвайце допыт, а я хуценька вярнуся.

Неўзабаве Новікаў ехаў у трамваі ў бок чыгуначнага вакзала.

Купрэйчыка ён адшукаў у натоўпе адразу ж. Аляксей убачыў яго і ледзь прыкметна кіўнуў галавой, а сам праз плошчу накіраваўся да развалін дома, дзе суткі назад была сустрэча з Мачалавым. Новікаў пайшоў следам.

Паціснуўшы лейтэнанту руку, Купрэйчык сказаў:

— Ваня, часу ў мяне няма, трэба як мага хутчэй быць дома. — Ён працягнуў лейтэнанту папяросу. — У ёй прозвішча Магілы — пра яе ведае Мачалаў, — а таксама баншчыка і яшчэ аднаго злачынцы. Банда сапраўды сур’ёзная і небяспечная. Пра наступную сустрэчу я паведамлю пазней. Дарэчы, чаму Мачалаў не прыйшоў?

Новікаў не хацеў хваляваць капітана і адказаў паспешліва:

— Захварэў ён.

— Што з ім?

— Прастудзіўся.

— Ясна. Перадай прывітанне. Хай папраўляецца.

— Пачакай, Аляксей Васільевіч. Вазьмі фотаапарат, паспрабуй іх сфатаграфаваць.

— Плёнку хоць адчувальную зарадзілі?

— Так, можна нават пры слабым святле фатаграфаваць.

— Добра. Паспрабую зрабіць. Будзь здаровы, я пабег.

І Купрэйчык сышоў. Новікаў вычакаў трохі і таксама накіраваўся ў зваротны шлях…

## 24

## Участковы ўпаўнаважаны Буравін

Прайшло яшчэ два дні. Распагодзілася: вецер аціх, віхура спынілася. Славін і Сімоха ночы напралёт праводзілі з людзьмі, якія сачылі за старым Солахам і яго сваякамі. І вось сённяшняй ноччу ўпершыню ўдалося ўбачыць, як бацька Грышкі выходзіць з дому. Стары хутка прайшоў праз гарод і, часта аглядаючыся, накіраваўся да недалёкага лесу. Следам, арыентуючыся па шуме крокаў і слядах старога, ішлі Славін і двое мясцовых паляўнічых. Але калі Солах увайшоў у лес, Славін спыніў сваіх памочнікаў, і яны недалёка ад дома старога сталі чакаць, калі ён вернецца.

Адсутнічаў стары роўна гадзіну. Калі ён увайшоў у дом, Славін, імкнучыся ісці ў тым жа тэмпе, як нядаўна ішоў стары, прайшоў да лесу і назад да дома Солаха. Атрымалася, што ў абодва канца было патрачана паўгадзіны.

І вось цяпер, седзячы ў доме ўчастковага, яны ўтрох абмяркоўвалі план.

— Глядзіце, што атрымліваецца, — казаў Славін, — стары знаходзіўся ў лесе паўгадзіны. Значыць, Грышка чакаў яго недалёка ад узлеску. Я прапаную зрабіць засаду ў лесе па шляху, якім ходзіць стары. Зараз мы ўжо ведаем, у якім месцы ён уваходзіць у лес, і, дачакаўшыся яго, зможам засекчы момант яго сустрэчы з уцекачамі.

Падумаўшы, Буравін і Сімоха пагадзіліся з ім, і гаспадар прапанаваў:

— Ну калі план гатовы, давайце чай піць.

Ён зняў з сябе цёплы шарсцяны світар і застаўся ў клятчастай кашулі. Славін звярнуў увагу на вялізны рубец, які праходзіў па шыі капітана, і спытаў:

— Міхаіл Якаўлевіч, гэта ў вас след вайны?

— Так, драпнула мяне дурная кулька, калі ішлі ў атаку пад Гродна.

— Дык вы ваявалі ў Беларусі? — Славін ледзь не ўскочыў з табурэткі.

— Так, давялося паваяваць. Я ж на фронце са жніўня сорак першага і да перамогі быў. Двойчы давялося ў шпіталі адлежвацца вось з гэтай ранай, — Буравін ткнуў пальцам у шрам на шыі. — Урачы ўсё запэўнівалі мяне, што я ў кашулі нарадзіўся. Ну нічога, выжыў і яшчэ, напэўна, пажыву на белым свеце.

Славін хацеў расказаць гэтаму спакойнаму і мудраму чалавеку і пра сваё раненне, і пра тое, што ён таксама ваяваў, але ў пакой увайшоў Воўка і знарок злосным голасам сказаў:

— Вы тут усё сакрэтнічаеце, а я ўжо трэці раз вугольчыкі ў самавар падкідваю.

Хлопец ужо даўно не прасіў у дарослых пастраляць з аўтамата. Бацька вельмі строга сказаў яму нікому пра гасцей не расказваць, і ён выконваў гэты загад.

Усе ўсталі і накіраваліся ў суседні пакой. У гэты момант хтосьці гучна пастукаў у акно кухні.

Буравін ціха прагаварыў:

— І каго гэта нялёгкая нясе. Няйначай, як хтосьці з маіх хлопцаў. Можа, зноў стары на прагулку ў тайгу падаўся? — Ён павярнуўся да Славіна і Сімохі. — Вы, на ўсякі выпадак, пабудзьце ў другім пакоі, раптам хто староннні.

Славін і Сімоха вярнуліся ў свой пакой. Лейтэнант, як бы прадчуваючы штосьці, падышоў да лямпы і патушыў яе, а сяржант кінуў неспакойны позірк у кут, дзе за спінкай ложка стаяў аўтамат.

## 25

## Старшы оперупаўнаважаны Лагута

Лагута ў кабінеце быў адзін. Ён нядаўна скончыў допыт сведкі па справе крадзяжу аўтапакрышак і застаўся задаволены сваёй работай. Старшы оперупаўнаважаны быў упэўнены, што ў бліжэйшыя дні ён выявіць злодзеяў.

У кабінет зазірнуў дзяжурны.

— Іван Епіфанавіч, вас начальнік просіць зайсці да яго.

Лагута паклаў справу ў сейф і накіраваўся да дзвярэй, а ў іх нечакана з’явіўся Мартаў.

— Дабрыдзень, Іван Епіфанавіч.

— Добры вечар, Леанід! Што ты хацеў?

— Мне б Славіна, але дзяжурны сказаў, што ён у камандзіроўцы. Не скажаце, калі ён прыедзе?

— Вось гэтага табе, брат, не скажу. Як вырашыць неабходныя пытанні, так і прыедзе.

— Шкада. — Мартаў засмучана адступіў у калідор, даючы магчымасць Лагуту выйсці з кабінета і замкнуць на ключ дзверы. — Тады, можа быць, з вамі перамовімся?

— Ну, што ж, я не пярэчу. Толькі ты пасядзі крыху, я да начальніка зайду, а затым пагутарым.

Хвілін праз дваццаць капітан вярнуўся ў свой кабінет.

Мартаў прысеў на прапанаванае крэсла і, цярэбячы ў руках шапку, пачаў расказ:

— Вы ведаеце, Іван Епіфанавіч, што важу я лес. Тры дні назад ехаў праз «пуп». Ну, як звычайна, спыніўся, зайшоў у сталовую, якраз тую, дзе мне труп падкінулі, памятаеце?

— Вядома, памятаю, — усміхнуўся Лагута, — нават памятаю, з-за чаго ты там спыняешся. І цяпер, нябось, з-за сургучнагаловай пацягнула на прыпынак?

— Іван Епіфанавіч, паверце, далібог, за рулём ужо не п’ю. Пасля таго выпадку, з забойствам, зарок даў: за рулём ні-ні. Зайшоў я ў сталовую, паабедаў і папрасіў у буфетчыцы, каб дала бутэльку з сабой. Думаў, прыеду да вечара на месца і перад сном са знаёмымі «раздушым» яе. Узяў я, значыць, і — да выйсця. Але тут мяне паклікалі двое, яны сядзелі за столікам ля самых дзвярэй. Спыталі, куды я еду. Я адказаў, і яны папрасілі падвезці іх. Зараз у мяне машына нядрэнная — новы ЗіС, кабіна прасторная, дый весялей у дарозе, калі ёсць з кім словам перакінуцца. Я і пагадзіўся. Купілі яны таксама гарэлкі, па-мойму, бутэлек пяць ці шэсць, сёе-тое з прадуктаў, селі мы і паехалі. Мне ехаць трэба было кіламетраў сто дваццаць. Вёз я на далёкі ўчастак інструменты, а затым павінен быў вярнуцца трохі назад і загрузіцца кругляком. Дарога няважная, і ехаў я з хуткасцю не больш за трыццаць кіламетраў у гадзіну. Гадзіны праз дзве папрасілі мае пасажыры прыпынак зрабіць. Я затармазіў. Зайшлі яны ў кусты, а затым прапанавалі па сто грамаў выпіць. Прызнаюся, гэтым разам я не ўстаяў, мароз моцны, дарога пустэльная, машыны рэдка ходзяць… ну вось я і не адмовіўся. Распілі мы бутэльку, і тут я ўбачыў, што ў аднаго з іх з-пад паўкажушка прыклад ад стрэльбы тырчыць, напэўна, абрэз. Стала нават не па сабе. Выгляду стараюся не падаць і спакойна кажу: «Давайце, мужыкі, далей паедзем». Пачалі мы садзіцца ў машыну, гляджу, а ў другога таксама з-пад кажуха штосьці вытыркаецца. Ну, селі мы і паехалі. Гэтыя

двое паводзяць сябе спакойна, усё мяне пра мясцовыя парадкі распытваюць, я, вядома, адказваю, а сам вушы натапырыў, імкнуся зразумець, што за спадарожнікі мне трапіліся. Спыталі, ці мясцовы я, ці маю сям’ю, а потым пацікавіліся, як можна ўладкавацца на працу, затым усё выпытвалі, ці не бачыў я на дарогах міліцыі, ці не шукаюць каго. Праехалі мы яшчэ кіламетраў трыццаць. Яны зноў папрасілі спыніцца. Падумаў я і вырашыў падпарадкавацца, месцы пустэльныя — адмовішся, зразумеюць, што западозрыў штосьці, і цюкнуць. Спыніў машыну, яны бутэльку адкрылі, я адмовіўся піць, растлумачыў, што хутка прыеду, а з пахам нельга. Яны самі распілі гэтую бутэльку, і мы паехалі далей. А затым адзін з іх, лысаваты, высокі, завёў са мной гаворку.

— А як ты пазнаў, што ён лысаваты? — перарываючы яго, спытаў Лагута.

— Ён у кабіне шапку здымаў, я і ўбачыў. Вось ён мяне і пытае, ці шмат людзей прыезджых у гэтых месцах працуе, ці часта звальняюцца. Я не ведаў, куды ён хіліць, адказваю, што, маўляў, усялякія людзі маюцца. Тады ён пытае, ці часта я па гэтай дарозе езджу. Я зразумеў, што ім хацелася, каб я часта ездзіў па гэтай дарозе, і адказаў сцвярджальна. Тады гэты мужык мне і кажа: «Слухай, сябар, хочаш добра зарабіць?» Я адказаў: «А хто ж не хоча?» — «Ну тады слухай, калі зробіш тое, што мы папросім, атрымаеш пяць залатых дзесяцірублёвак. Ад цябе многае не трэба: знайдзі парачку мужыкоў, якія прыезджыя і адзінокія, і пазнаём нас з імі. Разумееш, хочам мы брыгаду для халтур стварыць. Будзем ездзіць па калгасах, грошы зарабляць. Было б добра, калі б ты падабраў з тых, хто хоча звольніцца і з’ехаць, такіх нам лягчэй угаварыць…»

Мартаў зрабіў паўзу, і Лагута нецярпліва спытаў:

— Так, ну і што ж далей было?

— Далей? Яны распыталі мяне, у якія дні я буду праязджаць па гэтай дарозе, і абяцалі сустрэць. Затым папрасілі спыніць машыну і выйшлі.

Лагута, ледзь хаваючы хваляванне, разгарнуў карту:

— Вось скрыжаванне, пакажы, па якой дарозе ты ехаў?

Мартаў доўга разбіраўся ў карце, затым пальцам паказаў:

— Вось па гэтай.

— А дзе першы раз спыняліся? — спытаў Лагута, але адразу ж падумаў: «Як жа ён зможа вызначыць гэта месца на карце?» — і перапытаў: — Ты кажаш, што да першага прыпынку ехалі гадзіны дзве з хуткасцю кіламетраў трыццаць у гадзіну? Значыць, праехалі вы кіламетраў шэсцьдзясят. — Ён узяў лінейку і алоўкам адзначыў месца стаянкі. — Так, а затым вы да наступнага прыпынку праехалі яшчэ колькі?

— Кіламетраў трыццаць.

Лагута зрабіў яшчэ адну адзнаку на карце.

— Ну і праз колькі кіламетраў ад гэтага прыпынку яны выйшлі?

Мартаў падумаў трохі, а затым адказаў:

— Кіламетраў праз пятнаццаць, а можа, і дваццаць, дакладна нават і не памятаю.

Лагута зрабіў яшчэ адну адзнаку, абвёў яе кружком і палез у стол. Дастаў фатаграфіі Солаха і Мельнікава, а затым пачаў праглядаць цэлы пачак іх. У кожнага аператыўніка і следчага заўсёды знойдзецца дзясятак-другі здымкаў людзей, якіх ён, можа быць, нават у твар ні разу не бачыў і якія, магчыма, ніколі нічога не здзейснілі, а проста іх фота хтосьці дзесьці знайшоў і прынёс разам з іншымі рэчамі ці прадметамі ў міліцыю ці гэтыя здымкі выявілі ў затрыманага. І застаюцца такія здымкі невядомых, як безгаспадарчыя прадметы, у сталах, а нярэдка і сейфах на ўсякі выпадак, іх выкарыстоўваюць

пры выкананні такога следчага дзеяння, якім з’яўляецца прад’яўленне на апазнанне асобы на фатаграфіі.

Нарэшце Лагута падабраў некалькі здымкаў, паклаў да іх фота Мельнікава і Солаха, затым працягнуў іх, нібы калоду карт, Мартаву:

— А ну, дарагі, зірні, ці няма тут тых спадарожнікаў.

Мартаў пачаў па чарзе разглядаць фота, усярэдзіне ў капітана ўсё напружылася: «Яны ці не яны?» Нюх падказваў яму, што Мартаў сустрэў злачынцаў, якія шукаюць.

А Мартаў адразу ж апазнаў Мельнікава, а затым паклаў на стол і фота Солаха.

— Вось яны, галубчыкі, — ён ткнуў у фатаграфію Солаха. — А гэты і ёсць той высокі і лысаваты.

Капітан хутка запісаў тлумачэнне са слоў Мартава, пацiснуў яму руку і, папрасіўшы яго прыйсці ў аддзяленне раніцай на наступны дзень, адпусціў.

З хвіліну капітан сядзеў, разважаючы, над картай.

Атрымлівалася, што Солах і Мельнікаў выйшлі на дарозе, якая праходзіць з процілеглага боку сяла Станавога. Ад таго месца да Станавога кіламетраў трыццаць пяць.

«Трэба далажыць Алтыніну», — вырашыў старшы оперупаўнаважаны і адразу ж накіраваўся ў кабінет начальніка. Алтынін выслухаў яго, паскуб сябе за вус, а затым вырашыў:

— Зробім так: ты бярэш траіх чалавек з атрада, які заўтра прыбывае сюды, і будзеце ездзіць у кузаве машыны Мартава. Прадумай экіпіроўку, мароз моцны, а ездзіць давядзецца і доўга, і далёка…

## 26

## Солах

Буравін адчыніў дзверы, і ў дом увайшоў… старэйшы Солах. Яго зарослы твар, каўнер футра былі пакрыты інеем. Буравін мімаволі падумаў: «Мароз на дварэ мацнее, трэба будзе коней у хляве паглядзець, не змерзлі б».

Солах зняў шапку і ледзь хрыплым голасам сказаў:

— Добры вам вечар у хату! Такога госця, нябось, і не чакалі? Ты, Міхаіл Якаўлевіч, і не задумваўся ніколі, напэўна, што я ў цябе дома ні разу ў жыцці не быў.

— Затое ў цябе, Рыгор Прохаравіч, мне давялося пабываць, і не раз прычым.

— Ну, што ты старое ўспамінаеш, — махнуў рукой Солах, — і ў маім доме ты ўжо гадоў сем, а можа, нават восем не быў. Але я да цябе на хвілінку.

Буравін, ведаючы, што Славін і Сімоха знаходзяцца ў дальнім пакоі, вырашыў гутарыць са старым так, каб і яны чулі. Участковы адчуваў, што Солах прыйшоў нездарма. Таму ён перапыніў няпрошанага госця:

— А што гэта мы з табой, Рыгор Прохаравіч, у дзвярах стаім, праходзь у пакой, там і святлей, і прысесці можна, знімі футра, а то ў хаце горача. — І Буравін, не чакаючы згоды старога, першым ступіў у вялікі пакой, дзе ўжо на стале стаяў і кіпеў самавар. Зірнуў на стол і як бы між іншым прыбраў два кубкі ў буфет;

— Садзіся, чайком папесціся.

— Некалі мне чаі ганяць, адпраў хлапца ў іншы пакой, гутарка ёсць.

— Вова, ідзі, сынок, спаць, чай з табой будзем заўтра піць.

— Я вам, выходзіць, і чаю не даў папіць, ну што ж, выбачайце.

Вова моўчкі хмурна зірнуў на старога і выйшаў з пакоя.

— Чаго я да цябе зайшоў, Міхаіл Якаўлевіч. Разумееш, як успомню цябе яшчэ халасцяком, ды і ў даваенныя гады, дык адразу ж бачу цябе гарачым, злым да людцаў чалавекам.

— Ну ведаеш, гэта гледзячы да якіх людцаў я злым быў. Калі да бандытаў і ўсякай іншай дрэні, дык тут твая праўда, а што да сумленных людзей, то ніводны з іх не паскардзіцца, што я несправядлівы быў.

— Добра, добра, дай мне выказаць, што хацеў. Ну, а цяпер ты ўжо немалады, пасталець павінен. Дзяцей вунь у цябе трое: Воўку — трынаццаць, Лене — пятнаццаць, а малодшаму — восем. Памятаю, як ён у цябе перад вайной нарадзіўся. Добрыя ў цябе дзеці, ды і жонка спраўная — нічога не скажаш. І гадаваць вам сваіх дзяцей яшчэ доўга трэба, а тут жа глухмень, тайга вакол, да вашых далёка.

— А ты, дзед, не палохай, нашы зараз усюды…

— Не, Бог з табой, я меў на ўвазе міліцыю… міліцыянераў. Таму я і вырашыў на агеньчык зазірнуць і расказаць табе вось што. Я мінулай ноччу сон бачыў. Накшталт сяджу я ў сябе дома, а да мяне нечакана сын мой — Грышка, можа, ты і забыў яго ўжо, — уваходзіць, а з ім яшчэ людцы, усе ўзброеныя, і адразу ж пра цябе гаворку са мной заводзяць. Схадзі, маўляў, да Буравіна і скажы, што калі не дасць нам пажыць у гэтых месцах тыдзеньчык-другі, то не абмінуць яму чырвонага пеўня. І скажу я табе, Міхаіл Якаўлевіч, я сплю, а сам як наяве бачу — гарыць твой дом, а ты ляжыш на снезе з прастрэленай галавой, твая жонка побач з перарэзаным горлам, а кроў так і хвошча з горла, так і хвошча. Страх адзін! І яшчэ снілася мне, што тваіх дзяцей звязаных проста ў агонь кідалі, вось толькі хто кідаў, ніяк я не мог разабраць.

Прачнуўся я ўвесь у поце, перахрысціўся, злез з печы і, напэўна, паўвядра вады выпіў і, хочаш вер, хочаш не вер, але нават у акно вызірнуў: ці не гарыць у сяле дзе-небудзь дом. Гляджу, усё спакойна, ну, думаю, дзякуй богу, перахрысціўся яшчэ разок і палез на печ дасыпаць.

І вось сёння думаў я пра гэты сон, думаў і вырашыў да цябе схадзіць. І ведаеш, пакуль ішоў, то ў галаве пытанне паўстала. А што, калі б мой Грышка ў акрузе з'явіўся і папрасіў бы цябе не чапаць яго тыдзеньчык-другі? Пагадзіўся б ты?

Буравін нечакана ўсміхнуўся:

— Кашмары табе, Рыгор Прохаравіч, на старасці гадоў сняцца. Ці стары ты ўжо зусім стаў, ці захварэў. Тады табе да ўрача трэба ісці, хочаш, я табе яго на дом выклічу.

— Не, здаровы я, не патрэбен мне доктар. Вось мяне цікавасць узяла: дык паслухаўся б ты просьбы Грышкі і яго людцаў ці замінаць стаў бы?

— Ну што табе сказаць? — Буравін памаўчаў. — Вядома, жыццё адно ў чалавека, але я яшчэ штосьці сну такога не бачыў, каб Грышка твой збег. А наяве пра гэта мяне маё начальства нічога не паведамляла, так што папі лепш чайку са мной.

— Дзякую, але позна ўжо, пайду-ка я лепш спаць. А табе жадаю дажыць да старасці і дзяцей выгадаваць. Да пабачэнька!

Стары надзеў шапку і выйшаў. Буравін замкнуў за ім дзверы і ўвайшоў у залу, а там ужо былі Славін і Сімоха.

— Чулі, якія сны пачаў бачыць гэты бандзюга? Вось гадзіна, палохаць мяне заманулася!

Славін і Сімоха стаялі, узрушаныя пачутым. Падчас гэтай гутаркі яны ледзь стрымлівалі сябе, каб не выйсці і не ўзяць за каўнер старога.

Буравін усміхнуўся:

— Ды ну яго к чорту! Такія пагрозы раней мне даводзілася часта чуць. Зараз адно скажу: Грышка і яго сябрук тут! Вось толькі не магу зразумець, як яны змаглі сустракацца са старым.

— А памятаеце, як некалькі дзён назад нашы засеклі, што Дрозд вярнуўся дахаты позна ўначы? — спытаў Сімоха. — А яны ж сваімі вачыма бачылі, як ён яшчэ завідна заходзіў у свой дом, а тут на табе, зноў ідзе дамоў уначы. А калі ён з дома выйшаў? Ніхто не бачыў. Што з гэтага вынікае? — Ён памаўчаў для большага эфекту і сам адказаў: — З гэтага вынікае, што бандыты сустрэліся з ім і папрасілі старога, каб ён прыйшоў да іх на спатканне ў лес. Дрозд вылез праз акно, а затым гародамі выйшаў з сяла, прыйшоў у Станавое і таксама гародамі прабраўся да дома Солаха. Пасля гэтага тым жа шляхам выйшаў са Станавога і, ужо не хаваючыся, накіраваўся дамоў.

Сімоха замоўк, чакаючы, як паставяцца да яго версіі афіцэры.

Славін задуменна сказаў:

— Цалкам можа быць і так. З гэтага можна зрабіць выснову, што нашы здагадкі аказаліся правільнымі. Солах і яго сябрук разлічваюць быць у гэтых краях нядоўга і таму хочуць на гэты час скаваць вашу, Міхаіл Якаўлевіч, актыўнасць. Вы для іх уяўляеце найвялікшую небяспеку. Таму да пагрозы бандытаў трэба паставіцца сур’ёзна. З гэтай хвіліны вы не павінны хадзіць адзін, ды і як лепш арганізаваць ахову нам трэба падумаць. Ну, а цяпер пайшлі тэлефанаваць Алтыніну.

Прайшло паўгадзіны, і Славін ужо размаўляў па тэлефоне з Алтыніным, які, выслухаўшы лейтэнанта, праінфармаваў яго пра расказ Мартава і паведаміў, што накіроўвае групу супрацоўнікаў міліцыі, якія пад выглядам паляўнічых-прамыславікоў будуць знаходзіцца недалёка ад Станавога. Маёр растлумачыў:

— Яны будуць тайгу вакол Станавога і Светлага прачэсваць і ў любы момант вам на дапамогу прыйдуць. На месца яны прыбудуць паслязаўтра. Сустрэць іх трэба на скрыжаванні дарог, размешчаным у чатырох кіламетрах на захад ад Станавога.

Славін спытаў:

— Ягор Ягоравіч, я перадам трубку Буравіну, вы яму растлумачце, дзе нам сустрэць нашых, а то я не вельмі яшчэ арыентуюся ў гэтых месцах.

Буравін узяў трубку, і па яго асобных словах Славін зразумеў, што апергрупа паедзе машынай праз «пуп» і будзе рухацца да Станавога з таго боку…

Але падзеі развіваліся хутчэй і інакш, чым меркавалі работнікі міліцыі. Ужо на наступны дзень з сельсавета Буравіну паведамілі, што ў Светлым зноў выкралі кабана. Гэтым разам — у Дразда. Гэта было зусім ужо нечаканым.

Спяшаючыся, капітан стаў збірацца ў дарогу. Славін кіўнуў Сімоху, і яны таксама пачалі апранацца. Буравін спытаў:

— Вы куды??

— З вамі.

— Дык дзень жа…

— Нічога. Запрагайце нашых коней, ляжам у сані, укрыемся кажухамі, замаскіруемся сенам, і парадак!

Славін па вачах Буравіна бачыў, што той чымсьці ўстрывожаны. І раптам лейтэнант зразумеў чым. І зразумеў гэта тады, калі Буравін адвёў старшага сына ў бок, доўга тлумачыў яму, як паводзіць сябе, калі раптам пакуль яны будуць адсутнічаць хтосьці прыйдзе да іх дамоў.

Капітан не турбаваўся пра сябе, ён хваляваўся за сваіх сямейнікаў. Зна-

чыць, у тым, што пра крадзеж заявіў менавіта Дрозд, вопытны ўчастковы ўлавіў трывожны сігнал для сябе.

Славін паклікаў Сімоху:

— Андрэй, ты застанешся тут. Будзь уважлівы, не выключана, што Солах і Мельнікаў вырашылі выклікаць Міхаіла Якаўлевіча з дому, а самі, пакуль ён будзе адсутнічаць, наляцяць сюды.

Сімоха ўсё зразумеў адразу, толькі прапанаваў:

— Можа, аўтамат вазьміце, а мне пісталета хопіць.

Славін падумаў: «Сапраўды, яму з аўтаматам дома будзе нязручна дзейнічаць».

— Добра, аўтамат возьмем мы. Колькі ў цябе абоймаў да пісталета?

— Дзве.

Славін сунуў руку ў кішэнь паўкажушка:

— На яшчэ тры.

— А ў цябе?

— У мяне засталося яшчэ дзве, і не забывай, што такое аўтамат на вуліцы, ды яшчэ з трыма запаснымі дыскамі. — І павярнуўся да Буравіна: — Міхаіл Якаўлевіч, мы тут параіліся і вырашылі, што паеду з вамі толькі я, а Андрэй застанецца, на ўсякі выпадак, дома.

Твар Буравіна адразу ж пасвятлеў. Ён, імкнучыся не паказваць сваю радасць, сказаў:

— Як хочаце. Застанецца дома, дык дома.

Яны запрэглі коней. Славін, загарнуўшыся ў кажух, закапаўся ў сена.

Трэба было праехаць усё сяло, і Славін ляжаў, накрыўшыся кажухом з галавой. Але вось яны мінулі апошні дом і паехалі па вузкай лясной дарозе, па баках якой стаялі магутныя стройныя елкі. Славін адкінуў кажух і сеў. Буравін, які да гэтага не прамовіў ні слова, ціха сказаў:

— Уладзімір Міхайлавіч, чуе маё сэрца, нездарма гэты выклік. Па маім разуменні, задумалі яны штосьці. І, скажу я вам, правільна мы зрабілі, што Андрэя пакінулі дома, далібог, перажываў бы.

У Славіна таксама было на душы неспакойна, але ён не хацеў паказваць гэта і адказаў:

— Калі яны задумалі штосьці, навошта ж тады Дразда падстаўляць, заяўляць пра крадзеж у яго?

— О, вы іх дрэнна ведаеце. Мне здаецца, што ніякага крадзяжу і ў паміне не было. Проста ім для чагосьці трэба было мяне выцягнуць са Станавога. Можа, Грышка хоча да бацькі прыйсці. Магчыма, там работа ёсць, якая не пад сілу аднаму старому, скажам, золата выкапаць. А можа, сапраўды паспрабуюць да мяне ў дом уварвацца, жонку і дзяцей напалохаць, прымусіць іх мяне ўгаварыць заплюшчыць вочы на гэтых звяруг. Ці вырашылі сустрэцца са мной на лясной дарожцы. Ну, а што да Дразда, то ён для іх свой чалавек. Аддаў, скажам, ім кабана, а нам заявіў, што хтосьці ўкраў яго.

— Ну чаму б ім, у такім разе, не ўкрасці ў каго-небудзь іншага з вяскоўцаў?

Буравін ледзь прыкметна ўсміхнуўся:

— Яны не дурні, разумеюць, што пасля таго крадзяжу людзі будуць напагатове, а гэта значыць, што можна і на зарад карцечы напароцца. Не, чуе маё сэрца: штосьці яны задумалі, а вось што, забіце, не ведаю. Я думаю, што вам трэба зноў у сена закапацца. Аўтамат да бою падрыхтуйце, можа спатрэбіцца.

Славін не прымусіў сябе доўга ўгаворваць, пстрыкнуў затворам аўтамата, дастаў пісталет з кішэні пінжака і сунуў у кішэнь паўкажушка, а затым лёг.

Буравін накрыў яго кажухом, а зверху засыпаў сенам.

— Яны народ такі, калі ўбачаць, што я адзін, то перш чым страляць, захочуць пагаварыць. Іх, вядома, вельмі цікавіць, ці шукаюць іх тут, у нашай акрузе. Ну, а калі ўбачаць, што нас двое, то могуць проста з кустоў і ўдарыць ці прапусціць не чапаючы, а нам з вамі гэта не трэба. Нам трэба іх убачыць.

Славін з-пад кажуха спытаў:

— Калі сустрэнуць нас, то як я даведаюся, што мне выскокваць трэба?

— Калі я ўбачу, што Грышка з імі, то назаву яго па імені — гэта будзе сігналам для вас.

Далей яны ехалі моўчкі. Славін не бачыў, як участковы дастаў з кабуры пісталет, зарадзіў яго і паклаў пад рукой справа ў сена. Лесам трэба было ехаць кіламетраў пяць. Славін, арыентуючыся па часе, зразумеў, што праехалі ўжо больш як палову. Раптам ён адчуў, што коні нечакана рэзка тузануліся ў бок і сталі. Наступіла цішыня, і тут жа незнаёмы голас ціха, але пагрозліва сказаў:

— Не пікні, мільтон! Толькі пальцам варухнеш, як тут жа на той свет загрыміш.

## 27

## Іван Іванавіч Новікаў

Новікаў спяшаўся ў шпіталь да Мачалава. Пётр Пятровіч пасля таго, як прынёс выцягнутага з ракі хлапчука на электрастанцыю, знепрытомнеў і прыйшоў у сябе толькі на наступны дзень. У яго аказалася двухбаковае запаленне лёгкіх. Урачы вырашылі пакуль не казаць маёру пра смерць хлопчыка. Гэта б ашаламіла Мачалава. Наведвальнікаў да Пятра Пятровіча, нават жонку, не пускалі. Новікаў быў першым, каму дазволілі наведаць маёра. Гэта было выклікана інтарэсамі службы, бо, акрамя Мачалава, у аддзяленні ніхто не ведаў усіх дэталяў задуманай аперацыі. Неабходнасць параіцца з Мачалавым паўстала яшчэ і таму, што ў аддзяленне прыйшлі муж і жонка Троцакі. Яны пакаяліся, што на допытах не сказалі пра тое, што падчас нападу на іх бандыты забралі больш як дваццаць тысяч грошай і невялікі залаты злітак. Пазней, добра падумаўшы, вырашылі пайсці ў міліцыю і расказаць усю праўду.

Група злачынцаў практычна ўжо была вядомая, але Купрэйчыку пакуль не ўдавалася высветліць, дзе яны захоўвалі нарабаваныя каштоўнасці. А гэта трэба было ўдакладніць хоць бы яшчэ і таму, што супрацоўнікі крымінальнага вышуку не ведалі, што злачынцы ўзялі людзей, якіх яны забілі. У групу, акрамя Карунова і Прутава, уваходзілі нейкія Арыха Дзмітрый і Лаб'янова Лідзія, па мянушцы Магіла. Аднак аператыўнікі не ведалі, дзе яны пражываюць, а ў адрасным бюро гэтыя людзі не значыліся.

Новікаў абтрос з адзежы снег і ўвайшоў у прыёмны пакой. Там яго ўжо чакаў дзяжурны ўрач, які і правёў у палату да Мачалава.

Пётр Пятровіч ляжаў адзін у маленькім пакойчыку, у якім ледзь змясціліся звычайны шпітальны ложак, тумбачка і табурэтка. Убачыўшы Новікава, Мачалаў радасна заўсміхаўся:

— А, Ваня, уваходзь, уваходзь!

— Дабрыдзень, Пётр Пятровіч, як вы сябе адчуваеце?

— Дзякуй, дарагі, ужо лепш. Нічога, зараз справа пойдзе на папраўку. — Голас у Мачалава быў слабы. Яшчэ па дарозе дзяжурны ўрач, папярэджваючы Новікава, каб ён не стамляў хворага і доўга ў палаце не затрымліваўся, растлумачыў, што толькі сёння ў Мачалава панізілася тэмпература. — Ты садзіся, — запрашаў ён госця, — расказвай, як справы.

Урач, каб не замінаць, дапытліва паглядзеў на Новікава — ці не забыў той папярэджанне — і выйшаў.

— Справы ў нас, Пётр Пятровіч, ідуць звычайна. Учора правялі адкрыты партыйны сход. Вырашылі, што ўсе выйдзем на суботнік па ўборцы горада ад снегу. Папрацавалі сёння як след. Вакол аддзялення і два кварталы вуліцы пачысцілі. Шкада толькі, што снег пасля абеду зноў паваліў, засыпле ўсё.

— Нічога, народ вы дужы, яшчэ раз папрацуеце лапатамі.

— Гэта вядома.

— Ну, а як справы з групай Карунова?

— Таксама звычайна. Сустракаўся з Купрэйчыкам. Вось, цыдулку вам перадаў, — Новікаў працягнуў Мачалаву лісток паперы, пачакаў, пакуль той прачытае, і пачаў уводзіць яго ў курс справы.

Мачалаў, ледзь прыкрыўшы вочы, моўчкі слухаў. Яго завостраны і схуднелы твар быў бледным, і Новікаву здалося, што яму стала дрэнна. Ён замоўк, думаючы, ці не паклікаць урача. Але Мачалаў ціха спытаў:

— Вы хоць адчыталі Троцакаў за іх хлусню?

— Што толку ў гэтым, Пётр Пятровіч? Жыццё яны, лічыце, пражылі пасвойму, наўрад ці перавыхаваеш іх.

Затым лейтэнант расказаў пра Гарбылеўскага.

Мачалаў стаміўся, але адпускаць Новікава не хацеў і працягваў распытваць яго пра ўсе дэталі следства, даваў указанні:

— На ўсякі выпадак праверце жонку Гарбылеўскага. У мяне ў практыцы здаралася, калі з-за рэўнасці жонкі забівалі палюбоўніц. І яшчэ, ты, Іван Іванавіч, абавязкова церабі гэтага Гарбылеўскага, хай успамінае, якое імя яму называла Бузанінава. Трэба абавязкова апытаць усіх яе знаёмых, а таксама суседзяў і высветліць усе яе сувязі. Не забудзься, калі Купрэйчык сфатаграфуе Карунова і яго сябрукоў, прад'явіць іх фатаграфіі на апазнанне пацярпелым, хто жывы, і іх суседзям.

— Добра, Пётр Пятровіч, зробім. Я бачу, што вы стаміліся, пайду, мабыць?

— Так, крыху стаміўся. Калі зможаш, то заскоч, калі ласка, да мяне дахаты, перадай прывітанне маім. Скажы Таццяне Андрэеўне, што ў мяне справы ідуць на папраўку, а то яе, бедную, сюды не пускаюць, яна, нябось, хвалюецца. Супакой, скажы, што пачуваюся добра… — Мачалаў прыкрыў вочы і сумна ўсміхнуўся: — Я ёй у жыцці шмат хваляванняў і клопатаў прычыніў.

Твар Мачалава пакрыўся плямамі, ён расхваляваўся, і Новікаў ліхаманкава шукаў магчымасць змяніць тэму гаворкі. У памяці ўсплыў адзін адказ на запыт Мачалава, і лейтэнант сказаў:

— Пётр Пятровіч, я ледзь не забыўся. У аддзяленне прыйшоў адказ на ваш запыт наконт нейкага Юшэвіча.

— І што там? — ажывіўся Мачалаў.

— У ім паведамляецца, што Юшэвічы пражываюць у прыгарадзе. Яны нядаўна пабудавалі хату, але яшчэ тэхпашпарта не атрымалі і не прапісаны, таму ў адрасным бюро не значацца.

Пачуўшы ўсё гэта, Мачалаў яшчэ больш расхваляваўся. Ён нават паспрабаваў прыўзняцца. Яго спыніў Новікаў:

— Пётр Пятровіч, вам нельга паднімацца!

— Так, так, я разумею. Але ты, Ваня, не ўяўляеш, якую вестку мне прынёс. — І Мачалаў коратка паведаміў, хто такі Юшэвіч і чаму ён яго расшуквае.

Новікаў прапанаваў:

— Пётр Пятровіч, дазвольце, я займуся гэтым гадам!

— Не, Ваня, я сам. Ты не адцягвайся ад сваёй справы. Нам трэба хутчэй разабрацца з групай Карунова. Дарэчы, пры сустрэчы з Купрэйчыкам папрасі яго даведацца, дзе жывуць Каруноў, Лаб'янова — яе мянушка Магіла — і Арыха. Ну, а што да Юшэвіча, трэба быць асцярожным, магчыма, з дапамогай участковага правер, ці жыве ён у гэтым доме, завуць яго Якавам Часлававічам. І яшчэ, маё паліто патанула, а ў кішэні ляжалі ключы ад кабінета і, самае галоўнае, ад сейфа. Скажы майму намесніку, хай падумае пра дублікаты. Цікава, як адчувае сябе хлапчук? Але ты, напэўна, не ведаеш?

Новікаў адвёў вочы ў бок. Ён-то ведаў, але казаць пра гэта не меў права. Таму адказаў коратка:

— Не, не ведаю. — А сам падумаў: «Эх, Пётр Пятровіч, мілы ты чалавек, жыцця свайго не шкадаваў, а вось як яно ўсё абярнулася».

— Ну, нічога, галоўнае, што ён жывы. Напэўна, таксама хварэе, небарака. Добра, Іван Іванавіч, ідзі. Перадавай нашым хлопцам прывітанне. Доўга я адлежвацца тут не збіраюся, так што да хуткага…

Новікаў выйшаў са шпіталя вельмі засмучаны. Хацеў паехаць у аддзяленне, але ўспомніў пра просьбу начальніка і вырашыў даведацца, ці жыве Юшэвіч са сваімі бацькамі. Лейтэнант патэлефанаваў у аддзяленне і папрасіў дзяжурнага, каб той знайшоў у сакратара звесткі пра Юшэвічаў і паведаміў іх адрас.

Чакаць давялося доўга, і начальнік пажарнай часці, куды зайшоў Новікаў, каб патэлефанаваць, нецярпліва і незадаволена хмыкаў. Новікаў сказаў:

— Вы ўжо выбачайце, тэрміновая справа, дзяжурны высвятляе.

— А раптам пажар? Людзі будуць тэлефанаваць, а тэлефон заняты, што тады?

— Які нумар гэтага тэлефона?

Начальнік машынальна адказаў:

— Тры-дваццаць адзін-пятнаццаць.

— А грамадзяне, між іншым, пра пажар тэлефануюць па тэлефоне нуль-адзін.

Начальнік пажарнай часці хацеў штосьці сказаць, але ў гэты момант дзяжурны аддзялення міліцыі зноў узяў трубку і паведаміў Новікаву адрас Юшэвічаў.

Новікаў выйшаў на вуліцу і накіраваўся да трамвайнага прыпынку. Ехаць, а затым ісці пешшу давялося доўга.

Ужо на змярканні лейтэнант уваходзіў у двор вялікай драўлянай хаты. Каля хлява гучна забразгаў ланцугом і злосліва забрахаў сабака.

У хаце Новікава сустрэлі гаспадары. Абодвум было за семдзесят. Яны суха адказалі на прывітанне і насцярожана глядзелі на высокага з уважлівымі карымі вачыма хлопца. Новікаў вырашыў не хаваць, што ён з міліцыі. Наадварот, гэта акалічнасць, як ён лічыў, не павінна была выклікаць непакою.

— Я з міліцыі. Прашу прад'явіць дамавую кнігу, свае пашпарты і тэхнічны пашпарт на хату.

Старыя неспакойна пераглянуліся, і гаспадар адказаў:

— Вы нас выбачайце, таварыш, не ведаю, як вас завуць, справа ў тым, што ў нас пакуль не прыняты дом і таму дакументаў мы яшчэ не атрымалі.

— Што ж гэта такое, — прагаварыў Новікаў, робячы заклапочаны твар, — толькі за сённяшні дзень ужо трэці такі выпадак. Вы пазыку бралі?

— Не, у нас было крыху сваіх грошай.

Новікаў па-гаспадарску размясціўся ля стала, дастаў нататнік і аўтаручку:

— Хто гаспадар дома?

— Я.

— Прозвішча, імя, імя па бацьку?
— Юшэвіч Чэслаў Баляслававіч.
— Год нараджэння?
— Восемсот семдзесят пяты.
Новікаў зірнуў на бабульку:
— Як вас зваць?
— Юшэвіч я, Юшэвіч Ганна Казіміраўна.
— Год нараджэння?
— Па дакументах?
— Як гэта па дакументах? — не зразумеў лейтэнант.
— Я нарадзілася ў семдзесят дзявятым, а па дакументах у васьмідзясятым. Дык які вам год патрэбен?
— Ясна. Запішам, як у дакуменце. Хто ў вас яшчэ жыве?
— А нікога, — адказаў стары. — Вось удваіх са старой жыццё і дажываем.
— А дзеці ў вас ёсць?
— Быў у нас сын. Але як сышоў падчас вайны ў партызаны, так і знік.
— Не ведаеце, што з ім?
— Не ведаем.
Новікаў падняўся з-за стала:
— Узялі б і зрабілі запыт. Людзі ж усе на ўліку, і не можа быць, каб пра яго не ведалі. — Лейтэнант раптам прапанаваў: — Калі хочаце, то давайце я запытаю. Толькі тады мне трэба запісаць усе яго дадзеныя. — І ён зноў сеў.
Стары паспешна сказаў:
— Не, дзякуй вам, але мы самі напішам куды трэба. Дзякуй за параду, мы людзі цёмныя і дайсці сваім розумам да гэтага не змаглі. Жывём сабе ціха і плачам па вечарах па сваім сыночку, які жыцця не пашкадаваў дзеля савецкай улады.
«Бач ты як загаварыў, «цёмны» чалавек!» — са злосцю падумаў Новікаў, але выгляду не падаў і, устаючы, сказаў:
— Глядзіце, справа ваша. А вось што да афармлення дакументаў і прапіскі, то паспяшайцеся. Самі ведаеце, у мяне таксама начальства ёсць, і яно ад мяне патрабуе, каб парадак быў.
Ён выйшаў з двара і закрочыў да суседняй хаты.
Лейтэнант разумеў, што неабходна пабываць яшчэ ў трох-чатырох хатах, каб Юшэвічы, калі і пацікавяцца ў суседзяў, палічылі яго прыход звычайнай міліцэйскай справай. Не бачыў, дый не мог бачыць Новікаў, што, калі ён знаходзіўся ў хаце Юшэвічаў і размаўляў з гаспадарамі, праз невялікую, яшчэ не заладжаную ў перагародцы шчылінку, з суседняга пакоя за ім насцярожана назіраў сярэдніх гадоў мужчына. Гэта быў Якаў. І калі Новікаў сышоў, ён выйшаў да бацькоў, вылаяўся, са злосцю прагаварыў:
— Падла лягавая! Лазіць тут, дапамога сваю прапануе! Трапіўся б ён мне гадкі чатыры назад. Ураз бы з яго душу вытрас.
Да Яшкі падышла маці:
— Супакойся, Яшачка, усё будзе добра.
Яе падтрымаў бацька:
— Ніхто ж не ведае, кім ты быў пры немцах. Дзякуй богу, нікога з вяскоўцаў у жывых не засталося. Толькі ты будзь асцярожней, глядзі там, не лезь на ражон.
— А я і не лезу. Але ж вам грошы трэба. Вунь якую даміну на мае грошы адгрукалі. — Ён памаўчаў трохі і з непрытоенай злосцю дадаў: — Нічога, з Саветамі мы яшчэ паквітаемся. — Павярнуўся да бацькі: — Давай вып’ем!

## 28

## Маёр міліцыі Алтынін

Алтынін запрасіў да сябе ў кабінет Лагуту і адразу ж перайшоў да справы:

— Ты разумееш, Іван Епіфанавіч, я турбуюся за нашых. Ужо вельмі яны далёка адгэтуль, хачу з табой параіцца. Давай яшчэ раз прааналізуем сведчанні Мартава. Па-першае, яны сапраўды шукаюць магчымасць здабыць дакументы і хочуць гэта зрабіць, хутчэй за ўсё, шляхам забойства. Таму яны і прасілі Мартава пазнаёміць іх з адзінокімі людзьмі.

— А не могуць яны забіць самога Мартава?

— Я таксама пра гэта падумаў, але лічу, што калі яны і маюць намер гэта зрабіць, то значна пазней.

— Чаму?

— Бачыш, забіўшы Мартава, яны ніякай карысці ад яго дакументаў мець не будуць. Міліцыя будзе шукаць забойцу. Калі нават яны труп і схавалі б, то ўсё адно сваякі заявілі б, што чалавек знік. А гэта значыць, што карыстацца яго дакументамі нельга. Іншая справа адзінокі, ды яшчэ лепш з ліку прыезджых, які звольніўся. Хто яго шукаць будзе? Практычна — ніхто. Калі б Мартаў знайшоў для іх адзінокага чалавека, — Алтынін задумаўся, як заўсёды ў такіх выпадках, паскубваючы сябе то за вус, то за бараду, — то яны маглі б прыбраць і Мартава як непатрэбнага і ўжо небяспечнага для іх сведку. Як лічыш, правільна я разважаю?

— Па крайняй меры, лагічна. Але нам нельга забываць, што злачынцы цяпер знаходзяцца ў раёне Светлага і Станавога і менавіта там яны ўяўляюць найвялікшую небяспеку.

— Я таксама пра гэта думаю, — злосна перабіў Лагуту начальнік і зноў тузануў сябе за бараду. — Таму і раюся з табой. Тым больш, калі яны там круцяцца, значыць, і золатам напэўна не завалодалі. — Алтынін зноў зрабіў невялікую паўзу, а затым нібы падагульніў: — Будзем лічыць, што я раздумаў і ты не будзеш катацца ў кузаве машыны Мартава. Гэта даручым каму-небудзь іншаму. А ты бяры дванаццаць чалавек — людзі з Кемерава ўжо прыбылі — і едзь у Станавое. Твая задача: асталявацца недалёка ад Станавога. Старшыня сельсавета ў курсе справы. Ён кажа, што ёсць недалёка ад сяла некалькі закінутых паляўнічых хатак, там можна спыніцца. Паглядзіш на месцы, магчыма, ёсць сэнс размясціцца пад якой-небудзь падставай і ў самым сяле. Карацей кажучы, вырашыш на месцы. Галоўнае — хутчэй апынуцца там.

— Як нам даехаць туды?

— Вашу групу давядзецца разбіць на дзве часткі. Адна, у тым ліку ты, паедзе на машыне праз Пасху, міма скрыжавання. Гэта далей, чым тая дарога, па якой паехалі Славін і Сімоха, але ў часе вы выйграеце, бо дарога добрая. А другая група — чатыры чалавекі — паедзе верхам на конях тым жа шляхам, што і Славін з Сімохам. Прызнач у гэтай групе старшага і дамоўся пра месца сустрэчы.

— Калі выязджаць?

— Сёння і як мага хутчэй.

## 29

## Капітан Буравін

Славін, які стаіўся ў сене, зразумеў, што перасцярогі Буравіна пацвердзіліся.

Наперадзе, трымаючы адной рукой коней за аброць, а ў другой абрэз, стаяў Дрозд. Злева ад санак з двухстволкай — старэйшы Солах і ўхмыляўся,

побач з абрэзам напагатоў — Грышка, а справа ў трох метрах — чацвёрты і таксама з абрэзам. «Мельнікаў, — пазнаў яго капітан і падумаў: — Сапраўды як на фота, што прывёз Славін».

Капітан, сустрэўшыся тварам у твар з бандытамі, адразу ж стаў спакойным. Убачыўшы іх усіх у зборы, ён зразумеў, што яго дзецям і жонцы нічога не пагражае. Ну, а за сябе ён не хваляваўся, такая ўжо ў яго работа, калі трэба, то без страху глядзець на рулі абрэзаў, у гэту хвіліну накіраваных яму ў грудзі. Ён ацаніў становішча адразу ж. Калі цяпер падаць сігнал Славіну, то бандыты раней за яго паспеюць націснуць на куркі. Буравін спакойна спытаў:

— І што гэта вы як разбойнікі на чалавека накідваецеся, вунь коней спалохалі.

Капітан паспрабаваў вылезці з саней, але Мельнікаў грозна крыкнуў:

— А ну, падла, не варушыся, ураз прышыю на месцы!

— Чаго ты казырышся? — міралюбна прагаварыў участковы. — Калі спынілі мяне, а не стралялі з-за кустоў, значыць, пагаварыць хочаце. Дык ты і гавары са мной па-чалавечы, а не рыкай.

Малодшы Солах загадаў:

— А ну, рукі ўгару!

— Калі ласка, — Буравін падняў рукі.

Грышка паглядзеў на Мельнікава:

— Ромка, падыдзі да яго з правага боку і дастань з кабуры пістоль.

Буравін хацеў сказаць, што ён не браў з сабой пісталет, але раздумаў. Бандыты, напэўна, не павераць і пачнуць шукаць у сене, а там Славін. Капітан павярнуў галаву на Мельнікава:

— Пісталет ляжыць у мяне справа на сене, вось паглядзі.

Мельнікаў узяў пісталет, праверыў кабуру і, вылаяўшыся, прабурчаў:

— Глядзі, лягавы, нават да сустрэчы прыгатаваўся, учуў, гад!

Буравін ліхаманкава думаў: «Цяпер, абяззброіўшы, яны будуць меней уважлівыя, трэба дзейнічаць!» Ён вычакаў, пакуль Мельнікаў, адыходзячы ад саней, павернецца да яго бокам, і гучна падаў сігнал:

— А, гэты ты, Грышка!

Буравін кінуўся на Мельнікава і спрабаваў падмяць пад сябе, адабраць пісталет, але гэтага не атрымалася. Яму ўдалося толькі моцна пхнуць Мельнікава ў бок, і яны абодва зваліліся на снег.

Усе трое бандытаў у гэты момант глядзелі на іх, і калі Славін ускочыў на ногі і накіраваў у іх бок аўтамат, яны на імгненне аслупянелі. Але Дрозд тут жа кінуўся ад каня ў бок і стрэліў. Куля прасвістала побач з галавой Славіна. Лейтэнант даў кароткую чаргу. Буравін прыўстаў трохі і ўсім целам наваліўся на Мельнікава. Ён не бачыў, як пасля першых стрэлаў коні рванулі санкі, і Славін кулём паляцеў у снег. Стрэлы стрэльбы і абрэза Солахаў зліліся ў адзін. Карцеч і куля ўздыбілі вакол Славіна снег, ён, лежачы на спіне, даў чаргу ў бок Солахаў і пасля гэтага ўстаў на калена.

— Ні з месца, кідай зброю!

І тут малодшы Солах кінуўся да кустоў, Славін ускінуў аўтамат, але страляць не змог, бо паміж ім і ўцекачом аказаліся Буравін і Мельнікаў. Уладзімір убачыў, што Мельнікаву ўдалося вывернуцца з-пад участковага і зараз яны, сашчапіўшыся, ляжалі побач, але рука бандыта цягнулася да пісталета, які валяўся на снезе. Уладзімір ірвануўся да іх і з размаху стукнуў прыкладам Мельнікава па галаве. Той змяк, а лейтэнант зноў узяў на прыцэл старога і ляжачага на снезе ўніз тварам Дразда.

— А ну, дзед, кідай стрэльбу!

Солах адкінуў у бок стрэльбу і грузна апусціўся ў снег. Славін, пераканаўшыся, што Мельнікаў ужо не ўяўляе бяспекі, асцярожна пачаў набліжацца да Дразда.

— Хопіць ляжаць, зараз і пасядзець можна.

Але Дрозд маўчаў. Лейтэнант абышоў яго і толькі зараз убачыў каля галавы вялікую крывавую пляму. Славін перавярнуў Дразда ўверх тварам — мёртвы! Азірнуўся — на снезе з паднятымі рукамі сядзелі стары і Мельнікаў, а ззаду іх з пісталетам напагатоў ўжо стаяў Буравін.

— Лейтэнант, а Грышка дык уцёк! — засмучана сказаў ён.

Славін крута павярнуўся, падбег да ўчастковага і сунуў яму аўтамат.

— Вядзіце іх да вёскі, а затым па маіх слядах пашліце людзей. Я — за ім! — Ён, на хаду выхопліваючы з кішэні ТТ, кінуўся ў лес.

— Уладзімір! — крыкнуў Буравін. — Будзь асцярожны. Ён можа стрэліць з-за дрэва.

— Не хвалюйцеся, ён ад мяне не ўцячэ!

Славін схаваўся за дрэвамі. Капітан падабраў стрэльбу Солаха, затым абрэз, які валяўся побач з трупам. Пазіраючы на затрыманых, думаў: «Што ж рабіць? Коні не мае, яны, супакоіўшыся, наўрад ці вернуцца сюды. Хутчэй за ўсё, у Светлае прыбягуць. У санках ляжаць запасныя аўтаматныя дыскі, і той, хто затрымае коней, будзе шукаць мяне, каб паведаміць пра іх. Але дзе ў мяне гарантыя, што коней зловяць? Можа, яны на скрут галавы ўжо пранесліся праз сяло і цяпер імчацца далей? Не, трэба весці затрыманых у Светлае і думаць як дапамагчы Славіну».

Буравін зламаў вялікую галінку і ўторкнуў яе побач з забітым. Яна будзе добрым арыенцірам, калі пойдзе снег. Капітан павесіў на шыю аўтамат, закінуў на левае плячо стрэльбу і абрэз. Суха загадаў:

— Устаць! — Мельнікаў і Солах усталі. — Цяпер мы пойдзем… — Капітан запнуўся: «А чаму ў Светлае? Туды, праўда, крыху бліжэй, але ў Станавым жа і сельсавет, і тэлефон, і памагатыя ёсць. Нельга забываць, што ў Светлым у доме Дразда ёсць людзі, і там пазней вобыск трэба рабіць. Убачыўшы мяне з затрыманымі, могуць прыхаваць». — Буравін кашлянуў і гучна дадаў: — У Станавое. Пойдзеце наперадзе мяне на пяць крокаў. Папярэджваю, любое непадпарадкаванне і вы адправіцеся ўслед за Драздом. Ясна?

Відавочна, хуткія і рашучыя дзеянні работнікаў міліцыі добра пераканалі бандытаў у тым, што супраціўленне бескарыснае, і яны паспешна заківалі галовамі…

## 30

## Славін

Славін бег па глыбокім снезе, імкнучыся трапляць нагамі ў сляды, пакінутыя Солахам. «Нічога, галубчык, — думаў Уладзімір, — ты п’еш, я — не, ты курыш, а я не. Ты не ведаеш нават, што такое фізпадрыхтоўка. Дык куды ж ты дзенешся?» І Славін лёгка бег па следзе. Яго хвалявала толькі тое, каб Грышка не выбег на дарогу, тады сляды згубяцца. Неўзабаве Славін заўважыў, што даўжыня крокаў Солаха стала меншай. «Ага, ужо дыханне падводзіць!» — падумаў лейтэнант і пабег побач з ланцужком слядоў, бо ён працягваў бегчы ў тым жа тэмпе і зараз не мог трапляць след у след.

Наперадзе паказаўся хмызняк, туды і вёў след. Уладзімір узяў лявей, агінаючы кусты, і трымаў іх пад прыцэлам. Хто ведае, можа, менавіта ў гэту хві-

ліну Солах, выбіўшыся з сілы, вырашыў перадыхнуць і, схаваўшыся ў кустах, як зацкаваны звер, глядзіць назад: ці не пакажацца пагоня. А гэта значыць, можна напароцца на яго кулю.

Абабегшы хмызняк, лейтэнант перш за ўсё праверыў, ці ёсць сляды. «Так, вось яны! Тады наперад!» І аператыўнік тым жа размашыстым крокам пабег далей. Ён добра бачыў, што ўцякач ужо не бег, а ішоў. Значыць, трэба быць асцярожным, той можа пачуць яго, і тады без перастрэлкі не абысціся.

Наперадзе зноў паказаўся хмызняк, і зноў Славін пачаў забіраць лявей. Абмінуўшы яго, ён адразу ж убачыў ланцужок слядоў. Уладзімір прасачыў іх позіркам і раптам убачыў злачынцу. Той ішоў метрах у ста пяцідзясяці і пакуль не бачыў свайго праследавальніка.

Славін, стараючыся менш шумець, бег па цаліку, даганяючы яго. Солах тым часам азірнуўся. Славін выразна ўбачыў пару, што валіла з яго рота, пакрыты інеем твар і каўнер паўкажушка. Грышка ўскінуў абрэз і пачаў цэліцца. «Нічога, на такой адлегласці з абрэза не так лёгка пацэліць», — падумаў Славін і некаторы час бег недалёка ад дрэва. Гулка гакнуў стрэл, але свісту кулі лейтэнант не пачуў. Ён стаў за дрэва і сунуў пісталет у кішэнь паўкажушка. Адлегласць паміж імі была метраў восемдзесят, для прыцэльнага агню з пісталета далекавата. Славіну не хацелася паказваць бандыту, што асцерагаецца яго, і Уладзімір, заўважыўшы ў метрах дзесяці наступнае дрэва, рвануў да яго. Толькі схаваўся за хвою, як у яе ўпілася куля. Уладзімір выглянуў і знайшоў гэта месца. Прыкінуў: «Глядзі ты, калі б не дрэва, як раз бы зноў у жывот». І нібы заныла старая рана. Ён успомніў той бой з немцамі ў вёсцы. Тады таксама была зіма, ён бег уздоўж плота — раптам удар, і ў вачах паплыла чырвоная смуга… «Не, гад, калі немцы мяне не забілі, то і ў цябе гэта не атрымаецца», — раззлаваўся Славін і рвануў да наступнай хвоі, каб схавацца за ёй, але ўбачыў, што Солах пабег. Уладзімір кінуўся за ім. Неўзабаве адлегласць паміж імі скарацілася да сарака — пяцідзесяці метраў. Солах ужо, напэўна, выпусціў абойму, таму што цяпер, стоячы за тоўстым дрэвам, важдаўся з абрэзам. Лейтэнант, не губляючы часу, зноў пабег, але калі ўбачыў, што бандыт падняў сваю зброю, стаў за дрэва. «Зараз ужо можна весці агонь, — падумаў ён, прыкідваючы адлегласць. — Метраў дваццаць пяць будзе». І крыкнуў:

— Слухай, Солах, няўжо ты думаеш уцячы? Здавайся!

— А гэтага ты не хочаш? — зло адазваўся Грышка, паказваючы кукіш. Потым вылаяўся і стрэліў.

А Славін тут жа перабег да наступнага дрэва. Сунуў руку за пазуху, адаграваючы яе, і зноў крыкнуў:

— Ты ж нікуды не дзенешся! Па-добраму кажу, здавайся!

— Таксама мне, спагадлівы знайшоўся. Я такіх, як ты, у труне бачыў.

— Слухай, Грышка, пакуль не позна, адумайся! Калі адкрыю агонь, табе кепска будзе.

— Ні храна! Мы тут у тайзе з табой удвух. У мяне пушка магутней за тваю, і я цябе, лягавага, прашыю!

Не адказваючы, Славін кінуўся да наступнага дрэва, і зноў раздаўся стрэл. Уладзімір паспеў убачыць, як куля падняла ў метры ад яго справа невялікі снежны фантанчык. Зараз паміж імі было не больш як дваццаць метраў. Уладзімір разумеў, што трэба быць вельмі асцярожным. Дзіўнае пачуццё авалодала ім. Звычайна маўклівы, ён, ці то ад усведамлення таго, што нагнаў усё ж злачынцу і не даў яму схавацца, ці то ад таго, што зноў адчуў сябе як у баі, нечакана павесялеў і разгаварыўся:

— Дурань ты неачэсаны! Бачыш, я яшчэ ні разу не стрэліў, а ўжо амаль побач з табой. Паўтараю, адумайся, пакуль не позна!

— А што позна? Мяне ўсё адно вышка чакае! Не, мільтон, я свой лёс буду выпрабоўваць да канца, жывым не дамся!

Лейтэнант вырашыў, што час і яму паказаць сваё майстэрства ў стральбе. У афіцэрскай школе ён быў адным з лепшых стралкоў з пісталета і аўтамата. Уладзімір паварушыў пальцамі, рука адагрэлася, і зараз кожны палец быў гнуткі і паслухмяны.

Славін узяў на мушку дрэва, за якім стаяў бандыт. Не, ён не хацеў Солаха забіваць. Вырашыў, што пакуль трэба толькі прыстрашыць яго, паказаць, што пісталет у руках вопытнага стралка — выдатная зброя. Вычакаў, пакуль на імгненне Солах вызірнуў з-за дрэва, і тут жа націснуў на кручок. Куля выбіла кару як раз там, дзе толькі што мільганула галава бандыта.

— Солах, я зрабіў першы папераджальны стрэл, каб ты пераканаўся, як я страляю. Прапаную яшчэ раз, калі хочаш пажыць хоць бы да суда, здавайся! Я цябе цяпер трымаю пад прыцэлам і не дам нават высунуцца з-за дрэва, не тое каб бегчы.

— Але і ты, падла, не падыдзеш да мяне! — адказаў з-за дрэва Солах і зноў вылаяўся.

Славін азначыў дрэва, якое стаяла ледзь правей, метрах у пяці, і, стрэліўшы, рвануў да яго. Зваротны стрэл прагучаў, калі ён прыліп да ствала. «Парадак! — радасна падумаў лейтэнант. — Зараз метраў пятнаццаць да яго засталося». Солах, каб не патрапіць пад агонь Славіна, схаваўся за ствол.

А аператыўнік абдумваў становішча. Паміж імі былі толькі тры тоненькія, маладзенькія хвоі, і схавацца за імі было немагчыма. Мяркуючы па ўсім, Солах хацеў пратрымацца да цемры, а затым адарвацца ад свайго праследвальніка.

Славіна пакуль задавальняла і гэта, бо ён спадзяваўся, што Буравін, даставіўшы затрыманых у сяло, адразу ж арганізуе пагоню па слядах. У гэтай сітуацыі лейтэнант вырашыў паспрабаваць абысці злачынцу з фланга і адрэзаць яму шлях да адступлення.

«Калі гэта ўдасца, — думаў ён, — тады я прымушу яго павярнуцца спінай туды, адкуль павінны з'явіцца нашы».

Уладзімір нагледзеў дрэва, за якое можна схавацца. Яно знаходзілася справа, метрах у дзесяці. «Цяпер трэба не дазволіць яму весці прыцэльны агонь. — Лейтэнант бачыў, што бандыт уважліва сочыць за ім. — Цяпер я прымушу цябе схаваць морду за дрэва». І Славін пачаў старанна цэліцца прама ў ствол абрэза, які тырчаў з-за дрэва. Ён разлічваў, што калі яму ўдасца патрапіць у ствол ці нават побач з ім, то на дзве-тры секунды бандыт будзе паралізаваны. Лейтэнант двойчы ўзапар стрэліў і пабег. Але паспеў зрабіць толькі першыя чатыры крокі, як Солах адказаў стрэлам і таксама перабег да наступнага дрэва.

Уладзімір, схаваўшыся за «сваім» дрэвам, з прыкрасцю падумаў: «Вось чорт! Напэўна, зразумеў маю задуму». А Солах у гэты момант кінуўся да наступнага дрэва. Славін, не думаючы, што акажацца на адкрытай мясцовасці, кінуўся следам. Грышка дабег да дрэва і, абярнуўшыся, пачаў цэліцца ў лейтэнанта. Славін, каб паспець дабрацца да хованкі, двойчы стрэліў. Бандыт вымушаны быў спешна схавацца за хвою, стрэліў і не папаў. Гэты кідок дазволіў аператыўніку скараціць адлегласць з бандытам да дзесяці — дванаццаці метраў. Але Славін быў засмучаны. Ён ужо растраціў шэсць патронаў — больш трэці ўсяго запасу. «Паспрабуй здагадайся, колькі патронаў у бандыта. — Лейтэнант вырашыў страляць толькі ў крайнім выпадку. — Хто ведае, колькі давядзецца яшчэ важдацца з ім».

Удалы кідок Славіна прывёў Солаха ў шаленства. Ён, трымаючы пад пры-

цэлам дрэва, з-за якога асцярожна выглядаў яго праследвальнік, выдаў чарговую порцыю мацяршчыны і люта закрычаў:

— Ну, што ж ты, сука, не ідзеш? А, баішся?!

«Нервы, нервы, галубок, — падумаў Славін, — падводзяць яны цябе. А раптам ты лічыш, колькі я расходаваў патронаў, і паспрабуеш мяне атакаваць, калі я буду мяняць абойму? У мяне ў ствале адзін патрон, і адзін застаўся ў абойме. — І Уладзімір вырашыў пайсці на хітрасць. — Калі ты лічыш стрэлы, то цяпер я куплю цябе!»

Лейтэнант схаваў зброю ад Грышкі і замяніў абойму. Пісталет гатовы быў выпусціць дзевяць куль запар.

Уладзімір паглядзеў на неба. Хутка вечар. Трэба было дзейнічаць актыўней. Славін прыцэліўся і стрэліў у тую частку ствала, дзе хаваўся твар Солаха, а сам пабег зноў правей. Грышка празяваў рывок аператыўніка і не стрэліў. А Славін прыкмеціў наступнае дрэва і падумаў: «Калі дабяруся да яго, то прымушу яго павярнуцца спінай туды, адкуль мы прыйшлі».

Солах, напэўна, разгадаў думкі аператыўніка. Ён істэрычна закрычаў:

— Што скачаш, як блыха па споднiках? Калі яшчэ раз выскачыш, то прашыю наскрозь!

А Славін, нібы цвелячы яго, стрэліў і кінуўся да наступнага дрэва.

— А, падла! — крыкнуў Солах і нечакана кінуўся да лейтэнанта…

## 31

## Міхаіл Якаўлевіч Буравін

Буравін вёў наперадзе сябе старога Солаха і Мельнікава, ні на секунду не адрываючы ад іх вачэй. Яны ішлі побач. Мельнікаў зрэдку мацюкаўся, шкадуючы, што так лёгка яны папаліся. Стары маўчаў. Яго, відавочна, ашарашыла смерць старога сябрука і сваяка Дразда. Як ні прыспешваў іх Буравін, да сяла дабіраліся больш за гадзіну.

Нарэшце былі на месцы. Каля сельсавета Буравін паставіў іх тварам да глухой сцяны і загадаў Мельнікаву падняць рукі. Капітан разумеў, што найбольшую небяспеку ўяўляў менавіта Раман, які, вядома, шукаў любую магчымасць, каб паспрабаваць збегчы.

З хаты выскачылі людзі. Яны дапамаглі капітану звязаць рукі Мельнікаву, забралі патранташ, які вісеў у старога пад кажухом. Буравін зарадзіў адабраную ў Солаха стрэльбу і працягнуў яе аднаму з калгаснікаў, які ўсе гэтыя дні актыўна дапамагаў работнікам міліцыі:

— Трымай, Захар Ільіч! Ахоўвай іх пакуль.

Другога аднавяскоўца капітан паслаў да сябе дахаты па сяржанта Сімоху, а сам адышоў у бок са старшынёй сельсавета, расказаў яму, што адбылося.

Буравін аддаў Сімоху, які прыбег, аўтамат і даручыў яму і яшчэ двaім актывістам замкнуць бандытаў кожнага ў асобны свіран і ахоўваць іх, а сам увайшоў у памяшканне сельсавета, дзе старшыня сабраў чалавек пятнаццаць, якім давяраў. Міхаіл Якаўлевіч, хвалюючыся за лёс Славіна, сцісла расказаў пра тое, што здарылася, і адразу ж пачаў даваць даручэнні. Двух актывістаў ён накіраваў ахоўваць хату старога Солаха, двух — адправіў у вёску Светлае, каб там з мясцовымі жыхарамі знайсці тых коней, што ўцяклі. Яшчэ двaім мужчынам капітан даручыў назіраць за хатай Дразда. Трое калгаснікаў павінны былі паехаць у лес і даставіць яго труп у Станавое. Астатнім Буравін прапанаваў хутчэй узяць стрэльбы і разам з ім накіравацца на пошукі Славіна і Грышкі.

Людзі без лішніх размоў разыходзіліся выконваць заданні.

## 32

## Лейтэнант Славін

Славін убачыў, як Солах, мацюкаючыся, кінуўся да яго, і на імгненне нават разгубіўся. Але тут жа прыйшоў у сябе і ўзяў на мушку бандыта:

— Кідай зброю ці страляю!

І тут лейтэнант дапусціў памылку. Ён выйшаў з-за дрэва, рыхтуючыся да рукапашнай сутычкі, а Солах у гэты момант стрэліў. Уладзімір адчуў удар у левае плячо і, яшчэ не разумеючы, што паранены, прыцэліўся ў Солаха, які ледзь прыпыніўся, каб перавесці затвор і паслаць чарговы патрон у патроннік. У прыцэле апынулася галава злачынцы, але ў апошні момант лейтэнант перавёў мушку на яго правае плячо і націснуў курок. Солах здрыгануўся і выпусціў абрэз, але тут жа нахіліўся, каб падняць яго левай рукой. Лейтэнант рвануўся да яго і пісталетам стукнуў па галаве. Солах зваліўся. Уладзімір наступіў нагой на абрэз:

— Ні з месца, гадзіна! Паварушышся толькі — адразу прашыю, — лейтэнант стрэліў у паветра, даючы зразумець злачынцу, што той памыліўся ў разліках.

Солах, заціскаючы рукой рану на правым плячы, здзіўлена спытаў:

— Слухай, мільтон, колькі патронаў у тваёй пушцы?

— Больш чым трэба, каб адправіць цябе на той свет. А ну, павярніся да мяне спінай! Толькі не ўздумай уставаць на ногі!

Солах, працягваючы трымацца рукой за рану, мацюкаючыся, павярнуўся.

Уладзімір адчуваў, што левая рука становіцца непаслухмянай. Толькі зараз ён успомніў пра штуршок і зразумеў, што паранены. Па расплывістай на рукаве цёмна-чырвонай пляме вызначыў, што куля патрапіла ў перадплечча. Лейтэнант разумеў, што б там ні стала трэба спыніць кроў, але бінту не было. Сунуўшы пісталет у кішэнь так, каб яго можна было ў любое імгненне выхапіць, ён падняў абрэз і націснуў курок. Солах ад стрэлу здрыгануўся і спалохана павярнуў галаву да Славіна.

— Не аглядацца, — загадаў Уладзімір.

Грышка зласліва прашыпеў:

— Апошні мой патрон.

«Дык вось чаму ён вырашыў рызыкаваць, — падумаў Славін, прыстаўляючы абрэз да дрэва. — Значыць, ён лічыў мае стрэлы і хацеў апошнім патронам вырашыць справу».

Уладзімір, ледзь стрымліваючыся, каб не застагнаць, расшпіліў паўкажушак і зняў яго з сябе. Затым расшпіліў пінжак, выцягнуў са штаноў кашулю і зубамі адарваў вялікі кавалак тканіны. Потым з вялікай цяжкасцю зняў пінжак, вычакаў некалькі мінут, каб пацішэў боль, дапамагаючы сабе зубамі, сяк-так перавязаў рану. Перавязаўшы, накінуў на плечы пінжак, затым паўкажушак. Праверыў, ці на месцы пісталет, і падышоў да Солаха:

— Давай дапамагу перавязаць рану.

Грышка зверам зірнуў на яго і, нічога не кажучы, са стогнам пачаў расшпільваць гузікі паўкажушка. Славін дапамог яму зняць адзежу, затым яны абодва: адзін, дзейнічаючы правай, другі — левай рукой, адарвалі ад кашулі злачынца кавалак тканіны і перавязалі яму руку.

— Так, — прагаварыў, устаючы на ногі, Славін, — зараз рушым па нашым следзе назад.

Солах таксама падняўся і глуха спытаў:

— А калі я не пайду?

Славін, адчуваючы моцнае галавакружэнне і слабасць, вырашыў абрэз з сабой не браць, яго можна было забраць пазней, ціхім і спакойным голасам сказаў:

— Паслухай, Солах, я цябе пашкадаваў і не забіў, як гадзіну падкалодную. І цяпер ты будзеш рабіць усё, што я загадаю. У адваротным выпадку я змушаны буду цябе прыстрэліць. Сам бачыш маё становішча, і, калі ты не выканаеш маё патрабаванне, я вагацца не стану.

Солах вылаяўся і рушыў па сваіх слядах. Уладзімір увесь час прыспешваў яго, але абодва ад страты крыві моцна саслабелі і рухаліся павольна.

Так яны прайшлі метраў чатырыста. Наперадзе паказаўся ланцуг людзей. «Нашы! — радасна падумаў Славін. Ён пазнаў Буравіна. — Як у атаку падчас бою ідуць, ланцугом». І павольна апусціўся на снег…

## 33

## Аляксей Купрэйчык

Упершыню за ўсе гэтыя дні ў хаце Прутава сабраліся ўсе сябрукі Карунова. Зласлівая і бурклівая Лідка, па мянушцы Магіла, сядзела насупраць Купрэйчыка і гучна папракала ўсіх у бяздзейнасці:

— Папомніце мяне, калі мы цяпер не папрацуем, хутка наступяць цяжкія для нас дзянькі. — Яна шпурнула на стол алюмініевы відэлец. — У горадзе з’яўляецца ўсё больш лягавых, у крымінальным вышуку — маладыя, цэпкія, як зараза, аператыўнікі. Іх зараз у спецыяльных школах навучаюць.

— А дзе ты хацела, каб іх навучалі, у будаўнічых тэхнікумах, ці што? — з поўным ротам спытаў Дзімка.

— Ды я не пра гэта, — млява адмахнулася рукой Магіла. — Пакуль не позна, нам трэба пажывіцца, а затым разбегчыся ў розныя бакі і пачынаць жыць.

— Што, завязаць вырашыла? Ці не рана? — спытаў Прутаў.

— Я лічу, што трэба яшчэ паўгодзіка пашухарыць, а потым заціхнуць на час, пажыць трохі, а там відаць будзе. — Яна павярнулася сваім кашчавым целам да Карунова. — Вось ты, Воўка, адразу ж калі немцы драпанулі з горада, што казаў? А? Забыўся, нябось? А ты казаў, што тры-чатыры гады, пакуль неразбярыха ў горадзе будзе, пашухарым, напакуем кішэні золаткам, абжывёмся шмоткамі і завяжам! Ці не так?

— Я не гэта меў на ўвазе, — запярэчыў Каруноў, — калі я прывёў сюды Дзімку — а гутарка адбывалася ўлетку сорак чацвёртага ў гэтай жа хаце, — то мы дамаўляліся, што разам тры-чатыры гады палазім па горадзе, а затым разыдземся, як у моры караблі, і кожны будзе жыць па-свойму, як захоча. Асабіста я завязваць не думаю, можа, радзей на макруху толькі буду хадзіць. А што да крадзяжоў, то, выбачайце, мадам, пасуньцеся, завязваць не буду. Як ты лічыш, Дзімка?

Купрэйчык уважліва сачыў за ўсімі, асабліва за Магілай і Арыхай, якіх бачыў толькі двойчы, і цяпер стараўся лепей запомніць. Праўда, ён вялікія надзеі ўскладаў сёння на фотаапарат. Купрэйчык расказаў прыдуманую легенду пра тое, як яму ўдалося на вакзале выкрасці ў нейкага афіцэра фотаапарат, адкрыў яго, і ўсе ўбачылі, што фотаапарат без плёнкі. Пасля гэтага Аляксей, як бы дурэючы, накіроўваў фотаапарат на прысутных і пстрыкаў затворам. Спачатку ўсе, асабліва Магіла, куражыліся, рабілі рожы, але потым прывыклі да яго жартаў і не звярталі на «фатографа» ўвагі. Купрэйчык выйшаў на хвіліну з-за стала і ў іншым пакоі імгненна зарадзіў фотаапарат. Працягваючы пстрыкаць ім, ён смяяўся, патрабаваў ад кожнага зрабіць строгі твар, каб атрымалася

«саліднае фота для асабістай справы ў цюразе». У душы Аляксей хваляваўся, што здымкі могуць атрымацца невыразнымі з-за слабога асвятлення. Таму ён так узмоцнена і імкнуўся запомніць прыметы Дзімкі і Лідзіі. Калі Купрэйчык адклаў у бок апарат, то ўжо каторы раз у думках паўтараў прыкметы гэтых людзей: «Дзімка: узрост — трыццаць пяць-трыццаць сем, рост — метр семдзесят пяць, твар авальны, на левай шчацэ невялікая радзімка, вочы блакітныя, вузкія. Лідка: узрост пад сорак, твар хударлявы, вочы чорныя, рост сярэдні, апранута ў чорны трусіны кажушок, белая вязаная ваўняная хустка».

Раптам Купрэйчык напружыўся. Ён пачуў, як Каруноў спытаў у Лаб’янавай:

— Лідка, што ты знайшла ў адміністратаркі?

Лідка ўхмыльнулася:

— У «сяброўкі» маёй? А вунь, усё ў торбе ляжыць. — Яна кіўнула ў кут, дзе стаяла невялікая дзермацінавая торба. — Паказаць?

Лідка павярнулася да Купрэйчыка, які сядзеў з краю:

— Лёха, падай мне торбу.

Купрэйчык пацягнуўся за звычайнай невялікай гаспадарчай торбай, узяў яе за абедзве ручкі і перадаў Лідцы. Тая раскрыла і пачала выкладваць рэчы на стол побач з ежай і спакойным голасам пералічваць іх:

— Два пярсцёнкі залатыя, завушніцы, таксама, бачыш, з золата. Пярсцёнак мужчынскі, не разумею толькі, дзе яго дастала незамужняя жанчына.

— Яна яго замест мужа ў ложак клала, — п’яна ўхмыльнуўся Прутаў.

Затым Лідка выцягнула каўнер з чарнабуркі і перавязаны матузам папяровы пакет. Калі яна разгарнула яго, то ўсе ўбачылі, што там грошы. Прутаў прагна спытаў:

— Колькі?

— Дробязь, — нядбайна махнула рукой Лідка. — Крыху больш як пятнаццаць тысяч.

— Як ты з ёй справілася?

— Звычайна, як заўсёды. Яна як была ў камбінашцы, так і засталася ў ёй.

— Адважная ты баба, — прагаварыў Каруноў і запнуўся. Нечаканы стук у акно адразу ўсіх насцярожыў.

— Можа, жонка? — прамармытаў, устаючы, Прутаў. Ён накіраваўся ў калідор, а ўсе астатнія замерлі ў чаканні. У калідоры пачуўся шум знадворных дзвярэй, якія адчынялі, і неўзабаве ў кухню ўслед за Прутавым увайшоў Драбуш, а за ім… сын Мані Жовель.

Купрэйчык так разгубіўся, што нават імя хлопца забыўся.

Драбуш быў падвыпіўшы, ён ветліва прывітаўся з кожным за руку і сказаў Прутаву:

— Іван, я хачу забраць у цябе свае сані…

Але яму не даў дагаварыць Каруноў. Ён, калупаючыся пальцам у зубах, кіўнуў на хлопца і зло спытаў:

— Навошта ты гэтага байструка сюды прывёў?

Толя, убачыўшы Купрэйчыка, таксама разгубіўся. Ён ніяк не мог зразумець, што можа быць агульнага ў супрацоўніка міліцыі з гэтымі п’янюгамі і злодзеямі. Здавалася, што ён вось-вось пры ўсіх пра гэта спытае ў Купрэйчыка. Але яго адцягнуў Каруноў. Хлопец падняў на яго налітыя нянавісцю вочы і, ледзь стрымліваючыся, сказаў:

— А ты, дзядзька Вова, асцярожней словамі кідайся!

— А што? Можа, мне ў морду заедзеш? — засмяяўся Каруноў і пацягнуўся па бутэльку. — Міша, ідзі выпі з намі.

Толя паглядзеў на Драбуша.

— Ну што, піць будзеш ці пойдзем? А то мне не вельмі хочацца тут тырчаць.

Драбуш, не ўтрымаўшыся, стоячы, выпіў амаль поўную шклянку гарэлкі, але закусваць не стаў і павярнуўся да Прутава:

— Бяры ключ ад хлява і ідзём па сані, а то Толя пакрыўдзіўся і можа кінуць мяне. Сані ж, сам ведаеш, цяжкія, і аднаму мне да хаты іх не давалачы.

Прутаў, не апранаючыся, узяў ключ, і яны ўтрох выйшлі з кватэры. Купрэйчык перавёў дух: «Трэба ж так уліпнуць. Цяпер, галоўнае, каб ён Прутаву не сказаў, хто я».

Наступілі цяжкія хвіліны чакання. Аляксей рыхтаваўся да горшага. Ён схадзіў у суседні пакой, паклаў фотаапарат у кішэнь ватоўкі, якая вісела на цвіку, зарадзіў пісталет і сунуў яго за пояс пад пінжак. Паспрабаваў, ці зручна выхопліваць яго, і вярнуўся ў кухню. Цяпер сачыць за Прутавым, калі ён прыйдзе ў хату. Калі ён выкліча Карунова ў іншы пакой для гаворкі, значыць, Толя Жовель не ўтрымаўся і сказаў гаспадару пра Купрэйчыка. «Эх, хлопец! — з гаркатой думаў Аляксей. — І навошта цябе нялёгкая прынесла! Ну сцям ты, што нельга табе цяпер расказваць пра мне!»

У сенцах пачуўся шум, і ў пакой увайшоў Прутаў. Купрэйчык слізгануў поглядам па яго твары — ён спакойны. Той падышоў да стала і сеў на сваё месца. Наліў, выпіў і моўчкі пачаў закусваць. «Не сказаў, — з палёгкай уздыхнуў лейтэнант. — Малайчына хлопец! Усё ж выйдзе з яго добры чалавек».

Каруноў абвёў усіх вачамі і загаварыў:

— Хачу паведаміць, што нам падгарнулася сапраўдная справа. Хопіць хаты граміць і мецць за гэта дробязь. Я знайшоў для нас сапраўдную работку. Праз два тыдні на аўтазаводзе зарплата. Грошы касір і два ахоўнікі будуць атрымліваць у банку. Прыедуць яны туды на заводскім аўтобусе. За рулём старэча, былы старшына. Я ў яго раней на кватэры жыў.

— А чаму мы ў яго ў гасцях не былі? — п’яна ўхмыльнуўся Дзімка.

Каруноў нядбайна махнуў рукой:

— А ні храна ў яго няма. Жонку і тую немцы расстралялі. Дык вось, прапаную такі план: калі аўтобус будзе стаяць каля банка, а касір і ахова ўвойдуць у банк, я падыду да старога і завяду з ім гаворку. Пасля таго, як касір і ахоўнікі выйдуць з дзяржбанка і падыдуць да аўтобуса, вы нападаеце на іх. Ты, Дзімка, бярэш на сябе аднаго ахоўніка, ты, Лёха, — Каруноў перавёў позірк на Купрэйчыка, — бярэш на сябе другога. Лідка прашые касіра і забярэ мяшок з грашыма.

— А я? — устрывожана спытаў Прутаў.

— І табе работа будзе, — усміхнуўся Каруноў. — Ты падстрахуеш нас. Раптам у каго-небудзь штосьці не атрымаецца, ды і заадно прыкрыеш, калі хто-небудзь паспрабуе нам перашкодзіць.

— А не небяспечна каля банка? — спытала Магіла.

— Я думаю, што гэта самае ўдалае месца. Пісталеты ці вінтоўкі ахоўнікі напагатове і зараджанымі трымаць не будуць. А калі нам паспрабаваць спыніць іх дзе-небудзь па дарозе, то, па-першае, яны могуць не спыніцца, а па-другое, сустрэць нас свінцом.

— А калі ты падыдзеш да аўтобуса, шафёр нічога не западозрыць? — спытаў Купрэйчык.

— Не. Скажу, што выпадкова ўбачыў яго, пабалбачу пра тое, пра гэта, а калі загавораць вашы пушкі, я яго ва ўпор і гваздану, заадно не дам яму сунуць куды-небудзь ключ ад запальвання.

— Хто машыну павядзе? — пацікавіўся Аляксей.

— Я.

Купрэйчык увесь час ламаў галаву, як даведацца, дзе жывуць Каруноў, Арыха і Магіла.

Дзіўнае пачуццё ахоплівала Аляксея, калі глядзеў на Лаб'янаву. Перад ім сядзела жанчына, якая мела звычайны чалавечы выгляд, а вось назваць яе па імені, нават у думках, ён не мог. Ён так і зваў яе — Магіла. Цяпер, калі Лаб'янава загаварыла, Аляксей слухаў яе ўважліва, баючыся прапусціць хоць бы адно слова, бо любое з іх магло паведаміць дасведчанаму аператыўніку многае.

— Ведаеце, хлопчыкі, — размарылася яна, — калі ў нас атрымаецца гэта задума, то змыюся на паўгодзіка на поўдзень. Паверце, ні разу ў жыцці ў Сочах не была. Уяўляеце: сонца, цяпло, мора…

— І лахудра Магіла, — змрочна дадаў Каруноў. — Куды табе з тваімі косткамі ў Сочы?

— А, кінь, Воўка. З грашыма, што ў мяне з'явяцца, я буду выглядаць прыгажуняй нават у Парыжы.

Купрэйчык перасеў да Арыхі і Карунова і спытаў:

— Слухайце, хлапцы, у мяне неспакойна на душы. Дарма ты, Воўка, мальца пакрыўдзіў, як бы ён не стукнуў у кантору пра нас. Можа, разысціся, пакуль яшчэ не позна? Сцеражонага Бог сцеражэ. Я не баязлівец, але штосьці мяне грызе. Храновае прадчуванне, далібог.

— Ды кінь ты, чаго панікуеш! — нядбайна махнуў рукой Каруноў. — Толька — малец жалезны, гэтак жа як і яго маці — Маня Жовель.

— Слухай, Вова, а можа, мне пераначаваць сёння дзе-небудзь у іншым месцы? Самі ведаеце, браткі, што трапляць мне ў лапы лягавым усё адно, што адразу кулю ў лоб. Не, я тады пасплю дзе давядзецца, толькі не тут. Дарма ты, Воўка, мальца гэтага пакрыўдзіў. Вось возьме і стукне…

Каруноў і Арыха неспакойна пераглянуліся. Некаторы час памаўчалі. Потым Арыха паклаў руку на плячо Купрэйчыку:

— Збірайся, пойдзеш са мной.

А капітану гэтага толькі і трэба было.

Каруноў спытаў:

— Дзе вы будзеце начаваць?

— Не ў лазні ж, — ледзь прыкметна ўсміхнуўся Арыха, — там я толькі працую.

Неўзабаве пачалі разыходзіцца.

Спачатку сышлі Каруноў і Магіла, затым выйшлі з пакоя Арыха і Купрэйчык.

Некаторы час ішлі моўчкі. Цёмныя двары і вузенькія, засыпаныя снегам завулкі, не выклікалі жадання гаварыць. Нарэшце выйшлі на шырокую вуліцу. Купрэйчык пазнаў вуліцу Горкага, Арыха першым парушыў маўчанне:

— Нам дабірацца далёка. Давай паспрабуем злавіць машыну.

Яны доўга махалі рукамі машынам, што зрэдку праходзілі міма. Урэшце адна спынілася. Арыха падбег і адкрыў пярэднія дзверцы. У машыне быў толькі вадзіцель. Арыха паабяцаў яму немалую суму, і вадзіцель згадзіўся падвезці іх.

Машына развярнулася і паехала ў зваротны бок. Купрэйчык сядзеў на заднім шырокім скураным сядзенні «эмкі». Яму заўсёды падабаўся непаўторны, своеасаблівы пах скуры, бензіну і яшчэ чагосьці, уласцівага толькі машынам гэтага класа. Але цяпер ён злосна думаў пра вадзіцеля: «Чорт бы іх пабраў, гэтых левакоў. За лішнюю дзясятку гатовыя каго заўгодна і куды хочаш везці.

Зусім не думаюць пра тое, што ў любую хвіліну самі могуць стаць ахвярай. Чаго варта такому, як гэты Дзімка, цяпер парнуць яго нажом у бок?»

Ехалі доўга, і капітан ужо не пазнаваў тыя месцы, дзе яны праязджалі. Нарэшце машына спынілася. Арыха і Купрэйчык выйшлі і апынуліся ў поўнай цемры. Па агеньчыках, якія гарэлі ўдалечыні, Аляксей здагадаўся, што яны знаходзяцца на ўскраіне. Наперадзе таксама свяціліся агеньчыкі. Туды і накіраваўся Арыха. Купрэйчык рушыў следам. Праз некаторы час ён спытаў:

— Да каго мы ідзём?

Арыха памаўчаў трохі, а затым адказаў:

— Да адзінокіх старых. Не дрэйфі, у іх будзе спакойна.

Неўзабаве яны ўвайшлі ў двор вялікага дома. Дзесьці каля хлява забрахаў сабака. На яго нягучна прыкрыкнуў Арыха:

— Рэкс, у будку!

Брэх спыніўся, а Купрэйчык падумаў: «Ужо ці не да сябе дамоў ты мяне прывёў, галубок? Сабака, пачуўшы твой голас, адразу ж супакоіўся».

Яны падышлі да дзвярэй, і Арыха гучна пастукаў. Старэчы голас спытаў:

— Хто там?

— Я! Адкрывай, — глуха прагаварыў Арыха, і дзверы тут жа адчыніліся. На парозе ў ніжняй бялізне стаяў стары. Арыха не даў яму і слова сказаць: — Ідзі кладзіся. Дзверы я сам зачыню.

— Паесці што-небудзь даць? — спытаў стары.

— Не трэба. Мы сытыя.

Праз хвіліну яны апынуліся ў добра напаленай хаце. Стары павярнуў налева ў бакавыя дзверы, а Арыха, падсвечваючы сабе запалкай, прайшоў далей. Купрэйчык за ім. Яны патрапілі яшчэ ў адзін калідор, а затым, адкрыўшы глухія драўляныя дзверы, апынуліся ў вялікім пакоі. Дзімка падышоў да стала і запаліў газавую лямпу. Аляксей убачыў, што ў пакоі стаяць ложак і канапа. Арыха зняў з ложка адну падушку і коўдру, кінуў іх на канапу і сказаў:

— Кладзіся тут, а я — на ложку.

Перш чым заснуць, Купрэйчык падумаў: «Цікава, дзе і ў каго я знаходжуся?»

А начаваў ён у хаце бацькоў былога паліцая Яшкі Юшэвіча! Капітан не ведаў яшчэ многага, у тым ліку і таго, што Дзімка Арыха не хто іншы, як сам Яшка Юшэвіч, якога адшуквае Мачалаў.

## 34

## Маёр Мачалаў

Новікаву ў гэтыя дні было асабліва цяжка. Яму і следчаму пракуратуры Весялуху даручылі весці следства па справе Карунова. І асноўная нагрузка па зборы доказаў віны Карунова і яго сябрукоў лягла на іх.

На чарговай сустрэчы Купрэйчык перадаў Новікаву плёнку, на якой ён змог сфатаграфаваць усіх удзельнікаў злачыннай групы. Плёнку праявілі, і атрымаліся нядрэнныя здымкі. Весялуха і Новікаў, не лічачыся з часам, дапытвалі пацярпелых, якія засталіся ў жывых, іх суседзяў і іншых сведак, хто калі-небудзь бачыў ці мог бачыць злачынцаў, прад'яўлялі ім на апазнанне фатаграфіі. Людзі лёгка паказвалі тых, каго яны раней ведалі як кватарантаў пацярпелых. Аказалася, што больш іншых «уладкоўваўся» на кватэру Каруноў, па два разы — Арыха і Прутоў. Зараз заставалася «прывязаць» да забой-

ства адміністратара гасцініцы Бузанінавай Лаб'янаву. Адзіным сведкам, які мог пацвердзіць гэта, быў Гарбылеўскі.

Новікаў стаяў у сваім кабінеце і хваляваўся, чакаючы яго прыходу. Дзверы кабінета адкрылася, на парозе стаяў… Мачалаў.

Новікаў ускочыў з крэсла:

— Пётр Пятровіч! Вы што, уцяклі са шпіталя?

— Ніяк не. Я, дарагі таварыш лейтэнант, ужо далёка не ў тым узросце, калі ўцякаюць. Мяне выпісалі, праўда, узялі з мяне слова, што дома абавязкова далячуся і адлежу неабходны тэрмін.

Новікаў хітра ўсміхнуўся:

— І вы, вядома, скажаце, што ў аддзяленне проста выпадкова зазірнулі?

— Кінь, Ваня, чапляцца да начальства, — махнуў Мачалаў рукой і, не здымаючы паліто, сеў на крэсла, што стаяла недалёка ад горача напаленай печы. — Ну, давай, уводзь у курс справы.

— Зараз, але спачатку вы зніміце паліто, а то вам горача стане побач з «Марфутай».

— Вось тут, мабыць, твая праўда. — Мачалаў зняў паліто, шапку, павесіў іх у куце на самаробную вешалку, затым падышоў да печы, якой чамусьці апаратыўнікі далі мянушку «Марфута», дакрануўся да яе далонямі і, сядаючы на ранейшае месца, сказаў: — Сапраўды, такая «Марфута» разагрэе каго хочаш. Ну, як справы? Расказвай.

Новікаў падрабязна далажыў, як ідзе расследаванне. Ён падышоў да дзвярэй, праверыў, ці шчыльна зачынены, вярнуўся да стала і, панізіўшы голас, нібы яго хтосьці старонні мог пачуць, сказаў:

— Пётр Пятровіч, Купрэйчыку ўдалося высветліць, што Арыха працуе ў лазні на Старажоўцы, і яшчэ вось што… — Лейтэнант зрабіў паўзу і дадаў: — Аляксей Васільевіч бачыў у хаце Прутава і Арыхі маскі, вырабленыя з супрацьгазаў.

— Вось табе і на! А яму ўдалося пабываць дома ў Арыхі?

— Так. Але адраса ён не ведае. Справа ў тым, што дом стаіць на самай ускраіне і ні на ім, ні на суседніх хатах ніякіх таблічак з указаннем нумару і назвай вуліцы няма. Капітан упэўнены, што, калі спатрэбіцца, ён зможа знайсці гэты дом па памяці.

— А дзе жывуць Каруноў і Магіла?

— Невядома.

— Значыць, нам іх трэба браць толькі тады, калі яны паспрабуюць напасці на касіра, — задуменна прагаварыў Мачалаў, — а ты як лічыш, Іван Іванавіч?

— Я таксама так думаю. Толькі вялікую адказнасць мы на сябе возьмем. А раптам ім удасца забіць касіра ці каго-небудзь з яго аховы?

— Сапраўды…. Таму трэба прадумаць усё да апошняй дробязі. Дапусціць забойства ці хоць бы раненне каго-небудзь з людзей мы з табой, брат, не маем права. На тое мы і прафесіяналы, каб справу сваю рабіць бездакорна. Інакш, — Мачалаў цёпла ўсміхнуўся лейтэнанту, — нам трэба падаваць у адстаўку. Ці не так?

— Так.

— Ну калі так, значыць, трэба думаць. Пасля гутаркі з Гарбылеўскім едзь на завод, устанаві прозвішча і адрас вадзіцеля аўтобуса. Заадно, асцярожна пацікаўся, што ён за чалавек, як характарызуецца.

— А дамоў да яго ехаць?

— Ні ў якім разе. Калі вернешся, тады і падумаем, што рабіць далей. —

Маёр задумаўся, а затым дадаў: — Хоць вось што, прывязі гэтага шафёра сюды.

— Вы мяне будзеце чакаць у аддзяленні? Можа, вам пайсці дамоў паляжаць? Вы ж яшчэ не зусім здаровыя.

— Не, Ваня, я зраблю крыху інакш. Дачакаюся, пакуль прыйдзе Гарбылеўскі, усё ж цікава, ці пазнае ён Магілу, а затым наведаюся да старых Юшэвічаў. Цікаўна, што яны мне раскажуць.

— Пётр Пятровіч, а можа, я з вамі?

— Не, дзякуй. Ты для мяне ўжо і так зрабіў шмат: паведаміў адрас, пабываў у іх. Дай мне, калі ласка, і самому папрацаваць у кошт абавязку маім аднавяскоўцам.

Твар Мачалава стаў пахмурным, з’явіліся ўпартыя маршчыны, вочы глядзелі строга. Лейтэнант маўчаў. Ён разумеў настрой маёра. А Мачалаў у гэту хвіліну ўспамінаў усё, што яму расказала Таццяна Андрэеўна пра той страшны дзень, калі фашысты знішчылі амаль усіх жыхароў іх вёскі.

Пётр Пятровіч так задумаўся, што не заўважыў, як выйшаў з кабінета Новікаў. А лейтэнант убачыў праз акно Гарбылеўскага, які набліжаўся да аддзялення, і выйшаў у калідор, каб правесці яго да Весялухі.

Пракуратура размяшчалася побач, і ў следчага ўжо ўсё было гатова да прад’яўлення на апазнанне асобы па фатаграфіі.

Гарбылеўскаму прапанавалі распрануцца, але ён адмовіўся, і тады Весялуха прыступіў да справы.

— На гэтым пратаколе, Мікалай Стэфанавіч, наклееныя фатаграфіі трох жанчын. Паглядзіце ўважліва, ці няма сярод іх каго-небудзь з тых, каго вы ведаеце ці сустракалі.

Гарбылеўскі пачаў уважліва разглядаць фатаграфіі, а Новікаў увесь сцяўся. Ён стаяў ля акна і глядзеў на вуліцу. На самай жа справе, разарвіся цяпер там, за акном, снарад ці бомба, ён бы нічога не бачыў і не чуў. Новікаў напружана чакаў адказу. Бо цяпер ад простага чалавечага «так ці не» залежала многае. Лейтэнант шмат разоў чуў ад больш дасведчаных таварышаў пра тое, што бываюць выпадкі, калі аператыўны работнік ці следчы ведалі, хто здзейсніў злачынства, а адсутнасць сведкавай базы не дазваляла прад’явіць яму абвінавачванне. Вось і цяпер Купрэйчык пацвердзіў, што забіла Бузанінаву Магіла, а забойцу бачыў у твар толькі сведка Гарбылеўскі. Але ці апазнае ён? Раптам не запомніў? Ці баіцца чагосьці і не скажа? Што яму варта, напрыклад, зрабіць выгляд, што не пазнаў?

Напружанне расло. Нарэшце пачуўся голас Гарбылеўскага:

— Вось гэта яна! Гэта яна прыходзіла ў той дзень да Бузанінавай.

Новікаў павярнуўся і падышоў да стала. Указальны палец правай рукі Гарбылеўскага ўпёрся ў фатаграфію Лаб’янавай. Лейтэнант павярнуўся і моўчкі выйшаў. Ён быў увесь у поце. Хутка прайшоў па калідоры і зайшоў у свой кабінет. Мачалаў сядзеў ля стала і разглядаў фатаграфіі, зробленыя Купрэйчыкам. Па іроніі лёсу фатаграфія Юшэвіча-Арыхі ляжала ў пакеце апошняй. Яго і не паспеў убачыць маёр.

Новікаў радасна паведаміў:

— Гарбылеўскі апазнаў Магілу!

— Выдатна! — Мачалаў паклаў фатаграфіі на стол і ўстаў. — Дзейнічай далей, а я іду да сябе. Сустрэнемся ўвечары.

Пётр Пятровіч узяў у дзяжурнага зноў зробленыя ключы ад кабінета і сейфа. Аднак у кабінеце ён доўга не затрымаўся. Дастаў з сейфа пісталет, сунуў яго ў кішэнь і накіраваўся да выйсця. Неўзабаве ён сядзеў у кабіне палу-

таркі і ў думках рыхтаваўся да сустрэчы з бацькамі Юшэвіча. Мачалаў не здагадваўся, чаго каштавала яму некалькі мінут назад не спяшацца і паглядзець у пакеце ўсе фатаграфіі ўдзельнікаў банды, ён бы ўбачыў фота Яшкі Юшэвіча. А цяпер пад гучнае вуркатанне матора ён думаў пра Юшэвічаў, лічачы, што Яшкі, верагодна, у горадзе няма.

Машына спынілася, і Мачалаў, падняўшы каўнер паліто, праз поле, па якім гуляла завіруха, рушыў да драўляных хат, што віднеліся ўдалечыні. Пасля вайны вялікія будынкі ў горадзе ўзводзіліся пакуль толькі ўздоўж галоўных магістраляў, у іншых жа месцах, асабліва на ўскраінах, будаваліся невялікія, драўляныя хаціны. Дзяржава адпускала людзям пазыку на будаўніцтва. Рабілася гэта таму, што ў горадзе жылля амаль не было, а насельніцтва ў ім станавілася ўсё больш і больш. «Так, яшчэ шмат гадоў давядзецца нам будаваць хаты, — думаў маёр, шчыльней затульваючыся ў паліто. — Праклятая вайна, колькі гора яна прынесла».

Вось нарэшце і патрэбны яму дом. Мачалаў добра памятаў схему размяшчэння пакояў, якую намаляваў Новікаў. Пётр Пятровіч увайшоў у двор і па заснежанай сцяжынцы накіраваўся да ганка. Мачалаў адчуваў, што моцна хвалюецца, і прымусіў сябе не спяшацца, супакоіцца.

Ён азірнуўся, разглядаючы дваровыя пабудовы. Яго погляд затрымаўся на сабачай будцы. «Дзе ж сабака, пра якога расказваў Новікаў?»

Нарэшце хваляванне ўлеглася, і Мачалаў пхнуў рукой уваходныя дзверы. Яны адкрыліся. Увайшоў у напаўцёмны калідор, вычакаў, пакуль вочы абвыкнуць да цемры, і накіраваўся да другіх дзвярэй. Яны таксама былі не замкнёныя, і Пётр Пятровіч зайшоў у пакой. Каля печы стаялі Юшэвічы. Ён і яна. «Толькі сына нестае», — падумаў маёр.

— Дабрыдзень! Не пазнаяце?

На тварах старых адбіліся і страх, і разгубленасць, і здзіўленне. Яшчэ ў дарозе Мачалаў падрыхтаваў сябе да сустрэчы і імкнуўся трымацца натуральна.

— Гэта ж я — Мачалаў. Памятаеце такога ўчастковага ўпаўнаважанага? Вось даведаўся, што вы тут жывяце, і вырашыў наведаць сваіх аднавяскоўцаў.

Першым ачомаўся гаспадар. Ён зрабіў выгляд, што здымае шапку.

— А, Пётр Пятровіч! Дабрыдзень, вас адразу мы і не пазналі. Што вы стаіце ля парога? Праходзьце. Такому дарагому госцю мы вельмі радыя.

Твар старога адлюстроўваў усмешку і ветлівасць, а вочы ўтойвалі страх, напружанасць і злосць. Мачалаў, не здымаючы паліто, прайшоў у наступны пакой і, прысаджваючыся на новенькую канапу, здзіўлена падумаў: «Аднак жа жывуць яны нядрэнна. Хаціна, як у купцоў, мэбля новая, дарагая. Дзе гэта яны так пажывіліся?» Спытаў:

— Даўно вы ў горадзе?

Гаспадары пераглянуліся паміж сабой, вырашаючы, каму адказваць. Стары сеў побач на канапу і толькі пасля гэтага адказаў:

— З ліпеня сорак чацвёртага. Як толькі нашы прыйшлі, дык мы адразу ж у горад перабраліся. Жылі ў халупе, сабранай з чаго патрапіла. Але затым назапасілі крыху драбязы і пачалі будаваць вось гэту хату.

— Пабудавалі з размахам, — заўважыў Мачалаў, але, спахапіўшыся, як бы яго рэпліка не насцярожыла гаспадароў, сказаў: — Мяне цікавіць іншае. Я хачу ведаць, што адбылося з жыхарамі вёскі? Раскажыце мне, як гэта ўсё здарылася.

Гаспадары яшчэ больш збянтэжыліся. Стары, перш чым зноў загаварыць, кінуў кароткі і вельмі разгублены погляд на жонку. Юшэвічы былі ўпэўнены, што і жонка, і дзеці Мачалава загінулі, і не разумелі, чаму ў яго зараз спакой-

ны голас, і сам ён спакойны. Паўза зацягвалася, і стары Юшэвіч пачаў расказваць:

— Цяжка нам казаць табе, Пятровіч, але відаць, што толькі мы можам праўду табе ўсю паведаць. То слухай: калі немцы прыйшлі, мы думалі, што бяда міне нашу вёску. Але не, неяк улетку шмат панаехала іх да нас. Мы са старой сэрцам пачулі няладнае і праз гарод у лес падаліся, а калі ўвечары вярнуліся, то вачам сваім не паверылі: у вёсцы — ніводнай хаты, адны коміны ад печаў… Усё згарэла, згарэлі і людзі.

— Дзе?

— Што дзе? — перапытаў Юшэвіч.

— Дзе людзі згарэлі, у сваіх хатах?

— Хто дзе. Хто ў сваёй хаце, а хто хацеў бегчы, сагналі ў пуню, што на далёкім краі вёскі стаяла, і там спалілі.

— А як вам удалося выратавацца?

— Я ж казаў, што мы як убачылі гэтых ірадаў, дык адразу ж — у лес.

— Ну, а што з маёй сям'ёй стала, ведаеце? — голас Мачалава ўздрыгнуў, і ён у думках папракнуў сябе ў хвіліннай слабасці. — Калі вы іх у апошні раз бачылі?

— І яны, бедненькія, загінулі. Як і ўсе.

— Дык калі ж вы маіх апошні раз бачылі?

— За некалькі дзён да гэтага, — паспешна загаварыла гаспадыня. — Таня да мяне ў двор прыйшла і папрасіла солі пазычыць. Я дала ёй солі і кавалак сала для дзетак у дадатак.

У пакоі наступіла панурая цішыня. Кожны думаў пра сваё. Мачалаву вельмі хацелася, вось цяпер, седзячы на гэтай канапе і гледзячы ў вочы гэтых ужо пражыўшых жыццё людзей, сказаць усю праўду. Але маёр стрымаў сябе і задаў новае пытанне:

— Ну, а як Якаў? Жывы?

Стары хрыплым голасам адказаў:

— Згінуў ён у лясах. Як сышоў у партызаны, так і знік.

— А вы звярталіся куды-небудзь?

— Звяртацца то звярталіся, але вось карысці ніякай. Вунь колькі людзей у вайну загінула. Мы ўжо са старой вырашылі не мучыць сябе. Што зробіш, не толькі нам вайна гора прынесла. Узяць хоць бы цябе, Пятровіч: дзеці твае, жонка таксама загінулі. А колькі людзей такіх? Не, сына мы ўсё адно не вернем, а нам будзе спакайней, калі мы менш успамінаць і пытаць пра Яшаньку будзем.

— Ну што ж, воля ваша, — Пётр Пятровіч падняўся са свайго месца, — калі так, то хай будзе па-вашаму. А вось мне спакою не дае гэта гісторыя.

Мачалаў развітаўся са сваімі былымі аднавяскоўцамі і пайшоў да машыны.

Вадзіцель паспеў ужо развярнуць грузавік і, як толькі маёр сеў у кабіну, адразу ж уключыў хуткасць.

«Ведалі б вы, — думаў пра Юшэвічаў Мачалаў, — што хутка людзі даведаюцца хто такі ваш сын на самай справе. Вось як атрымліваецца ў жыцці, што народзяцца і жывуць людзі на адной зямлі, у адной вёсцы, суседзямі лічацца, а нярэдка і сябрамі, а калі гора грымне, адны з іх людзьмі застаюцца, іншыя — у звяроў ператвараюцца».

Пётр Пятровіч так задумаўся, што нават не пачуў голасу шафёра. Той пытаўся:

— Куды ехаць, таварыш маёр?

— Давай заскочым на пару хвілін у аддзяленне, а затым — дахаты. А то жонка прыпіша самавольную адлучку.

— Што-што, а гэта яны ўмеюць, — аўтарытэтна падтрымаў яго вадзіцель, — жонцы галоўнае, каб муж увесь час на вачах быў…

У аддзяленні маёр адразу ж зайшоў у кабінет Новікава. Той размаўляў з немаладым мужчынам, апранутым у чырвонаармейскі бушлат без пагонаў. Убачыўшы начальніка, Новікаў устаў і прадставіў свайго суразмоўцу:

— Вадзіцель аўтазавода Юрый Пятровіч Заварзінаў.

Мачалаў паціснуў Заварзінаву руку і прапанаваў:

— Хадзем, Юрый Пятровіч, да мяне ў кабінет, там і пагутарым…

Гутарка доўжылася амаль гадзіну. Заварзінаў пайшоў, а Пётр Пятровіч выклікаў Новікава.

— Заўтра ў восем раніцы збяры ўсю опергрупу ў мяне ў кабінеце. Правядзі інструктаж — і ў бой.

Затым ён развітаўся і выйшаў да машыны. Палутарка зноў паехала па слізкай дарозе…

Мачалаў не стаў пад'язджаць блізка да свайго дома і выйшаў з машыны за цэлы квартал ад яго. Хацелася сабрацца з думкамі. Пётр Пятровіч яшчэ не вырашыў, расказваць жонцы пра Юшэвічаў ці не. Ён шкадаваў нервы Таццяны. У апошні час яна ўсё часцей, стараючыся, каб не бачыў муж, піла валяр'янку, глытала таблеткі. Перажытыя ўзрушэнні адбіліся на яе сэрцы. Мачалаў ішоў, не спяшаючыся, па вуліцы. Горкія ўспаміны пра вайну зноў завалодалі ім. Успомнілася і Вольга Ільінічна Васілеўская. Іх зблізіла гора, а шчасце Мачалава, які сустрэў сваю сям'ю, разлучыла іх.

Калі Мачалаў увайшоў у двор, ён так і не вырашыў, казаць жонцы пра Юшэвічаў ці не.

А дома быў перапалох. Усе ўжо даўно чакалі бацьку. Таццяна Андрэеўна тэлефанавала ў шпіталь, і ёй сказалі, што мужа выпісалі яшчэ ў першай палове дня і ён з'ехаў на грузавіку. Жанчына патэлефанавала дзяжурнаму па аддзяленні. Той пацвердзіў, што Мачалаў сапраўды быў у аддзяленні, а затым кудысьці з'ехаў. Убачыўшы Пятра, яна дазволіла дзецям прывітацца з ім, затым дапамагла яму зняць паліто і, хаваючы ўсмешку, сказала:

— А ну, пойдзем са мной, растлумач мне, куды знік, чаму дамоў толькі праз паўдня пасля выпіскі са шпіталя з'явіўся? — І павяла ў суседні пакой, зачыніла за сабой дзверы і нечакана абхапіла рукамі за шыю. — Любы, я так знудзілася па табе! Я так чакала…

Пётр, цалуючы яе, усхвалявана думаў: «Родная, толькі ты можаш вось так кахаць мяне ўсё жыццё! Дарыць гэтулькі дабра, пяшчоты і ласкі!» Ён абняў яе і ціха сказаў:

— Танюша, я таксама вельмі знудзіўся па табе і дзецях. — Ён павярнуўся да дзвярэй і паклікаў: — Ну, што вы там шэпчацеся? Уваходзьце.

Юля і Ваня падышлі і абнялі бацьку. Так і стаялі яны ўчатырох, абняўшыся, і радасць перапаўняла іх сэрцы.

Затым была смачная вячэра, вясёлая гутарка. Так і не сказаў нічога ў той вечар Мачалаў жонцы пра Юшэвічаў.

А назаўтра пачалася аперацыя па затрыманні злачынцаў. Роўна ў восем у невялікім кабінеце Мачалава сабралася ўся аператыўная група. Пётр Пятровіч гаварыў роўным, спакойным голасам:

— Нам з вамі сёння трэба скончыць аперацыю па затрыманні небяспечнай злачыннай групы. — Ён падрабязна расказаў пра задуму злачынцаў, затым паставіў задачу перад кожным супрацоўнікам. Нарада працягвалася роўна

гадзіну. У дзевяць ноль-ноль оперработнікі выйшлі з кабінета начальніка. Пачынаўся завяршальны этап аперацыі.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку ў цывільным загадзя займалі адведзеныя ім пазіцыі.

Мачалаў пакуль заставаўся ў сваім кабінеце. Ён яшчэ і яшчэ раз прадумваў кожную дэталь, кожную дробязь, бо на ім, начальніку міліцыі, які ўзяў на сябе ролю кіраўніка аперацыі, ляжала вялікая адказнасць — захаваць жыццё людзей, на якіх збіраліся напасці злачынцы. Справа ўскладнялася тым, што Каруноў ведаў вадзіцеля аўтобуса, а гэта значыць, што падмяніць яго супрацоўнікам крымінальнага вышуку было немагчыма.

Маёр, глыбока задумаўшыся, сядзеў за сталом. Як быццам пакуль усё ішло добра. Ён рэзка падняўся, падышоў да сейфа, дастаў кабуру з ТТ, прычапіў яе на рэмень штаноў і накіраваўся да паліто, якое вісела ля ўвахода. Але тут нечакана адчынілася дзверы, і ў кабінет нясмела ўвайшла жанчына, а за ёй — мужчына. Абоім было гадоў па трыццаць. Яны прывіталіся, мужчына зняў шапку і спытаў:

— Гэта вы, таварыш Мачалаў?

— Так, але я вымушаны перапрасіць, у мяне сёння не прыёмны дзень, і мне неабходна з’ехаць па тэрміновай справе.

— Мы толькі на хвілінку, — уступіла ў гутарку жанчына. — Мы хацелі паглядзець на вас і падзякаваць за ваш высакародны ўчынак. Мы — бацькі Віці Красоўкіна, ратуючы якога, вы рызыкавалі жыццём.

— Вось яно што, — усміхнуўся Мачалаў, — праходзьце. Як ваш Віця? Напэўна, захварэў? Зараз здаровы?

Муж і жонка неяк дзіўна пераглянуліся, і жанчына нечакана заплакала. Мачалаў збянтэжыўся:

— Ну, што вы! Супакойцеся, — ён падышоў да стала, наліў з графіна вады і, працягваючы ёй шклянку, спытаў: — Дарэчы, а як вы мяне знайшлі?

— Вас жа абодвух даставілі на «хуткай дапамозе» ў адну бальніцу, але патрапіць да вас мы не маглі, урачы не пускалі. А калі сёння зайшлі ў шпіталь, нам сказалі, што ўчора вы выпісаліся. Вось мы і вырашылі адразу ж прыйсці сюды.

Мачалаў мімаходам зірнуў на гадзіннік. У яго распараджэнні было яшчэ некалькі мінут, і ён зноў спытаў:

— Як жа сябе адчувае «плывун»?

Жанчына ледзь чуваць прашаптала дрыготкімі вуснамі:

— Віці няма больш… ён памёр…

Нібы цяжкі молат абрынуўся на галаву Пятра Пятровіча. У вачах паплыла смуга, і ён, намацаўшы непадалёку крэсла, павольна апусціўся на яго.

— Як памёр? — яшчэ не да канца верачы пачутаму, спытаў ён.

Жанчына падышла да яго і, нахіліўшыся, пацалавала ў шчаку:

— Вы зрабілі ўсё, што маглі. Вы не шкадавалі свайго жыцця дзеля нашага сына, і не ваша віна, што ён памёр ад пераахаладжэння. Паверце, нам вельмі цяжка. Віця — адзінае дзіця. Вялікі дзякуй. Мы зойдзем да вас у наступны раз, выбачайце.

Красоўкіны пайшлі. А Мачалаў сядзеў і бессэнсоўна паўтараў: «Памёр… памёр… памёр…» У гэтыя хвіліны маёр зноў убачыў сябе ў вадзе з хлопчыкам, сярод крыг. І вось на табе! Ён выжыў, а хлопчыка, які яшчэ амаль нічога не бачыў у жыцці, ужо няма. Можа, зрабіў што не так? Можа, трэба было яшчэ штосьці яму тады распачаць? Але што яшчэ ён мог зрабіць у тое імгненне? Ніводнага чалавека, ніводнай хаты побач…

У кабінет зазірнуў дзяжурны:

— Таварыш маёр, людзі ўжо ў машыне.

— Што? Якія людзі?

Дзяжурны, здзіўлена гледзячы на начальніка, адказаў:

— Ваш рэзерв. Вы ж самі сказалі, што група рэзерву паедзе з вамі на машыне.

— Ах, прабачце. Я зараз іду.

Дзяжурны выйшаў, а Мачалаў павольна падышоў да стала, дзе стаяла шклянка вады, якую ён некалькі мінут назад працягваў жанчыне. Узяў яе і выпіў ваду.

Схуднелы за час хваробы твар Мачалава яшчэ больш пацямнеў, вочы былі напаўзакрытыя. Здавалася, ён вось-вось зваліцца, але Пётр Пятровіч сабраў усю сваю волю, каб пераключыцца і думаць пра аперацыю. «Трымайся, маёр, цябе цяпер чакае новы бой, і ты абавязаны быць у форме, ты абавязаны думаць пра жывых!»

Бой… Колькі іх было на фронце… І вось наступіў мір, а для яго бой працягваецца, толькі цяпер — нябачны бой.

Мачалаў нечакана для сябе набраў нумар тэлефона школы, дзе працавала жонка. Ён рэдка ёй тэлефанаваў. І калі Таццяна Андрэеўна адказала, адразу не пазнаў яе голасу. Затое яна пазнала яго і здзівілася.

— Вось выдатна! Сонечнае зацьменне здарылася, няйначай. Мой муж патэлефанаваў.

Пётр Пятровіч збянтэжана маўчаў. Ён раптам зразумеў, што не ведае, пра што казаць. А Таццяна Андрэеўна была вясёлая, рэдкі званок мужа быў для яе прыемнай нечаканасцю.

— Так што ж ты маўчыш, Пеця? Патэлефанаваў, а слоў для жонкі не знаходзіш?

— Я проста так патэлефанаваў, Танечка. Захацелася пачуць твой голас. — Ён тут жа ўзяў сябе ў рукі і, імкнучыся быць вясёлым, дадаў: — Вось пераканаўся, што жонка на месцы, зараз магу далей працаваць.

— Ты што, збіраешся кудысьці ісці? — насцярожылася Таццяна Андрэеўна.

Мачалаў хацеў утаіць ад яе тое, што ён сапраўды павінен сысці, але чамусьці не зрабіў гэтага.

— Так, вось выязджаю са сваімі хлопцамі, адно маленькае пытанне трэба вырашыць.

— Пеця, будзь асцярожны.

— Ды што ты, Таня? Усё ў парадку. Да вечара.

Ён паклаў трубку на апарат і хутка выйшаў з кабінета. А Таццяна Андрэеўна ўсё яшчэ стаяла, прыціскаючы да грудзей трубку, і сэрца яе трывожна сціскалася ад незразумелага прадчування.

У гэты момант Пётр Пятровіч ужо сядзеў у кабіне палутаркі, якая несла яго насустрач небяспецы.

За некалькі кварталаў да банка машына звярнула ў арку і спынілася каля дома, што будаваўся. Усе саскочылі на зямлю і адразу ж пачалі разыходзіцца. Мачалаў выйшаў на вуліцу і накіраваўся да дзяржбанка. Сваіх супрацоўнікаў ён пазнаў адразу ж і, абмяняўшыся з імі кароткімі поглядамі, ішоў далей. Вось і банк. Каля яго было шмат людзей. Недалёка знаходзіўся трамвайны прыпынак, там таксама стаяў натоўп. Пётр Пятровіч, не спыняючыся, прайшоў далей. Усе яго супрацоўнікі знаходзіліся на месцах. Зараз заставалася чакаць заводскага касіра, тады з'явяцца і злачынцы. Мачалаў павярнуў назад і, дайшоўшы да трамвайнага прыпынку, згубіўся сярод людзей. Трамваі хадзі-

лі нерэгулярна, былі перапоўненымі. Калі да прыпынку падыходзіў чарговы трамвай, Мачалаў разам з усімі браў яго прыступам і, калі б уважлівы назіральнік сачыў за ім, то напэўна паспагадаў бы чалавеку, які ніяк не можа сесці ў вагон.

Але вось насупраць ўвахода ў банк спыніўся аўтобус. З яго выйшлі жанчына і двое мужчын. Гэта касір і ахова. Яны ўвайшлі ў будынак дзяржбанка. Да прыпынку падышоў наступны трамвай, і Мачалаў зноў разам з іншымі кінуўся на штурм задняй пляцоўкі вагона. Але праз пару мінут трамвай, падаючы рэзкія званкі, адышоў ад прыпынку, і тут Мачалаў убачыў, як да аўтобуса падышоў мужчына. Нават на адлегласці маёр пазнаў Карунова, настолькі ён добра памятаў яго прыметы.

Гэта сапраўды быў Каруноў. Ён пастукаў рукой па дзвярах аўтобуса і, калі яны адчыніліся, весела прывітаўся:

— Выдатна, Пятровіч! Іду міма і бачу, што ты сядзіш за рулём. Дай, думаю, пагавару са старым знаёмым, заадно, можа, і падвязе па дарозе.

Каруноў зрабіў спробу ўвайсці ў аўтобус, але вадзіцель папрасіў:

— Ты выбач, Валодзя, але ў аўтобус нельга. Справа ў тым, што я прывёз касірку з грашыма, а з ёй начальнік аховы, шкодны ён мужык. Калі заўважыць, што ў машыне староннi чалавек знаходзіцца, ураз скандал учыніць, да начальства пабяжыць, скардзіцца пачне, што я інструкцыю парушаю.

— А… разумею, — адказаў Каруноў і ступіў зноў на зямлю, — не будзем парушаць інструкцыю. Ну, а так мы можам пагаварыць?

— Так можна, толькі калі яны падыдуць, ты ўжо выбачай, але ад аўтобуса адыдзі, а то наганяй мне будзе.

Каруноў азірнуўся: усе яго сябрукі былі на месцах. Ён спакойна сказаў:

— Добра, Пятровіч, як убачу, што яны ідуць, адразу ж адыду. Раскажы, як жывеш?

Пакуль Заварзінаў, спакойна і не спяшаючыся, якраз як вучыў яго Мачалаў, расказваў пра сваё жыццё, аператыўнікі ўсё бліжэй падыходзілі да злачынцаў. Новікаў і яшчэ адзін супрацоўнік павінны былі абясшкодзіць Карунова. За Арыхам сачылі два іншыя аператыўнікі. Магілу Мачалаў даручыў затрымаць старэйшаму оперупаўнаважанаму Пушкарову і маладой супрацоўніцы Плахавай. Прутаў заняў пазіцыю паміж прыпынкам трамвая і аўтобусам, і, каб наблізіцца да яго, трэба было бегчы, а гэта значыць — загадзя выявіць сябе. Але рабіць было няма чаго, і Мачалаў ціха загадаў старшаму лейтэнанту Мастовічу, які стаяў побач, каб той быў гатовы дапамагчы сваім таварышам, якім даручана затрымаць Прутава. Мачалаў разумеў: калі злачынцы пачнуць дзейнічаць, Прутаў, напэўна, павернецца спінай да прыпынку. Значыць, Мастовіч зможа непрыкметна наблізіцца да яго.

Маёр зірнуў на гадзіннік: да выхаду касіра засталася хвіліна. Мачалаў не спяшаючыся накіраваўся да дзвярэй дзяржбанка.

Ён, вядома, мог застацца і на прыпынку, але Пётр Пятровіч не дазволіў сабе быць назіральнікам у той час, калі яго таварышы, падначаленыя, будуць весці сутычку са злачынцамі. Мачалаў вырашыў, што ён, у выпадку неспадзяваных акалічнасцей, зможа кінуцца на дапамогу да любога свайго супрацоўніка. Не ведаў Пётр Пятровіч, што гэтым разам яму б лепш стаяць убаку. Падыходзячы да дзвярэй дзяржбанка, ён не заўважыў, як пашырэлі ў паніцы вочы Арыхі-Юшэвіча. Ён адразу пазнаў Мачалава. З дзвярэй дзяржбанка выйшла касір, а за ёй ахова. Да касіра з нажом кінулася Магіла, але тут жа яе схапілі за рукі работнікі міліцыі, Каруноў паспеў выхапіць з-за пазухі пісталет, але двое маладых дужых хлопцаў збілі яго з ног і адабралі зброю. Прутаў таксама паспеў выхапіць пісталет, але Мастовіч нанёс яму магутны ўдар ззаду і зваліў

на зямлю. Прутаў тут жа быў абяззброены. А вось з Арыхам-Юшэвічам здарылася неспадзяванае. Яшчэ да таго, як да яго наблізіліся оперработнікі, ён, убачыўшы Мачалава, зразумеў усё. Няўлоўным рухам Арыха выхапіў з кішэні гранату і, выдраўшы кольца, падняў яе над галавой:

— Не падыходзьце, лягавыя, падарву!

Гранату ён трымаў у левай руцэ, а правай паспешна выцягваў з кішэні паліто пісталет.

Мачалаў у гэты момант апынуўся збоку ад яго. Не разважаючы, ён кінуўся да бандыта, але той паспеў ужо выцягнуць пісталет і амаль ва ўпор двойчы стрэліў у маёра. Мачалаў, нібы наткнуўшыся на нябачную перашкоду, спыніўся і, завальваючыся на правы бок, пачаў падаць. На імгненне ўсе разгубіліся. Арыха не марудзячы, кінуўся праз дарогу.

Купрэйчык прыйшоў у сябе раней за іншых. Ён гучна загадаў:

— Затрыманых у аўтобус, звязаць! Акажыце дапамогу Мачалаву! — І сам кінуўся за Арыхам.

Аляксей яшчэ не ведаў, што Арыха і Юшэвіч — адзін і той жа чалавек. Цяпер наперадзе яго быў злачынец, якому нельга даць сысці. Побач з Купрэйчыкам апынуўся Новікаў. Арыха павярнуў за вугал, аператыўнікі — за ім. Праз некалькі дзясяткаў метраў злачынец павярнуў у арку. Для таго, каб ён не расстраляў іх ва ўпор, аператыўнікам давялося выбегчы на сярэдзіну вуліцы і, параўняўшыся з аркай, пераканацца, што Арыха не спыніўся там, і толькі тады ўбегчы ў яе. Купрэйчык загадаў:

— Ваня, ты бяжы па вуліцы ўздоўж дома, не дай яму выскачыць з двара, а я за ім.

Новікаў пабег па тратуары, а Купрэйчык, прабегшы арку, вызірнуў з-за выступу ў двор і ўбачыў, як ад бліжэйшага пад'езда Арыха кінуў гранату. Капітан упаў. Грукнуў моцны выбух. Асколкі з віскам стукнулі ў процілеглую сцяну. На шчасце, граната не даляцела да вугла аркі. Капітан ускочыў на ногі і кінуўся наперад. Але двор быў пусты. «У пад'ездзе схаваўся!» — зразумеў Аляксей і пабег туды.

Цяпер ён быў упэўнены, што Арыха наўрад ці застанецца ля дзвярэй. Завязваць перастрэлку ў пад'ездзе — гэта значыць не ўцячы. Яму трэба адарвацца ад праследвальнікаў. Напэўна, паспрабуе гэта зрабіць, уварваўшыся ў кватэру на першым паверсе, ці выскачыць праз акно на вуліцу, ці сысці праз гарышча. Не затрымліваючыся, Купрэйчык убег у пад'езд і адразу ж пачуў тупат ног. «Ужо дзесьці да трэцяга паверха падбягае», — зразумеў Аляксей і пабег па прыступках. Паверхаў было пяць. Калі Аляксей падняўся на апошні, то ўбачыў люк, які вёў на гарышча. Не разважаючы капітан палез па металічных прыступках угару. Ён разумеў, што варта Арыху крыху прыпыніцца, і ён ва ўпор стрэліць у Купрэйчыка. Але перад вачыма Аляксея стаяў падаючы Мачалаў, і ўжо ніякая сіла не магла спыніць яго. Аляксей на імгненне затрымаўся каля апошняй перакладзіны лесвіцы, а затым спрытна, па-кацінаму, скокнуў на гарышча.

Удалечыні мільганула постаць Арыхі.

Купрэйчык ускочыў на ногі:

— Стой, гадзіна! Усё адно не сыдзеш!

У адказ раздаўся стрэл. Куля ўдарыла аб бэльку перакрыцця. Аляксей пабег. Неўзабаве паказаўся канец гарышча, і капітан убачыў, што Арыха вылазіць праз лаз. Купрэйчык якраз прабягаў міма такога ж лаза і не разважаючы выскачыў на дах. Ён быў пакрыты снегам. Далёка ўнізе чутны шум машын, там вуліца. Яны стаялі на адлегласці пятнаццаці метраў і моўчкі глядзелі адзін на аднаго. Кожны вырашаў, што яму рабіць. Арыха разумеў, што час не на яго

карысць. У любую хвіліну колькасць яго праследвальнікаў можа павялічыцца, а гэта значыць, што ныраць назад у напаўцёмнае гарышча нельга — можна патрапіць прама ў рукі аператыўнікаў. Адзінае выйсце: паспрабаваць сысці па дахах, балазе, што дамы стаяць шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго.

Купрэйчык разумеў, што калі даць Арыху перабрацца на дах суседняга дома, то ў яго з'явяцца шанцы ўцячы. Аляксей не хацеў дапусціць і таго, каб злачынец нырнуў назад на гарышча. Там, у паўцемры, будзе цяжэй яго ўзяць. І ён, прыцэліўшыся, двойчы стрэліў. Кулі распаролі снег паміж Арыхам і лазам. Той схаваўся за конус лаза, а гэта і трэба было Купрэйчыку. Ён цвёрда вырашыў, што калі злачынец паспрабуе пракрасціся зноў на гарышча, то ён адкрые прыцэльны агонь. Арыха прыняў іншае рашэнне. Ён, хапаючыся рукамі за злучальныя рэбры бляхі, палез угару. Купрэйчык сунуў за пазуху пісталет і зрабіў тое ж. Ён быў спрытнейшы, чым Арыха-Юшэвіч, і дасягнуў канька даху раней. Дунуў на застылыя пальцы і выцягнуў пісталет. Злачынцу заставалася да верху яшчэ метры два — два з паловай, і капітан мог знішчыць яго з першага ж стрэлу. Перасільваючы сябе, Аляксей загадаў:

— Як толькі дапаўзеш да верху, кідай зброю, а не то прашыю тваю башку!

Арыха не адказваў. Ён моўчкі дабраўся да канька, левай рукой ухапіўся за грэбень, а правай дастаў з-за пазухі пісталет. Купрэйчык вырашыў, што той кіне зброю, знаходзячыся пад прыцэлам, але Арыха ўскінуў яго і стрэліў. Куля ўпілася ў бляху ў некалькіх сантыметрах ад нагі капітана. Аляксей разумеў, што выпрабоўваць лёс ён не мае права, і прыцэліўся ў злачынца. У гэту секунду ніякая сіла не змагла б адвесці мушку яго пісталета. Купрэйчык падрыхтаваўся весці агонь, як на фронце, імкнучыся паразіць ворага напавал. Рэзка грымнуў стрэл, і Арыха, захапляючы за сабой груды снегу, паляцеў уніз. Не затрымаў яго і вадасцёкавы жолаб, які быў адначасова і агароджай. Праз імгненне цела злачынца схавалася з вачэй. Аляксей пачаў асцярожна спускацца.

Праз некалькі хвілін ён быў ужо ў двары. Недалёка ад апошняга пад'езда ляжаў труп бандыта. Каля яго стаялі аператыўнікі. Аляксей не стаў падыходзіць да іх і гучна спытаў у Мастовіча, які падбег да яго:

— Што з Пятром Пятровічам? Жывы?

Мастовіч апусціў вочы:

— Ён забіты, Лёша!..

## **Частка другая**

## 35

## Лейтэнант міліцыі Славін

Аддзяленне міліцыі знаходзілася ў маленькім драўляным доміку. Малады лейтэнант на імгненне затрымаўся ля ўвахода, прачытаў шыльду і, падняўшыся на рыпучы дашчаны ганак, ступіў у цёмны праём дзвярэй. Лейтэнант пхнуў першыя дзверы, размешчаныя ўздоўж правай сцяны, і апынуўся ў невялікім пакойчыку. За старым абшарпаным сталом сядзеў пажылы старшына. Убачыўшы лейтэнанта, ён пакруціўся на рыпучым крэсле, але не ўстаў і моўчкі глядзеў на афіцэра. Той прывітаўся і спытаў:

— Начальнік аддзялення ў сябе?

— Ён у двары заняткі праводзіць. — Старшына вырашыў усё ж адарваць сваё цяжкае цела ад крэсла. — Вы прайдзіце ў канец калідора і праз апошнія дзверы выйдзіце ў двор.

Лейтэнант узяў невялікі чамадан, які прынёс з сабой, але, падумаўшы, спытаў:

— Можна ў вас чамадан пакінуць, пакуль я з начальнікам пагавару?

— Так, калі ласка.

Старшына паставіў чамадан у кут, а афіцэр выйшаў з дзяжурнага пакоя.

На шырокім пляцы, які быў абнесены дашчаным плотам, чалавек сорак супрацоўнікаў міліцыі з шашкамі ездзілі па крузе на конях, выконваючы розныя каманды капітана. Ён знаходзіўся ў цэнтры круга. Гэта была каларытная постаць. Пад цяжарам яго цела конь амаль прысядаў на заднія ногі. Начальнік рэзка і зычна падаваў каманды, і міліцыянеры, потныя ад напружання, імкнуліся дакладна выконваць іх. Заняткі, відавочна, падыходзілі да канца, бо капітан скамандаваў «вольна» і сам лёгка саскочыў з каня. Ён быў высокага росту, з вялікімі пышнымі вусамі. Сваё магутнае цела капітан насіў лёгка, яго рухі былі хуткія і спрытныя.

Начальнік накіраваўся да госця, на хаду разглядаючы яго хударлявую постаць. Сустрэўшыся з яго вачамі, ледзь усміхнуўся:

— Што, папаўненне?

— Так точна! — Лейтэнант выцягнуўся і паднёс руку да казырка новенькай фуражкі. — Лейтэнант міліцыі Славін прыбыў у ваша распараджэнне.

Капітан адкрыта разглядаў прыбыўшага афіцэра. Яго вочы чэпка абмацвалі лейтэнанта, а ў рудых пышных вусах хавалася ледзь прыкметная ўсмешка.

Уладзімір адчуваў сябе ніякавата і, жадаючы схаваць збянтэжанасць, палез у бакавую кішэню.

— У мяне з сабой прадпісанне…

— Ды пачакай, лейтэнант, з прадпісаннем, — махнуў рукой капітан. — Не бянтэжся, што цябе разглядаю так. Сам ведаеш — па адзежы сустракаюць. Ну добра, пайшлі ў кабінет, там і пазнаёмімся. — І ён, пацягнуўшы на сябе дзверы, першым ступіў у калідор. Славін накіраваўся следам. Яны прайшлі доўгі калідор і спыніліся каля дзвярэй з таблічкай, на якой фарбай было выведзена: «Начальнік». Не паспеў капітан адкрыць ключом дзверы, як у калідоры пачуліся паспешлівыя крокі. Гэта быў старшына, якога Славін бачыў у дзяжурным пакоі.

— Таварыш маёр, вас прасілі патэлефанаваць з трэцяга аддзялення.

— Добра, зараз патэлефаную.

Капітан, прапускаючы наперад Славіна, нібы адгадаўшы яго думкі, растлумачыў:

— Сёння загад прыйшоў пра прысваенне мне «маёра». Садзіся, лейтэнант Славін, давай знаёміцца. Маё прозвішча Гарчакоў, зваць — Сямёнам Антонавічам. Працую начальнікам аддзялення з верасня сорак пятага. У войску служыў у контрразведцы. Ну, а цяпер слухаю цябе.

Славін працягнуў начальніку прадпісанне. Гарчакоў прачытаў дакумент і спытаў:

— Жанаты?

— Ніяк не.

— Бацькі ёсць?

— Маці і сястра, жывуць тут у горадзе.

— Бацька?

— Загінуў… Ён быў падпольшчыкам.

— Ясна… Да афіцэрскай школы ты, вядома, у міліцыі не працаваў? Напэўна, у эвакуацыі быў?

Славін збянтэжыўся, не хацелася яму цяпер адразу казаць гэтаму яшчэ не знаёмаму грубаватаму чалавеку, што ён ужо бачыў сёе-тое ў жыцці, але нічога не зробіш, і Уладзімір сцісла расказаў пра сябе.

Начальнік ужо сур'ёзна глядзеў на маладога афіцэра, і, калі той скончыў свой расказ, трохі памаўчаў, а затым працяжна прагаварыў:

— Ясна! Прыйшлося табе нямала ўбачыць. Ну, што ж, будзем разам працаваць. Так, прабач, трэба ж трэцяму патэлефанаваць.

Гарчакоў рашуча падсунуў да сябе тэлефонны апарат і набраў нумар.

— Алё, Васільевіч, выдатна! Гэта я, Гарчакоў. Чаго хацеў?

Відавочна, пачутае зацікавіла яго. Ён узяў ручку і, часта макаючы пяро ў чарніліцу, пачаў штосьці запісваць. Гэта дало магчымасць Славіну разгледзець твар новага начальніка. Грубыя рысы, вялікі нос, валявы падбародак, здавалася, кагосьці нагадвалі лейтэнанту. Ён задумаўся, а потым успомніў: «Дык ён жа на Пятра Першага падобны! Твар, рост, вочы навыкат, вось толькі вусы, па-мойму, у Пятра былі не рудыя».

Гарчакоў паклаў трубку на высокі рычаг старога тэлефона і, намацаўшы пальцам чорную кнопку на ножцы стала, націснуў яе. Праз хвіліну ў кабінет увайшоў усё той жа дзяжурны старшына. Начальнік загадаў:

— Сцяпаныч, вазьмі машыну і дваіх чалавек са зброяй. З'ездзіце ў трэцяе аддзяленне і забярыце шафёра аўтарамонтнай майстэрні. У кузаве яго машыны пад саломай знайшлі новы рухавік, выкраў з майстэрні. Даручы, каб за цябе ў дзяжурцы Міхайлаў пасядзеў. Ясна?

— Так точна! — Старшына казырнуў і выйшаў з кабінета.

Гарчакоў зірнуў на Славіна:

— Вось так і жывём, таварыш лейтэнант! Што ні дзень, то штосьці здараецца.

— Мне казалі, што ў вашым раёне самае складанае аператыўнае становішча.

— Гэта ясна.

Славін паспеў ужо заўважыць, што «ясна» любімае слова Гарчакова. Начальнік узяў у рукі прадпісанне, пакруціў яго і зноў паклаў на стол.

— Становішча сапраўды складанае. Не раскрыты тры забойствы, рабаванняў цэлая серыя, а ў лесе на ўскраіне горада — тэрыторыя таксама наша — знайшлі дзяўчыну з пераломам чэрапа. Цяпер без памяці ў бальніцы ляжыць, але ўжо ясна, што яе абрабавалі. Бацькі кажуць, што ў яе з сабой каля пяці тысяч рублёў было, плашч, залаты пярсцёнак і сумка з прадуктамі — усё знікла. Мог на яе напароцца які-небудзь былы паліцай-шатун. Цяпер лета, і яны яшчэ па лясах шнырaць. Здавацца не хочуць, ведаюць, што адказваць давядзецца. А мог і крымінальнік які-небудзь напасці. Акрамя гэтага, у раёне крадзяжоў шмат, асабліва з кватэр, пяць крадзяжоў з дзяржустаноў не раскрыта.

— Сейфы?

— Галоўным чынам, так. А вось людзей не стае. Супрацоўнікі нядрэнныя, але вопытных мала. У крымінальным вышуку толькі адзін начальнік мае вялікую практыку. Яшчэ да вайны ў міліцыі працаваў, а астатнія чатыры чалавекі толькі спасцігаюць гэта рамяство. Вось такое, брат, становішча. Ясна?

— Ясна, — усміхнуўся Славін, — кім я буду ў вас працаваць?

— Старшым оперупаўнаважаным крымінальнага вышуку. Ты дзе спыніўся?

— Я дома жыць буду.

— Ах так, я і забыўся, ты казаў, што ў цябе тут маці. Як яна цябе сустрэла? Нябось, радая?

— Я яшчэ дома не быў. З вакзала ва ўпраўленне зайшоў, а адтуль прама сюды.

— Бач ты, — усміхнуўся начальнік і падняўся з-за стала. — А рэчы твае дзе?

Аляксей паехаў у дом Пятра. Пачуўшы страшную вестку, Таццяна Андрэеўна не ўскрыкнула і не заплакала, яна павольна апусцілася на канапу і застылымі вачыма глядзела ў адну кропку. Здавалася, яна нічога не бачыць і не чуе. Уткнуўшыся ў яе калені, гучна плакала Юля. Таццяна Андрэеўна пацяжэлай рукой машынальна гладзіла яе па галаве. Разгублены і бледны Ваня стаяў каля іх. Ён хацеў адвесці і супакоіць сястру, але баяўся адысці ад маці, ведаючы, што ў яе слабое сэрца. Глядзець на ўсё гэта было невыносна цяжка. Аляксей разумеў стан Таццяны Андрэеўны. Яна ж страчвала Пятра другі раз. Юля і Ваня расказвалі, як цяжка спраўлялася з горам маці, калі атрымала пахавальную падчас вайны. У душы Купрэйчыка бурліла лютасць: чалавек, які прайшоў усю вайну, выжыў, страціў, потым зноў знайшоў сваю сям'ю і раптам загінуў у цэнтры горада ў мірны час ад рукі здрадніка і бандыта! Нават тое, што Аляксей сам здзейсніў адплату, не прыносіла яму аблягчэння.

Ён часта прыходзіў да Таццяны Андрэеўны і яе дзяцей у іх невялікую двухпакаёвую кватэру, выдзеленую ім пасля гібелі Мачалава, і падоўгу сядзеў, не знаходзячы слоў суцяшэння. Аляксей бачыў, як нечаканае гора надламала Таццяну Андрэеўну. Схуднелая, задуменная, яна гадзінамі сядзела моўчкі.

Неяк у нядзелю, калі Купрэйчык разам з жонкай былі ў Мачалавых, да яго падышоў Ваня. Высокі, чарнавокі, з упартай зморшчынай каля рота, вельмі падобны на бацьку, ён ціха сказаў:

— Аляксей Васільевіч, я хацеў бы з вамі пагаварыць. — І, не чакаючы адказу, выйшаў у суседні пакой.

Купрэйчык пайшоў следам. Янка прычыніў шчыльней дзверы і паглядзеў у вочы дзядзькі:

— Я хачу пасля школы пайсці ў міліцыю. Як вы на гэта гледзіце? — І, не даўшы Купрэйчыку нават рот раскрыць, з запалам сказаў: — Зразумейце, я абавязаны прадоўжыць справу бацькі! Я хачу змагацца з поскуддзю.

Купрэйчык абняў хлопца за плечы:

— Па-мойму, ты правільна вырашыў, Ваня. Заканчвай школу, рыхтуйся да гэтай нялёгкай працы.

У пакой увайшла Таццяна Андрэеўна. Яна адразу ж зразумела, пра што ішла гаворка, і, звяртаючыся да сына, сказала:

— Што, зноў за сваё? Спыніся зараз жа! Не пушчу я цябе ў міліцыю.

— Матуля, не крыўдзіся, але я ўпершыню ў жыцці не паслухаю цябе. Зразумей, я яшчэ пры жыцці таты так вырашыў, і ён мяне падтрымаў. А цяпер я абавязаны працаваць у міліцыі. Гэта — мэта майго жыцця…

Купрэйчыка прызначылі начальнікам аддзялення міліцыі, дзе раней працаваў Мачалаў. На плечы маладога начальніка леглі новыя клопаты.

Аляксей адчуваў, як уважліва прыглядаюцца да яго падначаленыя. Мачалава вельмі любілі і паважалі ў аддзяленні і новага начальніка сустрэлі з некаторай насцярожанасцю. Купрэйчык разумеў, што толькі ад яго залежыць, ці будзе ён карыстацца аўтарытэтам у супрацоўнікаў. Калектыў быў добры. Дух Мачалава адчуваўся: людзей прывучаць да парадку і дысцыпліны не трэба было. Купрэйчык часта хадзіў у райкам партыі, адкрыта расказваў сакратару пра свае цяжкасці, перажыванні і сумненні. Сакратар райкама не шкадаваў часу для новага начальніка міліцыі, і гэта дапамагло яму хутчэй асвоіцца на новым месцы.

Калі ў горад нечакана прыехаў Славін, Купрэйчык прасіў начальніка ўпраўлення накіраваць яго да сябе ў аддзяленне. Але палкоўнік, даведаўшыся, што Купрэйчык і Славін стрыечныя браты, не пагадзіўся. Так і аказаліся яны ў розных аддзяленнях міліцыі, тэрыторыі абслугоўвання якіх межавалі. Аляк-

сей і Уладзімір бачыліся даволі часта. Розніца ў гадах у іх была невялікая, ну, а адрозненне ў званні і службовае становішча вялікага значэння не мелі…

Сёння Купрэйчык вырашыў пайсці дамоў не пазней сямі вечара. Прычына была важкай: у Надзі — дзень нараджэння, і Аляксей абяцаў ёй абавязкова быць крыху раней. У госці да сябе яны запрасілі Мачалавых і Славіных.

Купрэйчык папярэдзіў свайго намесніка пра тое, што яго вечарам не будзе, апячатаў сейф і выйшаў з кабінета. У калідоры яму сустрэўся хлопец. Яго твар капітану падаўся знаёмым. Хлопец сказаў:

— Добры дзень, я да вас!

«Дык гэта ж сын Мані Жовель», — успомніў Купрэйчык.

— Гэты ты, Толя? Добры дзень!

Купрэйчык вярнуўся ў кабінет і прапанаваў хлопцу крэсла. У сэрцы болем адгукаліся нядаўнія падзеі. Маня Жовель не была датычная да дзейнасці банды Карунова, яна дапамагла супрацоўнікам міліцыі, ды і Толя ў цяжкую для Купрэйчыка хвіліну паказаў сябе малайцом, аднак бачыць цяпер яго Аляксею было цяжка. Перасіліўшы сябе, ён сказаў:

— Слухаю цябе, Толя.

— Мяне мама да вас паслала. Мяне двое хлопцаў уговорваюць сёння ўначы пайсці з імі на «справу». Яны хочуць сталовую абакрасці. Там на ноч шмат грошай застаецца.

— Хто яны?

— Суседскія. Лёнька Каламіец і Сашка Андрыеўскі. Яны хлопцы нядрэнныя, але ў Лёнькі бацька п’яніца, а яго сябар, дзядзька Вася, у сталовай гэтай працуе. Вось дзядзька Вася і падгаварыў Лёньку і Сашку. А ім страшна, таму яны мяне з сабой клічуць. Я расказаў маме. Яна мне і загадала адшукаць вас. Мама прасіла, каб Лёню і Сашу ў турму не садзілі. Яны дзеці добрыя, раней пра такія справы паміж імі нават гутаркі не было. У першы раз гэта яны задумалі.

— Я веру табе, Толя.

Купрэйчык задумаўся. Ён разумеў, што Маня давярае яму, інакш яна не адважылася б на такі крок. Разумеў капітан і Толю, якога акружаючыя яго дарослыя людзі вучылі быць утойлівым, нікому не расказваць пра тое, што ведае. І вось зараз гэты хлопец прыйшоў у міліцыю паведаміць пра крадзеж. Капітан павінен быў праявіць і такт, і разуменне.

Купрэйчык спытаў:

— А гэты дзядзька Вася збіраецца пайсці з вамі?

— Не ведаю. Але мне здаецца, што не. Ён, напэўна, хоча, каб мы выкралі грошы і аддалі яму, а ён нам за гэта заплаціць.

— Як яго прозвішча?

— Не ведаю. Пра гэта трэба ў бацькі Лёнькі спытаць, яны ж сябруюць.

— Хто яшчэ ведае дзядзьку Васю?

— Прабачце, забыўся: яго добра ведае Драбуш, сябрук Прутава, у якога вы жылі на кватэры.

Купрэйчык успомніў, як ён сядзеў у кампаніі Карунова, Прутава і яго сяброў, а ў хату нечакана разам з Драбушом зайшоў Толя Жовель. Аляксей не стрымаўся і спытаў:

— Толя, а што ты падумаў, калі мяне ўбачыў у Прутава?

— А, гэта калі мы з Драбушом па санкі прыходзілі. Мне спачатку здалося, што вы і напраўду разам з імі, але потым успомніў, што вы маме лекі прыносілі, і яшчэ тое, што праз тры дні маму выклікалі ў райвыканкам і нам дапамогу аказалі, а маіх малодшых брата і сястру ў школу-інтэрнат уладкавалі. Мы з мамай тады здагадаліся, што ўсё гэта дзякуючы вам. Я разумеў, што вы

не такі, як яны. І калі вы знаходзіцеся ў іх кампаніі, то, відавочна, так трэба. Таму нічога не сказаў, вырашыў, што мне лепш памаўчаць і зрабіць выгляд, што вас не ведаю.

— Глядзі ты які! Цяміш правільна.

Капітан падзякаваў хлопцу за паведамленне і сказаў, што прыме неабходныя меры. Толя выйшаў, а Аляксей зноў успомніў Мачалава. Гэта па яго хадайніцтве шматдзетнай маці Мані Жовель была аказана дапамога.

Купрэйчык зняў трубку з апарата і запрасіў да сябе намесніка. Праз некалькі хвілін у дзвярах з'явіўся высокі падцягнуты маёр:

— Клікалі, Аляксей Васільевіч?

— Прысаджвайцеся, Марат Міхайлавіч. — Купрэйчык вагаўся, ці даручаць намесніку такую справу. Характар у маёра быў круты. Ён меркаваў, што любы чалавек, які здзейсніў нават дробнае правапарушэнне, павінен сядзець на лаве падсудных. З выгляду ахайны, Бараннік, які гаварыў заўсёды правільныя словы, на самай справе быў напышлівы, ганарысты. Да людзей ён ставіўся бяздушна, лічыў правільнай толькі сваю думку. Гэтыя якасці і адыгралі, відавочна, сваю адмоўную ролю, калі ўстала пытанне пра замену Мачалаву. Не любілі маёра і супрацоўнікі. Але цяпер іншага выйсця не было. Купрэйчык мусіў даручыць даволі далікатную справу Бараннiку, падрабязна расказаў таму, навошта хлопец прыходзіў у міліцыю.

Я хачу вас папрасіць, Марат Міхайлавіч, уважліва разабрацца з гэтай справай.

— Усё ясна, Аляксей Васільевіч, гэту аперацыю я правяду асабіста. — У думках маёр ужо меркаваў, як усё гэта будзе выглядаць. Здагадваўся пра гэта і Купрэйчык. Яго намеснік нават не падумаў пра тое, каб не дапусціць крадзяжу, а хацеў схапіць дзяцей на месцы злачынства і такім чынам прадэманстраваць усім, і ў першую чаргу начальству, што Баранніка дарма не прызначылі на больш высокі пост. Твар Купрэйчыка стала хмурным, ён суха спытаў:

— Як вы думаеце дзейнічаць?

— Вельмі проста. Вазьму трох-чатырох архараўцаў, засяду каля сталовай, і, калі злачынцы вылезуць з яе з грошыкамі, мы іх і арыштуем…

— Але ж яны, Марат Міхайлавіч, не злачынцы, а дзеці. І ці варта нам з іх рабіць злачынцаў?

— Міліцыя, паважаны Аляксей Васільевіч, злачынцаў не робіць і злачынствы не спараджае…

— Калі мы, работнікі міліцыі, будзем так думаць і дзейнічаць, то будзем спараджаць ці, прынамсі, спрыяць з'яўленню злачынцаў. Таму слухайце мой загад: ваша задача ў тым, каб паслаць людзей да Каламійца і Андрыеўскага, узяць у дзяцей у прысутнасці іх бацькоў тлумачэнні. Я ўпэўнены, што яны скажуць праўду. Неабходна ўстанавіць дадзеныя гэтага дзядзькі Васі і адразу даставіць яго ў аддзяленне. Пасля гэтага мы з вамі, калі зможам даказаць яго віну ў падрыхтоўцы здзяйснення злачынства і ўцягванні дзяцей у злачынную дзейнасць, узбудзіць супраць яго крымінальную справу.

— А што будзем рабіць з мальцамі?

— Нічога. Пагутарым з імі, папярэдзім бацькоў, і хопіць.

— Як гэта хопіць? — абурыўся Бараннік і недаверліва паглядзеў на Купрэйчыка. — Штосьці я вас не разумею, таварыш капітан! Ці ведаеце вы, што на фронце да тых, хто патураў ворагу, ужывалі самыя строгія меры ўздзеяння, аж да крайняй?..

Дзіўны спакой ахапіў раптам звычайна гарачага Купрэйчыка. Ён працягваў глядзець на свайго намесніка, а сам чамусьці міма сваёй волі падумаў:

«Трэба форму насіць, а то ўсё хаджу ў цывільным. Ён нават не ведае, што я ваяваў».

— Перастаньце, маёр, вы ж не былі на фронце. Адкуль вам ведаць, як там людзі адзін да аднаго ставіліся. Я адмяняю свой загад. — Купрэйчык убачыў на твары маёра відавочнае задавальненне. Той, відавочна, па-свойму зразумеў яго словы. — І адхіляю вас ад выканання гэтай, як вы назвалі, аперацыі і даручу яе іншаму. Вы вольныя.

Бараннік устаў і, высока трымаючы галаву, выйшаў з кабінета. Купрэйчык некалькі хвілін глядзеў на дзверы, за якімі знік намеснік, і думаў: «Канешне, не па сваёй волі ён быў далёка ад фронту, у тыле. Але як мне з ім працаваць? Як давяраць?» Капітан падняўся, выклікаў начальніка аддзялення крымінальнага вышуку і даручыў яму разабрацца са справай дзяцей…

Купрэйчык ішоў дахаты з цяжкім пачуццём незадаволенасці. «Быццам хтосьці на мяне вядро памыяў выплюхнуў», — думаў ён, крочачы па яшчэ залітай сонцам, зялёнай вуліцы.

Але праз некалькі мінут, усміхаючыся, ён увойдзе ў дом і працягне жонцы, сваёй Надзюшы, кветкі…

## 40

## Лейтэнант Славін

У занятых людзей час заўсёды бяжыць хутка. Славіну таксама не хапала рабочага дня. Нават уначы, прыходзячы дамоў, папракаў сябе ў тым, што не паспеў чагосьці зрабіць. Ён імкнуўся як мага хутчэй давесці справу па рабаванні Лазаркевіч да канца. Устанавіў і дапытаў дзясяткі людзей з тых, хто часта бываў у клубе будаўнікоў. Амаль усе яны памяталі Жору, які для аператыўніка ўжо стаў нейкай міфічнай постаццю, бо далей яго імя справа не ішла. Ніхто не мог сказаць, хто ён і адкуль. Славін і ўчастковы інспектар Рагозін, на ўчастку якога знаходзіўся клуб будаўнікоў, разам з Марушкай і Барадзько на працягу тыдня аб'язджалі вечарамі клубы і танцавальныя пляцоўкі, але Жора як скрозь зямлю праваліўся. Славін лічыў, што падазраваемы не мог з'ехаць з горада, у адваротным выпадку навошта яму пагражаць Марушцы.

Уладзімір быў у сябе ў кабінеце, калі туды зазірнуў дзяжурны, той пажылы старшына, якога ўсё клікалі Сцяпанычам, і сказаў:

— Славін, цябе да тэлефона дзяўчына нейкая просіць.

— А сімпатычная? — весела спытаў Падрэзаў.

— Ажно душа млее, — усміхнуўся Падрэзаву старшына. — Яна спачатку цябе пытала, а я ёй сказаў, што цябе няма, і прапанаваў ёй Славіна. Яна павагалася трохі і пагадзілася.

У дзяжурным пакоі Уладзімір узяў тэлефонную трубку, якая ляжала на стале:

— Славін слухае вас!

Ён адразу ж пачуў усхваляваны дзявочы голас:

— Таварыш Славін, добры дзень! Вас турбуе Лябедзька, сяброўка Лазаркевіч, памятаеце такую?

— Вядома, памятаю, Аня, добры дзень! Слухаю вас.

— Ведаеце, я сустрэла адну дзяўчыну. Яна таксама добра ведае таго бандыта, і мне здаецца, што яе расказ вас зацікавіць.

— Дзе яна?

— Вось, побач са мной. Даць ёй трубку?

— Не, пачакаеце, як яе прозвішча?

— Сваткова.

— Імя, імя па бацьку?

— Лера… Валерыя Леанідаўна.

— Дык вось што, Аня, вы малайчына, што патэлефанавалі! Я вас вельмі прашу, прыязджайце разам з ёй сюды, у аддзяленне.

— Калі, цяпер?

— Вядома, я вас чакаю.

Было чуваць, як Лябедзька кажа пра прапанову Сватковой.

— Добра, едзем.

Паціраючы рукі, Уладзімір вярнуўся ў кабінет. Падрэзаў спытаў:

— Ну, хто там так рваўся пагаварыць?

Славін паведаміў пра званок.

— Што ж, чакай, а я пайшоў дамоў. Сёння мне наш вусаты дазволіў пабыць вечар з сям'ёй.

— Не вусаты, а Пётр Першы.

— Чаму Пётр Першы?

— А ты не звярнуў увагі, што ён вельмі падобны на цара?

— Мабыць, твая праўда. Чэснае слова, праўда! Значыць, зараз ён не вусаты, а Пётр Першы. Ну добра, пакуль!

— Будзь здаровы! Прывітанне Юлі.

— Дзякуй. Дарэчы, яна мне нагадвала, каб я цябе зноў да нас у госці запрасіў. Абяцала, што галубцы будуць яшчэ смачнейшыя, чым тады…

Неўзабаве ў дзверы пастукалі, і на парозе з'явілася Лябедзька.

— Можна?

— Уваходзьце, уваходзьце, Аня.

У кабінет нясмела ўвайшла Лябедзька, а за ёю цёмнавалосая мілавідная дзяўчына. Славін запрасіў іх сесці, і Лябедзька, кіўнуўшы галавой на дзяўчыну, сказала:

— Гэта Лера Сваткова. Мы з ёй знаёмыя даўно. Сёння сустрэліся, і… Ну, Лера, расказвай…

Сваткова, ледзь заікаючыся ад хвалявання, загаварыла:

— Аня мне расказала пра Іру Лазаркевіч. Дык вось, са мной магло тое ж самае здарыцца. У красавіку на танцах у Доме афіцэраў я пазнаёмілася з гэтым Жорам.

— А чаму вы думаеце, што гэта ён? — спытаў Славін.

— Ён, сапраўды ён! Усе звычкі яго, апрануты гэтак жа. Толькі ён тады ў скураным паліто хадзіў. На гэтым паліто добра бачныя перашытыя гузікі, напэўна, яго раней насіў больш худы чалавек. Ён мяне некалькі разоў праводзіў дамоў. Неяк мы загаварылі пра адзежу. Уласна, ён сам завёў гутарку на гэту тэму. На маё пытанне, дзе ён працуе, ён засмяяўся і кажа, што там, дзе маюцца прыгожыя рэчы. У гэты вечар ён мне сказаў, што калі мне патрэбна модная адзежа і абутак, то ён можа дапамагчы. Я параілася з мамай і вырашыла купіць сабе лакавыя туфлі. Калі я яму сказала пра гэта, ён засмяяўся і кажа: «Навошта ж з гарматы па вераб'ях страляць? Спытай у сяброўак, каму што трэба, бяры грошы, пад'едзем на адну з маіх баз і там усё возьмем. Я ж ведаю вас, дзяўчат: варта адной з'явіцца ў новых туфлях, як усе пачнуць прыставаць да цябе, каб дастала такія ж». Не спадабалася мне тады гэта гутарка, і я перадумала купляць. Ён, напэўна, адчуў гэта, мы яшчэ разы два сустрэліся і больш не бачыліся.

— Вы яго яшчэ дзе-небудзь сустракалі?

— Бачыла. Ён разам з нейкім хлопцам аднойчы ехаў у трамваі. Я ўвайшла ў вагон, а яны ў гэты момант праходзілі міма, пра штосьці размаўлялі і весела смяяліся. Выйшлі яны з трамвая на Даўгабродскай. Перайшлі вуліцу і пайшлі ў бок Камароўкі. Калі трамвай паехаў, то я ўбачыла іх зноў. Яны ўваходзілі ў пад'езд вялікага дома.

— Вы запомнілі, у які пад'езд яны ўвайшлі?

— Так, запомніла. Я магу, калі хочаце, паказаць.

— Больш нідзе яго не сустракалі?

— Не.

— А як выглядаў яго знаёмы?

— Я яго бачыла мімаходзь, але калі б сустрэла, напэўна б пазнала. А вось Жору я запомніла добра. Калі хочаце, магу намаляваць.

— Давайце, — адказаў Славін, — паспрабуйце! Вось вам папера, аловак, уладкоўвайцеся ямчэй за сталом і пачынайце, а мы пакуль з Аняй пагутарым.

Славін сеў за стол Падрэзава, а Лябедзька ўладкавалася насупраць. Уладзімір спытаў:

— Аня, як вы думаеце, адкуль у Ірыны аказалася пяць тысяч рублёў?

— Напэўна, бацькі далі.

— Не, яны бачылі, што ў яе з'явілася больш за пяць тысяч рублёў, але што гэта за грошы — не ведаюць. Я вас хачу папрасіць, Аня, каб вы спыталі, ці не даваў хто-небудзь з дзяўчат Ірыне грошай, каб яна купіла якія-небудзь рэчы.

— Вы лічыце, што гэты бандыт прапанаваў ёй купіць штосьці?

— Так, лічу.

— Добра, я пагавару з дзяўчатамі.

— І яшчэ. Паспрабуйце знайсці як мага больш людзей, хто ведае ў твар Жору, а таксама тых, каму Ірына магла расказаць пра яго.

Рыпнулі дзверы, і Славін убачыў сястру.

— Валодзя, можна цябе на хвілінку?

Славін папрасіў у дзяўчыны прабачэння і выйшаў у калідор, а Жэня падала яму лісток паперы. Ён разгарнуў яго і ўбачыў, што гэта тэлеграма. Прачытаў і радасна зірнуў на сястру:

— Значыць, прыязджае?

— Так, у сем трыццаць раніцы. Можна я пайду разам з табой яе сустракаць?

— Паглядзім. Ну, а зараз бяжы дамоў, сястрычка, рыхтуйцеся да сустрэчы, а я пайшоў працаваць…

У кабінеце Сваткова якраз скончыла маляваць.

— Усё, гатова. Паглядзіце!

Лейтэнант ужо даўно запомніў прыкметы Жоры і ўяўляў яго твар, але калі ён узяў малюнак, быў моцна здзіўлены: хлопец выглядаў менавіта так, як ён і думаў.

— Вы малайчына, Лера. У мяне да вас просьба. — Славін падышоў да свайго стала, высунуў скрыню, адшукаў там два першыя фотаздымкі маладых людзей, якія трапілі пад рукі, і паказаў іх Сватковой:

— Не маглі б вы намаляваць вось гэтых?

— Цяпер?

— Ага.

— Калі вам трэба, то калі ласка. Давайце яшчэ паперу.

І дзяўчына ўзялася за работу. Гледзячы на фатаграфіі, яна хутка намалявала мужчын. Падабенства было дзіўным. Славін з захапленнем глядзеў на

малюнкі і расхвальваў дзяўчыну. А тая, радасная і крыху збянтэжаная, стаяла каля стала і не ведала, куды дзець свае рукі.

— Слухайце, Лера, калі раптам мне прыйдзецца шукаць чалавека, якога са слоў трэба будзе намаляваць, я буду звяртацца да вас. Як вы на гэта глядзіце?

— Без энтузіязму, — усміхнулася дзяўчына, — але калі спатрэбіцца, заўсёды дапамагу.

— Дамовіліся. На развітанне ў мяне да вас толькі адна просьба: калі ўбачыце Жору ці даведаецеся штосьці пра яго, патэлефануеце мне.

Дзяўчаты пайшлі, а Славін накіраваўся ў дзяжурную часць.

— Слухай, Сцяпаныч, выручы мяне. Пашлі свой грузавік за дзвюма дзяўчатамі.

— Ведаеш, хлопец, сёння ты цэлы дзень толькі і важдаешся з маладымі дзяўчатамі.

— Я ж па справе. Мне трэба з імі тэрмінова апазнанне правесці.

— Давай адрасы, бачу, што ўсё адно ад цябе не адчэпішся.

Славін хутка напісаў адрасы Барадзько і Марушкі, а сам вярнуўся ў кабінет, дастаў бланкі пратаколаў апазнання асобы па фатаграфіі і, каб менш губляць часу, калі з'явяцца дзяўчаты, пачаў запаўняць іх.

Праз паўгадзіны дзяўчаты былі дастаўлены ў аддзяленне. Першай Жору апазнала Марушка. Уладзімір паклаў перад ёй тры малюнкі. Яна зірнула на іх і адразу ткнула пальцам у той, дзе быў намаляваны Жора.

— Вось ён! Што, можа, ужо злавілі?

— Пакуль не, але зловім.

Ён хутка скончыў усе фармальнасці і запрасіў Барадзько. Дзяўчына таксама, не марудзячы, упэўнена паказала на той жа малюнак.

Аформіўшы пратакол, Славін звярнуўся да абедзвюх:

— Дзяўчаты, паглядзіце ўважліва на гэты малюнак. Можа, тут якой-небудзь дэталі нестае?

Дзяўчаты доўга глядзелі, але нічога дапоўніць не змаглі. Славін падзякаваў ім і адпусціў, а сам зноў пайшоў да старшыны.

— Сцяпаныч, як толькі з'явіцца шафёр, ты яго накіруй ва ўпраўленне. — Ён працягнуў старшыне малюнак, на якім быў намаляваны Жора. — Там ёсць дзяжурны эксперт, хай ён хутка сфатаграфуе гэты малюнак, і фатаграфіі трэба сёння ж развезці па ўсіх аддзяленнях. У тлумачэнні трэба пісаць, што гэты злачынец напаў у лесе на грамадзянку Лазаркевіч.

— Слухай, Славін, — абурыўся старшына, — ты што, думаеш, мне больш рабіць няма чаго і я буду цэлы дзень толькі твае пытанні вырашаць: то дзяўчат прывязі і адвязі іх назад, то зараз ва ўпраўленне машыну гані…

— Пачакай, Сцяпаныч, — перабіў яго лейтэнант, — прывезці дзяўчат — гэта была мая просьба, а вось што да малюнка, дык гэта — загад. І не моршчыся, сам ведаеш, што з такімі рэчамі марудзіць нельга. Ён сёння можа патрапіць у міліцыю за што-небудзь, і яго спакойна адпусцяць. Шукай тады ветру ў полі. Ясна? — Славін у душы чартыхнуўся: «Зноў гэта гарчакоўскае слова». Старшына ўжо не спрачаўся. Узяў малюнак, уважліва паглядзеў на яго, імкнучыся запомніць, і адказаў:

— Ясна, зробім…

***Пераклад з рускай Язэпа РУНЕВІЧА.***

*Заканчэнне ў наступным нумары.*



Іван КАПЫЛОВІЧ

# МОЙ КРЫЛАТЫ ДЗЕНЬ

* * *

Расступіцца лес прада мной —
П’янею ад гэтай сустрэчы.
Да явы далучан зямной
І сэнсу яе не пярэчу.

Лес чуйны атуліць мяне
Сваёй непадробнаю ласкай.
У вочы так люба зірне
Лясною квітнеючай казкай.

Спытае — прастую куды,
Ад рання чаму задумёны:
Хаваю ўзрушэння сляды
І тое, што быў паланёны

Усім тым, што бачу цяпер,
Што смагу тугі наталяе
І будзіць у сэрцы давер
Да свету, дзе птахам крыляю.

Да позняга вечара тут
Няходжанай сцежкай блукаю.

---

***Капыловіч Іван Іванавіч** нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную катастрофу, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка.*

*Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужаніны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003), «Правінцыялка» (2015). З вершамі выступаў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць» і «Полымя».*

Узяў у палон мяне кут —
Ён строга пра ўсё распытае.

У знакі чым даўся яму,
І сам таго добра не знаю.
Вясёлы і хмурны чаму —
Адказу на тое не маю.

* * *

Ідзе так спорна жыта ў колас,
Дзён падымаецца настрой.
Я патлумачу сабе ўголас —
Пары дажыўся залатой.

Шпак малады спрабуе крылы —
Бярэ прыступкі вышыні.
Ён неабсяжны свет адкрые,
Які пульсуе ў кожным дні.

Не размінуцца аніколі
Святло і цені таго дня,
Дзе знойдуць плоць і дух спатолю,
Дзе горыч выпіта да дна.

Суцішыць лета боль пакутаў,
Да явы верне спакваля.
Да краю гэтага прыкуты,
Дзе смагу волі наталяў.

Развязваў дзе вузлы тугія
Парой няўдзячнаю, крутой
І мроіў пра часы другія,
Што не кранутыя слатой.

* * *

Быў у паўкроку я ад смерці
І ёй у вочы паглядзеў.
Таго мне з памяці не сцерці,
Калі на жорны кругаверці
Патрапіў мой крылаты дзень.

Крок у бальнічным калідоры —
Нібы набатныя званы,
Што дух абудзяць непакоры,
Калі за горла возьме гора,
Калі захмараныя дні.

І я з надзеяй азірнуся
На той, няпройдзены мной шлях,

І ні на міг не адракуся
Ад усяго, на што малюся:
Мая малітва — дзён прасцяг.
Быў я з людзьмі і адзінокі —

Не пакрывіў ні раз душой.
Рабіў упэўненыя крокі
І намаганняў сэнс глыбокі
Ужо, здавалася, знайшоў…

А думкі, чорныя анёлы,
Бясконца круцяць галаву:
Напружваць трэба сілу волі,
Каб не адчайвацца ад болю,
Кажу я сам сабе: жыву!

* * *

Час помны той, калі
Рунее жыта ў полі
І жураўліны клін
Аклікне наваколле.

Абшар перада мной —
І блізкі, і далёкі:
Ён вабнасцю зямной,
Я з ім не адзінокі.

Я з полем гавару
Аб тым, што пераджыта,
Што прычакаў пару,
Што марамі спавіта.

Я вольны быў казак,
Свабодаю натхнёны.
Свабода — добры знак,
Што я ў жыццё ўлюбёны.

Я разам з жытам рос
У град і навальніцу.
Парою буйных рос
Звон каласоў мне сніцца.

* * *

Бярозы — родныя сястрыцы,
Аблюбавалі той куток,
Дзе ёсць на што глядзець, дзівіцца,
Дзе б’юць падземныя крыніцы,
Зямной жыццёвасці выток.

Як добра бачна наваколле
З той вышыні, што даў ім Бог.
Такая ў іх, бярозаў, доля:
Перамаўляцца з лесам, полем
І слухаць гаману дарог.

Ламалі буры голле, крону:
Як ацалелі — неўгадно.
След застанецца ад урону,
Ў сваю зялёную карону
Зноў прыбяруцца веснім днём.

Калі ўліюся на світанні
У перашэптванне бяроз,
Адыдуць некуды ваганні
І тыя ўсе расчараванні,
Якімі ў гэты свет урос.

* * *

Уваходжу ў яблыневы сад
І няспешную вяду размову
Часам, калі восень, зарапад,
Што настройваюць на добры лад
І забытыя падкажуць словы.

Шчэ антонаў многа на галлі —
Рана саду на спакой збірацца.
Не змаўкаюць днямі жураўлі,
Чутны крыкі іх у небе, на зямлі —
Любіць сад у вырай углядацца.

Адзіноты праведны куток
І прытулак бабінага лета.
Сад не раз мяне перасцярог,
Каб абдумваў я свой кожны крок,
Спазнаючы таямніцу свету.

Сніцца саду белы супакой
І начных завеяў баляванне,
Да якіх падаць ужо рукой.
Долі пазайздросціць хто такой,
Што саткана з болю і трывання?

На свае ўсё вернецца кругі —
Сад сябе вясною не пазнае,
Калі ў час пялёсткавай пургі
Першы гром абудзіць берагі
Уладанняў клопатнага мая.



Алена ТУЛУШАВА

# АПАВЯДАННІ

## Марыя Васільеўна

Марыя Васільеўна няспешна апранулася: нацягнула спартыўныя штаны, старую блузку, дастала галёшы, завязала касынку. Дом пачынаў заціхаць. Міша б вельмі сварыўся, калі б убачыў яе зараз у «такіх лахманах». Але яна ўсё разлічыла. Двух гадоў бяссоння хапіла ёй, каб вывучыць рытм жыцця суседзяў.

Праграма «Час» даўно скончылася, сабачнікі вярталіся з прагулак — значыць, пачатак адзінаццатай. Віктар з трэцяга паверха вернецца не раней як у гадзіну. Яго змена ў аўтобусным парку заканчваецца якраз апоўначы. Ён адзіны, хто можа прайсці паўз яе. З «няспячых» ёсць яшчэ моладзь. Хлопцы і дзяўчаты доўга стаяць каля пад’езда, з шумам разыходзяцца пасля поўначы. Але, па-першае, яны аднекуль зверху і ездзяць на ліфце. А па-дургое, сёння панядзелак. Марыя Васільеўна даўно заўважыла, што па панядзелках жыльцы стараюцца хутчэй прыйсці дадому і больш не выходзіць. Стамляюцца. Пад’езд засынае раней. Яна таму і выбрала панядзелак — першы панядзелак кожнага месяца. Вось, напрыклад, у пятніцу яна не рызыкнула б. Пад’езд бурліць, гудзе, мітусіцца. Усю ноч чуецца тупат. А зімой гэтыя з верхніх паверхаў наогул так і сядзяць на лесвіцы, кураць, выпіваюць і ўсё балбочуць. Чутна нават праз зачыненыя дзверы.

Калісьці, яшчэ ў першы год пасля пераезду, яна параілася з Мішам, маўляў, ці не пагаварыць з хлопцамі і дзяўчатамі, каб паводзілі сябе цішэй. Сын разгарачыўся — гэта табе не Гомель! Тут нікога не трэба выхоўваць! Ты разумееш, што тут так не робяць?! — Потым, заўважыўшы, што яна разгубілася, дадаў крыху мякчэй:

---

*__Тулушава Алена Сяргееўна__ нарадзілася ў 1986 годзе ў Маскве. Скончыла Інстытут псіхатэрапіі і клінічнай псіхалогіі і Інстытут псіхааналізу. Працавала ў Францыі і ЗША. Цяпер — старшы медыцынскі псіхолаг у Цэнтры па рабоце з падлеткамі (г. Масква).*

*Друкавалася ў часопісах «Наш современник», «Московский вестник», «Подъем», «Вертикаль — XXI век» (Расія), «Белая вежа», «Нёман», «Новая Немига литературная» (Беларусь), у літаратурных выданнях шэрагу замежных краін. Лаўрэат V міжнароднага форуму славянскіх літаратур «Залаты Віцязь».*

— Мама, я цябе прашу… Калі ласка… У мяне і так столькі праблем. Не трэба. Сядзяць яны, асабіста табе хіба перашкаджаюць спаць?

— Ды мне, Міхаська, не перашкаджаюць. Я і днём магу прылегчы, а астатнім як? У нас ёсць сем'і з дзецьмі, а на першым паверсе пару дактароў. Ім часта раніцой трэба ісці на дзяжурства. Я ж толькі хацела папрасіць, каб цішэй…

— Мам, калі ласка, заканчвай свае прывычкі. Вось я зайшоў на чай, а ў выніку, як папугай адно і тое ж табе тлумачу! Які ўжо раз, а ты і не чуеш!

— Міхаська, ты прабач, прабач! — спалохалася яна. — Я не буду. Я цябе зразумела. Ты паеш, адпачні, а я моўчкі пасяджу. Прабач.

Так і не зразумеўшы сына, яна ўсё ж не рашылася пагаварыць з шумнай кампаніяй, хоць і была пераканана, што знайшла б патрэбныя словы. Усё-ткі трыццаць пяць гадоў прапрацавала ў школе. Паважаны чалавек. Колькі хлопцаў з няпростымі характарамі, з няпростых сем'яў, але дыялог заўсёды атрымліваўся.

Яна была строгім настаўнікам. За прынцыповасць і актыўнасць дырэктар рухаў яе па партыйнай лініі: «А хіба можна было быць не прынцыповай, — звыкла загаварыла яна сама з сабой. — Гісторыя — гэта не літаратура: двух меркаванняў быць не можа. А гісторыя кампартыі ў старэйшых класах — тым больш. Хіба можна тут шукаць кампрамісы? Так вырасціш не патрыётаў, а здраднікаў. Іх жа, маладых, так лёгка заблытаць, так лёгка павесці па падманлівым шляху. Тады нам, канечне, было прасцей. Падручнікі на ўсю краіну аднолькавыя, праграма зацверджаная, ідэя адзіная. Была сістэма, была логіка. А вось як цяпер выкладаюць ім падзеі 90-х? Але і не зразумееш, раней была адна краіна… А зараз Міша кажа, кожны настаўнік можа выбраць, які пункт гледжання выкладаць на ўроках. Вось і псуюць дзеці нервы педагогам, бо адчуваюць, што няма ў старэйшых адзінства, няма праўдзівых адказаў, таму і павагі да старэйшых няма».

Яна зайшла на кухню, па звычцы ўзяла сухую анучу і выцерла ракавіну. Падставіла пад кран пластыкавы слоік з-пад смятаны. Міша рамантаваў кран у мінулым месяцы, але кран працякаў, і за ноч ракавіна пакрылася пацеркамі кропелек. Вымыты посуд высах. Яна пераклала яго ў шафу, павесіла вільготны ручнік на батарэю і агледзелася, шукаючы, ці не засталося што няз'едзенае. Усё чыста. Рукі звычна пацягнуліся да радыё. Спачатку затрашчала, затым пачулася знаёмая гаворка «Палітычнага агляду». «Надакучыла. Адно і тое ж. Лепш бы Радзінскага ўключылі. Вас, гультаёў, кожны вечар слухай, а яго — толькі па суботах!.. Як жа ён цікава расказвае… З голасам толькі не пашанцавала», — яна ўздыхнула, спачуваючы піскляваму тэлевядучаму.

Марыя Васільеўна падышла да акна. З другога паверха быў бачны невялікі ўчастак шырокага праспекта. Ёй падабалася вечарамі глядзець на рознакаляровыя агні аўтамабіляў і яркія вітрыны. Начамі было прыгожа, хаця і шумна. А вось днём яна старалася ў вокны не глядзець, асабліва калі лета было засушлівае. Выцвілы на яркім сонцы пейзаж навейваў сум: шэрая шаша, пыльныя тратуары, стомленыя спякотай людзі.

З акон не бачна было ніводнага дрэўца. А ў мінулым годзе ўбралі і газоны. Міша быў задаволены: «Нарэшце ў нас нармальныя паркоўкі зрабілі, а то як ні прыедзеш, заўсёды стрэс, дзе б у двары паставіць машыну!» Марыі Васільеўне было сумна наглядаць, як апошнія зялёныя лапічкі — адзіныя адзнакі лета, знікаюць пад шэрым роўным асфальтам. Але калі сыну ад таго, што ёсць дзе паставіць машыну, лягчэй прыязджаць у госці, што ж, яна пацерпіць. Яна пацерпіць.

У Гомелі вакол яе вокнаў вілася вінаградная лаза. Летам цені ад лісця кружыліся па кухонным стале, выпісваючы ўзоры, як у дзіцячым калейдаскопе. Яе маленькі агародзік, шчыльна засаджаны агароднінай і малінай, пярэсціўся адценнямі зялёнага. Летам прыязджалі ўнучкі, і яна цэлы дзень гатавала для іх усялякую ежу. Але калі яна завіхалася каля пліты, пераварочваючы на патэльні духмяныя пышкі, або шыла дзяўчынкам карункавыя святочныя сукеначкі, яна і не глядзела ў акно, ведала, які малюнак знадворку. Кожны куст, кожную вішню суседняга агарода, лужок з дзятвой, вакол якога стаялі дагледжаныя хлеўчукі, яблыню каля агульных веснічкаў. Яна пражыла тут сорак гадоў. Яны з мужам самі будавалі гэты дом, як і іншыя пятнаццаць сем’яў. Будавалі доўга, дабротна, для сябе, для дзяцей, для ўнукаў. Два паверхі, два пад’езды, склеп, агароды, хляўчукі, што закрывалі двор ад старонняга вока. Сорак гадоў нічога не мянялася. Толькі дрэвы раслі ўсё вышэй, ды ўюн распаўзаўся ад страхі да пад’езда, закрываючы цёмнай зелянінай увесь фасад дома.

Калі яна выйшла з кватэры, у пад’ездзе было цёмна і холадна. Ацяпленне ўключалі толькі ў канцы кастрычніка. У іхнім доме ў Гомелі была газавая калонка. Цёпла было, і гарачая вада была заўсёды. Пасля таго, як пераехалі сюды, ёй здавалася дзіўным зноўку мыцца з тазіка летам, як у далёкім пасляваенным дзяцінстве.

З-за суседніх дзвярэй чуліся выццё сірэны і стрэлы: сусед сеў глядзець серыял. Значыць, ужо адзінаццаць. Яна ціхенька прыадчыніла дзверы, не асмельваючыся іх зачыніць з трэскам. У мінулы раз з-за таго, што перагарэла лямпачка, яна доўга не магла ўставіць ключ у адтуліну. І чым больш спрабавала гэта зрабіць, тым больш хвалявалася, што нехта з суседзяў убачыць яе, а потым скажа Мішу, і ён зноў будзе сварыцца, будзе казаць, што яна займаецца не сваёй справай і яму сорамна за тое, як яна выглядае. «А ў якім, загадаеш, выглядзе мне выходзіць? — разважала яна, нацягваючы шчыльныя гумовыя пальчаткі. — І калі ўжо так, я ж заўсёды ў чыстым. А што не новае на мне, дык жа — не на танцпляцоўку».

Яна ціха пераставіла да ліфта вядро з вадой, разгарнула квяцісты, уручную абшыты акравак тканіны з колішняй яе хатняй сукенкі, і таксама ціха апусціла яго ў ваду.

Выціснуўшы анучу, узнялася на адзін лесвічны пралёт і пачала не спяшаючыся, адну за адной, мыць прыступкі.

Спусціўшыся да пляцоўкі свайго паверха, яна прапаласкала анучу, з палёгкай заўважыла, што бруду накапілася не так ужо і шмат. У мінулым месяцы ўвесь тыдзень да яе «дзяжурства» горад затаплівалі ліўні, і ваду даводзілася мяняць двойчы. А гэта час і сіла: на вуліцу выліць, спусціцца і ўзняцца па лесвіцы…

Зараз было суха. Ні дажджоў табе, ні снегу. Ды і пару тыдняў таму да іх у пад’езд усё-ткі зайшла прыбіральшчыца — грузная жанчына з абветраным тварам, у бруднай сіне-аранжавай форменнай курткі. Прыбіраць павінны былі раз на месяц, але прыбіральшчыца прыходзіла, калі Рая з першага паверха тэлефанавала ў ЖЭС і скардзілася. Марыя Васільеўна таксама хацела званіць, але пачуўшы гэта, Міша закрычаў: «Ну чаму табе, мам, трэба больш за ўсіх?! Якая табе розніца, што там. Ты ж не ў пад’ездзе жывеш, а ў сваёй кватэры. Прыйдзе час — прыбяруць. Толькі не ўздумай сама мыць — я цябе ведаю! Або тым больш прапаноўваць суседзям — падумаюць, што ты з глузду з’ехала».

Яна і заікнуцца не пасмела пра тое, што задумала, а Міша ўжо забараніў! Але ж ён і сам, безумоўна, памятаў, як у іх дома ўсё было ладам, і якая там была чысціня. Кожны тыдзень жыхары адной з кватэр (вядома, гаспадыня), мылі абодва паверхі — графік вісеў каля ўвахода ў пад'езд.

У пад'ездзе заўсёды было чыста, і ніхто нават не мог дадумацца, каб плюнуць на лесвіцу або размаляваць сцены. Тым больш *свае*… Раней ёй здавалася: *свае* — таму што равеснікі, да працы пасля вайны прывучаныя, ідэяй адной з'яднаныя, агульным выхаваннем жылі. А іх дзеці па інерцыі ўжо прымалі тыя правілы сумеснага жыцця, што панавалі сярод жыхароў дома.

Але пераехаўшы сюды, Марыя Васільеўна са здзіўленнем заўважыла, што справа не ва ўзросце. Дзве бабулькі з першага паверха за пяць гадоў ні разу не адказалі ёй на яе «добры дзень». Пры тым тая самая «гучная» моладзь віталася, нават калі яна прасіла хлопцаў і дзяўчат не курыць у пад'ездзе. Жанчыны прыкладна яе ўзросту жылі ў адзіноце, ні з кім не сябравалі, рэдка калі выходзілі са сваіх кватэр. Хіба магла яна пачынаць з імі размову пра тое, каб арганізаваць дзяжурствы? А да тых, што былі маладзейшыя за яе, яна і сама з такой прапановай не падышла б: у сваёй большасці сумныя, заўсёды некуды спяшаюцца, стомленыя, раздражнёныя. Як і яе Міша ў апошні час. Быў жа раней зусім іншым…

Пакуль яна ўспамінала сына, ягоныя прыгоды і роспач ад таго жыцця, якім ён жыў, не заўважыла, што ўжо двойчы памыла лесвічную клетку. Лёгкі пах соды амаль выветрыўся. Яна выпрасталася, крэкчучы ад болю ў спіне і нагах. Чыста…

Марыя Васільеўна сядзела на ложку, масіруючы калені дрыжачымі рукамі. У кватэры ўсё было вымыта, развешана. За сцяной ужо даўно замоўк тэлевізар. Наверсе сёння ніхто не сварыўся. Пад'езд спаў.

Каля ўвахода пачуліся крокі, затым гукі кнопак дамафона. Ногі стомлена зашаркалі па прыступках, заціхлі перад другім паверхам…

Яна ўсміхнулася, уявіўшы, як Віктар здзіўлена глядзіць на чысціню і асцярожна, стараючыся не пакідаць слядоў, прабіраецца па краі лесвіцы дамоў.

Віктар звыклым жэстам выбраў з паштовай скрынкі ўсе паперы і пачаў разбіраць пісьмы. «Зноў адны рахункі! Свету белага не бачна!» — ён раздражнёна плюнуў у скрынку для паперы і паплёўся дадому.

## Віна выжыўшага[1]

— Мацней закручвай!

— Я закручваю.

— Ты не закручваеш, я бачу!

— Сказаў жа, закручваю.

— Ды ты мне ўсё жыццё кажаш! Хаця б што зрабіў... Ён яшчэ ўздыхае! Закручвай нармальна, мне прыйдзецца ўсё выціраць.

— Не крычы, я ж раблю.

— Не крычы яму! Ды табе крычы, хоць разарвіся — ці чуеш?! Колькі крычала, каб кінуў піць — пачуў?!

---

[1] Віна выжыўшага — тэрмін у псіхалогіі, які абазначае пачуцці чалавека, што ацалеў у катастрофе, у якой загінулі ўсе.

— Ну не магу я не піць, ты ж ведаеш, ну не крычы, раніца ж.

— Чаму я магу, а ты не можаш?! Уладкаваўся! Раніца яму: палова першай! Ужо нажраўся. Нармальныя людзі ноччу працуюць як трэба!

Марына паспрабавала яшчэ некалькі хвілін не расплюшчваць вочы, але маці крычала так, што яна поўнасцю абудзілася ад сну. — Нармальныя людзі... Калісьці яны маглі б прэтэндаваць на гэтае званне. Некалі даўно, калі Марыне было гадоў пяць, бацька, хоць і шмат піў, але па святах. У застоллі, калі ўсе ўжо былі добра захмялелыя, ён браў яе на рукі, і абдаючы непрыемным пахам алкаголю і цыбулі, пачынаў так гучна, каб усе чулі, расказваць аб тым, што яго Марыначка самая разумная ў групе, што яна будзе, як і яе мама — нявеста ўсім на зайздрасць. Рукі ў бацькі станавіліся халоднымі і ліпкімі, сядзець было няёмка, а ад яго пацалункаў на шчоках заставаліся вільготныя сляды. Але ўсё гэта здавалася зусім няважным. Яна сядзела і ўсміхалася, як можа ўзнёсла ўсміхацца самае любімае на свеце дзіця: тата ёю ганарыцца, кажа, што яна будзе падобная на сваю мамачку!

Чарговыя крыкі маці рэзка абарвалі ўспаміны аб дзіцячым шчасці. «Як жа ўжо дасталі, трэба дзверы памяняць. Хаця яе крык будзе чутны і праз браніраваныя. Ды і грошай на дзверы ўсё адно няма», — мільгнула ў галаве. Вобраз маці ўварваўся ў свядомасць: рукі ў бакі, ногі расстаўлены, як у мужыка, галава прыўзнятая, гатовая на кожнага, хто ёй трапіцца на вочы, абрушыць з абурэннем чаргу прэтэнзій. Пры гэтым яе вочы так і бегаюць па баках.

Відовішча канчаткова прымусіла Марыну расплюшчыць вочы і скінуць з сябе коўдру. Ад дотыку ног да халоднай падлогі стала холадна і няўтульна. «Добранькую ж перспектыву ты мне прапаноўваў, татачка», — раздумвала яна, разглядаючы сябе ў люстраныя дзверы шафы, з палёгкай не ўбачыўшы нічога, чым была б падобная на маці. Аб учарашніх пасядзелках нагадвалі запалёныя вочы і пародыя ўкладкі на галаве. Яна карыкатурна ўсміхнулася сама сабе, выява на люстраных дзвярах адказала зусім не дружалюбна.

Мяркуючы па несціхаючых крыках маці, кран яны так і не прыкруцілі. Хутаючыся ў світар, Марына выглянула ў калідор.

— Калі я змагу зайсці ў душ?

— Здрасце табе! Няўжо прачнулася? А чаго ж так рана? — маці, быццам павук, гатова была напасці на новую ахвяру, якая трапіла ў павуціну яе кватэры.

Марына пытанне маці праігнаравала, праз адчыненыя дзверы ваннай спыталася:

— Тата, хутка заканчваеш?

— Ды хто яго ведае, маці кран нейкі дурнотны купіла, разьба злятае.

— Ах, гэта я яшчэ і кран не той купіла?! — «павук» заўважыў, што ў першай ахвяры яшчэ цепліцца жыццё і заспяшаўся закончыць сваю місію. — Ды ты хаця б раз падняў свой азадак, ды сам купіў! За столькі гадоў ад цябе ў доме ніякай карысці! Кран не той! Рукі ў цябе ад гарэлкі не тыя!

— Ды я што, я кран, кажу, не наш. Імпартны, не падыходзіць сюды.

— Чым табе іхнія краны не дагадзілі?! Ты на яго спачатку зарабі, а потым абхайвай!

Пачуўся трэск, нешта стукнулася аб ванну, палілася вада.

— Ды каб цябе, тваю ж...

У канцы бацькавага мацюка прагучала: «Не выйшла, Надзь, трэснуў».

— Не выйшла?! Замуж я б за цябе не вышла, тады б усё ў мяне ў жыцці выйшла куды трэба!

— Ну, я так разумею, айчынная вытворчасць кіруе! — кінула Марына.

— Іш ты, ажывілася як! Мы ўжо і не думалі, што ўбачам цябе да вячэры! — бацькава поўная капітуляцыя дадала «павуку» новай сілы, і ён наступаў, паціраючы лапкі.

— У мяне выхадны. Захачу — і да вячэры спаць буду. Я нікога не чапаю. Калі б не твае крыкі — спала б далей.

— Ну канечне ж, чым яшчэ заняцца. Усю ноч бадзяецца, потым спіць суткамі. Хаця б раз за месяц у пакоі прыбрала, гадзюшнік развяла, зайсці страшна!

— А няма чаго заходзіць — мой пакой.

— Яшчэ ты мне ўказваць будзеш, куды заходзіць ва ўласнай кватэры. Спачатку хоць на куток сабе зарабі!

— Будзеш чапаць мой пакой — я яго таджыкам здам, я тут прапісана. Не трэба было тую кватэру Мішы аддаваць, я б з задавальненнем аблегчыла б ваша жыццё пераехаўшы.

Пры словах пра Мішу твар маці скрывіўся ад болю і прыкрасці, рукі машынальна апусціліся, і ўся яна як бы ссутулілася, зусім панікла. «Ну вось, зараз зноў пачнецца». — Марыне стала шкада маці.

— На кухні ён. Ідзі, пагавары, — голас маці гучаў глуха, у ім ужо не чулася злосці, хутчэй адчай і безвыходнасць.

— Мішка?

— Здарылася, відаць, нешта. Ён маўчыць, цябе, мабыць, чакае. Ты пагавары з ім, — пагляд маці стаў мяккім, у ім адчуваўся боль.

— Грошай ён, напэўна, чакае, што яшчэ ў яго здараецца? Вось і прыехаў. — Марына не магла спакойна глядзець на гэты ахвярны вобраз маці і з гадамі прывыкла адсякаць усе сентыментальнасці жорсткім тонам і жорсткай праўдай.

Маці моўчкі праводзіла яе паглядам і машынальна зайшла ў ванную.

— На, Коль, стары пакуль давай закруцім.

— Стары — гэта можна. А тое, што ён падцякае — дык я зараз пракладку новую пастаўлю, будзе лепшы, чым гэты.

На кухні было холадна, пахла газай і кавай.

— Прывітанне! — сказала Марына як мага дружалюбней, стараючыся выцягнуць сябе з ранішняй злосці. — Як справы? — і, не чакаючы адказу, пачала ўключаць астатнія канфоркі, паціраючы над плітой халодныя пальцы.

— Нармальна. Сама як? — ён па звычцы не падымаў вачэй ад кубка, над якім уздымалася пара.

— Нічога сабе. Калі б не гэтыя — наогул няблага.

— Але ж, маці чакае. Я, калі ты была малая, думаў, калі-небудзь голас скончыцца, і яна ўсё астатняе жыццё шэптам будзе размаўляць.

Марына ўсміхнулася, успомніўшы, як яны ў дзяцінстве хаваліся ад маці ў ваннай, і як аднойчы заела замок, і не змаглі адчыніць дзверы. Зрэшты прыйшлося выламаць замок, а маці потым крычала на іх яшчэ тыдзень.

— У гэтай не скончыцца, я ў дзяцінстве думала, што, калі вырасту — ніколі не буду крычаць на сваіх дзяцей. Але, адчуваю, гены возьмуць сваё.

— Як праца? Усё спрабуеш выратуваць свет? — усміхнуўся Міша.

— А ты ўсё спрабуеш выратавацца ад свету? — паспрабавала ўкалоць яго яна.

— Кожнаму сваё, выжываем, як можам.

Марына насыпала кавы, заліла кіпенем, і села насупраць брата.

— А на якія грошы выжываеш? Скрадзеныя? — амаль сцвярджаючы мовіла яна.

— Калі як. Дзе як, дзе прыгандляваць перападае. Ды ўсё, як раней. Тут вось дзядуля крыху падкінуў, быццам да дня нараджэння.

— Так, ён казаў мне. Я яго папярэдзіла, што гэта табе на пахаванне, — яна гучна сербанула каву і паморшчылася.

— Усе там будзем.

— Але ж ты спяшаешся першым.

Марына хацела працягваць стандартны абмен калючымі фразамі, але паглядзела на брата, і ўнутры яе зашчымела. За апошні месяц, калі яны не бачыліся, ён моцна схуднеў. Вочы на яго твары з блакітнаватым адлівам здаваліся шклянымі лямпачкамі. Рэдкае шчэцце прыкрывала абветраную, месцамі ў дробных язвачках, скуру. Пасля другога тэрміну ён два месяцы лячыўся ў туберкулёзным санаторыі. Але прыкметы жыцця зніклі з яго твару ўжо праз пару тыдняў, і цяпер нішто не нагадвала, што ён здаровы.

— На чым зараз?..

— Месяц чысты! — шырока ўсміхнуўся брат. Пасля таго, як ён адбыў першы тэрмін за рабаўніцтва, маці аддала ўсе грошы, якія мела на яго імплантанты. Наіўная, яна спадзявалася, што турма зменіць сына, а падрамантаваная ўсмешка стане стымулам знайсці добрую работу.

— Хлусіш.

Ён не адказаў, няёмка паднёс да рота кубак, і Марына заўважыла, што рука яго не слухаецца. Ён быў падобны на калеку.

— «Вінт»?

— Ух ты, прафесарша, падсякаеш. Дзе паднацягнулася? Гэта нават не наркотык. Захачу — кіну.

— Але. Я гэта чую кожны дзень. Лячыцца не надумаў?

— Ды ўсё нармалёва, расслабся! — павучанні яму добра-такі надакучылі. — Праходзілі ўжо, Марын. Працуй на працы.

— Прабач. Гэта хутчэй пытанне.

Міша так і не адрываў пагляд ад кубка, паціраючы яго бледнымі пальцамі — на костачках выдзяляліся шматлікія старыя шнары. Падлеткам Мішу аддалі на скалалазанне, дзе ён хутка асвоіўся, за што часта хвалілі. Бацькі, паверыўшы ў сынавы здольнасці, гатовы былі аплачваць і дарагі рыштунак, і паездкі на спаборніцтвы, нягледзячы, што сям’я мела сярэдні дастатак. Малодшай Марыне станавілася зайздросна. Ёй таксама хацелася, каб на яе штосьці трацілі, радаваліся поспехам, падбадзёрвалі. Але грошай на заняткі дачкі не заставалася, ды і «талентаў» у яе выяўлена не было. Марына спадзявалася, што ў нечым зможа вызначыцца, але ў школе яна была з сераднячкоў, а ў гуртку, дзе не трэба было плаціць, прапаноўвалі толькі вучыцца плесці бісерам і шыць. Усёй сям’ёй яны прыходзілі на спаборніцтвы пахварэць за Мішу, і Марына з сумам пераводзіла пагляд з бацькоў, якія былі ў захапленні, бачачы, як ён караскаецца ўсё вышэй і вышэй. Марыне хацелася таксама залезці высока, яшчэ вышэй, чым усе, каб яны задзіралі галовы, наглядаючы за ёй. І тады ў яе нарадзілася тая самая дзіцячая, але зусім не дзявочая мара. Космас. Вышэй за ўсіх, нават вышэй, чым гэтыя альпеністы, уздымалася толькі яна на сваіх аграмадных караблях. За тым, як яны ўздымаюцца, на маніторах сочаць сотні людзей, а па тэлевізары і ўвесь свет. Толькі ад адной мары пра такія палёты ў яе замірала сэрца.

Як ажыццявіць сваю мару, Марына не ведала, і ёй ніхто не мог падказаць: мара была яе. Таму Марына проста чакала. Чакала, што ў яе неяк само атрымаецца, што мара збудзіцца, і тады на яе таксама ўсе будуць глядзець з захапленнем... Ёй так хацелася стаць лепшай за Мішу, хоць у чым-небудзь.

Лёс дапамог Марыне стаць лепшай, але зусім іншым чынам. У той час, пакуль яна чакала, калі збудзецца яе мара, у школе заключылі дамову з сацыяльна-псіхалагічным каледжам, куды Марына накіравалася пасля дзявятага класа. А з каледжа можна было без экзаменаў паступіць на вячэрняе аддзяленне інстытута. Космас чамусьці ўсё не з'яўляўся ў яе жыцці, як і касманаўты. Затое пачалі з'яўляцца матацыклісты. Канечне, касманаўтаў яны не заменяць, але таксама ў шлемах і «лятаюць». Жыццё вяло Марыну наперад. Думка пра інстытут крыху палохала: у іх сям'і ні ў каго не было вышэйшай адукацыі, і наколькі будзе цікава і складана вучыцца ў інстытуце ніхто ёй не мог расказаць. Але надзея на тое, што ў рэшце рэшт яе таксама пахваляць, вабіла. Міша да таго часу ўжо кінуў адзін інстытут, потым яго выключылі з другога, і ён год адпачываў, у трэцім жа «не склаліся адносіны». Бацькі лічылі, што сыну не шанцуе з-за таго, што ён вельмі шмат часу аддае трэніроўкам, але неўзабаве выявілася, што трэніроўкі Міша наведвае таксама рэдка, як і вучобу. А потым... Потым усё закруцілася.

Марына вельмі стамлялася на апошнім курсе каледжа, вечарамі пастаянна падпрацоўвала. Яна перыядычна заўважала, што ў іх кватэру да брата прыходзяць дзіўнаватыя кампаніі, што яе насцярожвала. Яна скардзілася на гэта маці, але тая не рэагавала: «Мішы трэба адпачыць!» Здаецца, хлопцы і не пілі ў іх дома, проста аб нечым сваім гаварылі. Праз нейкі час Марыне пачало здавацца, што яна стала няўважлівай: не магла знайсці сваіх рэчаў, некуды паклала новы плеер, згубіла завушніцы, грошы ўвесь час знікалі з кашалька. Яна старалася больш спаць, займела запісную кніжку, у якой запісвала дзе і што ў яе, падлічвала колькі і на што патрацiла грошай. Але калі маці сказала ёй, што знікла скрыначка з двума залатымі ланцужкамі і заручальным пярсцёнкам, які ўжо не налазіў на палец, яны абедзве задумаліся.

Спачатку падумалі, што забраў бацька, ён ужо даўно выпіваў. Але ж маці заўсёды пакідала яму грошы на гарэлку, і здаецца, бацьку хапала. Піў ён запоямі, раз у два-тры месяцы, а грошы і каштоўнасці знікалі рэгулярна. Маці ўсё ківала на Мішавых сябрукоў, вельмі абуралася, калі Марына спрабавала зганьбаваць брата. А потым Марыне ўжо і не трэба было спрачацца і сварыцца: усё стала зразумелым. Міша рэзка схуднеў, скура яго стала бледнай, настрой змяняўся: быў то абыякава добры, то ярасны, ён пастаянна «губляў» тэлефоны, прасіў грошы, каб «дапамагчы сябру», і калі маці спрабавала пра што спытаць у яго, замест таго, каб адказаць, крычаў і моцна біў кулакамі ў сцяну. У доме з'яўляліся чужыя людзі, якія ніколі не глядзелі ў вочы, грошы і каштоўнасці даводзілася хаваць, у дзверы паставілі замкі, і яны пастаянна «ламаліся». Маці нічога з ўсяго гэтага дзіўнага не ўспрымала рэальна, нават заўважаючы ў вядры для смецця шпрыцы. А потым ім пазванілі з бальніцы, куды Мішу забралі пасля перадазіроўкі. І дыягназ, які паставілі ўрачы сведчыў, аб тым, што здарылася...

Далей былі спрэчкі, крыкі, знікненне грошай, платныя клінікі і ўцёкі, маміны слёзы і Мішавы шантажы, умольванні, просьбы, абяцанні. Марына павінна была паспяваць хадзіць у інстытут і на працу ў школу, старалася поўнасцю сябе забяспечыць, разумеючы, куды знікаюць бацькоўскія сродкі. Яна старалася падтрымліваць маці, уздзейнічаць на брата, выбрала ў інстытуце

спецыялізацыю па працы з залежнымі, каб лепш разумець тое, што адбываецца з Мішам і дапамагчы яму. Яна вельмі старалася ні чым не засмучаць бацькоў, старалася, каб хоць з ёй яны не мелі ніякіх праблем, хацела, каб яны, гледзячы на яе, радаваліся. Але бацькі, цалкам засяроджаныя бедамі сына, не заўважалі дачкі, уся іхняя ўвага была накіравана на Мішу, які апускаўся ўсё ніжэй і ніжэй. Калі Марына прыляцела дадому з запаветным дыпломам аб вышэйшай адукацыі, адзіным у іх сям'і, мама са слязьмі выціснула: «А Міша ж, і Міша ж таксама мог бы! Як жа гэта мы не прасачылі...»

Зараз Марына глядзела на брата, і ёй упершыню за доўгі час захацелася паплакаць з-за таго, што з ім здарылася. Было зразумела, што ён не вытрымае яе слёз і пойдзе, і яна заплакала. Яна аплаквала іх дзіцячае сяброўства, яго клопаты аб ёй і абарону ў школе, яго імкненні і перамогі, сваю дзіцячую рэўнасць і крыўды. Яна аплаквала ўсё тое, што адыдзе разам з ім, ужо зусім хутка. Яна аплаквала сваю будучую адзіноту, аплаквала тое пачуццё віны за свае поспехі, якое не пакідала яе, свае планы і мары, віну за сваё жыццё, якое ў яе будзе, а ў яго — не.

Міша ўбачыў яе слёзы і моўчкі пайшоў у бацькоўскую спальню. Яна яшчэ некалькі хвілін бязгучна плакала. Зараз яна пойдзе ў свой пакой, апране новыя джынсы і свежапамыты белы світар. Яна зробіць прычоску, прыгладзіць непаслухмяныя рыжыя валасы, уставіць у нос пірсінг з залатой ластаўкай, капне на запясце любімыя духі. Яна выйдзе з дому, зловіць прыватніка і паедзе ў турагенцтва даплаціць за паездку на Мальту. Потым сустрэнецца са сваім «касманаўтам», будзе катацца па летняй Маскве, правядзе з ім ноч і, шчаслівая абуджэннем з той дрымотнай ранішняй пяшчотай, паедзе на працу, будзе спрабаваць некага выратаваць, яна, якая не змагла выратаваць брата.

А ён выкурыў цыгарэты, якія пакінуў бацька, выпрасіў у маці яшчэ крыху грошай, сеў у дрогкі тралейбус, паехаў на ўскраіну Масквы, у сваю кватэру, бавіць дзень у кампаніі такіх жа, як сам, нават не думаючы, ці наступіць заўтра.

***Пераклад з рускай Максіма ПЯТРОВА.***





**Андрэй ЦІМАФЕЕЎ**

# НА НЕКАЛЬКІ ІМГНЕННЯЎ

У Дзівеева я прыехаў на тыдні перад Сёмухай. Мае знаёмыя па інстытуце рускай мовы параілі мне не звяртацца ў паломніцкі цэнтр пры манастыры і ў шматлікія гасцініцы, а пасяліцца ў вясковым доме пры заездзе ў вёску, дзе прадстаўлялі келлі гасцям. Там мне адвялі маленькі пакойчык, у якім ушчыльную стаялі восем ложкаў, але ў тыя дні паломнікаў было мала, і таму я жыў адзін. У хаце ішоў рамонт і я, калі праходзіў каля душавой для сясцёр, бачыў некалькіх мужыкоў, што клалі кафлю; яны гучна лаяліся адзін на аднаго.

Днём я наведаў усе святыні манастыра, пакланіўся машчам святога Серафіма Сароўскага. Вячэрняя служба была доўгай, але я адстаяў яе ўсю і назад ішоў у тым стане ўнутранага задавальнення, якое бывае, калі зробіш цяжкую, але правільную справу. Побач крочылі іншыя паломнікі, тры жанчыны нешта бойка абмяркоўвалі каля манастырскай крамы. Са званіцы пачуўся велічны і крыху сумны гук. Я падаў старому жабраку каля брамы і ў прыўзнятым настроі накіраваўся ў хату.

Калі я прыйшоў у свой пакой, то прылёг адпачыць, а потым стаў чытаць патрэбныя для заўтрашняга прычасця малітвы. Я адчуваў асаблівы настрой, і малітва ішла ў радасць, што нячаста бывала ў мяне ў горадзе. Раптам пачуўся стук. Я паморшчыўся і, паспешліва адклаўшы малітоўнік, зрабіў некалькі крокаў да дзвярэй.

У пакой увайшоў хударлявы чалавек з вялікімі карычневымі мяшкамі пад вачыма.

— Добры дзень, — сказаў ён, тупаючы ў парозе, — скажыце, можна ў вас папрасіць тэлефон, а то я свой згубіў, а мне трэба маці патэлефанаваць... Я сваю картку ўстаўлю, не хвалюйцеся...

---

***Цімафееў Андрэй Мікалаевіч*** *нарадзіўся 14 верасня 1985 года ў горадзе Салаваце Рэспублікі Башкартастан. Скончыў Маскоўскі фізіка-тэхнічны інстытут і Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Публікаваўся ў часопісах «Новый мир», «Наш современник», «Октябрь», «Бельские просторы», «Подъем», «Волга XXI век», «Роман-газета», «Белая Вежа», «Нёман», газетах «День литературы», «Литературная газета»,«Литературная Россия» і інш. Вядучы рубрыкі «Дзённік чытача» на сайце «Расійскі пісьменнік». Рэдактар аддзела прозы інтэрнэт-часопіса «МолОКО».*

*Лаўрэат прэміі імя Ганчарова ў намінацыі «Вучні Ганчарова» (2013), штогадовай прэміі часопіса «Наш современник» (2014), прэміі «У пошуках праўды і справядлівасці» (2015).*

*Член Савета па крытыцы пры Саюзе пісьменнікаў Расіі.*

Секунду я сумняваўся, як бы баючыся чагось, але потым пастараўся як мага хутчэй знайсці свой тэлефон і працягнуць незнаёмцу. Той часта заківаў і запэўніў, што вернецца праз пяць хвілін.

Калі ён выйшаў, я зноў стаў перад абразамі, спрабуючы аднавіць патрывожаны малітоўны стан, але на душы стала неяк пуста і неспакойна. Чутна было рыпанне маснічыны аднекуль знізу і чыйсьці адрывісты голас.

Мужчына на самай справе хутка вярнуўся.

— Дзякуй, — сказаў ён, — неяк увесь сцяўшыся. Я узяў тэлефон, але госць не спяшаўся сыходзіць.

— Ведаеце, заўсёды шкада, калі людзі вось так сустракаюцца і нават не даведваюцца нічога адзін пра аднаго, — раптам загаварыў ён. — Давайце пазнаёмімся. Мяне Андрэй завуць. А вас?

Я назваўся. Ён падышоў да мяне і, недарэчна узмахнуўшы рукамі, апусціўся на край майго ложка.

— А я вось тут у матушкі жыву, працую...

Я паківаў, імкнучыся быць прыязным і не паказаць, што мне няёмка. У Андрэя быў доўгі шнар на шчацэ, а на кашчавых руках не засталося месца ад зморшчаных бледных наколак.

— Хто вы па прафесіі? — спытаў ён, падсоўваючыся бліжэй, так што я адчуў ўстойлівы пах тытуню. А калі даведаўся, што я займаюся фальклорам, раптам ажывіўся. — Гэта значыць, вы народныя гісторыі збіраеце? А давайце я вам раскажу сваю гісторыю.

Я хацеў ужо ветліва растлумачыць яму, што займаюся крыху іншым і што мне яшчэ трэба рыхтавацца да прычасця, але не адважыўся, і ад таго на душы зрабілася сумна і брыдка за сваю мяккацеласць. Мужчына ж, здаецца, узрадаваўся, што я не прагнаў яго, і з натхненнем пачаў паціраць рукі, падбіраючы першыя словы.

— Вызваліўся я першы раз у дваццаць гадоў і думаў, знайду сабе жанчыну і завяжу з турмой, — пачаў ён так, што я мімаволі ўсміхнуўся гэтаму нечаканаму зачыну. — І знайшоў, Кацяй клікалі, старэйшая яна за мяне была гады на тры. Хлопчык у яе быў, Максімка, татам мяне назваў. Цешча мая, Лідзія Міхайлаўна, кажа: жывіце, а я ёй кажу: дык мы жывём, Лідзія Міхайлаўна.

Ён распавядаў хрыпла, але з дзіўнай ненатуральнай напеўнасцю, быццам ўяўляў сябе былінным апавядальнікам.

— Неяк пасварыліся мы, я лёг у сенцах проста на падлогу. А там дошкі ў нас ляжалі непрыбраныя, як вось тут, — працягваў ён, паказваючы на кут майго пакоя, дзе на самай справе аказалася некалькі дошак. — Закурыў цыгарэту, ляжу — палю. Раз, чую, а ў дошках зашамацела нешта. Я падымаюся, раз — нікога быццам. Зноў ляжу, зноў чую. Падняўся, падышоў — няма нікога. Ляжу, прыслухоўваюся. А там зноў. Крычу ёй, Каця, чуеш ты, нехта шабуршыць у дошках, кот ці што. А яна мне адказвае з ложка: не бойся, гэта Славік. Хто, пытаюся. Славік, кажа, муж мой, ён да мяне прыходзіць. Я спалохаўся, пытаюся, прывід ці што.

Вось так, — усміхнуўся ён, зноў задаволена паціраючы рукі. — А праз паўгода пасадзілі мяне на восем гадоў, і ў лагеры ў Кіраўскай вобласці. І вось, значыць, тысяча дзевяцьсот восемдзесят дзявяты, снежань месяц. Як цяпер памятаю, кінулі мяне ў штрафны ізалятар, гэта, калі правініўся, цябе ў штрафны ізалятар саджаюць. І вось сяджу я такі, а мароз шэсцьдзясят чатыры градусы, каму кажу, ніхто не верыць. Дык вось куртачку на галаву нацягнуў, і дыхаю ў яе, грэюся, — ён падскочыў з ложка і, прысеўшы на кукішкі, стаў моцна выдыхаць, паказваючы, як ён грэўся. — І тут чую — шоргат у дзверы.

Гляджу — стаіць такі, як абраз, нежывы. Я пытаюся: ты хто такі? Ён кажа: я Славік, пайшлі са мной. А я так для сябе думаю — гэта ж нячысцік да мяне прыйшоў, ён мне прапануе пятлю на шыю сабе накінуць. Тады я дурнем прыкінуўся і пытаюся: а куды ісці трэба? Ён мне кажа: а туды, дзе мы жывём. Нас шмат, мы ўвесь дзень забаўляемся, людзей палохаем. Я кажу: не веру табе. А ён: зараз я табе пакажу. І тут як быццам з мяне нешта выйшла, і адны вусны засталіся, мы з ім ўзляцелі над турмой і ляцім. А там вышка, я яму крычу: мяне ж зараз ахоўнік застрэліць, і гляджу, а вертухай на вышцы і праўда аўтамат ускінуў і страляе, а мне было ўсё адно. Дух жа нельга забіць, разумееш, ён дух! Вярнуліся мы, і тады мяне той пытае: ну, што, пераканаўся? Пераканаўся, кажу, але ты д'ябал, сатана, я з табой нікуды не пайду... І пяць гадоў ён мяне мучыў, шаптаў, і ў вобразе шкілета прыходзіў... А я — нічога! Пакора, ведаеш, гэта самая вялікая зброя, калі чалавек змірыцца, д'ябал уцякае...

Я з недаверам глядзеў на яго. Вядома, шмат чытаў падобных гісторый, так што здзівіць мяне было складана. Але ва ўсіх рухах мужчыны была дзіўная нервовая эмацыйнасць, якая здавалася мне ненатуральнай. Я падумаў раптам, што ён дзесьці падслухаў гэты пацешны аповед і цяпер з задавальненнем пераказвае яго кожнаму паломніку.

— І вось у дзевяноста сёмым я выйшаў, жанчына ў мяне з'явілася, Марына, жылі мы з ёй добра. А ў дзевяноста дзявятым зноў пасадзілі. Ды не, гэта па дурасці, — заспяшаўся ён, зважаючы на мой неўхваляльны погляд. — Адзін сябрук сказаў, давай, кватэру абчысцім, там сігналізацыі ніякай няма, а грошай — мільён. Залезлі мы туды, а там нічога і не аказалася... Ды вы не хвалюйцеся, я ў вас нічога не скраду, таму што я ведаю страх Божы. Вось мне спатрэбіўся тэлефон, я ж прыйшоў і папрасіў... Мне маці толькі патэлефанаваць трэба было, яна бабулька, ёй восемдзесят два гады...

— Вось, — тым часам працягваў Андрэй. — На гэты раз мяне адправілі ў Белы лебедзь. Не чулі пра такі? Там крымінальнікаў ламаюць, злодзеяў у законе ўсялякіх. Ну, я ж, вядома, не крымінальнік, я проста мужык... Прыязджаеш туды, і цябе адразу б'юць. Вось, заходзіш, адразу дубінкай па галаве, заганяюць у прыбіральню, потым бяжыш па калідоры, а потым раз — і пачынаюць збіваць. Потым распранаюць дагала, рэчы адбіраюць, і ў камеру! Якія ж мы крымінальнікі, мы ж людзі, а яны з нас каго робяць! Кормяць, праўда, нядрэнна, але і б'юць прыстойна! Гэта калі вам кажуць, што ў нас дэмакратыя, не верце, гэта ўсё — чухня, усюды б'юць і ўсюды за быдла лічаць! — скончыў ён, сціскаючы руку ў кулак.

— Потым мяне перавялі ў паселішча Нерыб, там ужо Чырвоны лебедзь, вакол адны лебедзі, — усміхнуўся ён ужо зусім нявесела, з нейкай незразумелай тугой. — Дык вось там-то ўсё і здарылася! Сядзеў я зноў у ізалятары, папяроска ў мяне была прыхавана. І так закурыць захацелася, сіл няма — спалілі мяне! Прыбеглі салдаты і пачалі збіваць. А потым загадчык гаспадаркі кажа: ну, дажыві да раніцы. Маўляў, начальнік прыйдзе раніцай, і смерць табе. І тады я ўзмаліўся, так узмаліўся — Божа дапамажы мне! А раніцай заходзіць начальнік, палкоўнік, увесь такі чысты, у кашульцы, і пачынае мяне біць. А раз трапіў па балючым месцы, па локці, а я не вытрымаў, і так сам сабе — сука... А ён пачуў! І тады я зразумеў, што канец мне, і толькі ў думках — Божа, прымі маю душу з мірам... І ўяўляеце, не забіў. Кінуў у калідоры, прыйшлі салдаты, кажуць, ідзі ў камеру. А я зайсці не магу, паўзу на каленках. У абед прыйшлі з санчасткі, далі мне цытрамон, таблетачку.

Я бачыў, што ён быў у моцным хваравітым натхненні. Голас яго хрыпеў і зрываўся, так спяшаўся ён расказаць.

— Але што самае галоўнае! Ляжу я тады на спіне ў камеры, куртачкай прыкрыўся з галавой, думаю — паміраць, дык і няхай! І чую голас: «Андрэй», падобны да жаночага, думаю, гэта мая Марына. Я раз — куртку здымаю і спалохаўся нават, думаў, што я ў пекле — вакол агонь, святло. Вось не сысці мне з гэтага месца! Сцен няма, столі няма. Гэта незразумелае, незямное святло! Прысягаць не хачу, але я бачыў гэтае святло. І вось цяпер за яго і пакутую... Некалькі разоў потым я чуў гэты голас, і ўсё паўтараў ён — знайдзі запавет, прачытай запавет. І тут па волі Божай мяне паклалі ў санчасць. І там я і знайшоў гэты Новы запавет, стаў чытаць, і ўяўляеце — усё стаў разумець! Мне адкрылася ісціна! І сёння, напрыклад, да мяне прыйшоў бацюшка Серафім, кажа: ты ж ратавацца прыехаў, дык ратуйся, а ты ўсё п’янствуеш!

Ён горка апусціў галаву і ўздыхнуў. Я хацеў было пачаць суцяшаць яго, але не мог нічога сказаць. Я падумаў, што зусім не ведаю гэты грубы свет, такіх людзей, як Андрэй, а ў ім, магчыма, значна больш Хрыста, чым ўва мне... І тады на душы ў мяне стала пуста ад адчування сваёй чэрствасці. — У мяне вось усё гэта ў галаве, — тым часам дадае Андрэй, ужо больш павольна, як бы машынальна, — я прапаведую, распавядаю, я запавет ведаю на памяць. Я каяўся, ліў слёзы пакаяння, але я не варты, я грэшнік.

Ён змоўк і цяпер толькі асцярожна пагойдваўся, гледзячы перад сабой. Стала ціха, і чуваць было, як на акне не ў лад пішчаць камары. Я адчуваў, што хачу застацца адзін, але адчайна баяўся, што Андрэй заўважыць гэта. Я чакаў, што ён зноў пачне казаць, і падрыхтаваўся ўсімі сіламі паказаць яму сваю добразычлівасць, але раптам ён устаў і пачаў развітвацца. Я з пачуццём пацісну́ў сухую далонь.

Калі ён сышоў, я яшчэ доўга сядзеў у паўзмроку свайго маленькага пакоя. Недзе за акном брахалі сабакі, шаргацелі ад ветру вясковыя дзверы. І тады мяне ўразіла дзіўнае адчуванне, быццам у пачварным свеце пачварныя людзі сутыкаюцца адзін з адным, нешта робяць, нешта кажуць, але ніводны іх рух не выпадковы, у кожным ёсць сэнс. Я ведаў, што хутка мне стане сорамна за маю наіўнасць, але я стараўся захаваць гэтае адчуванне асэнсаванасці хоць на некалькі імгненняў.

Пакуль яно яшчэ не схавалася ад майго погляду заслонай будзённай крывадушнай рэальнасці.

***Пераклад з рускай Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***





Алёна БЕЛАУСЕНКА

# ДОЧКІ-МАЦІ

Глуха стукае мамчына сэрца пад сарочкай. Алеся прыхілілася галавой: тук... тук... тук... У дзяўчынкі Сашы з паралельнага класа памёр тата. Настаўніца сказала, што спынілася сэрца... Алесі не было шкада Сашу, з якой яна і раней мала размаўляла і якую з тых часоў стала зусім пазбягаць. Яна адчувала толькі жудаснае здзіўленне. І калі б унутры Алесі былі вочы, яны б там шырока расплюшчваліся і хлопалі, калі яна звычайнымі вачыма глядзела ў Сашын твар.

Тук... тук... стукае яшчэ, але быццам больш павольна. А калі спыніцца? Ад гэтай думкі Алеся прыўзняла галаў, і праз імгненне шчыльней залезла пад мамчына крыльца. Мама так называла сваю руку і, калі Алеся плакала, запрашала «пад крыльца», а потым ласкава прыбірала з твару зблытаныя валасы... У грудзях сціснула ад блізкіх слёз. Мама маладая, нават бабуля ў іх яшчэ жывая. Думка, што бабуля жывая, трохі ўзрадвала Алесю, бо мама не можа памерці раней за яе.

Саша з’явілася ў школе праз два тыдні. Узяла грошы, што збіралі для яе мамы. Алеся не ведала, колькі было грошай, але трохі захацелася, каб і ў яе таксама памёр тата. Ёй бы гэтых грошай на многае хапіла. На лятучую фею з рэкламы. І яшчэ на што-небудзь. Алесін тата даўно сышоў ад іх. Ад яе не хавалі, што ён жыве з іншай жанчынай і купляе цацкі іншым дзецям. Алеся разумела, калі па тэлефоне мама размаўляла менавіта з ім — тады яна лаялася і казала, што Алесю карміць няма чым. Дзяўчынцы ад гэтых слоў рабілася да горычы крыўдна, і яна адразу пачынала крычаць з пакоя: «Мама, не-е-е!» Мама строга цыкала на яе, прыклаўшы слухаўку да грудзей: «Алеся, ціха ты!» Алеся тут жа вярталася на кухню і, стукаючы кулакамі па мамчыных сцёгнах, адчайна патрабавала: «Скажы, што я не галодная, мамуля, не!» Тая яшчэ больш злавалася на тату і неўзабаве кідала слухаўку...

---

*__Белаусенка Алёна Анатольеўна__ нарадзілася 12 мая 1992 года ў горадзе Удомля Цвярской вобласці. Скончыла эканамічны факультэт МДУ імя М. В. Ламаносава (2013). Студэнтка Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага (семінар М. П. Лабанава) з 2012 года.*

*Друкавалася на сайце «Расійскі пісьменнік», у часопісах «Наш современник», «Волга XXI век», «Подъем», «День и ночь», «МолОКО», зборніку «Новыя пісьменнікі» (2015).*

*Лаўрэат фестывалю-конкурсу «Крыштальная крыніца» (2015). Шорт-ліст «Усерасійскага конкурсу малых літаратурных форм» (2015). Лаўрэат штогадовай прэміі сайта «Расійскі пісьменнік» у намінацыі «Новае імя» (2015), прэміі «У славу Барыса і Глеба» (2016).*

«Алеся, хопіць круціцца, заўтра не ўстанеш», — раптам прабурчэла мама. Ад строгага мамінага голасу ўсе страхі ўмомант зніклі. Прыціхшы і заплюшчыўшы вочы, Алеся заснула.

Мама прачнулася ў сем. Алеся чула будзільнік, але ведала, што яе пабудзяць пазней. На кухні зашумеў імбрык, потым засквірчэў на патэльні алей. Гэтыя гукі цяплом расцякліся па целе. Яны былі знакамі самага важнага — мама не памерла, не цяпер. І не хацелася ні засынаць, ні прачынацца, а толькі драмаць з гэтай сонечнай думкай.

У суседзяў праз сценку зайграла замежная песня. Алеся змагла зразумець толькі «love» і «my». Захапляючыся танцавальным рытмам, яна застукала пальцамі па матрацы, быццам па клавішах фартэпіяна, але лягчэй і больш абыякава. Песня прадказвала яшчэ нязведаную весялосць і вяла ў будучыню, была самой будучыняй — загадкавай і шчаслівай.

Гатуючы на кухні, Настасся таксама пачула гэтую песню скрозь сквірчэнне алею і ранішні шоргат мятлы па асфальце, які далятаў з акна. І ненадоўга ўзгадала школьны час, калі гэтая песня толькі выйшла ў эфір. «Чаму цяпер усё не так, як я ўяўляла?» — падумала яна мімаходзь. Але спроба адказаць на гэтае пытанне выклікала толькі прыліў тугі, і жанчына ў чарговы раз зрабіла выснову: маладосць проста падманула яе.

Настасся ўзяла з касметычкі люстэрка, каб паспець нафарбавацца. Выглядала яна крыху старэйшай за свае трыццаць гадоў — яе гэта засмучала. Хіба толькі пругкія і высокія грудзі па-ранейшаму не пакідалі маладыя сілы. І ўнутры самой яе да гэтага часу жыла адна маладая іскрынка. Яна распальвала агонь, калі Настасся падабалася мужчынам, калі ёй дарылі падарункі і падвозілі з клуба дадому. Гэтая іскрынка нарадзілася ў дзявоцтве і ўсё яшчэ не перагарэла.

— Алесь, уставай, — пацалавала яна дачку ў лоб. Алеся рабіла выгляд, што спіць — мама пачала злавацца. — Калі не прачнешся, пакіну цябе тут! Усё, — мама паднялася з ложка і, не вагаючыся, накіравалася да дзвярэй. Прыкідвацца спячай Алесі ўжо не хацелася, бо ў школу ўсё роўна б давялося збірацца ці яшчэ горш — заставацца дома адной. Але і проста так устаць яна не магла. Алеся спадзявалася, што мама яшчэ раз ласкава падыдзе да яе, пагладзіць па галаве і ліслівa і пяшчотна папросіць устаць. Ужо шкадуючы аб сваёй гульні, яна быццам адчувала на сабе мамчыну далікатную руку і цёплы пацалунак.

— Ты партфель сабрала? — крыкнула мама з кухні. Алеся нечпадзявана адказала «так» і ўзрадавалася, што незнарок выявіла сябе. — Прачнулася, нарэшце, — зайшла мама ў пакой. — Апранайся хутчэй і бліны есці.

На стале засталася ляжаць маміна касметыка. Празрысты мяшэчак, запэцканы дзе-нідзе фіялетавымі ценямі і рысачкамі тушы. Сілуэты чароўных цюбікаў з англійскімі літарамі прыцягнулі Алесін погляд. Добра было б сёння пасля школы ўзяць усё гэта да мамінага вяртання. Калісьці даўно Алеся ўжо спрабавала нафарбавацца памадай, але на ёй яна глядзелася зусім не так, як на маме. Зараз жа яна адчула ў сабе больш умення ды спрыту.

— Паглядзім сёння, што ў цябе па рускай будзе за чвэрць, — сказала Настасся быццам па звычцы, і ўспомніла, што ўвечары трэба крыху раней сысці з працы і адвезці дзіця да бабулі. Яшчэ паспець сабрацца — у сем пад'едзе Паша. У Алесі кальнула сэрца, яна ведала, што ў яе будзе тры. Згорнуты ў трубачку блін стаў нейкім чужым, нібы гэта не яе зусім блін, а іншай дзяўчынкі, а яна, Алеся, не мае права мачаць яго ў згушчонку і есці.

Скончыўся апошні вучэбны дзень. Па рускай паставілі тры. Алеся на іншае і не спадзявалася, хіба толькі самую драбніцу. Вярнуўшыся дадому

і скінуўшы цяжкі партфель у калідоры, яна пачала, спяшаючыся, шукаць месца, куды можна было б схаваць дзённік. Але ў маленькай аднушцы не знаходзілася ніводнай шафкі, якую б мама не магла б выпадкова адкрыць.

Заклікаючы да летняй пяшчоты і бестурботнасці, скрозь шыбу прабіраліся ўпэўненыя вясновыя промні. Алеся прысела. На кухонным стале працягвала ляжаць маміна касметычка. На імгненне стала нават лёгка і весела, нібы тройкі і не было. Алеся даўно хацела паспрабаваць нафарбавацца тушшу. Узяўшы маміна люстэрка, яна правяла тоўстым чорным пэндзлікам па вейках, але тут жа зачапіла вока і закруціла туш. Яшчэ рана. Сапраўднае жыццё яшчэ наперадзе. Калі яна стане старшакласніцай, а мама пачне купляць ёй станікі і туфлі на абцасах, а ў школу дазволіць хадзіць з распушчанымі валасамі.

У калідоры пачуліся крокі. Алеся хутка паклала касметычку на месца.

— Алесь, зараз есці і да бабулі, — сказала мама з парога.

У бабулі заўсёды поўны прысмакаў халадзільнік і свабодны камп’ютар, на якім можна колькі заўгодна глядзець мульцікі. Ад радаснай навіны Алеся забылася пра дзённік.

Паглядзеўшы на даччыны туфлі, Настасся ўспомніла, што забылася купіць Алесі сандалі, каб апранаць іх са шкарпэткамі. Бабуля цяпер дакладна пачне бурчэць... Насця незадаволена ўздыхнула.

Бабулі ішоў ужо сёмы дзясятак, а яна працягвала працаваць у вакзальнай касе, хоць і брала ўжо толькі палову змены. Ад доўгага сядзення паясніца ныла так, што яе потым немагчыма было расцерці, ды і хістала часам ад стомы па дарозе дахаты.

Калі прыйшлі Алеся з мамай, бабуля завіхалася на кухні.

— Гэта мы, — зайшла Настасся ў кватэру.

— Ага, праходзьце, — сказала бабуля, пераварочваючы катлеты. — Ці надоўга цяпер? — спытала бяссільным голасам.

— Да заўтра. Я крыху раней зайду, — адказала Насця, спяшаючыся сысці і ўжо цалуючы Алесю на развітанне.

Бабуля паківала галавой, маўляў, ведаю я, як ты раней зойдзеш, будзеш гуляць да раніцы, праспіш да абеду і прыйдзеш увечары, калі не на наступны дзень. Дзіця кожныя выхадныя ў бабкі, маці не бачыць і дадому ісці не хоча. Ды хіба такое магчыма, каб дзіця да маці роднай не хацела ісці?

— Пакарміла хоць?

— Яна нічога не з’ела амаль, пару лыжак супу толькі.

Алеся скрывілася, замычала «нее», але больш для выгляду, таму што есці ўжо хацелася.

— Пайшла я.

— Давай, давай, — ужо ў зачыненыя дзверы сказала бабуля. — А мы з табой абедаць будзем, звярнулася яна да ўнучкі.

Алеся доўга стаяла ў ванне і намыльвала рукі новым, толькі разгорнутым бабуляй, гаспадарчым мылам, гледзячы на сябе ў не заляпанае, як у іх, засохлымі кроплямі люстэрка. Бабуля намазала на катлету смятану. Ці то ад голаду, ці то смятана сапраўды рабіла мяса смачней, толькі Алеся падумала, што цяпер будзе прасіць маму рыхтаваць менавіта так.

— Як у школе справы?

У Алесі ўсё апусцілася. У яе ж тройка па рускай! Дзе яна пакінула дзённік?! Яна ж яго не паспела схаваць... Ён застаўся на стале — мама яго знойдзе.

— Нармальна, — паспрабавала нязмушана адказаць Алеся.

«Няшчаснае дзіця, — падумала бабуля, — з раніцы ўстае, вучыцца. Дык яшчэ дома маці не корміць і па мужыках чужых бегае. Няўжо мы так раней жылі, дзед? — паравёўшы позірк на партрэт памерлага мужа, які стаяў побач з іконамі, думала бабуля. — За што мне адной на Насціны беды глядзець?»

Алеся прывыкла, што бабуля часта моўчкі размаўляла з дзедавым партрэтам, і ў такія моманты старалася не глядзець у яе бок, як быццам бабуля рабіла гэта ўпотай ад яе. «Падрасце трохі Алеська, і мне да цябе ўжо можна будзе на супакой», — абдумаўшы яшчэ нешта, прашаптала бабуля.

Настасся ледзь паспела сабрацца. Прыгатавала мяса, прыняла душ, яшчэ раз нафарбавалася, і змяніла пасцельную бялізну. Абвяла позіркам даўно нямытую падлогу — «шмат гонару будзе», і не стала прыбіраць. На стале ў пярэднім пакоі ляжаў Алесін дзённік. «Ну-ка, ну-ка, няўжо ёй чатыры ўсё-такі паставілі, раз яна на відным месце яго пакінула», — падумала жанчына, адкрываючы яго. Але там стаяла тройка.

«Значыць пакінула, каб я даведалася без яе прысутнасці. Але так, можа, нават разумней. Я ў дзяцінстве звычайна хавала». У гэты момант Настасся ясна ўзгадала адзін вечар. Хоць і не магла дакладна сказаць, звязаны ён быў з тым, што яна хавала дзённік ці не. Колькі ёй было? Можа, шэсць, а можа, восем. Было халодна, вечар, вакол — ні душы, толькі яна з маці вярталіся аднекуль дадому. Насця была пакрыўджаная, і таму плялася ззаду. Маці не паварочвалася, і, абражаная яе ўпартасцю, Насця раптам спынілася.

Маці працягвала ісці — завярнула за пяціпавярхоўку і знікла з вачэй. Спалоханая, Насця ўжо забылася на крыўду, пабегла следам. Яна хацела закрычаць на ўсю вуліцу: «Мама», але, завярнуўшы за той жа дом, пазнала наперадзе яе сілуэт. Маці працягвала ісці ў тым жа тэмпе. Насця ціхім, але хуткім крокам, каб маці не заўважыла яе адставання, наблізілася, як і раней, на пару крокаў. А потым і зусім параўнялася. Так яны і дайшлі дахаты, не сказаўшы ні слова адна адной. І толькі цяпер Настасся раптам так ясна ўсвядоміла, што, паварочваючы за дом, маці ведала, што яна не ідзе следам.

Паша прыехаў з пустымі рукамі. Настасся сустрэла яго з ледзь прыхаванай здзіўленнем. Ён гэта заўважыў, але сам працягваў шырока ўсміхацца.

— Прывітанне, салодкая, — сказаў, прыхінуўшы яе да сябе.

«Ды ты, я гляджу, упэўнены ў сабе», — падумала жанчына, злёгку адхіліўшыся.

Каля парога ляжалі тапкі, якія засталіся ад мужа. Яна спецыяльна дастала іх для Пашы, але цяпер абуць не прапанавала і прайшла ў пакой. Сеўшы на крэсла, яна пачала разглядаць сябе ў люстэрка, што вісела на сцяне насупраць. Настасся была ў аднатоннай сіняй сукенцы без лішніх дэталей, якая, нягледзячы на гэта, вельмі выйгрышна аблягала постаць, а капронавыя калготкі добра звужалі сцёгны. Закінуўшы нагу на нагу, яна прысела на крэсла так, каб больш агаліць нагу з-пад сукенкі.

«Паглядзім, што ты будзеш рабіць», — падумала зларадна.

— Дзяўчынка ж не прыйдзе? — разуваючыся, спытаў Паша.

Настасся спачатку не зразумела, пра якую дзяўчынку ён кажа. Але заўважыўшы, што ён глядзіць на Алесін партфель, пакінуты ў калідоры, здагадалася. Яна і дагэтуль адчувала сябе зняважанай з-за таго, што пастаралася, прыгатавала мяса, купіла дарагі торт, а ён прыйшоў з ёю пераспаць, нават не набыўшы кветкі ці бутэльку. А цяпер яшчэ дазваляе сабе яе дачку называць дзяўчынкай.

— Маю дачку завуць Алеся. Гэта яе дом, калі захоча, тады і прыйдзе.

— Як бы не ў той момант не прыйшла, — сказаў Паша, смеючыся зусім прастадушна і без злосці. — Я ў прыбіральню зайду?

— Вунь там, — паказала Настасся.

Ды што ж ён надумаў сабе! Няўжо ён лічыць, раз у мяне дзіця, дык кінуся на любога, абы ўзяў? Вярнуўшыся з прыбіральні, Паша не ведаў, што казаць, і працягваў шчыра ўсміхацца.

— Суп будзеш?

Паша раздумваў.

— Можа, што-небудзь вып'ем? — спытаў ён пасміхаючыся.

— А ты што-небудзь прынёс? — ціха радуючыся, кінула ў адказ Настасся.

— Не, але я магу збегаць, — прапанаваў ён, застаючыся задаволеным сабой.

— Давай, бяжы.

Настасся паспешліва выправадзіла яго. Зачыніліся дзверы, і яна зразумела, што не пусціць яго больш. У кутку калідора ляжаў Алесін партфель.

«Вяртайся да сябе», — напісала смс. Паша некалькі разоў патэлефанаваў — яна не ўзяла тэлефон.

Зайшоўшы на кухню, Настасся перш за ўсё дастала патэльню з мясам і, не перакладаючы ў талерку, пачала есці.

Ну, а што рабіць, першы гатунак ужо даўно разабралі. Але на добрых яна і раней не глядзела, ды і цяпер, паклаўшы руку на сэрца не зірнула б, як бы здаровы розум ні падказваў. Так, яна ў школе паслала непрыгожага аднакласніка. А ён адзіны, хто ёй за ўсё жыццё падарыў упрыгажэнне, калі не лічыць мужавага шлюбнага пярсцёнка. Сярэбраны кулон сэрцайкам... Так, як ён, ніхто яе не дабіваўся. Не пабаяўся, на выпускным прызнаўся, верш прачытаў нават. Напэўна, сам напісаў. А цяпер у Маскве, добра зарабляе. І сімпатычным стаў.

Звычайна ўспаміны аб згубленых мужчынах не выклікалі ў яе вялікага шкадавання, але не цяпер.

За праглядам чарговай серыі меладрамы па кухонным тэлевізары бабуля, не спяшаючыся, згатавала яшчэ адну патэльню катлет. Алеся бегала то ў залу за камп'ютар, то да бабулі на кухню.

— Баб, а ты у колькі гадоў замуж выйшла? — спытала раптам Алеся.

— За дзеда-та? — перапытала бабуля, быццам успамінаючы. — За дзеда, Царства яму Нябеснае, я выйшла, калі мне дваццаць сем было, — абапёршыся на падаконнік, з пяшчотай пачала расказваць яна. — Заседзелася я тады ў дзеўках... Маці мая, нябожчыца, Царства ёй Нябеснае, не хацела мяне аддаваць, бо не малады ён быў ужо, ды яшчэ разведзены. У той час гэта ого-го! — паківала бабуля пальцам, падумаўшы, што сказала лішняга. — Не тое што цяпер, робяць, што хочуць.

— Ты яго кахала, баб? — пацікавілася Алеся.

— Кахала не кахала, хату ўжо сваю хацелася, сям'ю, — строга сказала бабуля, думаючы, што рана Алесі яшчэ пра каханне пытацца. — А ён, вядома, клапаціўся так, ні на крок не адыходзіў. Я тады дзеўка мажная дужа была, круглатварая, і не думала, што вока на мяне хто пакладзе. А ён паклаў, у душу глядзеў... Не на знешнасць глядзець трэба, вось што.

— Жылі-жылі, не тужылі, — уздыхнула бабуля пасля нядоўгага маўчання, — і прыбраў яго Бог, сэрцайка слабенькае было. Спачын душы раба Божага, бабуля перахрысцілася і пакланілася іконе Божай маці, якая стаяла на падаконніку.

— Жыццё-та — штука цяжкая, хоць і простая, прасцей няма куды, Алесенька, ты Бога шануй ды маці сваю любі і слухайся, — бабуля пагладзіла яе па галаве.

Спадзеючыся яшчэ што-небудзь цікавае пачуць, Алеся не спяшалася ісці ў залу. Але, здавалася, загаварыўшы пра Бога, бабуля ўжо не вернецца да ранейшага, не раскажа, як жа менавіта дзед яе любіў. Няўжо больш нічога не раскажа? Алеся хацела яшчэ спытаць, як жа слухацца маці, калі бабуліна маці не

хацела яе выдаваць замуж, але было няёмка — бабуля ўжо занялася нечакана знойдзеным пылам на абразе.

Грукнулі дзверы.

— Гэта я, — паспешліва і гучна назвала сябе Настасся.

— Мама-а-а! — падбегла да яе Алеся.

— Ух ты як рана! Нават не патэлефанавала! Нагулялася ўжо? — выйшла з кухні радасная бабуля.

— Збірайся, Алесь, — мякка скамандавала мама.

— Ды пасядзі крыху, паясі, катлет яшчэ насмажу. А то толькі бегаеш туды-сюды.

— Мама, так, давай пасядзім! — падумала Алеся пра тое, што якраз не дагледзела мульцік, і пабегла ў залу за камп'ютар.

Мама з бабуляй селі вячэраць.

Накладаючы катлеты, бабуля прапанавала дадаць смятаны, але мама хуценька адмовілася. «Са смятанай-та смачней», — спрабавала ўгаварыць. «Не ўжо, дзякуй», — усміхнулася мама. Бабуля, прыгадаўшы, з якім смакам ела Алеся гэтыя катлеты, з болем падумала, што занадта позна ўжо нешта казаць. Дачка яе больш не чуе. Але пачуццё кроўнай і нязменнай улады маці над сваімі дзецьмі было мацнейшым за ўсялякія думкі.

— Нармальнага табе мужыка трэба... У Надзькі Таптыровай сын во даўно ўжо развёўся. Працавіты, здаровы мужык, маці слова дрэннага не скажа.

— Мама-а-а, — басам працягнула Настасся.

— Дык гэта па яе віне развёўся-та, яна гуляла ад яго. А што мама? Дзіцяці бацька патрэбны, а не твае сышоў-прыйшоў.

— Ужо лепш сышоў-прыйшоў, чым як вы з татам жылі, — адрэзала Насця.

Бабуля моўчкі ўзяла са стала соль і, не спяшаючыся, насыпала сабе ў талерку. Дарослая дачка коса назірала за ёй. Бабуля прынялася за сваю катлету. Прайшло некалькі хвілін. Дажаваўшы апошні кавалачак, яна перарвала маўчанне.

— А хто сказаў, што жыццё лёгкае-та будзе? Усякае было, што ўжо граху таіць. І гуляў дзед, і піў. Але цярпець разам трэба, а не да іншых мужыкоў у адказ уцякаць.

— Цярпе-е-ець? — здзівілася Настасся. — А дзіцяці табе свайго не шкада было? Калі тата мяне рамянём хвастаў? Калі ён да мяне ў школу п'яны ўваліўся? Не, табе не было мяне шкада, ты і не пыталася, як я сябе адчуваю!

Бабуля асцярожна прычыніла дзверы з кухні. Так у дзверах і засталася, не села.

— Толькі яго шкадавала і каля яго бегала, Коленька, Коленька... — сцішана скончыла Настасся.

Яна замоўкла, спыніўшы позірк на старым гадзінніку з зязюляй, проста каб на чым-небудзь яго спыніць. З вачэй каціліся буйныя слёзы. Ззаду стаяла бабуля.

— Усіх было шкада. Такі лёс у нас значыць. І выцягнулі ж дзеда-та... — бабуля паклала рукі на даччыны плечы.

Насця нервовымі глыткамі стала піць гарбату.

— Як адцікаюць, так і памру я. Спыняцца... значыць кліча мяне да сябе мамка мая. А ты ж на каго з Алесенькай застанешся? Што ж я дзеду-та нашаму гаротнаму скажу? Не зберагла, не прыладзіла? — спакойна і раўнамерна прыгаворвала старая.

Настасся ведала, што гэты гадзіннік даўным-даўно быў падораны маці як пасаг. Але ніколі раней маці не казала пра яго так. З поўнай верай у свае дурныя і страшныя думкі.

— Хоць які, ды адзін павінен быць, пастаянны, — паставіла кропку бабуля.

Настасся нічога не адказаўшы, працягвала глядзець на гадзіннік: стрэлка слаба адлічвала: цік... цік... цік...

У дзверы кухні пачала грукаць Алеся.

— Ты чаго прыбегла-та? — не даючы прайсці да мамы, навісла над ёй бабуля.

Алеся сказала, што дагледзела мульцік, але, заўважыўшы, што мама плача, аслупянела: «Мам, ты чаго?»

Мама, пачуўшы пра мульцікі, раптам успомніла пра пакінуты на стале дзённік: «Урокі лепш бы вучыла, мульцікі яна глядзіць», — сказала яна і на апошніх словах, сама, не чакаючы таго, засмяялася. Бабуля таксама пачала ўсміхацца.

— Тройку схапіла, так? — імкнучыся быць сур'ёзнай, спытала мама.

Алеся апусціла галаву — вось ён, надышоў гэты момант. Але адбылося ўсё не так, як яна таго чакала. І мама казала зусім не так. Алеся нават адчула, што яна ні ў чым і не вінаватая.

— Добра, ідзі. У наступным годзе шкуру з цябе здзяру, толькі паспрабуй у мяне траякі атрымліваць, зразумела?

Алеся, кіўнуўшы, уцякла ў пакой. Упершыню яна адчула такую палёгку, якая з'явілася нечакана пасля стольскіх перажыванняў. Але чаму ж плакала мама?.. Гэтае пытанне зарадзіла у ёй новы страх.

— Бач, троечніца! А я ж пыталася, як у школе, нармальна кажа... — працягвала ласкава смяяцца бабуля.

Яны смяяліся, гледзячы адна адной у вочы.

Бабуля праводзіла Настассю і Алесю позіркам, стоячы каля акна. Вось, падышлі ўжо да аўтобуснага прыпынку. І ў тую ж хвіліну згубіліся ў натоўпе...

«Мабыць, зноў аўтобус зламаўся», — падумала бабуля.

Яна прыгадала, як з раніцы садзілася на гэтым прыпынку, каб да рынку даехаць. І таксама поўна людзей у аўтобусе было. Хто сядзеў, хто стаяў. Месца саступіў малады зусім хлопец. І неяк нясмела так, нават сарамліва прапанаваў: «Бабуля, сядайце». Што ён цікава думае, калі старых бачыць? Мабыць, ужо як на мёртвых глядзіць. А ўсе ж мы і жывыя, і мёртвыя аднолькава. Усе на адлегласці кроку адзін ад аднаго. Як у гэтым аўтобусе, усе разам па жыцці і едзем.

Гэты хлопец яшчэ не бачыць, а я ўсіх бачу, кожнага адчуваю, кожны ўнутры мяне ёсць. Таму што кожны з нас дзіцятка чыёсьці. І ў старых, і ў мужыкоў вялікіх маці ёсць.

Бабуля прыгадала сваю матухну і, як цяпер, убачыла яе. Заходзяць яны з Колем у хату, а мама сядзіць на падлозе, чарніцы перабірае. Коля адразу: «Збірай, матка, пасаг». А мама як ўстала, так і стаіць, глядзіць на іх, быццам дзіця спалоханае. То на аднаго паглядзіць, то на другога. «Людка-а-а, — загаласіла маці, — дура ты, дзеўка», — і завохкала, хапаючыся рукамі за галаву. А сама дзвюма нагамі на чарніцах стаіць, прыціснула ягадкі і не заўважае.

«І ўсе ж мы дзеткі малыя і дзеткамі застанемся», — прашаптала бабуля.

***Пераклад з рускай Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

# СКАНДЫНАЎСКІЯ НАРОДНЫЯ БАЛАДЫ

*Песня — сапраўдная энцыклапедыя жыцця народа, яго душа. У народнай песні знайшлі сваё адлюстраванне і паданні сівой старажытнасці, і людскія пакуты, і бесклапотная радасць. Песня суправаджала чалавека ад нараджэння да самай смерці, без яе не абыходзілася ніводнае свята і ніводная важная падзея. Часта песні ўяўлялі сабой невялікі аповед пра сустрэчы са звышнатуральнымі істотамі, бітвы, хрысціянскіх святых, каханне — пра ўсё, што было важным для народа на пэўным гістарычным этапе. Нярэдка іх выконвалі хорам падчас танцаў. І паступова апавядальныя народныя песні, якія называліся ў розных краінах па-рознаму, аформіліся ва ўнікальны жанр, які атрымаў назву балада. Балада — гэта ліраэпічны твор з пэўным колам тэм (легендарныя, гістарычныя, фантастычныя, камічныя, павучальныя, балады пра каханне і г. д.), які мае адмысловую страфічную форму (часцей за ўсё катрэн), і спецыфічныя асаблівасці апавядання. Як і іншыя жанры старадаўняй народнай паэзіі, балада характарызуецца традыцыйнымі асаблівасцямі кампазіцыі і стылю: аповед засяроджаны вакол некалькіх драматычных сцэн, аб'яднаных пераходнымі апавядальнымі строфамі, апісальныя падрабязнасці амаль адсутнічаюць, каб звярнуць увагу толькі на галоўнае. Для баладнага жанру характэрная нязначная колькасць персанажаў, а баладны дыялог мае некаторыя прыкметы дыялогу старажытных рытуалаў і будуецца па схеме пытанне-адказ.*

*XIV—XVI стагоддзі — час росквіту баладнай творчасці ў Заходняй Еўропе. Найбольш багаты і архаічны баладны рэпертуар захаваўся ў Скандынавіі. Так, колькасць дацка-шведскіх баладных сюжэтаў перавышае 750. У Скандынавіі радзімай балады лічыцца Данія, дзе гэты літаратурны жанр, як мяркуюць навукоўцы, быў шырока распаўсюджаны ўжо ў XII—XIII стагоддзях. Аднак ніякіх прамых сведчанняў пра тое, як узнік гэты жанр, па сутнасці, няма.*

*Скандынаўскія балады — велізарны літаратурны пласт. Тэматычна іх падзяляюць на гераічныя, легендарныя, гістарычныя, казачныя ды рыцарскія, хаця гэты падзел вельмі ўмоўны. Галоўнай асаблівасцю скандынаўскіх балад з'яўляецца наяўнасць прыпеву, які паўтараецца пасля кожнай страфы. Словы такога прыпеву звычайна ўяўляюць сабой альбо намёк на змест балады, альбо просты лірычны воклiч.*

*Трэба адзначыць, што тэрмін балада датычна скандынаўскіх твораў пачаў выкарыстоўвацца толькі ў XX стагоддзі. Раней іх называлі проста песнямі (шведскія visor, дацкія і нарвежскія viser). У ісландскай мове, якая варожа ставіцца да любых запазычанняў, балады па сённяшні дзень называюцца fornkvæði 'старажытныя песні'.*

*Увазе чытачоў прапануецца пераклад сямі шведскіх балад, арыгінальныя тэксты якіх датуюцца XVII—XIX стагоддзямі. Увогуле, на беларускую мову пераклады скандынаўскіх балад пачалі з'яўляцца толькі нядаўна, часцей за ўсё ў творчасці музычных фальклорных ансамбляў і рок-гуртоў.*

***Яўген ПАПАКУЛЬ***

## БЭРГМАН І ХЭРЭМАН

Раз Бэргман і Хэрэман елі-пілі,
*Гардзі хэй, гардзі гардзі хэй!*
Размовы вясёлыя жвава вялі.
*Стары ды нікчэмны, затое барон!*

І мовіў тут Бэргман: «Намер мой такі:
Дачкі тваёй Керсцін прашу я рукі».

«Спазніўся ты, Бэргман, — адказ яму быў, —
Учора на шлюб я яе блаславіў».

«Калі ж яна жонкай не стане маёй —
Спалю я твой замак, зраўняю з зямлёй!»

«Не трэба, прашу цябе, замак паліць,
Я згодны дачку тваёй жонкай зрабіць».

І Бэргман з усмешкай у стайню пайшоў,
Там коней дзівосных багата знайшоў.

Ён шэрага болей за ўсё ўпадабаў,
Сядло на яго залатое паклаў.

І Керсцін затым на каня пасадзіў,
Бо ў шлях выпраўляцца ім час ужо быў.

Калі яны мост праязджалі стары,
Паднёс хітры Бэгрман дзяўчыне дары:

Пярсцёнкаў з чырвонага золата пяць,
Ды боцікі, што нібы срэбрам зіхцяць.

Калі ж да гары даскакалі яны,
Раскрыў скалу Бэргман ды ўскочыў туды.

А Керсцін за цуглі схапіла каня,
Ды вобцас пагнала яго ад здання.

Дадому ж калі шэры конь даскакаў,
Яе любы бацька ля брамы стаяў.

З лагоднай пяшчотай пачаў ён пытаць:
«Як здолела, Керсцін, ты вольнаю стаць?»

«Хлапцоў нежанатых у нас не злічыць,
*Гардзі хэй, гардзі гардзі хэй!*
А з тролем пачварным не буду я жыць».
*Стары ды нікчэмны, затое барон!*

## ВАЎКАЛАК

Дазволу дачка стала ў маці прасіць.
*Ліпка ў лесе трымцела!*
Ці можна да любага хлопца схадзіць.
*Каханага бачыць хацела!*

«Дазволу свайго не магу я не даць,
Але сцеражыся ты воўка спаткаць».

«Матуля мая, я сябе зберагу,
Ваўкоў не сустрэну ў сябе на шляху».

Ды ў ружавым гаі яе незнарок
На сцежцы знаёмай спаткаў шэры воўк.

«Прашу, любы воўча, не крыўдзі мяне,
Аддам залаты я свой пояс табе».

«Здабуду я шмат паясоў залатых,
А вось прыгажунь не знаходзіў такіх».

І ўзлезла на дрэва дзяўчына тады:
«Ніколі табе не даскочыць сюды!»

Драпежнік жахліва ў адчаі зароў;
І хутка было ўжо там трыццаць ваўкоў.

Ірваць тое дрэва яны пачалі,
Праз момант дзяўчына была на зямлі.

Пранёсся крык немы над гаем над тым,
Гэр Пэдэр пачуў яго ў замку сваім.

Ён шэрага коня свайго засядлаў,
За птушку хутчэй ён у гай той памчаў.

І ўбачыў там цела дзяўчыны, пасля —
Забітае зграяй ваўкоў немаўля.

Пачаўся світанак, і сонца ўзышло;
У Пэдэра ў замку тры трупы было:

Гэр Пэдэр, дзяўчына яго ды дзіця,
*Ліпка ў лесе трымцела!*
Пазбавіла зграя няшчасных жыцця.
*Каханага бачыць хацела!*

## ГЭР МОРТЭН

Да ўчорашняга ранку
Гэр Мортэн не дажыў.
Прыйшлі з ім развітацца
Усе, з кім ён служыў.
*Памерлы Мортэн едзе пад птушак дзіўны спеў!*

Аднойчы Вальдмар Хюттэ
Праз ружаў гай скакаў.
Сустрэў яго там Мортэн
І так яму казаў:
*Памерлы Мортэн едзе пад птушак дзіўны спеў!*

«Не бойся, Вальдмар Хюттэ,
Як жыў я на зямлі,
Найлепшымі сябрамі
З табою мы былі».
*Памерлы Мортэн едзе пад птушак дзіўны спеў!*

Ягоны конь і збруя
Нібыта змрок былі,
Ды чорныя сабакі
За ім услед ішлі.

На чорных ботах шпоры
Нібы лязо былі,
Ды чорныя сабакі
Перад зданнём ішлі.

«Навошта, дружа Мортэн,
Мяне ты тут спыніў?
Бо толькі пазаўчора
Навекі ты спачыў». —

«Няма мне адпачынку,
Спакою мне няма,
Бо пры жыцці палеткам
Чужым валодаў я.

Скажы маёй ты жонцы,
Аб тым яе малю:
Назад яна хай верне
Падманутым зямлю.

А раптам не паверыць —
Дык знак падам я ёй:
Пад ложкам мае боты
Напоўняцца крывёй».

Ды семдзесят малітваў,
Наведаўшы імшу,
Узнесла жонка Богу
За мужаву душу.
*Памерлы Мортэн едзе пад птушак дзіўны спеў!*

## ЛІНДУРМ[1]

Пры конунгу служкаю Сігне была,
*А яны гулялі!*
Яна пры двары восем рокаў жыла.
*І гуляць яны маглі так і штоночы, і штодзённа!*

У гаі раз Сігне блукала адна,
*А яны гулялі!*
Ліндурма спаткала там раптам яна.
*І гуляць яны маглі так і штоночы, і штодзённа!*

«Сустрэўся я, Сігне, наўмысна з табой,
*А яны гулялі!*
Ці пойдзеш у край ты чароўны са мной?» —
*І гуляць яны маглі так і штоночы, і штодзённа!*

«Нявольная я адказаць табе «не»,
Калі не падманеш у сне ты мяне».

Дзяўчыну ён сінім плашчом атуліў,
На шэрага коня яе пасадзіў.

Так ехала Сігне, ліндурм бег за ёй,
Іх сцежка наперад вяла за сабой.

Да мескае брамы іх конь даскакаў,
Там бацька дзяўчыны пад мурам стаяў.

«Скажы мне, куды ты з ліндурмам ідзеш?
Нямала праз гэта ты слёз пралієш». —

«Ах, любы мой бацька, мне лёс не змяніць,
З дзяцінства прадказана гэтаму быць».

У ружавы гай шэры конь прыскакаў,
Там родны брат Сігне пад дрэвам стаяў.

[1] У германскай міфалогіі цмок з дзвюма лапамі і невялікімі крыламі, які не ўмее лётаць.

«Скажы мне, куды ты з ліндурмам ідзеш?
Нямала праз гэта ты слёз пралієш». —

«Ах, любы мой браце, мне лёс не змяніць,
З дзяцінства прадказана гэтаму быць».

Так ехала Сігне, ліндурм бег за ёй,
Іх сцежка наперад вяла за сабой.

Да луга квяцістага конь даскакаў,
Там ложак засланы між красак стаяў.

«Нарэшце мы можам тут коня спыніць:
Цудоўнае месца, каб нам адпачыць». —

«Няма ў мяне стомы й жадання няма». —
«Крыху адпачыць усё ж раіў бы я».

Ды села на ложак дзяўчына ў слязах,
Душылі няшчасную роспач і страх.

Ды легла яна ўсё ж на ложак на той,
Ліндурм, прытуліўшыся, лёг разам з ёй.

А ранкам, як золак на небе заззяў,
Сын конунга побач з дзяўчынай ляжаў.

Так знікла няшчасце, сплыло, нібы дым,
*А яны гулялі!*
Каханкі прачнуліся ў замку сваім.
*І гуляць яны маглі так і штоночы, і штодзённа!*

## ОЛЬГЕР ДАЦКІ ДЫ БЮРМАН

Раскажу я пра Бюрмана вам:
Насамрэч мог асілкам ён звацца,
Бо ўзвышаўся над конскім сядлом
Злодзей локцяў амаль на пятнаццаць.
*Ольгерам Дацкім забіты быў Бюрман.*

Раскажу я пра Бюрманаў меч:
Толькі волат ім здольны змагацца,
А вялізнай сваёй даўжынёй,
Быў ён локцяў не менш за пятнаццаць.
*Ольгерам Дацкім забіты быў Бюрман.*

Прыскакаў ён да замка й зароў,
Меч свяціўся пры ясным надвор'і:
«Гэй, Ісландыі конунг, выходзь,
Аддавай мне дачку сваю Глор'ю».
*Ольгерам Дацкім забіты быў Бюрман.*

Конунг выйшаў на замкавы двор,
Капялюш з галавы зняў паволі:
«Хто ты гэткі, адкуль ты прыйшоў?
Бо не чуў пра цябе я ніколі!»

«Я са Спорэ прыехаў сюды,
Сваякоў я там маю багата.
Ну а лепей табе пакажу
Зараз нораў я свой зухаваты».

Ён на поўдзень тады паскакаў
І на захад каня свайго кінуў:
«Дзівам, Глорыя, гэткім цябе
Абыякавай я ці пакінуў?»

«Не здзівіў ты нікольki мяне —
Сонца яркае лье нам праменне —
Але з носам даўжэзным сваім
Ты падобны хутчэй да аленя».

Бюрман стаў ад тых словаў шалець,
І шпурляў свайго коня зацята,
А пасля ўзяў у рукі камень,
Што памерам быў з добрую з хату.

Бюрман кінуў у горад камень —
І пра цуд той шчэ доўга казалі —
Бэлькі ў трэскі разбіў ён ушчэнт,
Дзе муры былі — крушні ляжалі.

Тут дзяўчына да бацькі пайшла
Паспытаці ягонай парады:
«Што рабіцьмем мы з гэтай бядой,
Хто пачварыне здольны даць рады?»

«Каб асілка такога знайсці,
Цэлы свет абысці давядзецца,
Але зладзіць з ім толькі адзін,
Той, што Ольгерам Дацкім завецца».

Тут пабегла дзяўчына ў астрог,
Стала слёзна ў палонных пытаці:

«Ці ты тут, Ольгер Дацкі, скажы,
На нагах ты ці зможаш стаяці?»

Ольгер выпрастаў ногі свае,
А былі яны локцяў пятнаццаць,
І магутны абрынуўся мур,
Пачалі ланцугі рассыпацца.

«Я сядзеў тут пятнаццаць гадоў,
І палон мяне моцна знявечыў.
Дзева Глорыя, шчыра скажу,
Што няздольны я болей да сечы».

«Я сядзеў тут пятнаццаць гадоў,
Бачыў толькі жалезныя краты.
Дзева Глорыя, мне адкажы,
Хто ў пакутах тваіх вінаваты?»

«Завітаў адзін рыцар да нас,
Жах на ўсіх ён людзей наганяе,
Хоча ў бацькі зямлю адабраць,
А мяне ён зняволіць жадае».

«Ён зусім непадобны да нас,
Будзе цяжка яго зваяваці.
Нарадзіўся ж у Аўстрыі ён,
Троль марская ягоная маці».

Ольгер вопратку ў дар атрымаў,
Што пашыта з сукна дарагога,
І кальчугу даў конунг яму,
І са збруяй каня баявога.

Побач з горадам Бюрман скакаў,
Свой азадак задраўшы высока:
«Ольгер Дацкі на волі няйнакш,
Я ўжо чую, што ён недалёка».

Ольгер кінуўся тут на яго,
Сутыкнуліся ворагі ў бойцы,
Коні сталі тады на дыбкі,
Ды ў кальчугах парваліся кольцы.

Ольгер спрытна кальчугу сцягнуў,
І яна, нібы сонца, гарэла.
Тут ён Бюрману сцяў галаву —
Ніцма ўпала крывавае цела».

Ольгер гучна тады закрычаў,
Меч свяціўся пры ясным надвор'і:
«Гэй, Ісландыі конунг, выходзь,
Аддавай мне дачку сваю Глор'ю».

«Мне адзінае шчасце — дачка,
Даражэй за багацце любое,
Калі Бюрмана зможаш забіць,
Дык яна стане жонкай тваёю».

«А я з Бюрмана пажартаваў,
І той жарт сёння быў вельмі плённы:
Так зацята мы біліся з ім,
Як два парабкі б'юцца шалёна».

«Мужна кінуўся я на яго,
Сутыкнуліся мы з ім у бойцы,
Коні сталі тады на дыбкі,
Ды ў кальчугах парваліся кольцы».

Я ж кальчугу адкінуць паспеў,
І яна, нібы сонца, гарэла.
Тут я Бюрману сцяў галаву —
Ніцма ўпала крывавае цела».

«Калі праўду ты мне расказаў,
І калі не хлусня твае словы —
Я аддам табе ў жонкі дачку
І свайго каралеўства палову».
*Ольгерам Дацкім забіты быў Бюрман.*

## ПРА БЕДНУЮ КАРЫН

Служыла Карын годна
У замку караля;
Між іншых прыгажуняў
Найпершаю была.

Ярчэй за зорку ззяла
Яна сваёй красой.
Прыйшоў кароль аднойчы
І так казаў ён ёй:

«Паслухай мяне, Карын,
Ці будзеш ты мая?
Каня з каштоўнай збруяй
Аддам за гэта я».

«Каня з каштоўнай збруяй
Ты жонцы лепш аддай.
А мне, дзяўчыне беднай,
Мой гонар захавай».

«Паслухай мяне, Карын,
Ці будзеш ты мая?
Карону залатую
Аддам за гэта я».

«Карону залатую
Ты жонцы лепш аддай.
А мне, дзяўчыне беднай,
Мой гонар захавай».

«Паслухай мяне, Карын,
Ці будзеш ты мая?
Палову каралеўства
Аддам за гэта я».

«Палову каралеўства
Ты жонцы лепш аддай.
А мне, дзяўчыне беднай,
Мой гонар захавай».

«Калі ж ты мне адмовіш
Пяшчотай адказаць,
Табе з цвікамі бочку
Скажу я рыхтаваць».

«Мне жорсткія пакуты
Задумаў ты дарма;
Анёлы ў небе бачаць:
На мне віны няма».

Тут Карын загадаў ён
У бочку пасадзіць,
І варту там пакінуў
За дзеўкаю сачыць.

Два голубы з нябёсаў
Спусціліся тады.
Няшчасную дзяўчыну
Забралі ў рай яны.

Ад пакарання конунг
Не здолеў уцячы:
Тады ж забралі ў пекла
Яго два крумкачы.

## ТАНЦЫ Ў РУЖАВЫМ ГАІ

Наўкол усё шэранню вечар заслаў,
І шэрага коня юнак засядлаў.
*Чакай жа мяне!*

Са срэбра ды золата збруя была,
І хлопец ляцеў на кані, бы страла.
*Чакай жа мяне!*

Ды ў ружавым гаі спаволіў конь ход,
Убачыў юнак там дзяўчын карагод.
*Чакай жа мяне!*

Ён побач з лілеяй каня прывязаў,
Ды радасцю твар юнака ажно ззяў.

«Нам лепей сустрэцца купальскай парой,
Як дзень будзе доўгім, а ноч дасць спакой».

«Нам лепей сустрэцца пад спеў жаўрукоў,
Калі кукавацьме зязюля тут зноў».

«Нам лепей сустрэцца, дзе кветкі цвітуць,
Лілеі ды ружы нам ложак саткуць».
*Чакай жа мяне!*

***Пераклад са шведскай Яўгена Папакуля.***



**Ірына ШМАТКОВА**

# БЕЛАРУСКАЯ ЖАНОЧАЯ ЛІРЫКА Ў ГІСТОРЫКА-ЛІТАРАТУРНЫМ КАНТЭКСЦЕ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XX СТАГОДДЗЯ

Беларуская літаратура другой паловы XX стагоддзя — з'ява шматаблічная, неаднародная. Яе развіццё цесна звязана са складаным, зменлівым грамадска-культурным жыццём краіны. Вялікая Айчынная вайна стала пераломным этапам у гісторыі XX стагоддзя і пунктам адліку новага часу. Беларуская літаратура другой паловы XX стагоддзя, паводле акадэмічнай перыядызацыі ў «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» (т. 3—4), ахоплівае чатыры этапы: 1945—1955 гг. (літаратура першага пасляваеннага дзесяцігоддзя); 1956—1965 гг. (літаратура перыяду дэмакратычнага абнаўлення грамадства); 1966—1985 гг.; 1986—2000 гг.

Вядучая тэма паэзіі пасляваеннага дзесяцігоддзя, бясспрэчна, ваенная. У 1950 г. выйшаў другі зборнік К. Буйло «Світанне» (першы датаваны яшчэ 1914 г.), убачылі свет дзве чарговыя кнігі вершаў Э. Агняцвет — «Край мой родны» (1945) і «Дарога ў будучыню» (1949). Паэзіі гэтага часу ў значнай ступені ўласцівы нарматыўнасць, афіцыёз, «вернасць» камуністычнай ідэалогіі, — рысы, характэрныя для вядучага метаду літаратурнага працэсу азначанага перыяду — «сацыялістычнага рэалізму» (або класіцызму з элементамі рамантызму).

Перыяд дэмакратычнага абнаўлення грамадства — «вятрыста-бурнае дзесяцігоддзе» (М. Арочка) [1, с. 42] — характарызуецца росквітам гучнай паэзіі прапаганды. Для беларускай «жаночай» паэзіі гэты час азнаменаваны выданнем першай кнігі вершаў Е. Лось «Сакавік» (1958), затым былі надрукаваны «Палачанка» (1962), «Людзі добрыя» (1963), «Хараство» (1965). Праўда, сама паэтэса ў аўтабіяграфіі «З жыцця» ўдакладняе: «Пачаўшы пісаць рана і даволі рана заявіўшы аб сабе ў рэспубліканскім друку (1948), я на доўгі час (1950—1965 гг.) змоўкла. Такое было жыццё «непяючае», ды і сама напружана думала: ці варта?» [2, с. 226]. Дэбютавала ў гэты час В. Вярба (з'явілася першая кніга паэтэсы «Вочы вясны» (1962)); працягваюць друкавацца К. Буйло («На адноўленай зямлі» (1961), «Май» (1965)); Э. Агняцвет («Беларуская рабіна» (1959), «Лірыка» (1965)).

Беларуская літаратура 1966—1985 гг. (вядучы мастацкі метад — «сацыялістычны рэалізм» або посткласіцызм [3, с. 5]) хоць і атрымала назву «перыяду застою», але гэтая назва актуальная толькі для першай паловы гэтага перыяду — да пачатку 70-х гг. XX стагоддзя, калі некаторыя паэты «сярэдняга пакалення», пераважна «дзеці вайны», пісаць не маглі альбо пісалі «ў стол». Сярод гэтага мужнага, мужчынскага пакалення (Н. Гілевіча, С. Гаўрусёва, П. Макаля, А. Лойкі, М. Арочкі і інш.) выдзялялася асоба жанчыны — Е. Лось, якая ў вершы «Пра пакаленне» дае такую характарыстыку сваім аднагодкам: «Загартаванае наша натхненне, // Яно адгарыць няскора! // Кажуць, шчаслівае пакаленне // Тое, што зведала гора» [4, с. 54]. Творчасць Е. Лось ахоплівае адносна аднародны этап у развіцці дзяржавы — пасляваеннае аднаўленне і развіццё савецкага грамадства, калі ідэя будаўніцтва светлай камуністычнай будучыні была вядучай. Гэты аб'ектыўны фактар аказаў значны ўплыў на фарміраванне творчай манеры Е. Лось, у якой ёсць вершы дэкларатыўнага характару, агітацыйныя («Сёстры Леніна»,

«За ўладу Саветаў», «Слова камуністкі» і інш.), у сваёй кнізе «Лірыка ліпеня» Е. Лось робіць дароўчы надпіс А. Т. Кузьміну: «З самым шчырым камуністычным прывітаннем» (21 сакавіка 1977 г.) [5, с. 1]. Для грамадзянскай лірыкі Е. Лось характэрна ўпэўненасць, уласцівая савецкім людзям таго часу. Яна з'яўляецца адлюстраваннем сваёй эпохі, таму і каштоўная для нашчадкаў. Вядучай тэмай паэзіі гэтага перыяду, як і папярэдняга, застаецца тэма вайны, якая пачала эвалюцыяніраваць у бок узмацнення трагічнага пафасу. У паэзіі Е. Лось «ваенныя» вершы напоўнены болем ад уласна перажытых у дзяцінстве страт, голаду, слёз. У гэты ж час пачала зараджацца ў беларускай паэзіі гістарычная тэма, як прыклад — вершы Е. Лось «Продкі» (1960), «Я прачытала, што ў адной краіне...» (1966) і інш. У беларускай «жаночай» паэзіі «плынь лірычнага пацішэння», якая захлынула літаратуру краін СССР у згаданы перыяд, была вельмі натуральнай, што праявілася праз іншасказальнасць, асацыятыўнасць паэтычнага радка (вершы Е. Лось «Нязначнае перамагае...», «Вышэй! — над выдумкамі злымі...» і інш.).

У 70-я гг. ХХ стагоддзя беларуская літаратура, нягледзячы на не зусім спрыяльныя ўмовы, узбагацілася цэлай плеядай жанчын-паэтэс, якія выдалі шэраг зборнікаў: Я. Янішчыц «Снежныя грамніцы» (1970), «Дзень вечаровы» (1974), «Ясельда» (1978); Н. Мацяш «Агонь» (1970), «Удзячнасць» (1973), «Ралля суровая» (1976), «Прыручэнне вясны» (1979); Г. Каржанеўская «На мове шчасця» (1973), «Мой сад» (1976); Р. Баравікова «Рамонкавы бераг» (1974), «Слухаю сэрца» (1978); Т. Бондар «Захапленне» (1974), «Акно ў восень» (1977) і іншыя. Сярод гэтага разгорнутага пераліку вядучае месца займае імя Я. Янішчыц. У аўтабіяграфіі Г. Каржанеўская піша: «З узростам я ўсё болей цаню сваё пакаленне — «пакаленне Жэні Янішчыц», як яго называюць. Мае калегі і таварышы праявілі сябе вельмі living рознабакова, сцвердзіліся як асобы, творцы, грамадскія дзеячы» [6, с. 133]. Пра сваё пакаленне паэтэс Г. Каржанеўская піша і ў артыкуле «Нас было многа...» [7, с. 3], падкрэсліваючы назвай багацце шэрагу прадстаўніц паэтычнай плеяды 1970-х гг., і ў вершы «Будзем жыць», які пачынаецца са слоў: «Адыходзіць наша пакаленне...» [7, с. 3]. Т. Бондар таксама піша пра сваіх аднагодкаў, адзначаючы іх асаблівую шчырасць і нават адасобленасць: «Мне здаецца, што лепшае ў нас, у нашым пакаленні — імкненне быць шчырымі. Шчырымі ва ўсім. У пачуццях. У сваёй тузе па ідэале. У сваім разуменні Боскага свету, апраўдаць які мы не маглі, а асуджаць не асмельваліся. У сваім заўсёды свядомым нежаданні гуляць у літаратурных бунтаўшчыкоў, патрафляючы густам замежных імпрэсарыа. Нават у сваім адчужэнні як ад папярэднікаў, так і ад тых, хто ішоў следам» [8, с. 2].

Тэматычны пласт беларускай жаночай паэзіі гэтага перыяду дастаткова разнапланавы: ад класічнага сузірання прыроды, заклікавай любові да Радзімы да пытанняў філасофскага асэнсавання жыцця; попыт на дэкларатыўны пафас змяншаўся, павялічваўся на маральна-этычныя праблемы, з'явілася экалагічная тэма. Актуальнай у гэты час набыла «касмічная» тэма: у вершы 1966 г. В. Вярбы яе лірычная гераіня «тоненькая Тоня» — «Пасажырка будучых ракет» [9, с. 54], а ў іншым вершы (1973 г.) роздум гераіні — аб палёце «касмічнае антэны» [9, с. 129]. Падобнага кшталту ёсць вершы і ў Н. Шклряравай («Чалавек») — «Цяпер і космас узараў ракетай...» [10, с. 10], і ў іншых беларускіх паэтэс.

Творчасць старэйшых паэтэс атрымала грамадскае прызнанне: К. Буйло была ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны», медалямі, у 1968 г. ёй прысуджана ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры БССР»; Э. Агняцвет узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны», медалямі; Е. Лось — ордэнам «Знак Пашаны», медалямі. Атрымаць такое прызнанне маладзейшаму пакаленню было складаней. Так, у адным з лістоў да Т. Бондар ад Я. Каршукова (загадчыка аддзела літаратуры газеты «Літаратура і мастацтва») змешчана адмова ў друкаванні яе вершаў: «Не скажам, што тут усё блага, хутчэй наадварот — напісаны вершы, як кажуць прыстойна, сям-там нечым падабаюцца. Аднак усе яны — у адной танальнасці, у іх

мала жыццёвых рэалій. Можа, з цягам часу напішацца што цікавейшае — надрукуем. 27 снежня 1971 г.» [11, с. 14]. Ліст сведчыць аб непрыняцці тагачаснай крытыкай элегічна-медытатыўнай лірыкі Т. Бондар. Ненадрукаваныя тады вершы склалі пазней першы зборнік паэтэсы «Захапленне» (1974), які вылучыўся сярод першых кніжак іншых паэтэс сваім незвычайным для маладой аўтаркі сумам і развагай (вершы «Споведзь», «Роздум», «Развітанне», «Неспакой», «Над магілай» і інш.).

У 1980-я гг. (час неарамантызму [12, с. 10], посткласіцызму [3, с. 5]) кагорта беларускіх паэтэс папоўнілася імем Г. Булыкі (надрукаваны першы зборнік «Сінтэз» — 1986). У 1990 г. убачылі свет першыя дзве паэтычныя кнігі Л. Рублеўскай «Крокі па старых лесвіцах» і «Адукацыя». У 1990-я гг. выдалі свае першыя кнігі Л. Сільнова і А. Хатэнка.

Рэалізавацца творчаму таленту Л. Рублеўскай дапамагло літаб'яднанне паэтычнай моладзі «Узлёт», кіраўніком якога быў А. Лойка. Сваёй паэтычнай настаўніцай Л. Сільнова лічыць Р. Баравікову, якая кіравала літаб'яднаннем «Крыніцы». Ёй прысвечаны верш «Чараўніца» з першага зборніка Л. Сільновай «Ластаўка ляціць». Усё гэта сведчыць аб пераемнасці пакаленняў. Адметны стыль пісьма Л. Рублеўскай і Л. Сільновай сфарміраваўся пад уплывам суполкі Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Творчасць Л. Сільновай з яе вершамі-малюнкамі, «самаробнымі» кнігамі ў стылі «хэнд-мэйд-бук» або «арт-бук» стала прыкладам адлюстравання новых авангардных, мадэрнісцкіх кірункаў як у сусветнай, так і ў беларускай літаратуры напрыканцы XX ст.

У сярэдзіне 1980-х гг. у беларускім грамадскім жыцці адбыліся значныя змены — пачалася перабудова, а пасля 1991 г. распаўся СССР, дзяржава, у склад якой уваходзіла наша рэспубліка. Гэтыя змены закранулі ўсе сферы чалавечага жыцця, выклікалі сапраўдную пераацэнку каштоўнасцей, калі старыя ідэалы саступілі месца новым. Працэс характарызаваўся няпэўнасцю, пераходнымі цяжкасцямі, бо духоўнае адраджэнне суправаджалася эканамічным спадам. Г. Каржанеўская ўдала перадае той стан разгубленасці, у якім апынуліся грамадзяне былой савецкай дзяржавы: «Штосьці пуста ў маіх засеках, // Штосьці воля мая — як з ваты. // Штосьці думкі мае — як рэкі, // Паспрамляныя сілай, гвалтам» [13, с. 7].

Трохразовы паўтор няпэўнага займенніка ўзмацняе гэты эфект. Паэтэса спрабуе пераасэнсаваць ідэалагічныя клішэ, прыйсці да ісціны сама, стомленая ад «агульных» думак, «навязаных зверху»: «А вы мне тут — // пра камерную згоду...» [13, с. 22]. У многіх вершах Г. Каржанеўскай чытаецца горкі роздум пра ідэалы юнацтва, у якіх, насамрэч, пераважаў наіў. Яна з іроніяй разважае аб такой чалавечай якасці, як гонар: «Дошкі гонару апусцелі. // Нават з гонарам стала горш — // Ён каштуе сягоння грош» [13, с. 71].

Пад вострае пяро паэтэсы трапілі клеркі камуністычных кабінетаў — «рабацягі машыны страшнай», «спадкаемцы вялікай лжы», — як бачым, тут Г. Каржанеўская не шкадуе прастамоўнай лексікі; падхалімы таксама атрымліваюць сваё: «Хто апалай лістотай слаўся — // Тых наступнасць збярэ ў вядро» [13, с. 71]. Зноў жа іранічна (у вершы з адпаведнай назвай «Іранічнае») паэтэса паказвае «схематычнасць», застыласць савецкага часу, выкарыстоўваючы для гэтага кароткія няпоўныя сказы, адзіную рыфму для кожнай страфы, што ўзмацняе ўражанне ад зместу: «І застой, і плесня там, дзе схемы. // У людзей інакшыя праблемы. // У віры матляемся ўсе мы. // Справы дрэнь: падводзяць тэарэмы. // Як іх штампавалі год ад году, // Сапсавалі гэтулькі народу» [13, с. 22].

Засілле бюракратаў — аб'ект гневу Г. Каржанеўскай у паэме «Рэтушоры»: «Скрозь яны — // там, дзе трыбуны, канторы. // (Двое працуюць — кіруе чацвёра)» [14, с. 146]. У вершы «У чарзе» паэтэса паказвае тагачасную ліхаманку, звязаную з імкненнем, нават прагай набыць такія недасягальныя, «усім неабходныя рэчы». Жанчын-пакутніц тых часоў аўтар параўноўвае з «чаплямі эпохі перабудовы». І зноў задаецца пытанне, на якое мы не ведалі адказу — «І зразу-

мецъ немагчыма, чыя тут віна». Такія да болю знаёмыя «рэаліі» савецкага часу: «звыклая лаянка», «выпіўшы муж», «цёткі, кабеты і дамы ў пакетах і звязках...» [13, с. 15] (дарэчы, адно з цяжкіх «выпрабаванняў савецкай жанчыны») паўстаюць з вершаў Г. Каржанеўскай вельмі ярка, рэалістычна-праўдзіва. Канцэпцыя жаночага лёсу, якая ўвасобілася ў лірыцы беларускіх паэтэс, увабрала ў сябе цяжкасці савецкага часу.

Змаганне з бюракратыяй і доўгія чэргі ў часы перабудовы аднолькава хвалявалі як Г. Каржанеўскую, так і Н. Мацяш. Н. Мацяш у вершы «Набалелае» (1988) прызнаецца, што ўжо не можа больш маўчаць. Супраць чыноўніцтва, супраць бюракратыі скіравана яе вершаванае слова. Паэтэса не можа быць спакойнай, «Покуль пуста ў кашальках у нас і ў крамах, // Покуль чэргі ёсць, і хабары, і блат» [15, с. 194].

У беларускай паэзіі, у тым ліку і жаночай, пачала раскрывацца праўда пра мінулае. У гэты ж час беларускія паэтэсы адгукнуліся на ваенныя падзеі ў Афганістане. Трагедыя воінаў-інтэрнацыяналістаў выявілася ў вершы Я. Янішчыц «Верш, напісаны ў цырульні», у згаданым ужо вершы Н. Мацяш «Набалелае», дзе аўтар з болем апавядае пра тое, як «уміраюць на чужой чужыне родныя сыны...» [15, с. 194]. Выкарыстанне паўтору «на чужой чужыне» яшчэ больш акцэнтуе ўвагу на бяссэнсавасці і жахлівасці гэтай ахвяры.

Яшчэ адзін тэматычны пласт паэзіі звязаны з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай станцыі ў красавіку 1986 г. Гэта трагедыя стала спалучальным звяном паміж мінулым і сучасным, у беларускай паэзіі з'явіліся творы-асэнсаванні не толькі лёсу канкрэтнага чалавека, нават краіны, а будучага ўсяго чалавецтва. Першымі водгукамі паэтэс на Чарнобыльскую трагедыю сталі вершы Я. Янішчыц, паэма «Чарнобылевы боль крыжа» А. Хатэнкі.

У беларускай паэзіі канца XX стагоддзя ўзмацніўся інтэлектуальна-філасофскі кірунак, адметным прыкладам якой стала паэзія Г. Булыкі, што паспрабавала злучыць у сваёй творчасці паэзію і навуку. Абвастрыліся ў гэты час і рэлігійна-хрысціянскія настроі, што знайшло адлюстраванне ў лірыцы Н. Мацяш, Т. Бондар і інш., а таксама актывізавалася гістарычная тэма (паэзія Т. Бондар, Н. Мацяш, Л. Рублеўскай і інш.).

У другой палове 80—90-х гг. XX стагоддзя творчасць жанчын-паэтэс была высока ацэнена прысуджэннем Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы Я. Янішчыц (1986 г. — за кнігу «Пара любові і жалю»), Р. Баравіковай (1994 г. — за кнігу «Люстэрка для самотнай»); Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова Н. Мацяш (1984 г. — за «Паэму жніва»), Р. Баравіковай (1988 г. — за кнігу «Каханне»).

Пра значнасць беларускай жаночай паэзіі ў культурнай прасторы сведчаць пераклады іх твораў на іншыя мовы свету як блізкага, так і далёкага замежжа: увогуле, вершы Е. Лось перакладзены на 30 моў свету; К. Буйло, Я. Янішчыц, Н. Мацяш — на англійскую, нямецкую, французскую, польскую, рускую, украінскую, туркменскую і многія іншыя мовы; В. Вярбы, Р. Баравіковай, Т. Бондар, Г. Каржанеўскай — на балгарскую, польскую, чэшскую, рускую, украінскую, латышскую, грузінскую, узбекскую і іншыя мовы свету.

Па сённяшні дзень лічым нявырашанай праблему аб узаемадачыненнях «паэзія і жыццё грамадства», «жанчына і палітыка». Існуе шмат меркаванняў на гэты конт, зразумела, што прыхільнікі фемінізму адной са сваіх мэт і прадугледжваюць раўнапраўнае месца жанчыны ў палітыцы, але ці заўсёды з гэтым пагаджаюцца самі жанчыны?

Што тычыцца паэзіі і палітыкі, то тут таксама ёсць падставы для дыскусіі. Паэзія — субстанцыя камунікатыўная. Паэт размаўляе з чытачом, з народам, з цэлым сусветам. І зразумела, ніхто яго не пачуе, калі яго словы не будуць актуальнымі для людзей, калі ў вершаваных радках аўтар не здолее даць адказы на хвалюючыя іх пытанні. Без грамадзянскага ідэалу паэзія не можа быць эстэтычна паўнавартаснай, інакш кажучы, надзённай, сугучнай таму часу, таму стану

грамадства, калі і дзе жыве паэт. У. Гніламёдаў піша: «Паэзія была і застанецца духоўна-эстэтычным эквівалентам грамадства, яна творыць, «збірае» чалавека, асвятляючы яго месца і ролю ў агульнай карціне сучаснага свету» [16, с. 293]. Беларускія паэтэсы па-грамадзянску актыўныя ў жыцці соцыуму. Яны не абыходзяць увагай тыя падзеі, якія адбываліся ў грамадстве і былі неад’емнай часткай жыцця людзей. Публіцыстычнасць стылю, грамадзянскасць прамаўлення — характэрная рыса многіх вершаў Е. Лось, Н. Мацяш, Г. Каржанеўскай і інш.

Яўген Гарадніцкі заслужана адводзіць беларускай паэзіі значнае месца: «Так склалася гістарычна, што менавіта паэзія (як народная, што спрадвеку выяўляла сябе ў вуснай, пераважна песеннай форме, так і індывідуальная, што мае за сабой шматвяковую пісьмовую гісторыю; як эпічная, так і лірычная) найбольш выразна і цэласна прадстаўляе не толькі эстэтычныя, але і грамадскія, філасофска-маральныя погляды розных культурна-гістарычных эпох, з’яўляецца каштоўнейшай крыніцай па народазнаўстве» [17, с. 68]. Творца не мае права заставацца абыякавым да праблем грамадства, бо паэт, калі ён сапраўдны Паэт — голас і сумленне народа. Г. Каржанеўская адчувае сябе кропляй у жыццёвай плыні грамады: «Нас падхапіла існая плынь // Ўсіх, грамадою. // Так і сплываем удалячынь // Разам з вадою» [13, с. 27]. Лірычная гераіня Н. Мацяш не можа спяваць вясёлых песень, калі «відаць, зашмат на свеце нешчаслівых...» [15, с. 167]. У кнігах паэзіі Г. Каржанеўскай і Н. Мацяш шмат драматычных вершаў, у якіх раскрываюцца розныя грамадскія праблемы, што сведчыць пра сацыяльна-этычную актыўнасць паэтэс. Е. Лось надала адметную эстэтычную канцэптуальнасць грамадзянскай лірыцы, для паэтэсы слова «грамадзянін» атаясамліваецца са словам «чалавек».

Але сярод навукоўцаў, ды і саміх аўтараў існуе і іншая думка. Асабліва, калі мець на ўвазе, што творчае станаўленне і развіццё паэтэс адбывалася ў сваім часе. Так, той жа Арыстоцель адзначаў, што «...правільнасць у паэзіі і ў палітыцы, у паэзіі і ў любым іншым мастацтве — рэчы розныя» [18, с. 676]. Пацвярджае гэту думку ў адным са сваіх інтэрв’ю Г. Булыка: «...паэзія і палітыка — рэчы несумяшчальныя apriori. У іх розныя мэты і сродкі. Дарэчы, гэтыя паняцці не змешвалі ўжо ў антычнай Грэцыі. Паэту, як асобе, безумоўна, уласцівыя патрыятычныя пачуцці, але літаратура патрабуе адмежаванага гледзішча, здольнасці да мастацкай «пераплаўкі» ўражанняў. Не можа быць «надзённых радкоў»! Гэта проста недарэчны аксюмаран! Паэзія няўчасная, і таму яна існуе ад пачатку гісторыі. <...> Літаратура, дзякаваць Богу, перастала быць ідэалогіяй, словы «пісьменнік» і «грамадскі дзеяч» — ужо не сінонімы. Мы прыходзім да разумення самадастатковасці творчасці, а яно ва ўсіх развітых літаратурах вяло да пошукаў новых формаў, якія афармляліся ў вызначаныя эстэтычныя напрамкі» [19, с. 86].

Яўгенія Янішчыц, не абмінаючы праблему ўзаемадзеяння паняццяў «паэзія і палітыка», піша: «На карце міру хто паставіць кропку — // Празорлівы палітык ці паэт? <...> А свет ізноў — спакусы ды інтрыгі, // А свет ізноў на вастрыні падзей...» [20, с. 323].

Такім чынам, эвалюцыя беларускай «жаночай» паэзіі другой паловы XX стагоддзя адбывалася пад уплывам развіцця літаратурнага працэсу. Асноўнымі рысамі паэзіі 1950-х гг. былі нарматыўнасць, афіцыёз (грамадзянская лірыка К. Буйло, Э. Агняцвет, Е. Лось). Пачынаючы з другой паловы 1950-х гг. дэкларатыўнаць зменшылася і саступіла месца асэнсаванню маральна-этычных праблем (зборнікі Е. Лось «Сакавік», «Людзі добрыя», дэбютныя творы В. Вярбы), распрацоўцы экалагічнай тэмы (вершы Е. Лось у абарону прыроды). У 1980-я гг. па-новаму загучала ў лірыцы беларускіх паэтэс тэма горада (лірыка паэтэс-гараджанак: Г. Каржанеўскай, Г. Булыкі, Л. Рублеўскай). Для другой паловы 1980-х — 1990-х гг. актуальным стаў матыў разгубленасці, які змяніўся гуманістычна-асветніцкім пафасам (публіцыстычная лірыка Н. Мацяш, Г. Каржанеўскай). У гэты ж час з’яўляюцца творы на тэму Афганістана і Чарнобыля (паэзія Я. Янішчыц, Н. Мацяш, А. Хатэнкі). Напрыканцы XX стагоддзя ў лірыцы беларускіх паэтэс узмацніўся

інтэлектуальна-філасофскі кірунак (творы Г. Булыкі), абвастрыліся рэлігійна-хрысціянскія матывы (паэзія Н. Мацяш, Т. Бондар і інш.), актывізавалася гістарычная тэма (паэзія Т. Бондар, Л. Рублеўскай, Н. Мацяш і інш.). Жанрава-стылёвая сістэма «жаночай» паэзіі эвалюцыяніравала ў бок разнастайнасці і постмадэрнісцкага кірунку (з'яўленне паэзіі ў прозе А. Хатэнкі, вершаў-малюнкаў, «самаробных кніг» Л. Сільновай і інш.).

Праведзены аналіз пытанняў фарміравання і развіцця «жаночай» паэзіі ў беларускай літаратуры ХХ ст. паказаў, што лірыка беларускіх паэтэс другой паловы ХХ ст. займае адметнае месца ў літаратурным працэсе. Амаль адначасовае «ўваходжанне» ў літаратуру вялікай колькасці паэтэс (В. Вярбы, Я. Янішчыц, Н. Мацяш, Т. Бондар, Р. Баравіковай, Г. Каржанеўскай, Н. Шкляравай і інш.) дае падставы сцвярджаць аб узнікненні ў айчыннай літаратуры другой паловы ХХ ст. плеяды жанчын-паэтэс.

## Літаратура:

1. Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. Т. 3: 1955 — 1965 гг. / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы; рэдкал.: У. В. Гніламёдаў, С. С. Лаўшук. — Мінск: Беларус. навука, 2001. — 952 с.

2. Пра час і пра сябе. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. — Мінск: Беларусь, 1996. — 392 с.

3. Адамовіч, Г. Я. Сусветная літаратурная класіка ў беларускім кантэксце (заканамернасці, тыпалогія, характар узаемасувязей): аўтарэф. дыс. ... д-ра філал. навук: 10.01.08. / Г. Я. Адамовіч; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. — Мінск, 2005. — 42 с.

4. Лось, Е. І каласуе даўгалецце / Е. Лось. — Мінск: Маст. літ., 1998. — 367 с.

5. Лось, Е. Лірыка ліпеня: вершы і паэмы / Е. Лось. — Мінск: Маст. літ., 1977. — 174 с. // БДМГБЛ. — Фонд «Кнігі з аўтографамі». — КП 024260.

6. Шматкова, І. Наталіцца роднасці святлом...: Агульнае і адметнае ў творчасці Е. Лось, Н. Мацяш, Г. Каржанеўскай / І. І. Шматкова; навук. рэд. А. І. Бельскі. — Мінск: Ковчег, 2011. — 148 с.

7. Каржанеўская, Г. «Нас было многа... Дзённікавы запіс ад 6 мая 2011 года. Пятніца» / Г. Каржанеўская // Літаратурная Беларусь. — 2012. — 30 сак. — С. 3.

8. Бондар, Т. «У літаратуры трэба перамагаць кожны раз наноў...» / Т. Бондар // Беларусь. — 1994. — № 10. — С. 2.

9. Вярба, В. Апошні верасень. Выбранае: вершы і паэмы / В. Вярба. — Мінск: Маст. літ., 1995. — 270 с.

10. Шклярава, Н. Міг і вечнасць: вершы / Н. Шклярава. — Мінск: Маст. літ., 1979. — 72 с.

11. Ліст Я. Каршукова да Т. Бондар // БДАМЛМ. — Фонд 12. — Воп. 1. — Адз. зах.1510. — Арк.14.

12. Тычына, М. Несвоечасовы рамантызм / М. А. Тычына // Роднае слова. — 2003. — № 4. — С. 10.

13. Каржанеўская, Г. Асенні мёд: вершы розных гадоў / Г. Каржанеўская. — Мінск: Маст. літ., 1999. — 159 с.

14. Каржанеўская, Г. Вечны водгук: вершы і паэма / Г. Каржанеўская. — Мінск: Маст. літ., 1988. — 157 с.

15. Мацяш, Н. Паміж усмешкай і слязой: вершы і паэмы (1962 — 1992) / Н. Мацяш. — Мінск: Маст. літ., 1993. — 301 с.

16. Гніламёдаў, У. В. Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс / У. В. Гніламёдаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983. — 304 с.

17. Гарадніцкі, Я. А. Паэтыка беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: суб'ектна-аб'ектныя суадносіны / Я. А. Гарадніцкі. — Мінск: Беларус. навука, 2010. — 332 с.

18. Аристотель. Сочинения: в 4 т. / Аристотель; пер. с древнегреч., общ. ред. А. И. Доватура. Акад. наук СССР, Ин-т философии. — М.: Мысль, 1983. — Т. 4. — 830 с. — (Филос. наследие. Т. 90).

19. Булыка, Г. З Галінай Булыка гутарыць Леанід Дранько-Майсюк / Г. Булыка // Крыніца. — 1994. — № 7. — С. 82—90.

20. Янішчыц, Я. Пачынаецца ўсё з любві...: вершы, паэмы / Я. Янішчыц. — Мінск: Маст. літ., 2008. — 339 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 3 кастрычніка 2016 года.

## Рэзюмэ

**Ірына ШМАТКОВА**

### «Беларуская жаночая лірыка ў гісторыка-літаратурным кантэксце другой паловы XX стагоддзя

У артыкуле даследуюцца праблемы развіцця беларускай жаночай лірыкі ў гісторыка-літаратурным кантэксце другой паловы XX стагоддзя. Асаблівая ўвага надаецца эвалюцыі жанрава-стылёвых кірункаў у іх паэзіі. Аўтар на аснове літаратурнага матэрыялу вызначае адметнае месца творчасці беларускіх жанчын-паэтэс як асобнай плеяды ў айчыннай літаратуры другой паловы XX стагоддзя.

**Ключавыя словы:** жаночая лірыка, літаратурны кантэкст, стыль, жанр, пафас.

## Summary

**Irina SHMATKOVA**

### Belarusian women’s poetry in the historical and literary context the second half of the twentieth century

The article examines the problems of development of the Belarusian women’s poetry in the historical and literary context of the second half of the twentieth century. Particular attention is paid to the evolution of the genre and stylistic directions in their poetry. Author based on literary material defines a special place to creativity Belarusian female poet as a separate galaxy in Russian literature of the second half of the twentieth century.

**Keywords:** women’s poetry, literary context, stile, genre, pathos.



Ігар АЎЛАСЕНКА

# АПОШНЯЯ СПОВЕДЗЬ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА
## (паводле дзённіка пісьменніка)

***Но продуман распорядок действий,***
***И неотвратим конец пути.***
***Я один, всё тонет в фарисействе.***
***Жизнь прожить — не поле перейти.***

Борис ПАСТЕРНАК. «Гамлет»

Яшчэ не адгрымелі апошнія баі Вялікай Айчыннай вайны, а знявечаны Мінск, вызвалены з-пад трохгадовай нямецкай акупацыі, балесна вяртаўся да мірнага жыцця. З-пад пяску і камення, што ляжалі на вуліцах горада, тырчэлі бясформенныя абгарэлыя рэшткі спаленых і напаўразбураных будынкаў. Пустэчы на ўскрайках былі засеяны неразарванымі снарадамі, а варонкі, што засталіся на зямлі пасля выбухаў, пазіралі ў неба, быццам чорныя вачніцы, месцамі прыцярушаныя тонкім снегам. Каля нешматлікіх уцалелых пабудоў у цэнтры бялелі сотні палатак, дзе туліліся жыхары, якія засталіся без даху над галавой. Над палаткамі шэрымі стужкамі курыўся дым з труб самаробных печак, ля якіх мінчане саграваліся ў халоднае лістападаўскае надвор'е, і часам можна было ўбачыць, як маці захутвала сваіх дзяцей у цёплую коўдру. Але глыбокія раны, нанесеныя гораду, паволі зацягваліся. На знявечаным абліччы сталіцы з'явіліся першыя новабудоўлі, быццам маладыя парасткі зеляніны, што прабіліся скрозь папялішча.

Позняя раніца 22 лістапада 1944 года ў Мінску выдалася пахмурнай. Бледны сілуэт узыходзячага сонца, які ледзьве віднеўся скрозь халодныя свінцовыя аблокі, павольна вылучаў з начной цемры і афарбоўваў у шызы колер спустошаныя гарадскія вуліцы, над якімі чарнелі нешматлікія ўцалелыя будынкі. Імжэла. Дробныя кропелькі, у якіх адчуваўся марозны подых блізкай зімы, акраплялі халодным вадзяным пылам твар кожнаму, хто выходзіў на адкрытае паветра.

У акне аднаго з дамоў у цэнтры бачылася зіхаценне агеньчыка запаленай свечкі. У пакоі панаваў паўзмрок, бо суседні дом засланяў святло надыходзячага дня. Здавалася, што няроўны маленькі агеньчык упарта змагаўся з навакольнай цемрай: то ярка ўспыхваў і разгараўся, адкідваючы змрок у самыя дальнія куткі пакоя, то ніякавеў, пераможаны навакольнай чарнатою, і ператвараўся ў жоўтую кропку, якая трапятала ад кожнага лёгкага подыху. Дрыготкае полымя асвятляла небагатае ўбранства пакоя: пацямнелы ад часу пісьмовы стол насупраць акна і раскладзеныя на ім сшыткі, драўляны ложак ля сцяны і крыху нахіленую ўбок старую вялізную шафу. Водбліскі святла вылучалі з паўзмроку рысы змаршчыненага твару чалавека, які ў ранішняй цішыні ўнурана схіліўся над сталом пры запаленай свечцы. У яго вачах чытаўся смутак і глыбокая ўнутраная роспач. Чалавека звалі Мікалай Карлавіч Раманоўскі, але многія яго ведалі найперш як пісьменніка Кузьму Чорнага.

У гэтым ранішнім паўзмроку ён знаходзіўся ў думках сам-насам. Дачка Рагнеда, якую ў сям'і звычайна звалі Іраю, была ў школе, а жонка Рэня адпачывала на ложку, бо ёй нездаровілася. З цяжкасцю завяршыўшы ўсе хатнія абавязкі —

распаліўшы печ, прыгатаваўшы сняданак, адправіўшы дачку ў школу, — пісьменнік, нарэшце, знайшоў хвілінку папрацаваць. У пакоі было ціха, толькі з-за зачыненага акна глуха даносіліся асобныя вулічныя гукі: урыўкі размоў, удары малатка на новабудоўлях, гырканне матораў грузавых машын. Штодня адчуваючы недахоп сіл і прадчуваючы магчымую хуткую смерць, пісьменнік спяшаўся завяршыць недапісаныя творы.

Ужо мінула два месяцы, як Чорны разам з сям'ёй быў у Мінску, куды ён вярнуўся пасля трохгадовай маскоўскай эвакуацыі. І ўвесь гэты час яго турбавала пачуццё неўладкаванасці, адзіноты, а таксама горыч нясправўджанай надзеі пасля вяртання на радзіму. Спярша цешыла спадзяванне, што менавіта пераезд у Мінск дапаможа адолець хваробу і прынясе доўгачаканае натхненне. Але сталіца рэспублікі сустрэла яго непрыветным вераснёўскім дажджом, які, падаючы на яе незагоеныя раны, быццам бы аплакваў той даваенны горад, што яшчэ заставаўся жывым у памяці. Дом, дзе Мікалай Карлавіч з жонкай і дачкой жыў раней, быў разбураны, як і большасць будынкаў, таму пасля пераезду разам з роднымі давялося больш за месяц туліцца ў куце на падлозе на першым паверсе Дома Саюза пісьменнікаў. Неаднойчы спрабаваў там засяродзіцца на сваіх незавершаных раманах і аповесцях, але штодзённы шум, навакольная мітусня і пранізлівы кіслы смурод рабілі немагчымымі заняткі творчай працай. Для Чорнага са слабым здароўем пасля перажытага два гады таму інсульту, такія ўмовы былі надзвычай цяжкімі. Толькі праз месяц хадайніцтваў Саўнаркам выдзеліў яго сям'і асобную кватэру ў цэнтры, у доме на вуліцы Савецкай.

Новая кватэра аказалася цёмнай і неўладкаванай. Яна нагадвала пограб, халодны каменны мяшок, дзе пастаянна валадарыў паўзмрок. Тут займацца творчасцю было асабліва пакутліва, бо пасля інсульту ў пісьменніка сур'ёзна сапсаваўся зрок. У доме працягваўся рамонт, які цягнуў за сабой бруд і волкасць. Хатнія клопаты з мэтай зрабіць новую кватэру больш-менш зручнай для нармальнага жыцця ў халоднае позневосеньскае надвор'е забіралі апошнія фізічныя сілы цяжкахворага чалавека. Знаёмыя заходзілі да яго рэдка, і часта адзінота вострым шыпам балюча вярэдзіла параненую душу пісьменніка. Немагчымасць займацца творчасцю і адчуванне згубленага часу забіралі апошнія душэўныя сілы. Цела было змучана хваробай, але апошнім часам, перамагаючы сваю нямогласць, садзіўся за стол і працягваў пісаць.

У цішыні позняй лістападаўскай раніцы на стале перад Кузьмой Чорным ляжалі нешматлікія рэчы, што яму ўдалося прывезці ў Мінск — некалькі агульных сшыткаў, блакноты і стос спісаных аркушаў, а таксама шэраг пажоўклых ад часу фатаграфій, што засталіся яшчэ з даваеннага часу. Сярод папер былі рукапісы няскончаных і яшчэ неапублікаваных раманаў, прысвечаных вайне: «Пошукі будучыні», «Вялікі дзень», «Млечны Шлях». Але ўвага Мікалая Карлавіча была прыцягнутая не толькі да іх. Павольна перагортваючы спісаныя аркушы паперы, ён таксама перабіраў у памяці 44 гады свайго зямнога існавання, адзначаныя радасцю і горам, творчымі поспехамі і няўдачамі, змаганнем з чужой зайздрасцю і подласцю. Гэта былі гады надзей, расчараванняў і нястомнай працы, якія адбіліся ў яго асунутым целе, у зморшчыненым твары і вачах, напалову пагаслых, але ў глыбіні якіх яшчэ не згасла прага жыць і бачылася нежаданне здавацца. Прыгадваліся самыя балючыя моманты жыцця: восем месяцаў, праведзеных у мінскай турме, уцёкі з палаючага Мінска на пачатку вайны, знясільваючая праца ў Маскве, што давяла яго да інсульту, а пасля доўгая пакутлівая барацьба з уласнай немаччу…

Адарваўшыся ад горкіх думак, Чорны стаў праглядаць шэры сшытак, у якім чорным чарнілам роўным уборыстым почыркам быў занатаваны пачатак новага рамана «Скіп'ёўскі лес». Гэты твор, задуманы на пачатку вайны, абудзіў хвалюючыя ўспаміны пра родную вёску Цімкавічы на Случчыне, дзе прайшло яго дзяцінства. Яшчэ падчас жыцця ў Маскве, калі хвароба асабліва дапякала, часта ўзгадваў, як маленькім хлопчыкам разам са сваімі сябрамі праводзіў час

на Скіп’ёўскім узлеску, што знаходзіўся непадалёк ад яго хаты, і там спазнаваў дзівосы навакольнага свету: прыслухоўваўся да птушыных галасоў, назіраў, як пачынаюць жаўцець дрэвы на пачатку бабінага лета, а таксама захапляўся, як заходзячае сонца тоне ў ружовых і барвовых хвалях вечаровага неба. «Родныя мае мясціны, — думаў замілавана. — Як мая душа рвецца туды! Яна заўсёды там. Там жывуць усе мае персанажы. Усе дарогі, пейзажы, дрэвы, хаты, чалавечыя натуры, пра якія я калі-небудзь пісаў. Гэта ўсё адтуль, сапраўднае. Пішучы пра Скіп’ёўскае Пераброддзе, я думаю пра Скіп’ёва каля Цімкавіч, паміж лясамі Скіп’ёўшчынай і Ліхадзёўшчынай, мілае малое Селішча, хараством якога заўсёды захаплялася мая маці нябожчыца».

І некалькі месяцаў таму, чым відавочней набліжалася канчатковае вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, тым часцей у яго памяці ажывалі гэтыя ўспаміны далёкага дзяцінства. «Можа, мне суджана яшчэ пабачыць мілыя Цімкавічы, — у глыбіні душы спадзяваўся ён. — А што, калі і хата мая засталася і стаіць? Гэта будзе вялікае шчасце. Там жа, у ціхім жыцці можна будзе ачуняць як мае быць і напісаць усе задуманыя раманы». Уяўлялася, як ён ступіць на родны парог і там, пакінуты ў цішыні, сагрэты ўтульнасцю роднага дома, будзе пісаць свае новыя творы і аднаўляць сваё здароўе. Яшчэ не прыйшла вестка пра вызваленне Случчыны, а ўжо загадзя накіраваў туды з Масквы паштоўку. Праз месяц трывожнага чакання прыйшоў адказ ад сясцёр. Паведамлялі, што бацькоўская хата спалена, а пра лёс братоў нічога не вядома.

Калі прачытаў гэтыя радкі, то адчуў, як сэрца апаліла горыч па незваротна страчаным, а ў скронях балюча застукала кроў. З таго моманту ў свядомасці неаднойчы ўсплывалі змрочныя карціны, якія чакаў убачыць у роднай вёсцы: асмалкі ад ягонай хаты, што тырчэлі з папялішча, альбо апаленыя постаці белых бяроз, што раней раслі непадалёк. З той пары неаднойчы па начах, калі спалася дрэнна і сэрца сціскала туга па родным краі, у неспакойны сон урываўся пажар, у якім палала цэлая вёска. Снілася, як у чырвоным полымі балесна курчыліся і чарнелі садовыя яблыні, пад якімі ён гуляў яшчэ маленькім хлапчуком. Уяўляў закатаваных, павешаных аднавяскоўцаў з ганебнымі шыльдамі на грудзях, і гэтыя відовішчы кожны раз няўмольна ўрываліся ў светлую памяць пра бесклапотнае і шчаслівае дзяцінства. Ён адчуваў, што не ў стане засланіцца ад гэтых жудасных бачанняў і забыць іх.

«Нейкі страшны злодзей скраў у мяне маё маленства, мой родны дом, маю Радзіму, — падумаў Мікалай Карлавіч. — Ён скраў дзяцінства не толькі ў мяне, але і ў тысяч, у мільёнаў дзяцей. І як пакараць гэтага злодзея? Як яго прымусіць усё вярнуць?»

Усхваляваны ад гэтых успамінаў, Чорны ўстаў з-за стала і павольна пакрочыў па цесным пакоі, пагружаны ў свае думкі. Цені, што адкідвала яго постаць ад святла запаленай свечкі, чорнымі плямамі кладліся на праціглеглыя сцены і пры кожным руху ажывалі, быццам героі мінулых падзей, якія вярнуліся з нябыту падчас роздуму пісьменніка. Асабліва прыпомніўся яму зараз жахлівы дзень 24 чэрвеня 1941 года, што прыпаў на сорак першы дзень яго нараджэння, калі нямецкая авіяцыя ўпершыню бамбіла Мінск. Ён узгадаў, як аглушальны грукат разрыву снарадаў, здавалася, вось-вось разарве высокае неба напалам, а пах едкага дыму пераймаў дыханне. Сэрца было ахоплена жахам ад невядомасці, куды бегчы і ўцякаць ад шалёных бомбаў, якія рваліся навокал. Бачыў, як пад руінамі разбураных дамоў гінулі людзі, чуў пранізлівыя крыкі параненых, якія паміралі ў вогненных магілах пад рэштками будынкаў, а сам найперш імкнуўся знайсці паратунак жонцы і дачцэ, не згубіць іх у тым суцэльным хаосе. Уцякаючы разам з імі з Мінска ляснымі сцежкамі, хаваючыся ад варожай авіяцыі, бачыў слупы чорнага дыму, што ўздымаліся над горадам, і цягам некалькіх начэй назіраў барвовае зарава, раскінутае на палову неба над палаючым горадам. Жахлівыя ўспаміны пра гэта пераўтвараліся ў смутак па незваротна знішчаным і ў боль за Радзіму. Быццам ахапак сухіх дроў, падкінуты ў касцёр балючай памяці, што апякала сэрца,

смутак распальваў пачуццё нянавісці да варвараў, якія знішчалі яго Бацькаўшчыну, дарагіх яму людзей. Гэта прымушала яго пераводзіць свае перажыванні на старонкі рамана «Скіп’ёўскі лес», напаўняючы іх ўласным душэўным болем і нянавісцю да ворага. Пераадольваючы хваробу, браўся за пяро і працягваў працу над раманам, пакідаючы запавет сваім нашчадкам.

«Ужо дакладна набліжаецца да заканчэння гэтая вайна і ўжо незваротным здаецца канчатковае знішчэнне берлінскага гадаўя ў яго ўласным логаве, — падумаў пісьменнік. — Вайна прынесла нашым людзям незлічоныя страты і цяжкія пакуты, але падчас барацьбы з фашысцкімі захопнікамі беларускі народ гістарычна ўзняўся як нацыя, узмацнілася яго нацыянальная самасвядомасць. Народ пакінуў быць пастухом і стаў генералам. Як скончу «Скіп’ёўскі лес», трэба будзе напісаць яшчэ шэраг раманаў і аповесцей. Трэба расказаць пра пакутлівы гістарычны шлях беларускага народа, пра яго змаганне з нямецкімі акупантамі і барацьбу з польскімі захопнікамі. Колькі яшчэ трэба зрабіць — хапіла б толькі здароўя!»

Кузьма Чорны ўзгадаў, як калісьці паставіў мэту адлюстраваць у мастацкіх вобразах гісторыю беларускага народа за час ад адмены паншчыны да новай эпохі, што наступіла пасля рэвалюцыі. На працягу некалькіх гадоў упарта рухаўся да мэты, амаль штогод выпускаючы ў друк чарговы раман ці аповесць, якія трывалымі цаглінамі клаліся ў падмурак гэтай грунтоўнай задумы. Апісваючы жыццё і побыт простага вясковага чалавека ў часы першай імперыялістычнай і савецка-польскай войнаў, паказваючы жыццё народа ў Заходняй Беларусі, ён расказваў пра ўсё тое, што адбывалася на роднай яму Случчыне, якую за апошнія дзесяцігоддзі па-жывому рассякала лінія фронту і мяжа з Польшчай і якую неаднойчы тапталі польскія войскі і нямецкія акупанты. У гэтых творах імкнуўся адлюстраваць уласны лёс і лёс сваіх аднавяскоўцаў, іх пакутлівы шлях з беднасці да лепшай долі. Не заўсёды быў задаволены вынікам, асабліва калі цэнзары калечылі мову ці сюжэт твораў, але, нягледзячы на вымушаныя праўкі, удавалася адлюстроўваць галоўную думку гэтага цыкла раманаў — няспынныя пошукі простым беларускім чалавекам будучыні, калі той стане гаспадаром уласнай зямлі.

Акінуўшы позіркам стол, на якім ляжалі сшыткі і стос спісаных аркушаў, Чорны прыпыніўся: а што ён паспеў здзейсніць за апошнія месяцы? Мала што з задуманага. «З часу вызвалення Беларусі прайшло ўжо бадай чатыры месяцы, а я ніяк не магу падступіцца да сваіх самых галоўных твораў. Усё мару ачуняць, а здароўе, наадварот, пагоршылася». Раманы, якія пачаў ствараць у час вайны, яшчэ здаваліся недасканалымі, і не пакідала жаданне іх перапісаць. Час ад часу працягвалася пакутлівая праца над «Скіп’ёўскім лесам», але да завяршэння твора было яшчэ далёка. Вайна і слабое здароўе, падарванае спачатку ў турме, а пасля і інсультам, не дазвалялі магчымасці давесці пачатую справу да завяршэння. Апошнія сілы забіралі розныя артыкулы, пераклады і публіцыстычныя матэрыялы, якія часам друкаваліся нават без подпісу. Узгадалася, як праводзіў бяссонныя ночы, як познімі вечарамі з рэдакцыі вяртаўся дадому, цяжка стомлены.

Кузьма Чорны зноў сеў за стол і пачаў далей праглядаць свае запісы. Перагарнуўшы некалькі старонак, патрапіў на першыя радкі свайго дзённіка, які вёў, але да якога не звяртаўся апошнія месяца паўтара. Гэты дзённік ён пачаў весці яшчэ ў Маскве, на пачатку ліпеня, на хвалі душэўнага парыву, што ўзнік падчас імклівага вызвалення Беларусі ад фашысцкага ярма. З таго часу пакідаў запісы пастаянна, але нерэгулярна — бывала, праз дзень, часам праз тыдзень, а то і праз месяц. У гэтых радках жылі самыя патаемныя і запаветныя думкі, прасякнутыя ці то радасцю, ці то смуткам, ці то невыносным болем. Звычайна звяртаўся да дзённіка, як да самага вернага таварыша-суразмоўцы, калі пісалася мала ці пісалася цяжка, калі сэрца сціскала невыноснае жаданне выгаварыцца, аднак не было каму, бо горкі жыццёвы вопыт навучыў хаваць свае думкі і пачуцці. І ў такія хвіліны Мікалай Карлавіч выплёскваў мінорную мелодыю сваёй душы на паперу, каб адчуць хаця б хвіліннае супакаенне і душэўную палёгку.

«*9 ліпеня. ...Думаю аб той горкай праўдзе, што ніколі не меў магчымасці пісаць тое, што самае важнае для беларускай літаратуры і дзе б я сапраўды павярнуў бы горы,* — прачытаў ён зараз тыя радкі, якія напісаў яшчэ чатыры месяцы таму ў Маскве. — *А то ўсё пішу на ўсялякія прамежныя тэмкі, пасля якіх думаў, што пазатыкаю горлы дурням і брахунам і тады ўжо вазьмуся за тое вялікае, што хачу і магу напісаць. Дай божа па-сапраўднаму ачуняць. Пасля вайны буду пісаць як хачу і магу*».

Гэтыя словы абудзілі ўспамін пра тое, як на працягу вайны, не шкадуючы сябе, апантана працаваў над артыкуламі для газет і часопісаў, над перакладамі і нават невялікімі гумарэскамі. Але цяпер перад тварам магчымай смерці гэта ўсё здавалася мінулым, і не хацелася марнаваць на гэта сваё падарванае здароўе, губляць каштоўныя хвіліны свайго хуткаплыннага жыцця, якія незваротна сыходзілі кропля за кропляй. «Пра вызваленне Мінска, Баранавіч ці Брэста можа напісаць кожны журналіст, — думаў Чорны, адчуваючы, як з кожным днём губляюцца апошнія сілы. — Навіны патрэбныя людзям сёння, а назаўтра гэта забудзецца. А я марную час на розныя дробязі замест таго, каб напісаць тое важнае, што застанецца надоўга ў памяці народнай».

«*За шэсць дзён пераклаў «Позняе каханне» Астроўскага — так гнаў мяне ў карак тэатр*, — прачытаў запіс, пакінуты ў дзённіку два месяцы таму, 8 верасня. — *І ўжо месяц ляжыць гатовы тэкст і не забіраюць. Гэта ўсё азіятчына ў еўрапейскай краіне Беларусі. Я мог бы звацца не Чорны Кузьма, а чорнарабочы. Колькі за свой век я зрабіў гэтых перакладаў і напісаў усяго, што без майго подпісу запоўнівае старонкі ўсёй нашай прэсы і ўсё на кавалак хлеба!*»

Згадалася, як яму назалялі цэнзары з Галоўліта БССР. Асабліва ў памяць урэзалася адна з сустрэч з Феняй Ісакаўнай Дадзёмавай, начальнікам гэтай установы, калі прыйшоў да яе на прыём, незадаволены прэтэнзіямі да яго перадавога артыкула ў часопісе «Беларусь». Гэтая строгая жанчына, пазіраючы на яго халоднымі вачыма, падчас размовы настойліва параіла прыслухацца да меркавання рэдактараў, спасылаючыся на ваенныя абставіны і на тое, што некаторыя думкі не варта даносіць у такі цяжкі час. Абураны Мікалай Карлавіч горача пачаў адстойваць сваю пазіцыю, адважыўшыся папракнуць цэнзараў у недасведчанасці. Дадзёмава збянтэжылася і спачатку ледзь прыкметна пачырванела, але пасля, раззлаваўшыся, перайшла ў наступленне. «Таварыш Раманоўскі! — адгукнуўся ў памяці грозны голас, у якім адчувалася ўлада яе, чыноўніцы, над ім, пісьменнікам. — Ідзе вайна. Зараз не той час, калі трэба пісаць пра фарміраванне беларускай самасвядомасці і падкрэсліваць сваю беларускасць. Пaглядзіце, якія думкі вы даводзіце ў перадавым артыкуле! Вы напісалі, што самасвядомасць беларускага народа ўзвысілася менавіта падчас вайны. А што, па-вашаму, да гэтага савецкая ўлада нічога не рабіла? Вы забылі, якое шкодніцтва нам нанеслі нацыянал-дэмакраты, так званыя нацдэмы? Вы ідзяце тым жа самым шляхам!»

Тая размова скончылася на нямой ноце. Пачуўшы даўно знаёмыя абвінавачванні ў «нацдэмаўшчыне», устаў і моўчкі пайшоў, ахоплены крыўдай і злосцю ад уласнай бездапаможнасці. Дадзёмава праводзіла яго поглядам, у якім спалучыліся не толькі суровасць і злосць за яго ўпартасць, але і страх. «Яна баіцца і пячэцца найперш пра сябе, — думаў тады, абураны абыякавасцю і чэрствасцю чыноўніцы. — Яе найбольш непакоіць, каб з-за напісанага мною і прапушчанага ёю ў друк да самой не ўзніклі прэтэнзіі. У сённяшняй атмасферы страху чыноўнік не можа думаць па-іншаму. А да беларускай культуры ёй справы няма».

«Калі чалавек ва ўладзе ці пры ўладзе, то ён мае ўсё, — падумаў зараз Чорны, узгадваючы той выпадак. — Ён можа вырашыць любыя пытанні на сваю карысць. Шмат хто толькі і імкнецца ўступіць у партыю, каб прыхапіць сабе нешта і заняць добрае месца. Паўсюль пануюць ліслівасць, хцівасць, зайздрасць, прыслужніцтва, а таксама страх перад вышэйшым начальствам».

Тады, не вытрымаўшы ціску з боку цэнзараў, запісаўся на прыём да Панцеляймона Панамарэнкі, старшыні Саўнаркама і першага сакратара ЦК КПБ, і патрапіўшы да яго ў кабінет, пачаў расказваць пра апошнюю спрэчку з Дадзіёмавай. Пасля доўга распавядаў пра штодзённую знясільваючую працу ў рэдакцыі, якая перашкаджае працаваць над раманамі, Панамарэнка ўважліва слухаў і быццам бы спачуваў. Здавалася, што гэты чыноўнік, які ўжо шэсць з лішкам год адпрацаваў на галоўнай партыйнай пасадзе ў БССР, больш за іншых ведае патрэбы беларускага народа і беларускую рэчаіснасць. У свой час менавіта Панамарэнка, як расказвалі, адыграў галоўную ролю ў яго вызваленні з мінскай турмы. Расчулены і абураны апошняй размовай з Дадзіёмавай, яе абвінавачваннямі ў нацдэмаўшчыне, Чорны нават разгаварыўся пра свае пакуты ў 1938—1939 гадах. Панамарэнка спачувальна слухаў, ківаў у адказ, а потым адзначыў, што ён ухваляе артыкул і паабяцаў зняць Дадзіёмаву з пасады начальніка Галоўліта.

Пасля гэтай размовы адчуў сябе спакайней. У яго зноў з'явілася ўпэўненасць у заўтрашнім дні і стала адольваць прага да творчасці. Нават накідаў план новага рамана, які меркаваў прысвяціць падзеям у Заходняй Беларусі. Але за наступныя тры месяцы шмат чаго перамянілася: ён вярнуўся ў Мінск, пасля розных нягод апынуўся ў неўладкаванай кватэры, і па-ранейшаму стала адольваць хвароба. Дадзіёмава заставалася на сваёй пасадзе, а цэнзары менш дапякаць не сталі. Як і раней Мікалая Карлавіча пачало ахопліваць пачуццё роспачы.

«Забыў? Ці падмануў? — мучыўся зараз у здагадках. — А да каго яшчэ пойдзеш, як не да Панамарэнкі? Каму яшчэ пажаліцца, паскардзіцца? Іншыя і слухаць не хочуць, дый у іх і ўлады нашмат меней. Напэўна, хутка зноў прыйдзецца да яго запісацца. Цяжка, калі не аўтар, а чыноўнік і цэнзар вырашаюць, што пісаць і як пісаць. Пасля таго, як у 30-я гады напалову вынішчылі нашую інтэлігенцыю, на адказныя пасады трапляюць не з прычыны высокай адукаванасці і прафесіяналізму, а абіраюцца па прынцыпе палітычнай надзейнасці. Няўжо ў краіне не знойдзецца хаця б некалькі граматных людзей, каб ім даручыць выпрацоўку культурнай палітыкі? Многія чыноўнікі нічога не цямяць у літаратуры, але любяць даваць усялякія патрэбныя і непатрэбныя ўказанні. Для іх беларуская культура — чужая. Яны не толькі не ведаюць нашай мовы, але і калечаць яе, паказваючы, быццам бы валодаюць ёю лепш за іншых. Навокал беларускага мастацтва збіраюцца сотні прайдзісветаў ваяваць за медалі і ордэны. Такім парадкам ідзе яго спустошанне і з яго выветрываецца душа народа.

Я даўно ўжо не адчуваю сябе ў спакоі і раўнавазе. Я цяжкахворы, а мяне амаль кожны дзень турбуюць, звяртаюцца з розных упраўленняў, пастаянна патрабуюць новыя артыкулы. Але розным кар'ерыстам патрэбен не я, не мае сапраўдныя думкі і сапраўдныя пачуцці. Ім патрэбнае маё імя. Яны хочуць выкарыстаць мой аўтарытэт для ўласных мэт, каб атрымаць чарговы ордэн ці медаль, каб узняцца вышэй, на новую пасаду».

Парывістая плынь усхваляванага роздуму Чорнага ў ранішняй цішыні раптоўна была парушана гучнымі ўдарамі малатка з-за сцяны, што прымусілі міжволі здрыганупца. Але стук, які амаль штодзённа перашкаджаў засяродзіцца, быў добра знаёмы. Гэта рабочыя ў суседняй кватэры распачалі свой працоўны дзень: яны рамантавалі пакой сакратару партыі Рыжыкаву, нядаўна прызначанаму на пасаду народнага камісара. Звычайна пачыналі працаваць з самай раніцы і працягвалі да вечара, калі гаспадар вяртаўся дадому. «Ледзьве разабраўся з хатнімі клопатамі, толькі сеў за стол, як ужо шумяць за сцяной! Усё, ціхі час сёння скончыўся», — падумаў раздражнёна.

Апошнімі днямі, чуючы гэты стук ці ўрыўкі размоў гаспадара кватэры са сваімі гасцямі па вечарах, Мікалай Карлавіч уяўляў, быццам сцяна, якая падзяляла кватэры пісьменніка і высокага начальніка, размяжоўвала два розныя светы. Гукі малатка ці гутарак амаль кожны дзень нагадвалі яму, што існуюць няроўнасць і несправядлівасць. Адны займаюць высокія пасады і карыстаюцца прывілеямі, а іншыя вымушаныя туліцца ў куце, зарабляючы знясільваючай працай сабе на хлеб надзённы. «А Рыжыкаў добра ўладкаваўся, — абурана падумаў Чорны. —

У маёй цямніцы ніколі не ўбачыш праменьчыка сонца, а ў яго прасторны, светлы пакой. А ці атрымаў бы сакратар партыі нешта горшае? А колькі мне давялося хадзіць, каб патрапіць хаця б у гэты цёмны кут!»

Узгадалася, як месяц таму некалькі разоў наведваўся да чыноўнікаў, каб яго сям'і выдзелілі асобную кватэру, скардзіўся на сваё дрэннае здароўе, на немагчымасць займацца творчай працай. Неаднойчы выседжваў некалькі гадзін у чарзе на калідоры, каб атрымаць адказ, што ў пасляваенны час шмат каму патрэбна жыллё, што грамадзянін Раманоўскі запісаны ў чарзе, а кватэра будзе праз два-тры тыдні. Але падчас візітаў у кабінеты чыноўнікаў найбольш абурала адчужанасць і абыякавасць да сябе, якія з кожным новым візітам пачалі перарастаць у раздражнёнасць і нават варожасць. Заходзячы ў чарговы кабінет і прадстаўляючыся, імкнуўся назваць не толькі сваё імя па пашпарце, але і ўдакладніць, што больш вядомы як пісьменнік пад псеўданімам Кузьма Чорны. Аднак насуперак чаканням, гэта не выклікала ніякай дадатковай увагі. Да яго адносіліся такім жа чынам, як і да ўсіх: холадна, строга, з імкненнем хутчэй даць адказ і развітацца. Расчараваны вяртаючыся ў часовы прытулак у Доме Саюза пісьменнікаў пасля чарговага візіту, супакойваў сябе тым, што ў ваенны час да ўсіх адносяцца аднолькава, але ў сэрцы ўсё роўна вырастала пачуццё ўласнай недаацэненасці і непатрэбнасці.

Перагарнуў яшчэ некалькі старонак дзённіка. На вочы патрапіўся запіс пра адну даму, побач з якой давялося пражыць у часовым прытулку ў Доме Саюза пісьменнікаў. Яе мінулае было цьмяным: расказвала пра свой удзел у падпольнай барацьбе ў Заходняй Беларусі, а лёгкі польскі акцэнт выдаваў магчымае паходжанне з Беласточчыны. Высокая, у строгіх акулярах і кароткай спадніцы, выстаўляць імкнулася сябе сапраўднай інтэлігенткай, каб выглядаць нароўні з пісьменнікамі, побач з якімі ёй давялося жыць, аднак атрымоўвалася гэта не вельмі натуральна. Ліслівa ўваходзіла ў размову, і заўсёды імкнулася ўставіць свой каментарый, суправаджаючы вострымі жартачкамі. «*Яна ж не хоча быць на сваім месцы*, — прачытаў творца свой запіс у дзённіку, — *прадаваць у кааперацыі або — чорт яе ведае, якую ёй даць льга было б работу, чыстую работу яна загадзіць і на горшую лянуецца. Гэтая плойма аціраецца каля інтэлігенцыі і ўсё з прэтэнзіямі*». Даведаўшыся пра тое, што знаходзіцца побач з вядомым пісьменнікам, дама паспрабавала паказаць сваю дасведчанасць у літаратуры, потым стала цікавіцца яго меркаваннем наконт будучай перамогі ў вайне, дапамогі з боку амерыканцаў, кастрычніцкага нядзельніка па аднаўленні сталіцы. Яе празмерная навязлівасць і фальш асабліва раздражнялі хворага Мікалая Карлавіча, які ведаў цану кожнаму сказанаму слову, і ён часам ледзь стрымліваўся, каб не нагрубіць у адказ. *«Вось гэтая ніколі не ўпусціць магчымасць,* — паморшчыўся Чорны, узгадаўшы сваю былую суседку. — *Заўсёды выслужыцца, заўсёды атрымае сваю долю. Я адчуваю, што яна таксама ўжо атрымала сваё жыллё, ды не горшае за маё, а пэўна яшчэ лепшае!»*

Прачытаўшы гэты запіс і перагарнуўшы апошнюю старонку дзённіка, успомніў пакуты і беднасць свайго ранняга дзяцінства, калі сям'я жыла ў такой нястачы, што нават палатняная кашуля на год здавалася шчасцем. Узгадаліся расказы свайго дзеда пра галодныя гады, калі сухі акраец хлеба быў найвялікшым скарбам. Успомніў цёплыя намазоленыя рукі маці, якімі яна штодзень гатавала ежу, а пасля знаходзіла сілы прытуліць і палашчыць іх, сваіх дзяцей. Бацька, каб пракарміць сям'ю, стаў парабкам і штодзень вяртаўся дадому цяжка змораны. Здавалася, што маленькаму Колі быў наканаваны такі ж лёс. Але з таго часу, калі спазнаў несправядлівасць гэтага свету, яго па жыцці заўсёды суправаджала моцнае жаданне выйсці ў людзі. І ўсё далейшае жыццё — вучоба ў семінарыі, паступленне ва ўніверсітэт, праца ў рэдакцыі — было рухам з глухой беднасці да лепшай долі. Верыў, што пасля рэвалюцыі і ўсталявання савецкай улады будзе пабудавана сапраўды справядлівае грамадства, дзе найбольш стане цаніцца чалавечая годнасць. Але цяпер, успамінаючы свой пакутлівы жыццёвы шлях, горкі, быццам соль, усё больш упэўніваўся ў марнасці некаторых сваіх надзей.

«Як жа цяжка жыць, калі бачыш навокал столькі несправядлівасці, нахабства, хапавітасці, калі бачыш прыжывальшчыкаў і хлебаедаў, што аціраюцца побач! Я паклаў здароўе і цэлае жыццё на служэнне народу, але мае заслугі зараз аплачваюцца толькі кавалкам хлеба. А галоўную выгаду мае той, хто найбольш хамавіты і займае больш высокую пасаду. Як быццам бы нічога не змянілася з тых часоў, калі бацька парабаваў! Бадай, колькасць прыстасаванцаў і хамаў не зменшылася, а нават вырасла!

Навошта такім спальваць сваё ўласнае сэрца, спачуваючы іншым людзям? Усё атрымоўваюць тыя, хто клапоціцца ў першую чаргу пра сябе. А хто аддае сваё жыццё і здароўе за дабрабыт іншых, той і памірае раней. Колькі хлопцаў і дзяўчат зараз гіне на фронце, а розныя хлебаеды дбаюць толькі пра тое, як лепш уладкавацца ў жыцці! У газетах пішуць, як хутка аднаўляецца краіна. А як прыглядзішся — колькі насамрэч навокал хлусні і падману! Ці гэта і ёсць той сацыялізм, да якога мы рухаемся?! Божа мой, божа, ці наступіць калі-небудзь такі час, калі ў нашым грамадстве найвялікшую каштоўнасць будзе мець сумленная праца, а не падхалімства, нахабнасць, уменне дагадзіць начальству? Ці гэта толькі дарэмныя спадзяванні?»

Акінуў позіркам свой пакой. Пробліскі святла надыходзячага дня, якія прабіваліся з-за суседніх дамоў і павольна пранікалі сюды, сталі ясней вылучаць беднае ўбранства. Сцены, запэцканыя брудам пасля нядаўняга рамонту, у паўзмроку прыўносілі яшчэ больш шэрасці, нагадалі Мікалаю Карлавічу цесную камеру-адзіночку ў мінскай турме, дзе ён адпакутаваў некалькі месяцаў. Успомніў, як шэсць гадоў таму стаяла такое ж самае пахмурнае восеньскае надвор’е, а ў вочы кідалася адчужанасць людзей і ўсяго наваколля. І вострае пачуццё несправядлівасці, якое тады няспынна пякло пытаннем «За што арыштавалі? За што пакаралі?», цяпер, у першую пасляваенную мінскую восень, змянілася іншым воклічам: «За што забылі? За што пакінулі?» Сённяшняя барацьба надзеі і адчаю перад тварам смерці нагадвала тую невядомасць, у якой ён дзень за днём, тыдзень за тыднем праводзіў час у мінскай вязніцы, калі кволыя сполахі надзеі на вызваленне змяняліся хвілінамі глыбокага расчаравання, што не выйдзе адсюль жывым.

З кватэры Рыжыкава працягвалі даносіцца ўдары малатка разам з воклічамі рабочых. І па меры таго, як гэты стук станавіўся ўсё мацней і мацней, думкі станавіліся ўсё горачней. Не маючы сіл больш стрымліваць сябе, каб палегчыць душэўны стан, Чорны ўзяў аловак, паставіў у дзённіку дату «22 лістапада». Думкі, якія непакоілі ўсю раніцу, пацяклі сваёй чаргой, выплёскваючы набалелае з параненай душы.

«*Бадай што ўжо месяц, як у «кватэры», дадзенай мне Саўнаркомам. Але ж якраз як тая камера ў турме, дзе я сядзеў у 1938 годзе. Можна сказаць, што я ўжо дайшоў да апошняй мяжы. Бруд, цемень — вокны глядзяць у чорны трохкутнік з высозных муроў. Пісаць няма як і жыць няма як. А тут жа, па адным калідоры, рамантуюць кватэру Рыжыкаву. Там светла і добра. Там Рыжыкаву можна будзе круціць патэфон і гуляць у «пульку». У нас няма ўласнага жыцця, мы ўсё аддаём дзяржаве. Мы аддалі дзяржаве свае душы і таленты, але мы не Рыжыкавы. Я жыву як апошняе пакідзішча. І не таму, што мне хто зла хоча, а таму, што ў нас не еўрапейская дзяржава, дзе інтэлектуальныя асаблівасці чалавека робяць яго жыццё арганізаваным. А ў нас азіятчына. Падхалімства, хабарніцтва, чыноўніцтва, паклёпніцтва — за апошнія годы паднялося на вялікую вышыню*».

Ад хвалявання адклаў пяро і пачаў задумліва перабіраць рэчы на стале. Пераклаўшы некалькі фотаздымкаў, якія цудам перажылі апошняе дзесяцігоддзе ліхалецця ў ягоным лёсе, спыніў увагу на тым, на якім пяць маладых людзей. Каб лепш разгледзець іх, устаў і падышоў да самага акна. У кучаравым хлопцы, які сядзеў у першым радзе злева, пазнаў самога сябе. Гэта здымак 1927 года, на якім быў са сваімі сябрамі і таварышамі па пяры — Уладзімірам Дубоўкам, Адамам Бабарэкам, Язэпам Пушчам і Кандратам Крапівой.

Фотаздымак нагадаў Чорнаму гады яго маладосці. Гэта быў час, калі пасля некалькіх год ваенных ліхалеццяў і прыходу савецкай улады, пачынаў будавацца

новы свет, і ён, дваццацігадовы юнак, імкнуўся аддаць сілы на тое, каб дапамагчы гэтаму свету нарадзіцца. І хоць пісаў прыхваткамі, у час, вольны ад працы, познімі вечарамі пры такім жа агеньчыку запаленай свечкі, на які ён глядзеў зараз, але вера ў тое, што ён таксама ўносіць свой пачэсны ўклад у гэта, рухала яго наперад і надавала сіл. Тады некалькі сяброў — маладыя пісьменнікі — заснавалі літаратурнае аб'яднанне «Узвышша».

«Мы паставілі мэту ўзняць беларускую літаратуру на ўзровень лепшых твораў сусветнай літаратуры, — падумаў Мікалай Карлавіч. — Імкнуліся стварыць такія мастацкія і культурныя каштоўнасці, каб увесь свет пачуў пра Беларусь. Хацелі заявіць на ўвесь свет пра беларускі народ яго ўласнай мовай і даказаць, што ён займае годнае месца сярод іншых народаў Еўропы. Мы хацелі паказаць, што па-беларуску льга пісаць творы, не горшыя за лепшыя ўзоры сусветнай літаратуры, і што кожны беларус можа ганарыцца сваёй культурай».

Успомніліся пасяджэнні маладых пісьменнікаў, што часцяком праходзілі вечарамі ў цесным паўцёмным пакоі, дзе святло адзінай лямпачкі прыглушалі шызыя клубы цыгарэтнага дыму. Задзёрыста абмяркоўвалі свае апавяданні і вершы, урыўкі з паэм і аповесцей, суправаджаючы гэтыя спрэчкі жартамі, дробнымі нязлымі кпінамі і гучным рогатам. Ды і сам ён, вялікі ахвотнік да гумару, рэдка ўпускаў магчымасць пажартаваць з каго-небудзь: асабліва любіў дражніць сваіх прыяцеляў, звяртаючыся да іх быццам бы да паноў і просячы ласкі прачытаць чарговы твор. Гэтыя сустрэчы, якія нярэдка зацягваліся да позняй ночы, напаўнялі яго душу радасцю і адчуваннем руху да новага і светлага. У памяці ўсплыло і першае ў яго жыцці падарожжа ў Маскву ў госці да Уладзіміра Дубоўкі, якое прынесла новыя ўражанні і творчыя сілы. Захапляючыся на працягу некалькіх тыдняў шэдэўрамі Траццякоўскай галерэі, пастаноўкамі на сцэне Вялікага тэатра, высокімі зубчастымі мурамі Крамля, адчуваў, як яго душа напаўнялася нечым новым і дагэтуль невядомым, як яго светапогляд, гарызонты пашыраліся. «*...Усё роўна, як гэта хто палажыў на тачыла маю душу ды вытачыў яе — так нейк усё востра пачало адчувацца...*» — пазней пісаў у адным з лістоў.

Мінула ўжо паўтара дзясятка год, і многіх з тых, каго давялося ўзгадаць, ён ужо даўно не бачыў. Яму ўзгадалася, як здрыганулася сэрца, калі на адным з пасяджэнняў «Узвышша» раптоўна даведаўся пра тое, што яго лепшыя сябры Дубоўка, Бабарэка і Пушча арыштаваны і ім вынесенае абвінавачанне ў тым, што ўдзельнічалі ў таемнай нацдэмаўскай арганізацыі, якая быццам бы мела на мэце звяржэнне савецкай улады. Успомнілася цяжкае і нядобрае маўчанне, калі прыйшлося прыняць рашэнне аб іх выключэнні з ліку членаў арганізацыі, а потым адкрыта асудзіць за тое, што быццам імкнуліся «*аднавіць капіталістычны лад і крывёю рабочых і сялян заліць агонь Вялікага Кастрычніка, зруйнаваць вынікі сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі*». Тады ў яго душы змяшаліся збянтэжанасць, здзіўленне і сумненне. Ён не верыў гэтым абвінавачанням, адчуваючы, што гэта памылка ці нават паклёп, але выбару не было: адмовіцца ад асуджэння азначала самому патрапіць пад падазрэнне. З таго моманту пра лёс таварышаў па пяры яму нічога не было вядома. Стасункі з імі разарваліся, перапіска прыпынілася. Яму самому, арыштаванаму пазней, у 1938 годзе, пашанцавала выйсці на волю.

«Дзе зараз яны? —думаў пісьменнік. — Як склаўся іх лёс? Ці жывыя? Напэўна, знаходзяцца ў турмах ці на высылцы ў Сібіры. Беларуская інтэлігенцыя больш чым напалову знішчана.

Апошнім часам найбольш вітаюцца творы, дзе любыя чалавечыя ўзаемаадносіны тлумачацца класавай барацьбой. А калі спрабуеш адарвацца ад гэтых шаблонаў і апісаць жывую душу чалавека сапраўднага, а не выдуманага, то розныя літаратурныя прайдзісветы адразу накідваюцца, як каршуны. Крытыкаваць лягчэй за ўсё, а вось каб самім напісаць што-небудзь годнае, дык на гэта ім таленту не хапае. Таму і накідваюцца — з-за зайздрасці, што самі нічога не могуць. З якой подласцю і паклёпніцтвам мне самому давялося сутыкнуцца! Колькі здароўя мне гэта каштавала!»

Прыгадаўся артыкул «Пра адну рэакцыйную аповесць», у якім быў раскрытыкаваны яго твор «Лявон Бушмар», а сам ён абвінавачаны ва ўсіх смяротных грахах свайго часу. На памяць прыйшлі словы: «*...Аповесць «Лявон Бушмар» не толькі не з'яўляецца пралетарскім творам, а выражае проста процілеглыя пралетарскаму разуменню той рэчаіснасці, якую яна падае, погляды і аб'ектыўна служыць на руку класаваму ворагу*». Крытык абвінавачваў яго ў тым, што ў чытача не ўзнікае адчування нянавісці да галоўнага героя — кулака. І нарэшце, уразіла выснова, якой завяршаўся ўвесь артыкул: «*Чорнаўскі «фізіялагічны жывізм» не толькі нічога агульнага не мае са змаганнем пралетарскай літаратуры за жывога, класавага чалавека, а наадварот, пралетарская літаратура павінна ўзброіцца на змаганне супраць творчых асноў К. Чорнага*».

«Прыніжаць пісьменніка толькі за тое, што ён захацеў паказаць жывога чалавека і даследаваць яго душу — ці ж гэта па-людску? — з прыкрасцю падумаў Мікалай Карлавіч. — Мяне ганьбяць толькі за тое, што я на крок адышоў ад тых шаблонаў, якія запаланілі літаратуру. Колькі разоў ад мяне патрабавалі перапісаць мае раманы і аповесці, перарабіць сюжэты! Ад мяне хацелі і хочуць, каб я апісваў не жывую душу чалавека, а бяздушных істот, напэўна, такіх, як яны самі. Які лёс тады чакае нашую літаратуру? Лёс мерцвяка, без душы і без сэрца?

Балюча назіраць, як створанае калісьці маімі сябрамі вынішчаецца з-за зайдрасці, паклёпніцтва, хамства. Пражытае жыццё цяпер здаецца марным. Сябры загінулі ці знаходзяцца ў турмах. Ведаю, што пасля майго вызвалення за мной таксама пастаянна сочаць. Наступілі і мне на горла жалезным ботам. І ўжо не магу дыхнуць свабодна. Не магу пакласці на паперу тое, што сапраўды на душы, бо пастаянна адчуваю пагрозу сабе і сваім родным. Столькі можна было б зрабіць, калі б не гэты страх! Я пастаянна вымушаны накладваць цэнзуру сам на сябе. Божа мой, ці здолею я выканаць усё задуманае?»

Тады, у 30-я гады, адчуваючы, як пагроза арышту дамоклавым мячом навісла і над ім, Чорны стаў надзвычай асцярожны, але імкненне дагадзіць цэнзарам не ўратавала. Успомнілася, як халодным восеньскім вечарам 1938 года яго самога забіралі з роднага дому. Узгадаў вочы сваёй дзесяцігадовай дачкі: яна не плакала, нічога не гаварыла, але, здавалася, усё разумела. У сэрцы зноў ажыла памяць пра катаванні ў турме, якіх, ён, здавалася, не перажыве: яго білі вялізным ключом па галаве, лілі на галаву халодную ваду, паднімалі і кідалі на рэйку, саджалі ў камеру з пацукамі. Аднойчы дзверы, якія адчыніў ахоўнік, каб адвесці да следчага на чарговы допыт, пранізліва зарыпелі, быццам плач дзіцяці. І не раз пасля таго, чуючы гэты гук, ён уяўляў плач дзяцей, бацькі якіх гэтаксама гінулі ў турмах і ў лагерах.

Падняў вочы і паглядзеў на сваё адлюстраванне ў шкле. Як жа моцна ён змяніўся з таго часу! Які ж непадобны быў зараз на сябе самога, на таго, што на фotaздымку сямнаццацігадовай даўніны! У акне адлюстраваўся твар, пакрыты тоненькімі баразёнкамі маршчын, а на абедзвюх скронях забялелі сівыя валаскі. Вочы ўжо не іскрыліся жартаўлівасцю і ігрыстым агеньчыкам маладосці, а былі напоўненыя роспаччу і адчаем.

«Знішчылі маё здароўе тады ў турме. Маё жыццё выцякае кропля за кропляй, і я ўжо не паспяваю зрабіць у літаратуры тое, што мог бы. Адчуваю, што менавіта цяпер, як скончыцца вайна, настаў час напісаць самыя галоўныя творы, пераасэнсаваць наноў многае з таго, што было сказана раней. Уголас трэба было б расказаць пра вайну, пра ўсясветнае змаганне супраць фашызму. Асобна трэба было б выкрыць тую подласць і хамства, з якім прыходзіцца пастаянна сутыкацца. Але адчуваю, што ўжо не змагу напісаць тое, на што сапраўды здольны. Пасля ўсіх выпрабаванняў апошніх год — яжоўскай турмы, эвакуацыі ў Маскву, інсульту і бадзяння ў напаўразбураным Мінску — здароўя, напэўна, засталася толькі трэць. Так заўжды бывае: лепшае нараджаецца ў пакутах і менавіта тады, калі ўжо няма ні часу, ні сіл».

Яшчэ раз акінуў вачыма свой невялікі змрочны пакой-кватэру, у якім раз-пораз чуліся ўдары малатка з-за сцяны. Потым паглядзеў на жонку Рэню, якая

прыхварэла. Яна ляжала на ложку, магчыма, спала, увасабляючы спакой і ціхае хараство ў навакольным брудзе і грукаце. Не варушылася, баючыся лішні раз патрывожыць мужа, які ў апошнія дні ніяк не знаходзіў магчымасці ўзяцца за пяро. Мікалай Карлавіч успомніў, што сёння трэба дапамагчы ёй па хатніх справах: схадзіць па ваду да калонкі на суседняй вуліцы, накалоць дроў, прыгатаваць вячэру, памыць адзежу… Ах, як жа нялёгка гэта зрабіць хвораму чалавеку, якому кожны крок даецца з цяжкасцю! У душы ўзнікла адчуванне віны перад жонкай. Разумеў, што залішне ранні прыезд у разбураны і неўладкаваны Мінск быў памылковым. У Маскве, нягледзячы на ўсе выпрабаванні і няўтульнасць, меў больш шанцаў падтрымаць сваё здароўе і здароўе сваіх родных, якія змучыліся не менш за яго. «Ах, Рэня, — падумалася. — Як жа цяжка прыходзіцца табе! Як няпроста пераносіць усе мае пакуты! Даруй маю недальнабачлівасць і паспешлівасць!..»

Асцярожна рухаючыся, каб не патрывожыць жонку, вярнуўся за стол. Зноў узяўшы ў руку пяро, працягнуў занатоўваць у дзённіку свае думкі і пачуцці, абуджаныя старым фотаздымкам, балючымі ўспамінамі пра маладосць і былыя пакуты, а таксама адчаем ад свайго сённяшняга гаротнага стану:

«*Колькі нашай інтэлігенцыі без дай прычыны гніе ў турмах і на высылцы! У мяне ўжо няма 70 % здароўя. Я гіну і не магу выкарыстаць як бы трэба было свой талент. Сілы мае трацяцца і марнуюцца без карысці. Доўгія гады мяне мучыла ГПУ-НКВД. А цяпер замест таго, каб рабіць тое, што мне трэба рабіць, я палю ў печы, цягаю ваду, змываю гаўно ў прыбіральні, краду дровы, дастаю з дошчак цвікі, мыю сваю парваную і вываленую адзежу. Тут вайна не да канца вінавата. Тут многа ад хамства. Апарат НКГБ і тысячы чыноўнікаў займаюць увесь горад — яны ўмеюць і любяць рваць адзін аднаго і ўсіх за горла, а я гэтага не ўмею рабіць, дык не магу нават дастаць хоць тоненькі праменьчык дзённага святла ў вакно і мучуся ў пограбе*».

Выпадкова кінуўшы позірк на падаконнік, заўважыў завялую ружу, якую яшчэ тыдзень таму прынесла дачка. Незвычайна і нечакана было ўбачыць такую кветку ў позневосеньскае надвор’е ў цэнтры разбуранага горада. Кузьма Чорны ўявіў, што зусім нядаўна гэтая ружа была яшчэ жывая і радавала прахожых сваімі колерамі. Але цяпер пялёсткі зморшчыліся, колеры пабляднелі, і кветка, ссохлая, безжыццёва ляжала на падаконніку. І Чорнага ахапіла вострае пачуццё немагчымасці вярнуць назад сваю ўласную маладосць і аднавіць свае ранейшыя творчыя сілы. Сэрца сціснулася ад адчування, што і ён набліжаецца да свайго фіналу. «Вось так і я, падобны да гэтай завялай ружы, — падумаў ён. — Сілы мае на зыходзе. Здань смерці мучыць мяне, і апошнім часам я бачу яе ўсё часцей і часцей…»

Адчуванне непазбежнай хуткай смерці ахапіла яго так моцна, быццам дакладна ўбачыў сваю будучыню. Ён адчуў жах, але не за сябе, а за тое, што не паспее скончыць свае творы. І ўслед за гэтым яго душу пранізала вострае пачуццё адчаю і ўласнай бездапаможнасці. Не ведаючы, што рабіць, як на гэта адказаць, адкуль чакаць паратунку, дапісаў яшчэ адну фразу: «*Божа, напішы за мяне мае раманы, хіба так маліцца, ці што?*»

Задумаўшыся, зноў падышоў да акна, падняў вочы і паглядзеў уверх, аднак убачыў не блакітнае неба над галавой, а чорны трохкутнік, утвораны суседнімі будынкамі. Ці дойдзе гэтая малітва да Бога? Не, не дойдзе… Упрэцца ў высачэзныя сцены чыноўніцкай бяздушнасці і людской абыякавасці…

«Ці не дарма я пражыў жыццё? — спытаў сам сябе, быццам падводзячы вынік свайго зямнога шляху. — Не, не дарма! Я раблю тое, у чым бачу сваё прызванне. Імкнуўся зрабіць свет трохі лепей, пісаў пра ўзаемаразуменне і чалавечую годнасць. Не ўсё ўдалося зрабіць — мне шмат перашкаджалі. Але мае раманы і аповесці перажывуць мяне і пакінуць пра мяне добрую памяць у нашчадкаў.

Што падумае той, хто калі-небудзь прачытае радкі майго дзённіка? Магчыма, азірнецца і падумае: моцна ж змяніўся свет з таго часу! А можа, нічога не зменіцца? Можа, мы так і будзем на кожным кроку сутыкацца з чэрствасцю, сквапнасцю, жорсткасцю? Гэтыя радкі — сведчанне не той гісторыі, што пішацца

на старонках афіцыйных газет, а той, непрыдуманай, у якой я жыву. Мае запісы перажывуць стагоддзі, перажывуць усіх маіх недобразычліўцаў. А зараз напісанае паказваць небяспечна. Гэта трэба схаваць кудысьці далей».

Вярнуўшыся да стала, загарнуў шэры сшытак і адчыніў прыхілены да сцяны чамадан, у якім прывёз з Масквы свае рукапісы. Паклаў сшытак на самае дно яго, а паверх — яшчэ стос папер і газет. Цяпер можна было быць спакойным: самыя цікаўныя вочы ніколі не знойдуць гэтыя запісы.

За сваімі думкамі і не заўважыў, як праляцеў час. Раптам асцярожна прыадчыніліся дзверы, і ў пакой крадком, быццам матылёк, амаль бязгучна ўпырхнула дзяўчына — яго дачка, якая вярнулася са школы. Акуратна паставіўшы сумку з кнігамі і сшыткамі, пацікавілася пра яго ўласнае здароўе і здароўе маці, а потым уладкавалася і пачала чытаць кнігу, каб не перашкаджаць бацьку працаваць. Назіраючы ўпотай за дачкой, якая сядзела побач, адчуваў, як яго настрой паступова пачынае змяняцца. Роспач і безнадзейнасць пачалі адыходзіць, і ў душы зацепліўся агеньчык надзеі, які асвятляў душу і рабіў жыццё асэнсаваным.

«Іра, Ірачка, уцеха мая, — падумаў Чорны. — Паслязаўтра ў цябе дзень нараджэння. Табе шаснаццаць год. Тваё жыццё толькі пачынаецца. І мне хочацца, каб яно было шчаслівым. Кожны раз, калі думаю пра цябе, пра твой лёс, задаю сабе пытанне: як складзецца твая будучыня? Як будзе жыць чалавецтва праз дваццаць, пра сто, праз тысячу гадоў? Ці будзе гэта лепшы свет, дзе стане свабодней дыхаць, дзе запануе ўзаемаразуменне паміж людзьмі і цэлымі народамі, а галоўнай каштоўнасцю зробіцца чалавечае жыццё і мір на нашай планеце? Ці гэта будзе свет усеагульнай падазронасці і паклёпніцтва, свет беззаконнасці і войнаў, якія ўрэшце знішчаць усё тое, што за тысячагоддзі стварыў чалавечы род?!»

Быццам жадаючы вырвацца з гэтай шэрай паўсядзённасці, са свету чэрстласці і абыякавасці, Мікалай Карлавіч захапіўся марамі пра будучае. Дзесьці знутры яго зараджалася спадзяванне, што будучае стане лепшым, чым сённяшні дзень. Бо не можа бясконца панаваць варожасць і нянавісць, не можа вечна валадарыць цемра. І ў хвіліны, калі яго азарала такая думка, яму здавалася, што скрозь халодныя цяжкія лістападаўскія аблокі выглядвае сонца.

«Я мару, каб ты, Іра, жыла ў такім грамадстве, дзе найбольшую каштоўнасць мае чалавечая асоба і чалавечая годнасць. Мару, каб там не знайшлося месца таму хамству, прыслужніцтву, хапавітасці, з якімі мне давялося сутыкнуцца. Жадаю, каб табе і тваім нашчадкам больш ніколі не давялося перажыць таго, што перажыў я і маё пакаленне. Я не хачу, каб зноў пасярод ночы раптоўна прыходзілі назаўсёды забіраць бацькоў на вачах у дзяцей, а тысячы талентаў станавіліся ахвярамі чужой зайздрасці і паклёпніцтва. Няхай злы чужынец больш ніколі не прыйдзе на нашу зямлю, і дым вайны ніколі не ўздымаецца над нашымі спаленымі гарадамі і вёскамі. Няхай жыве ўсясветная дбайнасць аб кожным чалавеку, які хоць дзе на зямлі нарадзіўся. І чорнае праклящце таму, хто паліць і разбурае!

У гады свайго юнацтва я лічыў, што перамога дабра над злом — гэта заканамернасць, што дрэннае непазбежна саступае лепшаму. Быў перакананы, што пасля рэвалюцыі хутка пабудуем па-сапраўднаму справядлівае грамадства. Але чым сталей станаўлюся, тым больш упэўніваюся, што тыя думкі былі толькі юнацкімі мроямі. Калі аглядаюся на свой пройдзены шлях, то мне здаецца, што свет не толькі не змяніўся да лепшага, але стаў яшчэ больш жорсткім і страшным. У гады майго ранняга дзяцінства жылося горка і цяжка, але ніхто не адчуваў штодзённы страх за сябе і за лёс сваіх родных. Тады не забіралі ў турму сярод ночы, не палілі дашчэнту вёскі разам з іх жыхарамі і Еўропа не захлыналася ў крыві. Сёння не ведаеш, дзе зло напаткае цябе. Я жыву ў страху, што кожны дзень можа стаць апошнім не толькі для мяне, але і для ўсяго свету. Губяць нас усіх сквапнасць, жорсткасць, прага ўлады».

Яму ўзгадалася, як аднойчы вераснёўскім вечарам, у прыцемках, выйшаў на балкон падыхаць свежым паветрам, бо мучыла бяссонніца. Стаяла ціхая ноч. На крыштальна чыстым чорным небе ён зрэдку выхопліваў асобныя кропачкі зор аслабелым пасля хваробы зрокам, але выразна бачыў яркую бялёсую паласу

Млечнага Шляху, якая пасярод гэтай адзінокай цемры ўрачыста працягнулася далёка-далёка ўглыб у неабдымны Космас, у вечнасць. І ў гэты момант як ніколі раней востра адчуў, што Сонца — гэта толькі адна з мірыядаў зор, і Зямля — усяго адна з мільярдаў планет, што мірна суіснуюць у прасторы бязмежнага Космасу. Усё ў Сусвеце прасякнута спакоем, і толькі тут, на маленькай кропачцы пад назвай Зямля, яе насельнікі, якія згубілі адчуванне касмічнага ладу, звар'яцела знішчаюць адзін аднаго. З таго моманту пытанне, чаму людзі так лёгка ідуць на забойствы і на здзекі над бліжнім, няспынна пякло сэрца пісьменніка. І падчас роздуму ва ўлонні вераснёўскай ночы ўзнікла задума яго новага рамана «Млечны Шлях», рукапіс якога зараз таксама ляжаў на стале.

«Ці не праўда, што мы, усе народы свету, знаходзімся пад адным Млечным Шляхам? — думаў Чорны цяпер. — Ці не праўда, што мы ўсе дзеці адной Зямлі? Наш свет наблізіўся да сваёй пагібелі. І менавіта цяпер, на мяжы прорвы, становіцца зразумелым, наколькі людзям і цэлым народам патрэбна спачуванне і згода, а не зайздрасць і варожасць. Галоўнае ў чалавеку — гэта яго жывая душа. У кожным жыве не менш таямніц, чым ва ўсім Сусвеце. Жыццё адведзена кожнаму чалавеку як магчымасць яго космасу раскрыцца. Жыццё — вельмі кароткая і крохкая рэч, каб марнаваць яе на нянавісць і на вайну».

Кузьма Чорны глядзеў на свечку, якая дагарала на стале перад ім, і расплаўлены воск сцякаў кропля за кропляй, быццам само яго жыццё… Успамінаў сваіх паплечнікаў, і ў душы нараджалася пякучае разуменне таго, што ён сам з'яўляецца ахвярай чужой зайздрасці і паклёпніцтва. Але ён, як паранены леў, быў гатовы да апошняй смяротнай схваткі. Быццам пакалечаная істота, што ўсімі сіламі чапляецца за жыццё, быў апантаны неспатольным жаданнем ажывіць свае мары і задумы, дарабіць незакончанае.

«Цяпер бачыцца мне, што перамога дабра зусім не відавочная. За праўду, за лепшую будучыню і за свой уласны лёс трэба змагацца. Змагацца не ўпалову сілы, а выкладвацца напоўніцу! Змагацца неабходна не толькі з фашысцкім ворагам, які прыйшоў на нашую зямлю, але таксама з чэрствасцю і адчужанасцю, ліслівасцю і падманам, што пануюць навокал. Адчуваю, што я ўжо не здольны весці гэтую барацьбу як трэба. Але я ўпэўнены, што яе працягнуць мае вучні і мае нашчадкі. Я веру, што пасля гэтай вайны ў Беларусі народзіцца новае пакаленне, якое зможа здзейсніць тое, што нам зрабіць не далі. Пасля цёмнай ночы заўжды наступае світанак. Прыйдзе час, калі імёны тых, хто паклаў сваё жыццё на алтар нашай культуры, вернуцца з небыцця і зоймуць годнае месца ў памяці грамадства. Пакуль трымаю пяро, і мне трэба пісаць. Ні дня без радка! Бо калі я не паспею, то ўсе мае думкі і ўсе мае героі пойдуць у нябыт…»

Рашуча ўзяў іншы сшытак, у якім быў напісаны працяг рамана «Скіп'ёўскі лес» і адкрыў яго на апошняй запоўненай старонцы. Пастараўся засяродзіцца на тэксце недапісанага твора. Некалькі хвілін яму не ўдавалася гэта зрабіць. Тэкст пісаўся рвана, думкі раптоўна абрываліся. Але праз некаторы час усё ж увайшоў у звыклае творчае русла. Дачка побач сядзела ціха, каб не перашкаджаць.

Прайшло з паўгадзіны спакойнай засяроджанай працы. Дапісваючы чарговы сказ, раптам адчуў, што кружыцца галава, а цела пачынае нямець. Рука спынілася на паўслове: «…Дык пасля там праходзіла другая нямецкая…» З жахам паспеў усвядоміць, што адчуў тое ж самае, што і роўна два гады таму, калі яго знясіліў інсульт. З цяжкасцю ўстаўшы, падышоў да дачкі і паспрабаваў патлумачыць, ды язык не слухаўся: «Ужо добра гаварыў, а цяпер во зноў…» Ногі пачалі падкошвацца, і ён стаў асядаць на падлогу. Перапалоханыя жонка і дачка падхапілі яго і паклалі на ложак. Чорны знакам паказаў, каб яму далі паперку і аловак. Слабеючай рукой ён напісаў: «Заві людзей». Дачка выбегла на вуліцу...

Наступныя некалькі гадзін няўмольны час, здавалася, працякаў вельмі павольна. Спецыяльна выкліканы аўтамабіль, каб хутчэй завезці родных пісьменніка па лекі, затрымліваўся. Набыўшы іх, дачка вымушана была паспешліва вяртацца пехатой па пустэльных вуліцах разбуранага горада, захлынаючыся халодным лістападаўскім паветрам. У гэты час у кватэры стары доктар завіхаўся над

Мікалаем Карлавічам, які ляжаў у непрытомнасці. Праз некалькі хвілін доктар падняўся і развёў рукамі: зрабіў усё, што толькі можна. «Будзе бачна, — сказаў ён, — але, па шчырасці, шансаў на выздараўленне вельмі мала». Дачка, жонка, сёстры Чорнага ў разгубленасці стаялі і не ведалі, што рабіць.

У гэты час з кватэры Рыжыкава час ад часу працягваў даносіцца грукат, які вымушаў прысутных здрыганууцца. Сястра Мікалая Карлавіча пайшла папрасіць, каб рабочыя прыпынілі шум.

— Нам загадалі сёння завяршыць рамонт, — адказаў майстар. — Трэба спяшацца, каб скончыць да вечара.

— Але там памірае мой брат! Яму цяжка пераносіць гэты грукат. Кожная хвіліна можа стаць для яго апошняй!

— А што скажа гаспадар, калі мы не паспеем да яго прыходу? — рэзка перапытаў майстар. — Зрыў работы, сабатаж? Вайна працягваецца. Ведаеце, што нас тады чакае? Сібір, Салаўкі!

Нічога не адказаўшы, сястра Чорнага выйшла з заплаканымі вачыма.

…Гэты дзень быў абсалютна звычайным для большасці жыхароў Мінска, які няўхільна, дзень за днём, аднаўляўся. Шэрымі акварэльнымі стужкамі цягнуліся аблокі па хмурным аблічы позневосеньскага неба. А ў гэты час на адной са сталічных вуліц, быццам свечка ля халоднага акна, затухала жыццё пісьменніка, які аддаў усяго сябе служэнню Бацькаўшчыне і свайму народу, аднак нават свой апошні дзень працягваў пакутаваць ад чэрствасці. Ён ляжаў нерухома, і было незразумела, ці чуе гэты грукат, ці бачыць прысутных, ці хвалюецца. Не здольны прамовіць ніводнага слова, ён нема паглыбляўся ў адвечны спакой.

Ягоная споведзь так і засталася няскончанай, супыніўшыся на малітве, пакінутай на апошняй старонцы дзённіка. Праз некалькі гадзін адчайнай барацьбы за жыццё сэрца яго спынілася. Пісьменніка Кузьмы Чорнага не стала. Рана агарнула Мінск халодная восеньская ноч.

Праз дзень, раніцай у пятніцу, 24 лістапада, у старшыні Галоўліта БССР Дадзіёмавай на стале ляжаў свежы нумар газеты «Звязда». Маючы вялікую колькасць планаў на дзень, яна хутка прабегла вачыма яго і ўжо збіралася адкласці ў бок, як на апошняй старонцы ўверсе справа яе ўвагу прыцягнула невялікае паведамленне. У ім афіцыйна адзначалася:

«*Беларуская савецкая літаратура і ўся савецкая грамадскасць панеслі велізарную ўтрату. Пасля цяжкай працяглай хваробы памёр адзін з буйнейшых нашых пісьменнікаў Кузьма Чорны (Мікалай Карлавіч Раманоўскі).*

*…Многа цяжкіх выпрабаванняў выпала на долю Кузьмы Чорнага за яго жыццё, але ні разу ён пад ударамі лёсу не паў духам, не пахіснуўся, не азлобіўся душой. Пераканаены аптыміст, ён ішоў намечаным шляхам з цвёрдай верай у вялікую будучыню нашай савецкай Радзімы і ўсяго чалавецтва.*

*...Вызваленне роднай Беларусі ад фашысцкай нечысці і зварот на радзіму былі для пісьменніка велізарнай радасцю.*

*У роднай краіне, сярод блізкіх людзей у яго нараджаліся новыя творчыя замыслы, якімі ён часта дзяліўся са сваімі сябрамі, але якім было не суджана поўнасцю здзейсніцца…*»



Іван САВЕРЧАНКА

# СІМЯОН ПОЛАЦКІ — ГЕНІЙ БЕЛАРУСКАЙ І ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Сімяон Полацкі (Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітняновіч) (1629—1680) — велічная постаць беларускай і ўсходнеславянскай літаратуры, філасофіі, культуры. Узгадаваны ў Полацку, ён атрымаў бліскучую пачатковую адукацыю. Каля 1650 г. юнак скончыў Кіева-Магілянскую акадэмію, пасля якой атрымаў дыплом «дыдаскала». Затым навучаўся (каля 1653 г.) у славутай Віленскай акадэміі.

У чэрвені 1656 г. С. Полацкі прыняў лёсавызначальнае для сябе рашэнне, — пастрыгся ў манахі Полацкага Богаяўленскага манастыра, дзе на працягу васьмі год выкладаў у брацкай школе. Прыкладна ў 50-я гады XVII ст. ён уступіў у Базыльянскі ордэн, утвораны беларускімі ўніятамі. На прыналежнасць С. Полацкага да Ордэна Базыльянаў яскрава паказвае яго экслібрыс: «Ex libris Simeonis Piotrowski Sitnianowicz jeromonachi Polocensis Ord. S. Basilii Magni» («З кніг Сімяона Пятроўскага-Сітняновіча, полацкага іераманаха ордэна святога Васіля Вялікага»).

Як бліскучы майстар мастацкага слова і філосаф С. Полацкі сфарміраваўся менавіта ў культурнай і інтэлектуальнай атмасферы Вялікага Княства Літоўскага. Першыя літаратурныя спробы таленавіты палачанін здзейсніў у часе навучання ў Кіеве і Вільні.

Сімяон Полацкі пачынаў тварыць на матчынай мове, пра што пазней паведамляў у прадмове да «Рыфмалагіёна»:

Писах в начале по языку тому,
Иже свойственный бе моему дому.
Таже увидев многу пользу быти
Славенску ся чистому учити.
Взях грамматику, прилежох читати,
Бог же удобно даде ю ми знати.

У архівах знойдзены раннія творы С. Полацкага, напісаныя пераважна на старабеларускай і польскай мовах, прычым ён карыстаўся як кірыліцай, гэтак і лацінкай. У беларускі перыяд творчасці стварыў цыкл вершаваных твораў дыдактычнага і панегірычнага характару, напісаў драматургічныя творы, філасофскія казанні і дэкламацыі.

Першыя значныя паэтычныя «Метры» ў гонар расійскага цара Аляксея Міхайлавіча, які ў 1656 г. праязджаў праз Полацк, з'явіліся мастацкім адказам беларускага паэта-інтэлектуала на паланізацыю Беларусі, рэзкім палітыка-ідэалагічным пратэстам супраць неапраўданага кампрамісу шляхты і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага перад польскай культурнай экспансіяй:

Ты, Цару, — ёсць наша Сонца, бо Русь асвяцілася,
Як хмары ерэтыкоў ад нас аддаліліся.
Сонца, — бо вокам сваім усіх даглядаеш,
Як сонечнае кола, усіх асвятляеш.
Сонца планетам святла пазычае,
Сонца, — бо ўсё святлом тваім ззяе!

*(Тут і далей пераклад аўтара артыкула. — І. С.)*

У рэчышчы эстэтыкі беларускага Барока напісаны цікавыя ў мастацкіх адносінах панегірычныя творы: «Вітанне епіскапа Каліста», «Вершы на Нараджэнне Хрыстова», «Вершы на Уваскрэсенне Хрыстова» і «Віншаванне новаабранаму Патрыярху».

Пад уздзеяннем паэтыкі народных галашэнняў і літаратурных лямантаў С. Полацкі напісаў «Вершы пра пакуты Пана-Бога, прамоўленыя ў царкве». Паэт заклікаў нябёсы, глебу і ваду, паветра і горы, усё жывое на зямлі жалобна плакаць, «ліць крывавыя слёзы» з нагоды невыносных пакут Ісуса Хрыста.

Беларускага асветніка натхняла дзейнасць славутай Ефрасінні Полацкай. Невыпадкова, ён напісаў у яе гонар вершаваны «Пралог да найпадобнай маці Ефрасінні». Паэт называе Ефрасінню ўпрыгожаннем Полацка, надзейнай абаронцай «зямлі беларасійскай», заклікае яе дапамагаць роднаму гораду і праваслаўным людзям.

Гістарычныя абставіны прымусілі С. Полацкага пакінуць радзіму і ў 1664 г. пераехаць у Маскву. Ён сустрэў цёплы прыём пры царскім двары, атрымаў выдатную магчымасць займацца педагагічнай і асветніцкай дзейнасцю. Сімяону даручылі адукацыю царэвіча Аляксея (1654—1670), будучага цара Фёдара (1661—1682) і царэўны Соф'і (1657—1704). Менавіта Сімяон рэкамендаваў у якасці настаўніка для царэвіча Пятра Аляксеевіча (1672—1725) адукаванага дзяка Мікіту Зотава. Пазней адукаваны беларус стварыў і ўзначаліў спецыялізаваную школу, якая была адчынена пры Прыказе Тайных спраў, дзе ён асабіста навучаў расійскіх дыпламатаў лацінскай мове, неабходнай ім для працы ў еўрапейскіх краінах.

У Крамлі Сімяон заснаваў уласную друкарню, незалежную ад кансерватыўных царкоўных улад. Ён прыцягнуў да афармлення кніг таленавітага мастака Фёдара Ушакова і гравёра Афанасія Трухменскага. Найвялікшая заслуга С. Полацкага — распрацоўка ім, паводле ўзору заходнееўрапейскіх універсітэтаў, геніяльнага праекта стварэння ў Маскве Славяна-грэка-лацінскай акадэміі, што быў бліскуча рэалізаваны ў 1681—1685 гг., яго вучнем і сябрам Сільвестрам Мядзведзевым (1641—1691).

Менавіта ў Маскве С. Полацкі апублікаваў «Буквар» (1664, 1667, 1699) і «Жэзл праўлення» (1667). Ён напісаў «Вянец веры» (1670—1671) — звод багаслоўскіх дактрын пра ўпарадкаванне свету, з якім азнаёмілася яго 13-гадовая вучаніца, будучая царэўна Соф'я.

Беларускі інтэлектуал стварыў корпус празаічных казанняў у дзвюх кнігах: «Абед душэўны» (1675) і «Вячэра душэўная» (1676), якія пасля смерці асветніка былі апублікаваны ў Верхняй друкарні, адпаведна ў 1681 і 1683 гг., пад наглядам Сільвестра Мядзведзева.

Сімяон Полацкі падрыхтаваў і выдаў два аб'ёмныя зборнікі вершаваных твораў: «Сад шматколерны» (1678) і «Рыфмалагіён» (1680). Ён выступіў у якасці заснавальніка псалмічнай паэзіі, аб чым сведчыць падрыхтаваны і надрукаваны ім «Псалтыр рыфматворны» (1680). Выдатны літаратар і асветнік напісаў і паставіў дзве п'есы: «Прыпавесць пра аблуднага сына» і «Пра Наўхаданосара-цара».

Сын Полацка прынёс у Расію заходнюю філасофію і эстэтыку, высокую кніжную паэзію і мастацтва школьнай драматургіі. Яго асветніцкая, педагагічная і літаратурная дзейнасць паслужыла грунтам глыбокіх сацыяльных пераўтварэнняў, якія пачаліся ў Расіі пры Пятры І.

Вызначальная рыса творчага почырку С. Полацкага — энцыклапедызм, гістарычная абазнанасць і інтэлектуальная вытанчанасць. Вершы яго — гэта, пераважна, яркія філасофскія сентэнцыі, мудраслоўі, дыдактычныя павучанні.

У сваёй творчасці майстар слова шырока звяртаўся да антычнай літаратуры і філасофіі. Ён шматкроць цытаваў выказванні старадаўніх філосафаў і красамоўцаў — Арыстоцеля, Платона, Фалеса Мілескага, Арысціпа, Дыягена, Дыянісія, ацэньваючы іх выключна са станоўчага боку. С. Полацкі неаднаразова падаваў

сюжэты з антычнай і сярэднявечнай гісторыі, якія ён чэрпаў з сусветных хронік, выдадзеных у XV—XVI стст. у Заходняй Еўропе.

На старонках сваіх твораў паэт апявае *кніжныя веды*, стварае культ філасофіі, мудрасці, навукі і пазнання, аб чым выразна сведчаць яго вершы з красамоўнымі назвамі: «Філасофія», «Розум», «Слова», «Маўленне», «Акадэмія», «Час».

У філасофскім вершы «Думка» С. Полацкі паказвае стваральную ролю канструктыўных ідэй, раскрывае іх асноватворную функцыю ў грамадскай практыцы:

Як корань у дрэве, думкі ў чалавеку —
Ёсць таямніцай сучаснага веку.
Корань, глыбока ў зямлі, — нельга ўбачыць,
Думкі ў цянётах сардэчных — цяжка пазначыць.
Моц дрэва заўсёды ў карэнні хаваецца,
Велічна ў голлі й пладах выяўляецца.
Хто вырашыў дрэва ўрадлівым трымаць, —
Аб каранях мусіць клопатна дбаць.
Хто прагне справы добрыя чыніць,
Штодзень павінен з добрай думкай жыць.
Ад добрых думак — веліч і збаўленне,
Ад злых — смурод, бедлам і разбурэнне.

Асновай інтэлектуальнай дзейнасці чалавека, паводле слушнага меркавання асветніка, з’яўляецца старанная праца над словам. У вершы «Слова» ён заклікае ўсіх паважліва і з выключнай пашанай ставіцца да ўласных слоў і выказванняў, зважаючы на іх духоўную моц:

Імклівa птушка з клеткі вылятае,
Нялёгка тым, хто зноў яе вяртае.
Так, вусны — проста слова нараджаюць,
Але назад ніколі не вяртаюць.
Калі надумаеш сентэнцыі казаць,
Наперад трэба добра разважаць.
Благое слова шкоду прычыняе,
Калі людскога вуха дасягае.

Паводле канцэпцыі С. Полацкага, менавіта філасофія і навукі дазваляюць дасягнуць дасканалага жыцця, робяць людзей мудрымі, разважлівымі, таленавітымі творцамі, роўнымі да анёлаў.

Філасофія і кніжныя веды маюць велізарную практычную карысць, яны дазваляюць чалавеку ўпэўнена пачувацца ў грамадстве, годна трымацца перад аблічам цароў і князёў. Філасофія і веды ўзбагачаюць духоўны свет асобы, робяць чалавека моцным, здатным пераадольваць цяжкасці, развязваць складаныя праблемы. Пазнанне спрыяе маральнаму аздараўленню грамадства, выкараняе заганы і зло. У вершы «Розум» паэт апявае інтэлектуальную працу:

Розум — ёсць здольнасць добра разважаць,
Жыццё і побыт годна ладкаваць.
Прадбачыць будучыню розум дазваляе,
Ад здрадлівых учынкаў адхіляе.

З мэтай абароны інтэлектуальнай працы як асобнага занятку, выключна неабходнай для грамадства прафесіі, С. Полацкі напісаў паэтычную прыпавесць. У аснове твора — канфлікт паміж філосафам Фалесам Мілескім і заможнымі людзьмі, якія смяяліся з яго кніжных захапленняў і інтэлектуальных практыкаванняў. Пасля спрэчкі мудрэц на справе давёў сапернікам важнасць ведаў, паказаў, што менавіта яны і з’яўляюцца сапраўдным скарбам на зямлі, крыніцай багаццяў і заможнага жыцця:

Фалес Мілескі веды шанаваў,
Філасофію і навукі шмат ухваляў.
Заможныя людзі яму дапякалі,
Прычынай збяднення — мудрасць назвалі.
Ён ім пярэчыў: «Жадаю бедна жыць,
Каб у палоне золата не быць.
Як прагай багацтяў я загаруся,
Хутчэй, чымся вы, узбагачуся».
Заможныя з яго смяяцца пачалі,
На веру слоў Фалеса не ўзялі.
Фалес прыдбаў маслінныя сады
І цераз год меў шчодрыя плады.
На кірмашы збыў масла ў пару
І золата здабыў, лічы гару.
Паклікаў да сябе сапернікаў і кажа:
«Ведайце, слова праўдзівае наша.
Вас скарбам маім пераўзыходжу,
Але асалоды ў тым не знаходжу.
Мудрасць шаную. З ёй прагну жыць,
А не маёмасці марна служыць».
Як скарб незлічоны сапернікі ўбачылі,
Ад зайздрасці ледзьве яны не заплакалі.
Мудрага Фалеса ўшанавалі,
У стан ганаровы ласкава пазвалі.

На думку С. Полацкага, менавіта адукацыя і веды робяць чалавека пасапраўднаму свабодным і незалежным. У вершы «Сем вольных навук» ён адзначыў выключныя вартасці і вялікую карысць для кожнай асобы сямі вольных навук — граматыкі, рыторыкі, дыялектыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астралогіі і музыкі.

Сімяон Полацкі падкрэсліваў неверагодную моц друкаванага слова і кнігі. Ён верыў, што славяне вершаваным словам змогуць належна ўславіць веліч сваіх краін і народаў. У вершы-запавеце «Жаданне творцы» асветнік пісаў:

Ничто бо тако славу разширяет,
яко же печать, та бо разношает
Везде и веком являет будущим
во книгах многих и за морем сущим.
Мало словенских стих доселе бяше,
поне да явит тыя время ваше
В вашу же славу. Но отчаеваю,
рачителей бо тоя мало знаю.

Пісьменнік-інтэлектуал шмат разважаў пра *чалавека і грамадства*. Яго антрапалагічная канцэпцыя найбольш поўна выкладзена ў казаннях: «Слова пры пахаванні саноўнага чалавека», «Слова пры пахаванні сумленнага чалавека», «Слова пры пахаванні ваяра», «Слова пры пахаванні дабрачыннага чалавека», «Слова пры пахаванні сумленнай жанчыны», «Слова ў дзень найпадобнага Аляксея».

У «Слове ў дзень новага лета» пісьменнік падкрэсліў асаблівую місію чалавека на зямлі, яго выключнае месца сярод іншых жывых істот: «Дзеля каго сонца дзень стварае? Дзеля чалавека! Дзеля каго існуюць усе скарбы зямныя — золата і серабро, каштоўныя камяні ў зямных нетрах і жэмчуг у марскіх глыбінях? Дзеля чалавека!» С. Полацкі таксама адзначаў натуральнае імкненне чалавека да ўзвышанага і прыгожага.

На старонках вершаваных і празаічных творах С. Полацкі сфармуляваў уласную *этычую* дактрыну, якая ўключала сістэму базавых канцэптаў, што вынесены ў загалоўкі многіх вершаў: «Годнасць», «Сяброўства», «Стрыманасць», «Праца», «Славалюбства», «Паклёп», «П’янства», «Хабарніцтва», «Згода».

Найважнейшая вартасць чалавека — самапавага і годнасць, уласныя заслугі, а не прыналежнасць да знакамітай сям’і. Паэт адзначаў:

Бацькоў заслугі — дзецям не перадаюцца,
Сын мусіць сам да дабрачыннасцяў імкнуцца.
Не славай продкаў варта аздабляцца,
Найлепш — стараннай працай узвышацца!

У сваіх творах С. Полацкі нязменна выказваў шанаванне працавітасці. Ён даводзіў, што толькі той, хто дбайна і самаааддана працуе, заслугоўвае ўшанавання і павагі сярод людзей. Верш «Праца» — сапраўдны гімн людзям працы:

Улетку пчолкі пільны клопат маюць,
Салодкі з кветак мёд для нас збіраюць.
Калі ж адна не хоча з іх рабіць, —
Ёй не дазволяць рой сарамаціць.
Пазбавяць крылаў, выкінуць за дзверы,
Каб людзям даць узор і прыклад веры.
Няма прыстанку лайдакам сярод людзей,
Павінен кожны працаваць штодзень.
Уласнай працай ежу здабываць,
А не чужы набытак спажываць.
Той, хто не хоча гаспадаркі весці,
Не зможа смачны хлеб уволю есці.
«Гультай, галодны будзь!» — апостал сцвярджае,
Ад імя Хрыста ўсіх нас навучае:
Лайдакоў адусюль заўжды выганяюць,
Прылежных — да працы і спраў далучаюць.

Выкрываў амаральныя паводзіны і ўчынкі. У вершы «Двурушнасць» паэт асудзіў крывадушнасць і няшчырасць, якія разбураюць асобу.

Асаблівую пагрозу для асобы, на думку С. Полацкага, уяўляе зайздрасць, якая дарэшты знішчае кожнага, хто трапляе пад яе ўладу. У вершы «Зайздрасць» («Зависть») ён падкрэсліў, што гэтая адмоўная рыса чалавечага характару паступова вядзе яго да згубы, «з'ядае сэрца», як іржа дэфармуе моцнае жалеза і як чарвяк саслабляе крэпкае дрэва.

У вершы «Шэсць ахоўнікаў чысціні» С. Полацкі заклікае заўжды ведаць меру ў ежы і піттве, ніколі не сядзець без справы, сціпла апранацца, быць стрыманым у пачуццях, унікаць балбатлівасці і непатрэбнага шматслоўя. Вельмі важна ў жыцці, на думку аўтара, звяртаць увагу на дробязі, бо ад малой іскры часам здараецца вялікі пажар.

Імкнучыся выкараніць зло ў грамадстве — здраду, зайздрасць, сквапнасць — майстар слова заклікаў людзей зірнуць у далёкае мінулае цывілізацыі. Паводле яго ўяўлення, выказанага ў вершы «Эпохі», грамадства ў той час перажывала залаты век, свет быў напоўнены «радасцю, мірам, згодай і добразычлівасцю».

Паэт звяртаўся да прадстаўнікоў купецкага стану не чыніць грахоў — не гандляваць кепскімі і сапсаванымі таварамі, не завышаць празмерна кошты, не ўводзіць пакупнікоў у зман пры набыцці патрэбных ім рэчаў. Верш «Гандляры» («Купецтво») — строгае папярэджанне несумленным гандлярам і пагроза жорсткімі нябеснымі карамі:

О, сынове тмы люты! Что сия творите?
лстяще ближния вашы, сами ся морите.
В тму кромешную за тму будете ввержени,
от света присносущна вечно отлучени!
Отложите дела тмы, во свете ходити,
да взидете на небо, небесно живите.

Не абмінуў С. Полацкі пытання пра волю чалавека. Уласнае разуменне гэтай фундаментальнай катэгорыі ён выклаў у вершы з аднайменнай назвай «Воля». Паводле меркавання інтэлектуала, чалавек павінен скіроўваць уласную волю на

тое, каб усімі сродкамі пазбягаць кепскіх учынкаў, не рабіць шкоды іншым, не чыніць гвалту, паўсюль выкараняць зло, як таго хочуць нябёсы і Усявышні.

Паэт шмат разважаў пра сутнасць чалавечага жыцця, галоўную місію чалавека на зямлі, яго прызначэнне. У вершы «Жыццё» («Жизнь») С. Полацкі зрабіў выснову, што чалавек абавязкова павінен імкнуцца да высокага, тварыць дабро і змагацца са злом, каб яго жыццё не прайшло марна і бессэнсоўна.

У творах: «Начальнік», «Суд», «Грамадзянства», «Справядлівасць», «Адрозненне» С. Полацкі ўздымаў вострыя *сацыяльныя і грамадска-палітычныя* праблемы, прапаноўваў іх адметнае вырашэнне.

Выхаваны на ідэях Рэнесансу, ён адстойваў ідэю пабудовы *прававой дзяржавы*. У вершы «Закон» паэт акурат указваў на пільную грамадскую неабходнасць адшліфаваных агульнадзяржаўных статутаў, падкрэсліваў велізарную карысць ад іх для кожнай асобы і ўсёй супольнасці.

Ухваляў такія краіны, у якіх усе жыхары імкнуцца выконваць законы, адчуваюць уласную грамадзянскую адказнасць за лёс дзяржавы. У вершы з красамоўнай назвай «Грамадзянства» («Гражданство») ён прыгадаў некалькі выказванняў антычных аўтараў, якія ўслаўлялі тыя гарады, дзе кіраўнікі не чынілі зла месцічам, адстойвалі сацыяльную справядлівасць, аберагалі гонар і годнасць. На заканчэнне верша С. Полацкі прапанаваў сціслую паэтычную формулу паспяховага грамадства, сутнасць якой у належным выкананні законаў і паслухмянасці грамадзян:

Еще — и в нем же граждане слушают
начальных, — сии закон почитают.
Сия суть, яже крепят государства,
чинна и славна содевают царства.

У вершы «Кіраўнік» («Начальник») С. Полацкі патрабаваў ад урадоўцаў заўжды прытрымлівацца справядлівасці, заставацца пакорлівымі, быць стрыманымі, разважлівымі, шчыра дбаць пра падначаленых і аберагаць іх ад розных напасцяў.

На старонках сваіх твораў уздымаў і адметна вырашаў праблему дасканалай *улады*. У вершы *«Адрозненне»* паэт, спасылаючыся на Арыстоцеля, піша, што сапраўдны цар той, хто дбае аб грамадзянах, думае пра іх патрэбы. Тыран — рабуе і крыўдзіць падданых:

Хто цар, хто тыран — тое добра спазнаеш,
Калі Арыстоцеля ўсцяж прачытаеш.
Цар справядлівы — грамадзянаў бароніць,
Закон і парадак паўсюдна ўводзіць.
Рабуе падданых тыран і мардуе,
Іх енкаў і стогнаў ніколі не чуе.

Адстойваючы канцэпцыю асвечанай манархіі, у вершы *«Улада»* сцвярджаў, што ўсялякая ўлада — ад Бога. Менавіта Госпад пасылае людзям добрых ці злых уладароў. Грамадзяне павінны шанаваць уладу, дапамагаць манархам рэалізоўваць іх стваральныя задумы. У п'есе «Пра Наўхаданосара-цара» праз мастацкія сродкі драматургіі сцвярджаецца неабходнасць справядлівага і мудрага манарха.

У панегірычных вершах паэт услаўляў Аляксея Міхайлавіча і Фёдара Аляксеевіча, узносіў царскую сям'ю, прыдворных арыстакратаў, выказваў гонар за Расійскую дзяржаву, адзначаў яе веліч і моц. У парадная цэрыманіяльнай паэме-кнізе «Арол Расійскі» (1667), прымеркаванай да ўрачыстасці абвяшчэння Аляксея Міхайлавіча царскім спадчыннікам, паэт уславіў веліч новага манарха і герб Расіі. Ключавыя вобразы твора — цар-сонца і цар-арол — характарызуюцца як найвышэйшая праява Божага тварэння. Майстар слова знайшоў дзясяткі паэтычных азначэнняў і яркіх сімвалаў для ўзвелічэння цара і Расійскай дзяржавы.

Для літаратурнай творчасці С. Полацкага характэрны *анталагізм* — імкненне ахапіць і растлумачыць разнастайныя з’явы жыцця, прыроды і сусвету, аб чым сведчаць шматлікія вершы: «Чарадзейства», «Старасць», «Жаніцьба», «Жонка», «Удоўства», «Манах», «Леў», «Дзень і ноч», «Пахаванне», «Віно».

Паэт гнеўна асуджае шаптуноў, бабак і розных знахароў, якія падманваюць людзей, абяцаючы ім дапамогу. У вершы «Чарадзейства» ён заклікае хворых і нямоглых звяртацца да сапраўдных лекараў, выказвае ўсім адназначную параду — «естественных врачевств не пренебрегайте».

З захапленнем піша пра пяць органаў пачуццяў, якія ўласцівы жывым істотам. Зрок, слых, нюх, смак, дотык — дазваляюць пазнаваць свет, адрозніваць якасці і ўласцівасці розных рэчаў і прадметаў. У знак іх ушанавання паэт напісаў паэтычную алегорыю пад назвай «Пяць органаў пачуццяў».

З пазнавальнымі мэтамі ў вершаванай форме выклаў звесткі пра восем цудаў свету — Егіпецкія піраміды, вежу Фарос, выяву Зеўса, медную статую Калоса, храм амазонкі Дыяны, Маўзалей, узведзены Артэмізіяй, над трунай мужа Маўзола, Вавілонскія сцены і Калізей. Кожнаму з вядомых цудаў свету паэт даў трапныя азначэнні і ацэнкі.

Паэт дэталёва распавёў пра чатыры стыхіі — глебу, ваду, паветра і агонь, якія аказваюць вызначальнае ўздзеянне на жыццё людзей і ўсё існае на зямлі. У вершы «Стыхіі і іх уласцівасці» майстар слова метафарычна і ў той жа час вельмі дакладна акрэсліў значэнне стыхій.

У вершы «Леў» паэт расказвае дзівосную гісторыю пра вельмі чулыя дачыненні, якія склаліся паміж рабом Андродам і львом.

Тонкім гумарам і жартаўлівымі разважаннямі напоўнены верш «Жаніцьба» («Женитва»). У ім гаворыцца пра побытавыя цяжкасці і складанасці сямейнага жыцця, з якімі сустракаюцца адукаваныя людзі і кніжнікі. Пэўна, кіруючыся асабістым досведам, паэт наогул раіў аматарам кніг і мудрасці пазбягаць шлюбу, не ўскладаць на свае плечы цяжару сямейных абавязкаў.

Сімяон Полацкі асэнсоўваў прыроду прыгожага, акрэсліваў розныя праявы прыгажосці. У вершы «Прыгажосць» («Красота») ён заклікаў людзей захапляцца не толькі прывабнай знешнасцю, вонкавай прыгажосцю, але найбольш імкнуцца да духоўнай дасканаласці, тварыць прыгожыя справы і рабіць годныя ўчынкі.

Як бачна, на старонках сваіх твораў С. Полацкі ўзняў шырокае кола фундаментальных філасофскіх, сацыяльных, этычных, эстэтычных і анталагічных пытанняў быцця, істотна пашырыў тэматычныя абсягі беларускай і рускай літаратур, заклаў якасна новую літаратурна-эстэтычную традыцыю.

Сімяон Полацкі — выдатны майстар мастацкага слова. Ён апрацоўваў яркія народныя прыказкі і прымаўкі, шырока выкарыстоўваў вусна-паэтычныя вобразы. У яго творах шчодра прадстаўлены яркія эпітэты, метафары, параўнанні і сімвалы, што надавала ім семантычную шматзначнасць і барокавую квяцістасць.

Такім чынам, для творчасці Сімяона Полацкага характэрны арганічны сінтэз літаратуры, філасофіі і тэалогіі, натуральнае спалучэнне заходняй і ўсходняй патрыстыкі, антычнай і хрысціянскай эстэтыкі, што робіць яе фенаменальнай і непаўторнай з’явай беларускай, усходнеславянскай і сусветнай культур.



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЗАСВЕДЧАНА «ПЯЧАТКАЙ МАЙСТРА»

«Сапраўдныя крытыкі — рэдкая з'ява» — гэтую слушную думку выказаў не хто-небудзь, а Міхась Стральцоў. Знакаміты празаік, паэт, перакладчык, ён да ўсяго выступаў і як крытык, літаратуразнаўца. Ён гэтаксама патрабавальна ставіўся да слова, як і ў тых відах літаратуры, у якіх набыў вялікую вядомасць. Праўда, пра Стральцова-крытыка, літаратуразнаўцу сказана не так і шмат. То чаму б не зрабіць гэта цяпер? Тым больш, што ёсць такая нагода: 14 лютага з дня нараджэння Міхася Лявонавіча споўнілася 80 гадоў.

Прызнаюся шчыра: спачатку назва яго апошняй кнігі літаратурна-крытычных артыкулаў і эсэ мне падалася нейкай двухсэнсоўнай і як быццам крыху нясціплай. Пагадзіцеся: «Пячатка майстра». Канешне, мелася на ўвазе адзнака, ступень таленту, значнасць здзейсненага тымі, пра каго аўтар пісаў. Аднак сэнс гэтай назвы можна было зразумець і крыху інакш: гэта — майстэрства самога крытыка, літаратуразнаўцы.

Усё паставіў на месца той трагічны — 23 жніўня 1987 года — дзень, калі Міхася Лявонавіча не стала. Некалькі тыдняў яго настойлівай барацьбы за жыццё і зыход, у які так не хацелася верыць ягоным сябрам, знаёмым, дый чытачам, якія ўжо ведалі, наколькі цяжкае становішча Стральцова. Развітальныя словы Рыгора Барадуліна «Першы друг, друг неацэнны» расставілі ўсе акцэнты: «У космасе нашай літаратуры зачарнела яшчэ адна праяміна. Не стала Міхася Стральцова. Адраджэнцкая шматграннасць і аратайская сціпласць, асветніцкая дасведчанасць і апантаная прысвечанасць сябе той культуры, што як рунь на ўсіх маразах выжывала і зелянела і кожны раз на колас бралася то ў асобе Кастуся Каліноўскага, то ў геніі Янкі Купалы, то ў шырачэзнасці і глыбіннасці Уладзіміра Караткевіча. Апостальскія фігуры двух вялікіх Максімаў — Багдановіча і Гарэцкага — асабліва шанаваліся душой і розумам роўнага ім талентам Міхася Стральцова».

Менавіта з гэтага моманту свой сапраўдны сэнс набыла і назва яго апошняй кнігі, якую Стральцоў паспеў патрымаць у руках. Адышоў майстра і майстра пакінуў пасля сябе ўласную «пячатку». «Пячатка» гэтая — той важкі набытак, ноша, што па сіле далёка не кожнаму. Мастакоўскі набытак. Не ў апошнюю чаргу і крытычны, літаратуразнаўчы.

Пасля трагічнага жнівеньскага дня, калі Міхась Лявонавіч адышоў у вечнасць, у новым святле паўстаў і творчы вечар, які незадоўга да ягонай смерці праходзіў у Мінску ў Доме літаратара.

Тады ні сам Стральцоў, ні яго сябры, ні чытачы не ведалі, што гэта апошняя такая прадстаўнічая сустрэча, бо невылечная хвароба падступіла да яго ўжо ўпрытык. Не ведалі ды зноў жа — інтуітыўна, ці што — усе, хто выступіў на вечары, быццам спяшаліся выказаць усё добрае пра яго, што ляжала на душы, у сэрцы. Прагучала нямала шчырых і заслужаных слоў, была дадзена высокая ацэнка ўсяму, што з'явілася з-пад пяра юбіляра — вечар прымеркавалі да 50-годдзя Міхася Лявонавіча. На шчасце, паспелі гэта зрабіць. Цяпер жа, калі пішуцца гэтыя радкі, дык тады сказанае ўспрымаецца ўжо і як сведчанне значнасці ўрокаў творчасці Стральцова для наступнікаў. У дадзеным выпадку ўрокаў Стральцова-крытыка, Стральцова-літаратуразнаўцы.

І на маёй памяці тое, як ухвальна сустрэлі і чытачы, і крытыка першы яго літаратурна-крытычны зборнік «Жыццё ў слове». Па сённяшні дзень — гэта

выпадак у крытыцы далёка не ардынарны. Дэбютаваў кнігай аўтар, якому споўнілася толькі дваццаць восем гадоў. Прытым выступіў у новым для яго амплуа. Як празаік ён яшчэ тры гады раней, у 1962 годзе выдаў зборнік апавяданняў «Блакітны вецер», што стаў з'явай у тагачаснай маладой беларускай літаратуры. Іншаму і паэту не ўдавалася ў такім узросце дачакацца ўласнай дэбютнай кнігі, хоць у тыя часы, як вядома, было выдацца куды прасцей, чым цяпер.

У «Жыцці ў слове» вабіла чысціня юнацкага ўспрымання і жыцця, і самой літаратуры. Стральцоў аналізаваў блізкія яму творы. У іх моўна-вобразную структуру заглыбляўся паэт, лірык па складзе свайго характару. Лёгкасць радка, свежасць успрымання рэчаіснасці ішлі не ў апошнюю чаргу ад таго, што ў ролі крытыка выступаў той самы летуценна-засяроджаны малады чалавек, якому снілася «сена на асфальце». Ягоную душу па-ранейшаму лагодзіў «блакітны вецер», а недзе на прыпынку яго чакаў аўтобус, каб ехаць туды, дзе таксама пахне сена. Толькі не гаркавае, з прысмакам, настоеным на бензіне і мазуце, а тое, што ўвабрала ў сябе ўвесь водар, духмянасць разнатраўя заліўных лугоў ля вёскі Сычын Слаўгарадскага раёна — яго заўсёднай вабнай прыстані, звязанай з гадамі маленства і юнацтва.

Аднак для большасці чытачоў Стральцоў-крытык, тым больш даследчык літаратуры пачаўся ўсё ж не са зборніка «Жыццё ў слове», а з эсэ «Загадка Багдановіча». Першае ўражанне — яно неўзабаве падмацавалася наступнымі — удалая спроба Міхася Лявонавіча паказаць менавіта **свайго** Максіма Багдановіча, заглыбіцца ў яго ўнутраны свет: паэта, чалавека, грамадзяніна, каб у нечым зарыентаваць, удакладніць і ўласныя творчыя накірункі. «Роўны … талентам» ён як бы «прымерваўся» да класіка, спрабуючы высветліць, што і сам ён значыць поруч з ім. Гэта не выглядала нясціплым, бо самога «прымервання» тады ніхто заўважыць не мог.

Яно адчуваецца мне, напрыклад, цяпер, калі каторы раз перачытваю «Загадку Багдановіча», калі даўно ўжо з намі няма яе даследчыка. Няма, але разам з тым ён і прысутнічае. Асабліва ў тых эпізодах, дзе разважае аб увасабленні Багдановічам мастакоўскай задумы найбольш значных ягоных твораў. І там, дзе задумваецца над трагічнасцю лёсу Максіма Кніжніка, які ўвесь час яго нібыта выпрабоўваў на трываласць, на самым пачатку абмежаваўшы колькасць адпушчаных яму летаў і зім. А згадка пра смерць Чэхава? Развітанне Антона Паўлавіча з жыццём, куфаль шампанскага і ціхая ўсмешка… Прабачце, змагацца больш не магу, сіл нестае. У гэтым апошнім эпізодзе — пра тое, як паміраў Багдановіч і як паміраў Чэхаў, што? Інтуіцыя? Прадчуванне?

Перад «Пячаткай майстра» ў Стральцова была і кніжка «У полі зроку». У пэўнай ступені «кніга бягучай крытыкі», як дакладна сказаў пра адзін са сваіх зборнікаў Уладзімір Гніламёдаў. Уразіла ў ёй эсэ «Рэцэнзія на чатырохрадкоўе», у якім Стральцову ўдалося асабліва выразна прачытаць адзін з вершаў Міколы Федзюковіча, адначасова выхапіўшы ўвогуле найбольш істотнае ў творчасці гэтага паэта, якога, на жаль, наша крытыка і па сённяшні дзень чамусьці прынцыпова абыходзіць увагай. Ва ўсякім разе пра яго амаль не пішацца.

У кнізе «У полі зроку» знайшло працяг тое, што было замацавана ў «Жыцці ў слове» і ў «Загадцы Багдановіча»: на з'явы літаратуры, на асобныя творы глядзеў не яе тэарэтык (разумею ўмоўнасць падобнага азначэння), а практык (азначэнне таксама ў многім умоўнае). Гэта не магло не пакласці адбітак і на рэцэнзіі Стральцова, і на яго літаратурна-крытычныя артыкулы, не кажучы ўжо пра эсэ. Хоць рэзкай размежаванасці жанраў у Міхася Лявонавіча не назіралася. Элементы эсэістыкі, нарысавасці няблага ўпісваліся ў ягоныя артыкулы і нават у рэцэнзіі.

Кніга «Пячатка майстра» ў гэтым сэнсе — не выключэнне, больш за тое, яна, наадварот, пацвярджэнне правільнасці падобнай думкі. Узяць хоць бы рэцэнзію на першы зборнік прозы Алеся Жука «Асеннія халады», напісаную яшчэ ў 1973 годзе і незразумела чаму не ўключаную аўтарам у зборнік «У полі зроку», выдадзены ў 1976-м. Ужо сама назва «Рунь халадоў не баіцца» — арыгінальная, «нерэцэнзійная», калі ўзгадаць, як шмат з'яўлялася тады (дый па-ранейшаму з'яўляецца) «крокаў да сталасці». Але галоўнае нават не гэтае, сам тон гаворкі.

Сам пачатак рэцэнзіі адразу настройвае на асаблівае ўспрыманне таго, што неўзабаве крытык скажа пра кнігу: «Як гэта ўсё-такі добра, калі пра першую

кніжку маладога аўтара можна без паблажлівай добразычлівасці, без прабачлівых ссылак на мададосць сказаць адным словам: таленавіта…» Дакладна, без лішных слоў гаворыцца, а потым і крыху нечакана аргументуе рэцэнзент сваё права менавіта на такую ацэнку напісанага А. Жуком, а не на іншую. Нечакана, бо звяртаецца не да лепшага, на яго думку, апавядання «Асеннія халады», але знаходзячы ў ім тыя мясціны, у якіх паўстае адметнасць мастакоўскай манеры маладога на той час празаіка. Ненавязліва даводзіць, што калі нават у гэтым, не лепшым для яго творы, пісьменнік на вышыні, то што ўжо казаць пра тыя апавяданні, якія можна аднесці да па-сапраўднаму высокамастацкай прозы.

Такое ж, без спроб на арыгінальнасць, простае і завяршэнне рэцэнзіі: «Несумненна, што ў літаратуру прыйшоў новы таленавіты празаік. Мне падабаецца, што першая кніжка А. Жука называецца без прэтэнзіі на рамантычную двухсэнсоўнасць, калі абыгрываецца вясновы сезон з першымі праталінамі, росамі, майскаю просінню і г. д., а названа па-мужчынску проста і стала: «Асеннія халады». Рунь халадоў не баіцца».

Дзве-тры машынапісныя старонкі. Але як шмат сказаў крытык, як змог спасцігнуць галоўнае ў творчасці А. Жука — і не толькі таго маладога, пачынаючага пісьменніка, а і сённяшняга сталага, аўтара многіх кніг: «добра валодае інтанацыяй апавядання», «пры ўсёй лірычнасці яго фразы ён рэдка бывае неканкрэтны, бо добра адчувае бытавую дэталь і ўмела карыстаецца дыялогам» і г. д. Здавалася б, азначэнні звычайныя, але яны не выпадковыя, а падгледжаныя пільным даследчыцкім вокам, называюць многае з таго, што складае сутнасць творчай манеры гэтага цікавага, самабытнага празаіка.

Калі ўжо гаворка зайшла пра сцісласць крытычных выказванняў Стральцова, іх лаканічную выразнасць і адначасова здольнасць пісаць вобразна, эмацыянальна, уносячы ў даследчыцкую плынь элементы навелістыкі, не магу не згадаць эсэ пра Паўлюка Труса. Не скажу, праўда, каб на гэты раз яго назва надта прыглянулася мне. «Воблік юны, бессмяротны» — гэта нешта абавязковае, правільнае і, па праўдзе кажучы, не ў духу Стральцова. А вось развагі пра творчасць паэта арыгінальныя, з элементамі той літаратуразнаўчай нерушавасці, калі адразу бачна: тут усё сваё. Іншыя да цябе пакуль што так не гаварылі, дый, відаць, сказаць не могуць.

Міхась Стральцоў выхоплівае адзін радок з мастакоўскай спадчыны Труса. Толькі адзін, на які не кожны і звяртае ўвагу: «Скора ў бляску вечара, ой, скора, празвініць на вуліцах трамвай…» Дый, як быццам, навошта звяртаць, калі ёсць нямала ў гэтага таленавітага паэта іншых, што даўно ўжо сталі хрэстаматыйнымі. Аказваецца, трэба, бо менавіта гэты радок нямала дае сэрцу чуламу і душы неабыякавай: «Зайздросны лёс! Ад звонкага трамвая Паўлюка Труса доўгае, залівістае рэха». І зноў жа завяршэнне эсэ — наколькі ўмеў Стральцоў знаходзіць тыя адзіна дакладныя словы, якія расстаўлялі на месца ўсе акцэнты, не патрабуючы ад крытыка больш нічога: «У мяне ж па-юначы страсная ягоная ода трамваю чамусьці заўсёды выклікае ў памяці радкі Д. Кедрына, жыццё якога таксама абарвалася рана:

Профиль юности бессмертной
Промелькнул в окне трамвая.

Як хораша сказана! Нібыта пра нашага Паўлюка Труса».

Падобных прыкладаў можна прывесці шмат, але і гэтых дастаткова, каб пераканацца, якім арыгінальным крытыкам, даследчыкам быў Міхась Лявонавіч. Дый, відаць, не менш важна, што кніга «Пячатка майстра», як і ўвогуле крытычная, літаратуразнаўчая дзейнасць Стральцова, — гэта не проста асобныя значныя матэрыялы, якія ўзнімаюцца да тых вышынь даследчыцкай думкі. Пераважная большасць напісанага Стральцовым-крытыкам вытрымлівае самыя строгія патрабаванні. У «Пячатцы майстра» хіба што лішнімі, неабавязковымі выглядаюць нататкі «Пакаленне маіх аднагодкаў», «Дзяцінства, якое мы помнім», бо думкі, выказаныя ў іх, у той ці іншай ступені прысутнічаюць у іншых матэрыялах.

Разумеў Стральцоў, «як цяжка нават і таленавітаму мастаку быць арыгінальным у сваім пісанні». І хоць сказаў ён гэтыя словы ў дачыненні да прозы, заў-

важыўшы прыкры недагляд такога самабытнага празаіка, якім быў заўчасна пайшоўшы з жыцця рускі пісьменнік Сяргей Нікіцін, яны з поўным правам стасуюцца і да крытыкі. Тым больш, што дзяліць віды літаратурнай дзейнасці на першасныя і другасныя ў літаратуры — справа няўдзячная і марная. Вядома, калі гэта літаратура сапраўдная. Дарэчы, сам Стральцоў, як ніхто іншы, гэта добра разумеў і прызнаваўся ў адным са сваіх выступленняў («Усе жанры добрыя, акрамя сумнага»): «Можа ўзнікнуць пытанне, памагае ці замінае вопыт крытыка, асэнсаванне «кухні пісання» стварэнню ўласна мастацкіх твораў? Мне здаецца, памагае, хаця б у тым сэнсе, што перасцерагае ад спакусы браць штурмам адчыненыя дзверы».

Сам ён «штурмам дзверы» ў літаратуры ніколі не браў. Часцей адчыняў іх для іншых, спяшаючыся сказаць слова пра кожны малады талент, які таго заслугоўваў. Эсэ пра А. Жука — не выключэнне, а свайго роду заканамернасць. Можна згадаць і прадмовы да першых кніжак некаторых пісьменнікаў — яны ў «Пячатку майстра», праўда, не ўвайшлі. Можна ўспомніць і так званыя ўнутраныя рэцэнзіі, якія ў савецкі час пісалі на рукапісы, што паступалі ў выдавецтвы — іх тым больш пры жыцці ніхто не друкаваў. А можна звярнуцца і да тых мясцін у артыкулах, дзе Стральцоў-крытык быў занепакоены тым, што асобныя маладыя аўтары нясмела спрабуюць свой голас.

Адно другому ніколі і ніколькі не пярэчыла. Падтрымка сапраўднага таленту, запальванне «зялёнага святла» на яго дарозе, нават на першым паўстанку і разам з тым спроба адшукаць тыя балявыя пункты на целе маладой літаратуры, якія папярэджваюць, што з'яўляецца пагроза ўзнікнення другаснасці, небяспека творчых рэміністэнцый: «Вакуум» у так званай «вясковай прозе запаўняецца пакуль што слаба. Маладымі празаікамі пераважна бяруцца і развіваюцца нейкія прыватнасці з багатай палітры тэматычнага, выяўленчага і стылістычнага пошуку прозы ранейшай пары. Запозненым у іх здаецца матыў настальгіі па маральнай цэласнасці і духоўнай паўнаце быцця (запозненым у тым сэнсе, што ён не выражаецца па-новаму) матыў, найчасцей укаранёны, паводле аўтараў, у сялянскім пабыткаванні. Магчыма, але ці дастаткова гэтага дзеля сцвярджэння жыццёва паўнакроўнага ідэалу?»

Поруч — зварот да лепшых узораў рускай класікі і нацыянальнай літаратуры. Між іншым, на гэты аспект таксама не магу не звярнуць увагу. Нашы крытыкі, літаратуразнаўцы чамусьці ў свае кнігі неахвотна ўключалі артыкулы, у якіх разглядаецца творчасць прадстаўнікоў іншых літаратур. Ці не прычынай таму былі выдавецкія перашкоды? Выключэнне хіба што складала так званая «пісьменніцкая крытыка». Па гэтай прычыне, відаць, і Стральцову было дазволена ўключыць у апошнюю ягоную кнігу згадкі пра творчасць Мікалая Някрасава, Аляксандра Пушкіна, Аляксандра Блока, Канстанціна Паустоўскага…

Тым не менш, як і трэба было чакаць — на першым плане — і захапленне, і трывога — родная літаратура. Нават адзін пералік імёнаў сведчыць аб шырыні творчых інтарэсаў Стральцова, гаворыць аб тым, як ён, адзін з самых эрудзіраваных нашых пісьменнікаў, пастаянна адчуваў сябе далучаным і да чужых твораў, і да чужых лёсаў, як хацеў паспець — і паспяваў! — сказаць сваё слова пра ўсё, што хоць неяк усхвалявала яго, занепакоіла. У полі зроку Міхася Лявонавіча — толькі ў апошняй кнізе — Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Кузьма Чорны, Уладзімір Хадыка, Аляксей Пысін, Піліп Пестрак, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Анатоль Вялюгін, Эдуард Валасевіч, Іван Чыгрынаў, Васіль Зуёнак...

Не трэба спрабаваць бачыць у гэтым крытычную ўсёяднасць. Не трэба перад ягонай памяццю. Не трэба, бо сказанае Стральцовым пра гэтых і іншых пісьменнікаў — не звычайныя водгукі з нагоды выхаду чарговай кнігі ці юбілею, а праяўленне самой духоўнай патрэбы выказацца. Адсюль часам і нечаканае суседства імёнаў. Ды гледзячы з якімі меркаваннямі падыходзіць. «Нечаканасцю» можна растлумачыць і водгукі на спектакль па драме Янкі Купалы «Раскіданае гняздо» ў пастаноўцы купалаўцаў, на фільм, прысвечаны Багдановічу (рэжысёр П. Аліфярэнка, аператар В. Купрыянаў). Апошні з прарочай канцоўкай: «Першы фільм пра Багдановіча створаны. Спадзяёмся, першы не будзе апошнім». Як вядома, неўзабаве рэжысёр-дакументаліст І. Калоўскі быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР

за цыкл фільмаў, прысвечаных класікам беларускай літаратуры, сярод якіх была і стужка пра Багдановіча.

За гэтай нечаканасцю — шырыня творчых інтарэсаў Міхася Лявонавіча, сведчанне яго актыўнага не толькі мастакоўскага, але і грамадскага жыцця. Так, грамадскага, хоць удзелу ў розных з'ездах, пасяджэннях, дэкадах, днях Стральцоў ніколі не любіў. Але для яго свайго роду грамадскай работай з'яўляўся своечасовы водгук на значную літаратурную і шырэй — культурную з'яву. Грамадскай, бо думка гэтая, асабліва выказаная своечасова, аператыўна, станавілася і думкай грамадскай. Менавіта так меркаваць і дае падставы крытычная, даследчыцкая дзейнасць Міхася Лявонавіча.

У апошні час ён спрабаваў свае сілы і ў жанры мініяцюр, лірычных запісаў — так нарадзіўся цыкл «Вузельчыкі на памяць». Сёй-той гатовы быў убачыць у гэтым даніну модзе, спробу працаваць «пад Брыля». Маўляў, колькі пісьменнікаў — і маладых, і старэйшых — ужо апякліся ўяўнай лёгкасцю такога жанру. Што апякліся, сумнення быць не можа. А што Стральцоў не апёкся — таксама сумнення няма.

У гэтых карацельках, сапраўдных «вузельчыках на памяць» — «вузельчыкі» не толькі самому сабе, а і ўсім, хто любіць родную літаратуру, — знайшлі працяг развагі Міхася Лявонцавіча пра творчасць найбольш значных пісьменнікаў. І класікаў, і сучасных. І не толькі беларускіх. Аднак перш за ўсё вабілі выказванні пра класікаў. Каб не абцяжарваць чытацкую ўвагу, прывяду цалкам толькі адзін «вузельчык»:

«Купала, заявіўшы сваю грамадзянскую пазіцыю як мужыцкую, у мастацкіх сродках сваіх быў надзвычай і паслядоўна дэмакратычны, на свой, на беларускі, хочацца сказаць, лад.

Ад мяне пайшла тады,
Як насталі халады:
Сцюжай выў я л о в ы плот,
Хохлік бегаў ля варот.

Што можа быць прасцей, празаічней і нават наіўней за гэта? Але ж чаму гэта ўражвае?

Відаць, можна гаварыць пра нацыянальнасць эпітэта. Яловы плот — гэта так па-беларуску, адразу ўяўляеш наш двор недзе ля ўрочышча са змрочнымі елкамі і сычамі. І гэты эпітэт тут не проста эпітэт, гэта — дэталь».

«Развязваецца» гэты «вузельчык», здавалася б, надзвычай проста. Ды якая важная думка ў ім закладзена! Так усё проста, звычайна і разам з тым значна, пастральцоўску жыццёва напоўнена.

Як не пагадзіцца з думкай, неяк выказанай Стральцовым: «Сапраўдныя крытыкі — рэдкая з'ява… Крытык павінен быць публіцыстам, мастаком, літаратуразнаўцам. Вядома, гэта ў лепшым выпадку. Але тады ён будзе як мысліць літаратурным працэсам, так і перажываць яго. Тое і другое неабходна».

Такім крытыкам быў ён і сам. Крытыкам, які ўнутрана перажываў сучасны літаратурны працэс, каб далучыць да найбольш значных з'яў яго чытача. Да напісанага ж ім самім далучацца нам ужо самастойна.

Перачытваючы яго цудоўныя апавяданні, сярод якіх такія шэдэўры, як «Сена на асфальце» і «Смаленне вепрука».

Кожным разам па-новаму адкрываючы для сябе свет нялёгкага, няпростага маленства дзякуючы ягонай аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь».

Адчуваць асалоду стральцоўскай паэзіі, у тым ліку і праз кнігу вершаў «Мой свеце ясны».

Дарэчы, менавіта за гэтую кнігу Стральцоў і стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы. На жаль, пасмяротна, у 1988 годзе. Ды добра, што хоць і са спазненнем, яна ўсё ж яму была прысуджана.

Усцешна і тое, што ў 2015 годзе том «Выбраных твораў» Міхася Лявонавіча папоўніў аўтарытэтную серыю «Беларускі кнігазбор».

Жыццё класіка беларускай літаратуры Міхася Стральцова — так, класіка, час пра гэта казаць на поўны голас — працягваецца.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# ЯГО ШЧОДРЫ САД

Я не ведаю, як бы мы сёння адзначалі шасцідзесяцігоддзе Алеся Пісьмянкова. Час настолькі імклівы і зменлівы, што прагназаваць або ўяўляць, як бы што было цяпер, вельмі цяжка.

Адно магу сабе ўявіць, з пэўнай доляй верагоднасці, што, як звычайна было, у гэты дзень ён бы не пайшоў на працу, апрануў белую кашулю і стаў бы чакаць гасцей, самых блізкіх і жаданых.

Ён так і не дазнаецца, што ўслед за ім пайшлі ў вечны вырай Валодзя Марук і Наталля Чуева, што шмат чаго, што ён ведаў і любіў, стане іншым, што кніг стане выходзіць больш, а чытачоў стане менш…

Ды і шмат іншых змен прайшло за тыя дзесяць год, калі яго не стала. Сябры падрыхтуюць пасмяротныя кнігі ўспамінаў пра яго і ягоныя творы, і ўсё радзей будуць прыходзіць на Кальварыйскія могілкі, дзе ён навечна спачыў…

А ягоныя радкі па-ранейшаму будуць з’яўляцца да людзей як глыток гаючага паветра, як чыстая незамутнёная крыніца праўды і прыгажосці.

Мне, як яго блізкаму сябру і штодзённаму суразмоўцу, доўгі час было няпроста гаварыць пра яго вершы, бо яны былі для мяне працягам яго постаці, светлай і шчырай, і я не мог проста здалёк, проста, як чытач, глядзець і ўслухвацца ў ягоную мелодыю слоў, бачыць усю архітэктоніку, выбудаванай ім паэтычнай вежы.

Але сёння, мне здаецца, я ўжо магу і павінен расказаць сабе і іншым, якога паэта мы маем, які каштоўны алмаз беларускага прыгожага пісьменства быў узгадаваны на берагах славутай Бесядзі, роднай рэчкі Алеся.

Я б толькі не хацеў, каб да гэтай магутнай і чыстай плыні дакраналіся сваімі нехлямяжымі, нахабнымі і няўмелымі дотыкамі новаспечаныя «знаўцы», якія любяць прэпарыраваць сапраўдную паэзію, разважаючы пра рыфмы, рытмы, тэматыку, актуальнасць і іншыя глыбакадумныя тэорыі, не пакідаючы паэту вольнага ветру радаснага адкрыцця і эмацыйнага роздуму.

Для паэзіі Пісьмянкова менш за ўсё адносіцца канструяванне і штучнасць. Ён не пісаў вершы, ён іх літаральна выходжваў у глыбокім роздуме гадзінамі і днямі. Таму, відаць, амаль кожны свой верш ён ведаў на памяць.

Я не раз быў сведкам, як ён днямі насіў у сабе радкі, не занатоўваючы іх на паперу. І толькі калі ўсе народжаныя ў душы словы складваліся, як пазлы, у адну мазаіку, ён заносіў верш, які атрымаўся, у тонкі вучнёўскі сшытак.

Не ведаю, колькі кіламетраў ён выхадзіў, каб нарадзіўся адзін з маіх улюбёных вершаў «Царква»:

Яна стаяла без званоў.
Казалі, звон зняў Іваноў.
Я добра помню Іванова.
Згасаў, як свечка, ён і сох.
Я чуў:
        «Яго карае Бог...»
Шкада было мне Іванова…

Гэты пачатак з самых першых сказаў заінтрыгоўваў не толькі сутнасцю сказанага. Колькі ў ім ёсць унутранай сілы, нейкай эпічнасці і разам з высокім паэтычным стылем простага пачуцця. Гэта як у Бродскага ці Кузняцова, дзе высокае побач з чыста бытавым стылем стварае ўнікальнае паэтычнае дзейства:

Наш ганаровы піянер
Не проста быў пенсіянер:
Лічы, герой — былы камбед...
Дагэтуль помніць сельсавет:
«Царква — вось корань нашых бед!
Багоў мы пусцім
на распыл...»
І звон ляцеў на шэры пыл —
Жах у вачах здзіўлёных стыў…

І вось тужлівы заключны акорд, як ціхі плач скрыпкі ці лютні:

Яе прыгадваю я зноў:
Яна маўчала без званоў.
Там быў прытулак кажаноў.
Памёр даўно ўжо Іваноў.
Даўно ў магіле святары,
І толькі часам дзяк стары
Пасе на цвінтары казу
Ды ўспамінае праз слязу:
«Вячэрні звон, вячэрні звон,
Як многа дум наводзіць ён».

Я не раз гаварыў Алесю, што гэта адзін з лепшых твораў усёй беларускай паэзіі, што я абавязкова пра гэта напішу. А вось здолеў толькі цяпер.

Верш пра зімовы сад ужо асэнсаваны крытыкамі, а Алесь Разанаў з уласцівай яму філасафічнасцю і глыбокай паэтычнасцю асвятліў яго сваім разуменнем і досціпам. Я ж проста хачу, каб чытач акунуўся ў гэтую цудоўную шчымлівую мелодыю высокай паэзіі:

Мой сад у снезе па калена
Азяб у золь і снегапад...
Табе не холадна, Алена?
Табе не холадна, Алена?
Табе не хочацца назад?
Мой сад зусім не салаўіны —
У ім ахрыплыя вятры.
У ім рабіна ды каліна,
У ім рабіна ды каліна —
Вось і усе яго дары…

Хочацца дачытаць да канца? Так, і паўтараць услед за паэтам:

Мой сад пусцее без дагляду.
Яго сячэ калючы град.
Ён замаркоціўся без свята...
Ён замаркоціўся без свята...
Табе не хочацца назад?

Верш гэты пра кожнага з нас, пра нашых блізкіх і родных, пра наша штодзённае жыццё... Нават калі б акрамя гэтага верша ў Алеся нічога б іншага не было, яго можна назваць адным з самых выдатных лірыкаў у нашай літаратуры.

Гэта я да таго, што спадчына А. Пісьмянкова не вельмі колькасна багатая, але па каштоўнасці «тамоў шматлікіх даражэй»…

Самыя простыя звычайныя жыццёвыя рэаліі станавіліся ў вуснах паэта ўзнёслымі, глыбока кранальнымі:

І ўсё-такі цуда бывае!
Захочаш — і я пакажу,
Як сонечны промень іграе
На струнах гарэзных дажджу
І роспач сплывае, як пена...
Захочаш — і я дакажу,
Што дождж на узроўні Шапэна.
Ты толькі даверся дажджу.
Я знаю — мяне падтрымаюць
У горадзе веснім усе.
І нават вадзіцель трамвая,
Што нас без білета вязе.

Але ружовая наіўнасць змяняецца глыбокім пачуццём сталага чалавека: «Гусцее змрок, чуйнее ціш, цішэе крок, цяжэе крыж»…

Унікальная здольнасць вельмі коратка і ёмка выказаць думку і пачуццё ў Алеся праявілася і ў вершах для дзяцей. Я не раз бачыў, як юныя слухачы разам з паэтам развучвалі ягонае: «Без марожанага гіну, а з марожаным — ангіна», або: «Весяліцца не магу, калі друг на ланцугу, бо ніколі друга друг не навяжа на ланцуг».

Ён не раз паўтараў мне крылатыя словы, што для дзяцей трэба пісаць гэтак жа, як для дарослых, толькі яшчэ лепш. Гэта так, але я на сваім сціплым вопыце адчуў, што каб добра пісаць для маленькіх, трэба мець такую ж адкрытую і шчырую душу, не страціць дзіцячае ўспрыманне свету:

Самішча вусаты,
Шчучына насаты
Ды іх памагаты
Акунь паласаты
Бабровую хату вартуюць.
Начамі вартуюць.
Ні з кім не сябруюць,
Ні з кім не жартуюць.
Лютуюць.

Памятаю, як у захапленні ад гэтага верша я рагатаў, уяўляючы гэтых лютых вартавых бабровай хаты. Цяпер я з задавальненнем чытаю гэты верш унуку, бачачы, як у яго разгараюцца вочы, хаця ён яшчэ і не бачыў ужывую ні шчупакоў ці самоў, ні бабровай хаты…

Звычайна ўсмешлівы і гаваркі Алесь у апошнія перад сыходам гады быў усё часцей задуменны і нават маркотны. Не дзіва: за бацькам пайшла з жыцця мама, затым бабуля, родная хата ў Бялынкавічах засталася сіратой. Пасля свайго апошняга наведвання родных мясцін Алесь сказаў, што не мог спаць у чужой хаце, што мучае ціск. Ён неўпрыкмет пастарэў і стаў нават не зусім падобны на ранейшага прыгажуна і балагура.

Таму так пранізліва загучалі ягоныя радкі:

Што ты лёс галёкаеш?
Не прасі падаць.
Пенсія далёкая.
Смерці не відаць.
Не ўздыхнеш з палёгкаю —
Хісткія масткі:
Позна нам у лёкаі,
Рана ў жабракі.

А смерць між тым цікавала за ім, каб нанесці нечаканы і сакрушальны ўдар. Неяк тыдні за два да трагічнага дня ён мне доўга па тэлефоне гаварыў пра тое, што не баіцца яе, што гатовы, а я нават накрычаў на яго за гэтыя словы, палічыўшы іх нейкай рызыкоўнай гульнёй, блазнаваннем. Але з гэтай старой жартаваць ці гуляцца, відаць, вельмі небяспечна.

Сэрца паэта не вытрымала той нагрузкі, якая лягла на яго лёс, дзе асабістае сышлося з пакутлівым роздумам пра лёс Радзімы і роднага слова, пра сваё прызначэнне ў свеце.

Пра той сад, пра які ён пісаў у сваім славутым вершы, які я цытаваў напачатку.

Знамянальна, што да вобраза саду ён вярнуўся зноў у адным з апошніх вершаў «Шкадаванне»:

Я кнігу ўсё-ткі напісаў,
Сыноў двух ясных нарадзіў,
Але, народжаны ў лясах,
Дасюль свой лес не пасадзіў.
Ды што там лес, ну хоць бы сад!
Як бацька некалі,
Як брат…
І толькі часам па вясне,
Калі туманіцца пагляд,
Тады і мне ў ружовым сне
Шуміць мой лес.
Цвіце мой сад.

Цвіце яго сад сапраўднай паэзіі, напаўняе сваім буяннем, светлым, чыстым і шчымлівым водарам прастору.

І ярка гарыць яго зорка на небасхіле нашай паэзіі, вабіць сваім шчодрым і чароўным святлом, будзіць у душах людзей замілаванне і шчырыя пачуцці радасці і смутку, кахання і вернасці, любові і надзеі.

Як гэта і належыць сапраўдным творцам.



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ПАД ПАРАСОНАМ




*Марыя ЗАХАРЭВІЧ*

**ТАЛЕНТ, АДУХОЎЛЕНЫ ЛЮБОЎЮ: успаміны, інтэрв'ю, прысвячэнні**

**Уклад. Соф'і Жыбулеўскай**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2016.*

«Мы любім Вас, Маша, і нас вельмі многа, і Вы пра гэта ведаеце і самі», — кранальныя словы Янкі Брыля вынесены эпіграфам да чарговай кнігі серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», прысвечанай народнай артыстцы Беларусі, прыме купалаўскай сцэны, юбілярцы Марыі Захарэвіч. І сапраўды, успаміны, водгукі, інтэрв'ю вельмі многіх людзей змяшчае грунтоўнае выданне. Сярод іх няма ніводнага халоднага, дзяжурнага. Адметная манера выканання, свой непаўторны «голас» нязменна выклікае і цікавасць да жыццёвага шляху гэтай таленавітай жанчыны.

Як вядома, фарміраванне характару чалавека пачынаецца ў раннім дзяцінстве. Проста і шчыра пра бацькоў Марыі Георгіеўны піша Уладзімір Ліпскі ў кнізе «Нарачанская чайка», асобныя раздзелы з якой уключаны ў кнігу. Закласці ў будучую артыстку столькі такту, далікатнасці, жыццёвай мудрасці, несумненна, маглі толькі адораныя людзі. Бацькі Захарэвіч — людзі фізічнай працы, нястомныя, руплівыя гаспадары з вёскі Навасёлкі. Але… «Апранаўся ён проста, але з густам. Запомніўся навасёлкаўцам у самаробным рыжым кажушку да каленяў, у чорнай кашулі з двума гузікамі пад горлам. Заўсёды чыста паголены. А на вуснах насіў ледзь улоўную ўсмешку дабрыні. Маўчун. Голас меў ціхі, але ўпэўнены. Інтэлігентнасць у яго была прыродная, генная, а мудрасць — ад зямлі-матухны», — піша Уладзімір Ліпскі пра Георгія Захарэвіча, бацьку Марыі. А вось — і пра маці, Ганну Іванаўну: «Ганэта вучылася некалі два гады ў царкоўнапрыходскай школе. Умела пісаць, чытаць. Помніла на памяць вершы Пушкіна. Любіла гумар. З найбольшай асалодай учытвалася ў словы Бібліі, ведала малітвы. Брала з сабой у царкву дачку Марыську, разам чыталі «Верую», «Ойча наш», услаўлялі святых, маліліся за грэшнікаў». Як бачым, сумленныя, чыстыя душой людзі могуць часам даць болей, чым адукаваныя педагогі…

Чаму ж «чайкай» называе Уладзімір Ліпскі ды іншыя аўтары кнігі Марыю Захарэвіч? Сама артыстка некалі прамовіла: «Маё жыццё ў нечым падобна

на чэхаўскую Чайку…» Ці не найлепшым чынам для раскрыцця яе лёсавызначальнага выбару ў жыцці падыходзіць дыялог са знакамітай чэхаўскай п’есы:

*Аркадина.* Браво, браво! Мы любовались. С такой напряженностью, с таким чудным голосом нельзя, грешно сидеть в деревне. У вас должен быть талант. Слышите? Вы обязаны поступить на сцену.

*Нина.* О, это моя мечта!..

І таленавітая Марыя не сядзела склаўшы рукі. Здала іспыты ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, нястомна займалася творчым самаразвіццём. Да таго ж заўсёды знаходзіла час і для «асветы». «Гэта рэдка хто робіць. Чалавек звычайна адпрацаваў у тэатры і пайшоў дамоў (маўляў, гэта не мая справа, а яна ніколі не адмаўляецца выступаць ні ў музеях, ні ў бібліятэках. У Марыі Георгіеўны ёсць праграма, якая складаецца з ваенных вершаў. Яна цудоўна, як ніхто, ведае беларускую паэзію», — піша рэжысёр Мікалай Пінігін.

Уменне адной толькі танальнасцю голасу захапіць аўдыторыю — адметная рыса прафесіяналізму. І яна вызначае цалкам характар таленту Марыі Захарэвіч. Пра непаўторны голас «каралевы радыё» згадваюць многія. «Светлы, глыбокі, ледзь засмучаны, цнатлівы, з прыхаванай таямніцай» (Валерый Анісенка), «Мяккі, добразычлівы, нібы злёгку астуджаны, грудны, вельмі блізкі, як быцца гучыць толькі для цябе» (Валянціна Паліканіна)…

Марыя Захарэвіч здзіўляе, бянтэжыць, натхняе людзей. Вялікая ў сваім творчым дары, адданасці лепшым прынцыпам тэатру псіхалагічнага рэалізму, яна дзіўным чынам застаецца сціплай, адкрытай, шчырай з людзьмі. Таму і пішуць пра яе з цеплынёй Рычард Смольскі, Ніна Загорская, Сяргей Законнікаў, Сяргей Давідовіч, Анатоль Бутэвіч, Дзяніс Марціновіч, Алена Ляшковіч, Зінаіда Камароўская, Зіновій Прыгодзіч, Дзмітрый Пятровіч і інш. Прысвячалі і прысвячаюць свае вершы — Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Скарынкін, Яўгенія Янішчыц, Мікола Мятліцкі, Мікола Шабовіч, Віктар Шніп, Дзімітрый Пятровіч, Зміцер Арцюх, Іна Фралова… Укладальніца кнігі Соф’я Жыбулеўская пра сваё знаёмства з Марыяй Георгіеўнай піша: «Было такое адчуванне, што быццам ты знаходзішся пад парасонам, які аберагае цябе ад усяго кепскага, і табе ўтульна, спакойна лёгка».

А такім спакойным і ўпэўненым у сабе можа быць толькі чалавек, які верыць у тое, чым займаецца. Які, зыходзячы з уласнага досведу, раіць: «Баяцца сцэны не будзеш тады, калі дакладна ведаеш, для чаго на гэтую сцэну выйшаў».



Міхаіл УЛАСЕНКА

# ЧАЛАВЕК З МАЁЙ БІЯГРАФІІ

Канец лета 1985 года. Я працаваў тады рэдактарам Горацкай раёнкі. У адзін са жнівеньскіх дзён заходзіць у кабінет чалавек — нічым непрыкметны, сціпла апрануты. А я толькі сабраўся на абед. Вітаемся.

— Я Юрчанка. Па справах завітаў, — кажа наведвальнік.

— Дык вы ж наш зямляк! — узрадаваўся я. — Калі вы, Георгій Фёдаравіч, не супраць, пойдзем да мяне. Перакусім, а заадно і пагаворым.

Справа тычылася публікацыі яго артыкула пра вучонага Паўла Кабеку…

У вітальні Юрчанка адразу падступіўся да кніжнай шафы. Бібліятэка ў мяне, дарэчы, багатая і займае ў кватэры даволі шмат месца. Падпісныя выданні, сусветная літаратура, розныя энцыклапедыі, даведнікі, беларускі фальклор…

Бачу, госць прагна прыглядваецца да палічкі з кнігамі беларускіх пісьменнікаў.

— На жаль, няма тут вашых кніжак.

Георгій Фёдаравіч быццам спахмурнеў…

— А вось мой рабочы кабінет, — працягваю імправізаваную экскурсію па кватэры.

Паліца з кнігамі, сшыткамі, рознымі паперамі. На стале ля акна старэнькая пішучая машынка «Украіна», а побач — стос кніжак… Георгія Юрчанкі. Невялічкія зборнікі пародый, слоўнікі мсціслаўскіх гаворак… Георгій Фёдаравіч іх адразу заўважыў.

— Вашыя кніжкі, як бачыце, у мяне заўсёды пад рукой. Вось толькі… без аўтографаў…

Юрчанка тут жа сеў за стол, і праз колькі хвілін на ўсіх яго кнігах з’явіліся аўтографы. На зборніку «Парнаскія ўхабы», напрыклад, было напісана: «Міхасю Уласенку — хай на вашай адказнай і не зусім бяспечнай працы сустракаецца паменей ухабаў усялякіх, у тым ліку і парнаскіх. Подпіс, Жнівень 1985»…

Праз некалькі дзён атрымліваю з Мінска бандэроль з яго кніжкамі, якіх у мяне не было. Вядома, з аўтографамі.

Гэтыя кнігі былі дарагія мне. І таму, што яны цудоўна напісаны. Ды заўсёды напамінаюць пра самога Георгія Фёдаравіча, які так шмат значыць у маёй біяграфіі. Менавіта дзякуючы яму, каралю беларускай пародыі, я пасапраўднаму палюбіў родную мову.

З маленства выхоўваўся на плыні двухмоўя. У гады вайны ў нашай хаце, якая стаяла на ўскраі вёскі, часова асталяваўся штаб ваеннага падраздзялення Савецкай Арміі. У хаце амаль кожны дзень праходзілі нейкія сходы… І ўсё — руская мова…

Пасля вайны пераросткам пайшоў у школу. Закончыўшы 7 класаў, падаўся ў Мсціслаўскае вучылішча механізацыі. Працаваў трактарыстам, служыў на Балтыйскім флоце. Затым Сібір, цаліна... Два гады — на будоўлях Брацкай ГЭС. Быў актыўным членам літаб’яднання пры брацкай раёнцы «Красное знамя», і мяне нават дэлегавалі на тыднёвую творчую канферэнцыю ў Іркуцк, дзе я займаўся ў секцыі вядомых паэтаў Аляксандра Межырава і Марка Собаля… І гэта ўсё руская мова!.. Родная, матчына, калі і з’яўлялася, дык толькі ў сне. Праўда, зрэдку чытаў «Чырвоную змену», якую выпісваў карэспандэнт газеты, зямляк Іван Бязрукаў.

У 1965 годзе нарэшце вярнуўся ў Беларусь. Завітаў да родзічаў у Крычаў, прыхапіўшы з сабой нізку сваіх вершаў — вядома, рускамоўных: можа, думаю, у мясцовай газеце надрукуюць. Рэдактар Ягор Бяспалаў пагартаў мае паперкі і сказаў тонам загаду: «У сельгасаддзел! Літрабам»…

Так я, з сямікласнай адукацыяй, не здольны не тое што напісаць, але і слова вымавіць па-беларуску, стаў літработнікам раённай газеты. Праўда, усе ў рэдакцыі размаўлялі, як цяпер у нас кажуць, на трасянцы, што я ўспрымаў даволі звыкла. Пісаць жа трэба было на літаратурнай. Вось тут я аказаўся поўным нулём. Але ў нас была машыністка Паліна Фамінічна — цудоўны чалавек і першакласная перакладчыца. Я пісаў па-руску, дыктаваў, а яна імгненна ўсё перакладала. Дзякуючы ёй, на старонках газеты атрымліваліся неблагія карэспандэнцыі, нарысы і нават фельетоны.

У рэдакцыі была свая невялічкая бібліятэка. На стале ляжалі падшыўкі «Звязды», «ЛіМа», знаёмай мне «Чырвонкі»… Сам выпісваў і чытаў часопіс «Вожык». Так што «чытанкі» было шмат. Я стаў «сваім чалавекам» у раённай бібліятэцы і кніжнай краме, дзе ў асноўным цікавіўся гумарыстыкай — як беларускай, так і рускай. Ды і сам пакрыху пісаў гумарыстычныя вершы, апавяданні. Праўда, зноў жа, па-руску. Амаль усе тутэйшыя журналісты штосьці пісалі. Пры рэдакцыі было моцнае літаб’яднанне, у якім у той час удзельнічалі Віктар Карамазаў, Людміла Забалоцкая, Уладзімір Дуктаў, Апанас Палітыка…

З творчасцю ж Юрчанкі ўпершыню сутыкнуўся, здаецца, у «ЛіМе» і ў «Вожыку». Яго пародыі мяне асабліва захаплялі. Потым трапілі ў рукі невялічкія зборнікі «Распрэжаны пегас» і «Вярхом на «Вожыку»… У другой палове 60-х, калі ўжо крыху «абеларусіўся», прыдбаў яго «Дыялектны слоўнік» і «Народную сінаніміку». Потым пайшлі яго знакамітыя слоўнікі гаворак Мсціслаўшчыны. Аднойчы ў Магілёве (ужо ў новым тысячагоддзі) у кніжнай краме выпадкова натрапіў на двухтомнік «Анталогія беларускай пародыі». У першым томе ў асноўным матэрыялы Юрчанкі, а другі — празаічны, цалкам складзены з яго твораў. Ніхто з сучаснікаў, бадай, не парадзіраваў столькі прозу, як ён. І гэтыя кніжкі Георгія Фёдаравіча таксама сталі для мяне настольнымі. Яны служылі мне як бы ў якасці… своеасаблівага пускача. Перш чым узяцца за напісанне газетнага чарговага матэрыялу, адкрываў якую-небудзь з іх, ці твор іншага беларускамоўнага пісьменніка, прачытваў старонку-другую, адразу настройваўся на беларускамоўны лад.

Кажуць, на якой мове пішаш, на той павінен і думаць. Адным словам, творы Юрчанкі сталі маім неад’емным хобі. Яны імпанавалі мне і сваімі мастацкімі якасцямі, і тонкім дасціпным гумарам. А яшчэ тым, што ён мой бліжэйшы зямляк, і ў нас адна матчына мова. Чым я асабліва ганарыўся.

Захапіўшыся творчасцю Юрчанкі, я мусіў пагнацца за двума «зайцамі». Па-першае, яго слоўнікі, ды і пародыі таксама, асабліва празаічныя, сталі для мяне, як ужо казаў, своеасаблівым «трэнінгам». Іншую класіку, раманы, аповесці, канечне, чытаў, але ж на гэта трэба быў вольны час. А тут — у сканцэнтраваным выглядзе жывая мова. Прачытаеш старонку-другую, і ты ўжо настроены на моўна-стылістычны, да таго ж яшчэ і іранічны лад аўтара.

Хтосьці заўважыць: маўляў, як можна вучыцца пісаць на пародыях Юрчанкі, калі ў яго ўсё пра тое, як не трэба пісаць. Канечне, калі не мець пачуцця гумару, аналітычнага погляду на рэчы, праблема бачыцца. Але ж у гэтых, «няправільных» тэкстах ёсць свая, афарбаваная тонкай іроніяй, логіка.

Дый на пачатку вядомай «перабудовы» я канчаткова расквітаўся са сваёй «лірыкай». Нічога істотнага, нічога новага ў гэтым жанры, як і ва ўсёй сваёй творчасці, прызнаюся шчыра, я не сказаў і не сказаў бы. Тым больш, што беларускую мову асвоіў так, што маіх «набыткаў» хапала хіба на артыкул для мясцовай газеты. Мастацкі твор патрабаваў больш трывалага і

шырокага моўнага запасу. Калі беларускую класіку чытаў свабодна, згадваючы многія новыя для мяне слоўцы па кантэксце, то напісаць той жа верш, не маючы патрэбнага моўнага запасу, проста немагчыма. А беларуская мова ў сэнсе засмечанасці мясцовымі дыялектызмамі і адвольным перайначаннем слоў, значна багацейшая за рускую. Тут ніякія слоўнікі не дапамогуць. У іх не ўсё знойдзеш, што ўжывае аўтар у сваім творы. Пісьменнік павінен (прабачце, *павінны)* быць першакасным мовазнаўцам.

У перадпенсійным ўжо ўзросце, знішчыўшы ўшчэнт сваю рускамоўную лірыку, я рашыў пачаць усё нанова. Абраў для сваіх творчых эксперыментаў кароткую форму — эпіграму, катрэн, мініпародыю, у асноўным чатырохрадкоўі… Гэта потым Юрчанка назаве «карацелькамі», а «вожыкаўцы» — «церушынкамі». За чвэрць веку напісаў столькі, што нават самую мізэрную частку напісанага сёння апублікаваць наўрад ці давядзецца.

Штосьці, праўда, давалі ў «ЛіМе» ў бытнасць галоўным рэдактарам Анатоля Казлова. А ў «Вожыку» і цяпер, дзякуй, па 2-3 «церушынкі» ў квартал друкуюць.

Дык вось, на той час, калі не лічыць нашай першай неспадзяванай сустрэчы ды рэдкай перапіскі, мы з Георгіем Фёдаравічам былі, бадай што, незнаёмыя. Праз сталічных гасцей вырашыў перадаць свайму галоўнаму завочнаму настаўніку гэты першы зборнік. Якой рэакцыі мог чакаць правінцыйны «вершаплёт» ад прафесійнага парадыста, патрыярха беларускай гумарыстыкі, які, па словах яго літаратурных даследчыкаў, «з'едліва» крытыкаваў вялікіх пісьменнікаў і паэтаў, можна было толькі здагадвацца. Не стану пераказваць, як усё было далей, лепш прывяду колькі радкоў з пісьма Юрчанкі.

«…Дзякую за кніжку. Прачытаў. Шчыра зайздрошчу, колькі ў ёй трапныхназіранняў, паэтычных знаходак, глыбокага пранікнення ў наша складанае жыццё.., уменне ў звычайным, паўсядзённым убачыць адметнае, арыгінальнае. Цалкам згодны з уводным словам да кніжкі Анатоля Казлова… А цяпер колькі слоў былога выдавецкага рэдактара…» І тут мой шаноўны маэстра, указваючы на многія моўна-стылістычныя хібы, ушчэнт разбіў мяне за… «ненарматыўную, пахабную лексіку».

У цэлым жа, што самае важнае, Георгій Фёдаравіч мяне зразумеў, і тым самым надаў натхнення. А ненарматыўную лексіку можна зняць адным росчыркам алоўка. Балазе, яе не так ужо і шмат у мяне.

Неяк завітаў да мяне, будучы ў Горках, Віктар Карамазаў. Паказаў я яму тое разгромнае пісьмо, іншыя лісты. Віктар Філімонавіч уважліва пачытаў і параіў: «Ты ўсё гэта захоўвай: гэта Юрчанка!»

Другая кніжка «Базар житейской суеты» выйшла пад рэдакцыяй Юрчанкі з яго ж прадмовай. А рэдагаваў ён так. Я даслаў яму раздрукоўкі з камп'ютара і атрымаў каля паўтары сотні істотных паправак і прапаноў. І ўступнае слова рэдактара — найвялікшы гонар, мабілізуючая натхняльная сіла — для 75-гадовага «пачынаючага» на той час паэта.

Тыя гады сталі для мяне перыядам своеасаблівага адраджэння. Адраджэння маёй творчай літаратурнай дзейнасці. Бо ўсё, што пісаў раней, пачынаючы з юнацкага ўзросту, усю сваю лірыку пакрыху знішчыў. Запомніў адзіны гумарыстычны верш, які напісаў на той жа трасянцы, калі мне было, пэўна, гадоў дзесяць. Ды і то яго мне нагадалі амаль даслоўна мае землякі-аднагодкі. Я, як кажуць, перайшоў Рубікон. Спаліў караблі, разбурыў масты, якія звязвалі мяне з маім літаратурным мінулым. На тое, паўтаруся, была прычына: я не зрабіў нічога вартага, што б калі-небудзь каго-небудзь зацікавіла. Хаця тое-сёе ў друку недзе засталося.

Доўга, можна сказаць, у пенсійным узросце, шукаў я тую форму, у якой мог спаўна выкласціся, рэалізаваць свае творчыя здольнасці, задаволіць сваё самалюбства, свае амбіцыі ў станоўчым разуменні гэтага слова. За сваё жыццё я прайшоў этап і лірычнага вершаплёцтва, і кароткага апавядання…

Захапленне гумарам, эпіграмай, творамі парадыстаў Аляксандра Іванова і Аляксея П'янова, Георгія Юрчанкі і многіх іншых беларускіх гумарыстаў і сатырыкаў вывела мяне на новыя задумкі.

Узяў для сябе канкрэтны жанр чатырохрадкоўе, мініпародыю.

Выйшаў у прыватным выдавецтве і зусім незвычайны зборнік — «Вершаплёт». Магчыма, нават адзіны ў сваім родзе. Падручнік для студэнтаў і школьнікаў сярэдняга і старэйшага ўзросту, для ўсіх, хто жадае лепш спазнаць хараство і магчымасці народнай мовы, развіць і ўзбагаціць свае творчыя здольнасці. У яго складзе эпіграматычныя прыказкі і прымаўкі, чатырохрадкоўі «Дробязі жыцця», мініпародыі і эпіграмы. Ёсць раздзел практыкаванняў «Майстар-клас» — своеасаблівая тэхніка версіфікацыі, апрабаваная са школьнікамі і студэнтамі. Усё зноў жа пад рэдакцыяй Юрчанкі.

Адважыўся неяк накіраваць Георгію Фёдаравічу раздрукоўку будучай кніжкі і неўзабаве атрымаў адказ.

«Прачытаў я двойчы дасланыя матэрыялы. Шмат цікавага і трапнага. Гэта ўсё просіцца ў зборнік, у кніжку. Асобныя моманты патрабуюць папраўкі. На іх я і спынюся…» Каля 160 канкрэтных паправак і заўваг!

Але пра творчасць самога Юрчанкі. Няправамерна, на мой погляд, што яго пародыі і эпіграмы, як вершаваныя, так і празаічныя, адносяць да сатыры. Няма у яго сатырычных твораў. Тонкі гумар, дасціпная іронія — калі ласка, а з'едлівай, тым больш абразлівай сатыры ні ў адной пародыі не знойдзеш. Сатыра ж, як тлумачаць слоўнікі, — гэта жорсткае, здзеклівае бічаванне людскіх пракаў і недахопаў грамадскага жыцця, а таксама творы, якія ўтрымліваюць выкрыванне хлусні. Дарэмна шукаць у нашых нават самых сваволных пісьменнікаў такія антысацыяльныя хібы.

Іншая справа — гумар. Гэта ўменне прыкмеціць смешны бок з'явы, паказаць яе ў незласліва лагоднай, жартаўлівай, іранічнай, дасціпнай форме. У Юрчанкі няма той фанабэрыі, якую можна назіраць у некаторых самаўлюбёных крытыкаў. Ён не выкрывае нейкіх уяўных злоўжыванняў, не бічуе аўтара за дробныя пралікі, а лагодна, добразычліва іранізуе з тых ці іншых адхіленняў ад стылістычных, моўных нормаў у творчасці паэта або пісьменніка. У эпіграме можна пусціць у ход і «папружку» («*Полу-милорд, полу-глупец...*»), а ў пародыі такая вольнасць можа незаслужана нарадзіць масу ворагаў. Не чуў і не чытаў, каб хто з вялікіх, каго парадзіраваў Юрчанка, моцна пакрыўдзіўся на яго, ды яшчэ, чаго добрага, напісаў абвяржэнне. Вось фельетаністаў — тых нярэдка і ў суд запрашаюць.

У прынцыпе, любую думку можна выказаць у бязмежнай колькасці варыянтаў: вусна і пісьмова, у рамане ці у двух радках афарызма, у лірычнай форме ці ў пародыі… Таму парадыст павінен валодаць багатай разняволенай фантазіяй. І, канечне, ён павінен быць літаратарам-універсалам. Якім і з'яўляўся патрыярх беларускага гумарыстычнага цэха Георгій Юрчанка.

Радавала, што Георгій Фёдаравіч заўважаў усё, што зрэдку пад маім подпісам друкавалася на старонках «ЛіМа» і «Вожыка», і аб гэтым пісаў мне ў сваіх паштоўках. Колькі доўгіх гадоў працягвалася наша завочнае сяброўства! А сустрэўся з маім настаўнікам другі раз у жыцці толькі ў 2010 годзе на з'ездзе Саюза пісьменнікаў.

— Дзень добры, Георгій Фёдаравіч, — кажу я.

Мы сустрэліся, як старыя знаёмыя, як родныя, блізкія людзі.

Мне было прыемна зноў бачыць яго. Без перабольшання: чалавек з маёй біяграфіі.



